ISSN 0130 — 8068

10/2009



# ПОЛЫМЯ

# У бліжэйшых нумарах часопіса будуць змешчаны:

• **раманы** Андрэя Федарэнкі «Мяжа» (2 і 3 часткі), Зінаіды Дудзюк «Слодыч і атрута»;

• **аповесці** Анатоля Бароўскага «Замалі мой грэх», Міколы Фядосіка «Служу Радзіме»;

• **апавяданні** Алеся Масарэнкі, Людмілы Рублеўскай, Ніны Рыбік, Янкі Сіпакова, Уладзіміра Цішурова;

• **лірычныя мініяцюры** Казіміра Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі» і «маленькія трагедыі» Лідзіі Арабей «Бацькі і дзеці»;

• **дзённікавыя запісы** Адама Глобуса «Шкляны малаток»;

• **вершы** Генадзя Аўласенкі, Віктара Гардзея, Уладзіміра Мароза, Уладзіміра Марука, Міколы Маляўкі, Юлі Новік, Ганада Чарказяна, Віктара Шніпа, Віктара Яраца;

• **эсэ** Зіновія Прыгодзіча пра Японію «Карабель у штармавым моры» і «Таямнічы шлях поўні»;

• **літаратуразнаўчыя артыкулы** пра Васіля Вітку, Міхася Лынькова, Алега Лойку, Алеся Наўроцкага, Пімена Панчанку, Максіма Танка, Івана Чыгрынава, Станіслава Шушкевіча, Георгія Шыловіча;

• **успаміны** Уладзіміра Содаля пра Максіма Лужаніна;

• **развагі** Алеся Бельскага пра сучасную беларускую паэзію і Васіля Жураўлёва пра сучасную беларускую прозу;

• **артыкул** Сяргея Чыгрына «Беларускі рух у Варшаве (1900—1939) і Гальяш Леўчык»;

• **творчы партрэт** народнага артыста Беларусі Уладзіміра Куляшова;

• **рэцэнзіі** на новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў;

• **у Год роднай зямлі пад рубрыкай «Наш край»** — нататкі Ігара Пракаповіча «На радзіме Уладзіміра Дубоўкі», Вячаслава Лапціка «Нарачанскія плёсы», Аляксандра Вашчанкі «Мазыршчына Паўла Шпілеўскага», Казіміра Камейшы «Ад Кромані да Свіцязі».

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

10 (960)

КАСТРЫЧНІК

# ПОЛЫМЯ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2009

*ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Віктар ЯРАЦ



### ПАЛЕСКАЯ МАЦІ

Тут жывеш, адкуль многія, многія з'ехалі —
хто бліжэй, хто далей, і часцей — назаўжды,
без віны частаваныя атамным рэхам
той парой, як у цвеце кіпелі сады.
Тут жывеш — полеш звыкла і бульбу, і грады,
як заведзена ў даўнія леты, калі
светла ўсім усміхаўся, гасцінна ля хаты
яблык сонечным хрэснікам —
белы наліў.
Тут жывеш — і табе ані ў чым не пярэчаць
ні пчаліныя золкі, ні ў поўдзень — чмялі.
Ці пытае ў аблокаў, у хмурынак пра вечнасць
яблык, спелы да Спасу, —
белы наліў?

* * *

Дыхнула неба яблыневым цветам
садоў паўднёвых, дзе вясна даўно,
і сонца, быццам бакеншчык, пад ветрам
рачное ўранку правярае дно.

І не адно акно ўдыхне шырока
пад крыллем пералётнай чарады

---

***Ярац Віктар Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1970). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў на абласным тэлебачанні. Скончыў аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры ГДУ (1975). Працуе выкладчыкам у Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Уваходзіны», «Добрыца», «Дняпроўскі бакен». Выступае ў перыядычным друку па праблемах развіцця сучаснай беларускай паэзіі. Перакладае з рускай, украінскай, балгарскай, літоўскай моў.*

трывогу каранёў, што пояць сокам
галіны, калыхаць якім плады.

А ля вады сляды рыбацкіх ботаў
як знакі нецярпення: час прыйшоў
прасмольваць човен, а пасля, употай,
закідваць сець на плотак і ляшчоў.

* * *

Дрыжыць бязгучна лёгкі ліст на гольцы,
блішчыць, расой умыты, летні плод,
ручай, за дзень натомлены на сонцы,
здаецца, запаволіў хуткі ход.
Жывое ўсё — і мурашы, і зёлкі,
і ў расцы акуні і шчупакі
стаіліся, прыціхлі, покуль зоркі
святлом вышыняў клічуць трапяткім.
Пад ім ці чутны небу і лістоце,
іголкам сосен стромкіх баравых,
як недзе сэрцу скрушна ў адзіноце —
і ў ноч плыве грудзей гарачы ўздых?

* * *

Выглядваў ліпень, як цыган вясёлы,
са стромы коней збеглых — за Дняпром
схаваліся ў лугах, далей ад сёлаў
з іх плугам, бараной і бізуном.

А гляне з кручы жнівень у турботах —
разгледзіць белай масці, вараной
уцекачоў і зловіць для работы —
зноў з плугам сябраваць і бараной.

## НАЧНЫ ЭСКІЗ

Камарыным звонам-паразвонам
ноч плыла. Кружыўся свет зямны
з клёнам — на гары, у полі — з лёнам,
з курганамі сціхлай даўніны.
Блізкія, далёкія зарніцы
ўспыхвалі і гаслі ў вышыні
над лугамі, дзе пілі з крыніцы
касавіцы, стагавання дні.
Праз туман над плёсамі бяссоння
голас незабыты далятаў.
...Сплыў парам. Але дыханне коней
ля былых начуе пераправаў.

* * *

А было — ні сцяжынкі тугі
там, дзе гнёзды хаваюцца ў лузе,
там, дзе сонцу падлічваць стагі,
абыходзячы зранку па крузе.

Свет — ён соты адвечных турбот.
А надзея — заўжды маладая.
Луг чмяліны сівее. Не мёд, —
а з гарчынкаю далеч з гадамі.

## ПАЎДНЁВЫ БЕРАГ

### 1

Чаек маўчанне над пірсамі.
Зоркі ў тваіх валасах
свецяць вясёлымі іскрамі.
Месяц — каму на пасаг?

Хвалі антычнымі пырскамі
шлюць прывітанні аб чым
небу далёкаму й блізкаму,
зорам — дазорцам начы?

Мора губамі злізвае
свежых слядоў ланцужок.
Подых вятроў — кіпарысавы.
Стыне ўзбярэжны пясок.

### 2

Ноччу снілася мора дыханне
і бурштын залаты алычы.
Там ад лета расстайным світаннем
зоры ў хвалі кідалі ключы.
Гукі неба ў глыбінях растталі.
Толькі ў край мой палескіх крыніц
даўні міг праз гады і праз далі
чарнаморскаю чайкай ляціць.

* * *

Цвет зверабою — лекамі бяссмерця
на беразе. Жылі тут ганчары.
Гарачыя прызнанні шчодрых сэрцаў
па свеце не развеялі вятры.
Цяплом гаючым свет вітаюць зёлкі —
іх лашчыць дождж, іх цешыць вышыня
вышэйшай пробы золатам,
і звонка
іх славіць птушка летняя штодня.

* * *

На чым настоены настой
асенняй зёлкі прыдарожнай
у полі з цішынёй густой,
дзе і ралля прапахла збожжам?
Туман — дыханне глыбіні
стамлёных вод, нябёсаў золкіх —
аб чым пытае ночы й дні
ў азяблай прыдарожнай зёлкі?
А позняй спеласці настой —
ці хмель язычніцкай замовы,
ці толькі летні выдых той,
які сагрэць не ўсіх гатовы?

## ПОЎНАЧ

Бруснічны водар хмеліць голле сосен.
Што тут цішэй — імхі ці карані?
Паўночны лес зусім не шматгалосы.
Сыходзіць лета. Халадзеюць дні.
Бруснічны россып — ён для ўсіх навокал —
духмяны і крамяны, нібы жар.
Нячутна лось ступае мяккім крокам.
А сосны ловяць крык марскіх гагар.
У хмар — свае лятучыя сакрэты.
У ветру — свой, ім вызначаны, шлях.
Бруснічны край развітваецца з летам.
Кіслінкай — і дажджынка на губах.

* * *

Яшчэ дажджы сцюдзёныя з вятрамі
не выстудзілі гнёзды ў кронах дрэў,
і над ракой, лугамі і барамі
яшчэ жыве пра лета ціхі спеў.
Што адцвіло — вясною цвет пакліча.
Што адплыло — ці верне далягляд?
Сваячкаю старая груша-дзічка
глядзіць на строме на прымоўклы сад.
І ў гэты міг, калі дымок сплывае,
як развітанне з нечым дарагім,
аб чым душа пытаецца жывая,
якая помніць даўні даўкі дым?

* * *

Доўга-доўга да цябе ішоў —
пасівелі скроні, як атава
за ракой, дзе ў восеньскіх дажджоў
ёсць на позні шлюб з травою права.

І табой асветлены, табой,
сівізной асенняй спасцігаю
хмельны шал дажджоў і траў настой,
у якіх жыве гуканне маю.

* * *

На сцэне дзён без грыму, дэкарацый
свой маналог вядзі пра шлях людскі:
ён — не тэатр, дзе ў сценах гул авацый,
прызнанняў гул, нібы прыбой марскі.
На рэха ўсмешкі, цёплай ці сцюдзёнай,
на позірк ружы колкай у шыпах
настройвай сэрца, покуль неба звонам
вызвоньвае жыццю жывы працяг.
Без парыкоў, без масак спадзяванні
дары, ці ў свеце сонца, ці смуга,
і не лічы, каму паслаў вітанні —
і блізкім, і далёкім берагам.
Рачной гаючай плыні адгукніся,
світальнаму гнязду ў бары густым
і зноў, як продкі, парадніся з выссю,
якой адплыў не бутафорскі дым.

## РОДНЫ СЛОЎНІК

Як пацеркі, вятры перабіраюць
сугуччы слоў на розных мовах свету,
і ўсюды ім дыханне пераймае
ад слова, што ідзе па ўсіх дарогах,
ляціць праз дні і ночы тэлеграмай:
— Мама.

Нябёсы лічаць зоркі — і не могуць
іх падлічыць дакладна да світання
мільёны год. Разгублены нябёсы.
Але імкне да іх, спакой вяртае
зямное, чалавечае:
— Кахаю.

Лістота ў спёку моліцца хмурынцы.
Ці чуюць акіяны смагу стэпаў?
Ад спрэчак глухнуць штормы і бураны.
А слых і зрок Сусвету зноў вяртае
гарачае:
— Крывінка дарагая…





Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ

# ЦЯПЛО МАЛАДЗІКА

*Раман**

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

***Палессе, 1941—1943 гады, фашысцкая акупацыя***

**Чужынцы**

*25 чэрвеня 1941 года, ранак*

Лета добра ўтравела, і водар духмянага сена, якое вяскоўцы сушылі на недалёкім балонні, здавалася, запаўняў усё наваколле. Тыдзень, як стаяла спякота: ад дзённай гарачыні не паспявала астываць за кароткую ноч зямля. Але людзям трэба было рабіць сваю адвечную работу.

— Удавіцца можна ад духаты гэтай... Нават з ранку продыху нямашака... — уголас прамовіла сама сабе Домна, зазіраючы ў печ, і ўздыхнула. — Трэба бульбу таўчы, а гэтага як ваўкі некуды звалаклі...

Кабета адышла ад печы, зазірнула ў акно, але так нікога і не ўбачыўшы на падворку, вярнулася і, ціха вохкаючы, узялася за аберуч, паспрабавала зрушыць чыгун.

Незадаволена буркнула:

— Прасіла ж, Васё: не насыпай гэты пудовік бульбай. Як яго цяпер уладаваць? Дзевак будзіць, ці што? І дзе толькі ён швэндаецца, га? Бульба ж пераварылася...

Паспрабавала яшчэ раз, праз высілкі, і чыгун, нарэшце, пыхнуўшы смачнай парай, паддаўся. Але сілы жанчыну пакідалі: рукі дрыжалі, і чыгун мог перакуліцца, таму, злуючыся на мужа, яна пакінула непасільны занятак.

— Ну, дзе цябе носіць, стары, га? Бульба згарыць...

У сенцах нехта бразнуў клямкай, і жанчына абрадавалася: нарэшце, мужчына!

І праўда, з вядром вады ў руках высокі хударлявы мужчына ўвайшоў у хату. У такой жа, як і гаспадыня, палатнянай сарочцы, кортавым пінжачку. Ён ні слова не сказаў, толькі неяк дзіўна паглядзеў на жонку. Кабета зда-

---

* Працяг. Пачатак у № 9, 2009 г.

гадалася, што муж нечым узрушаны. Што здарылася? Дзе ён столькі часу бавіўся? Але звычайны клопат пра вараную старую бульбу, якая вось-вось стане прыгаркамі, адвернецца ад яе пасля і свінчо, і так не дужа ешчае, нагадаў пра сябе.

— Васіль, зноў ты наклаў бульбы ў гэты бражнік? І прасіла ж. Ці ж баба справіцца з ім, га? Звалокся з хаты, а мне клопат. Есці трэба прыстаўляць, а печ ніяк не вызвалю. Што ты сабе думаеш?

Мужчына чамусьці нерухома стаяў каля ўслона, у двух кроках ад парога, нібыта абдумваў нешта важнае. Гэта важнае яго надта непакоіла.

Домна страціла цярпенне.

— Ды пастаў ты гэтае вядро, кажу. Памажы выцягнуць пракляты чыгун, чуеш ці не?

— Га? — Васіль разгублена зірнуў на жонку, ад нечаканасці тая войкнула. Ён ступіў, ды так нялоўка, зачапіў вядро за дужку, вада пралілася на падлогу. Жонку, канешне, гэта не абрадавала.

— А божачкі мае! Бог вед колькі на вуліцы бавіўся, быццам у суседнюю вёску сышоў. Яй бо, да Дзятлаўкі можна было якраз збегаць... Ды яшчэ і клопату ў хаце дадаў. Ай-яй, Васіль...

Яна ўхапіла з падпрыпечку дзяружку і стала выціраць ваду на падлозе.

— Бульбу выцягні, кажу!

— Ды гары яна гарам, тая бульба... — адступіўся муж. — Думаеш, зараз да бульбы, калі такое?

Домна, пакінуўшы дзяружку на падлозе, выпрасталася, залопала вачыма.

— Васё, здарылася што хіба?

— Здарылася. Немцы з Дзятлаўкі прыйшлі... — у яго вачах з'явіўся глыбокі адчай.

— Вой, людцы мае!.. — кабета ажно прысела, вочы яе ўзмакрэлі.

— Вайна, бач, як хутка да нас прыйшла, а нам казалі... Цьфу, маць растакую...

Васіль злосна сплюнуў, падышоў да стала, нервова адарваў кавалак газеты, сыпануў туды шчобці тытуню, але рабіць самакрутку не стаў. Маўчаў. Домна тым часам прыбрала дзяружку, падышла да мужа.

— Што ж гэта будзе, Васілёчак?

— Што будзе — хіба ведама? Нам хіба сказалі? Уцякаць, мабыць, трэба...

— О, божачкі, куды ж уцякаць, калі вайна? Увесь мінулы тыдзень нашы салдацікі сыходзілі. Тады і нам трэба было.

Васіль узлаваўся на жонку:

— Ніхто ж не пайшоў з вёскі. А мы, Брылі, што, прыклад усім павінны былі паказаць? Я ж які-ніякі, а член праўлення. Усе маладзейшыя ў армію пайшлі, старых не ўзялі… А ты, пустая галава, вярзеш!..

Домна заплакала.

— О, божачкі! А можа, нічога, мінецца, га, Васіль? Можа, не зачэпяць?

Васіль адышоўся да акна, крыху памаўчаў, потым сказаў хоць і разгублена, але злосна:

— Што ты разбожкалася тут? Зачэпяць ці не — адкуль мне ведама. Суседзі, кажу, вунь кінуліся за клункі — ды на балонне ўцякаюць. І нам, што тут будзеш рабіць, трэба за людзьмі падавацца. Ніхто не ведае, што ў германцаў на розуме… Мабыць, і праўда, час. Дык варушыся, Домна! Дзевак будзі. Я — запрагу каня.

Васіль, зірнуўшы яшчэ раз на спалоханую жонку, пайшоў з хаты. Яна ж, галосячы, кінулася будзіць дачок.

## Першая сустрэча

*28 чэрвеня 1941 года*

Не, гэта быў не сон: недзе жудасна бухалі-ўзрываліся снарады, стралялі знекуль здалёк. Маленькая хата поўнілася страхамі. Сцішана вохкала маці: яна то малілася, то вохкала. Пасярод хаты ў Брылёў ляжалі некалькі клункаў, ля якіх завіхаліся дзве маладыя дзяўчыны, падобныя адна на адну.

— Дачушкі, хутчэй, хутчэй. Бацька зараз пакліча... — схамянуўшыся, завязваючы хустку, сказала Домна. — Ганначка, харч не забудзь, хлеб, сала...

— Я склала, мамка...

Малодшая ласкава ўсміхнулася разгубленай маці.

Волька, старэйшая з дачок, кінулася ў суседні пакойчык, дзе заплакала яе дачушка. Неўзабаве яна вярнулася з дзіцем, суцяшала:

— Не плач, мая прыгажунька, мая Васіліначка... — яна прысела з дачушкай на ўслончыку.

Дзяцяці было не болей чым тры-чатыры гадкі, Волька грэбнем пачала расчэсваць дзяўчынцы льняныя валасы.

— Мамка, а што гэта так грыміць? — малая маленькай ручкай працерла вочкі і раптам ад чарговага выбуху спалохана прыціснулася да яшчэ зусім юнай маці. Тая паспрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешка атрымалася нейкай няпэўнай.

— Ціха, донечка, ціха. Гэта немцы страляюць. Немцы прыйшлі ў нашы Пралескі. Але ты не палохайся, Васіліначка, мамка з табою. Мамка нікуды без цябе не пойдзе.

— Мама, а немцы — злосныя? Яны нас не заб'юць? А тату яны не заб'юць? — Дачушка зірнула на маці, убачыла на яе шчацэ слязінку.

— Мамачка, ты ж плачаш... Не плач, не плач, мамачка. Тата наш вернецца. Ён прагоніць гэтых... немцаў. Я ведаю...

Да дачкі і ўнучкі падышла заклапочаная Домна. У яе глыбока асаджаных вачах бліснулі слёзы. Яна пяшчотна пагладзіла ўнучку па галаве.

— Супакойся, донечка. Не, твайго тату ніхто не заб'е, твой татулечка смелы... Божачкі, навошта нам гэта ўсё? Навошта ты дапусціў на нашу зямлю такую морач? Божа, ратуй, ратуй усемагутны!..

Жанчына паглядзела на абраз, што вісеў у чырвоным куце хаты, зазлавалася на сябе — на самае важнае забылася!

— Старая меша[1], а ікону трэба з сабой забраць... Ганна, дачушка, знімі іконку... — загадала дзяўчыне, што адсоўвала клункі з праходу.

Малодшая дачка, выпраміўшыся, запратэставала:

— Знайшла, мамка, пра што думаць! Пра жывых трэба думаць, а не пра памерлых!

— Я з цябе гэтую камсамольскую дурніцу выб'ю, нічога што нявесціцца пачала. Бог — жывы. Ён усё бачыць... — яна незадаволена заківала галавой.

— Вочы ў яго замутніліся, калі пусціў да нас немцаў... — ціха адказала Ганна, але ж-такі ўзлезла на стол і дастала з аздобы ручнікоў прыгожую ікону. Спусціўшыся на падлогу, заявіла:

— Я яе хаваць не буду, хочаш, мамка, ці не...

— Грэшніца, змоўч! Адплачаш за свае брыдкія словы. Не смей абы-што вярзці, маці ўваж! — зазлавалася кабета і выхапіла з рук дачкі абраз Хрыста Ратавальніка. — Гэты абраз абараняў яшчэ дзядоў тваіх, а ты да яго, бессаромная дзеўка, як да непатрэбшчыны. Грэх...

— Я маўчу, мама. Ужо маўчу...

Дзяўчына адступілася ад маці. Яна падышла да сястры, прысела перад маленькай пляменніцай.

— Не бойся, Васілінка, мы — побач. А татка твой такі смелы, што ён нікога не спалохаецца. Татка нас абароніць. А пакуль мы будзем з мамай, дзядулем і бабуляй. А немцы — што ж немцы? Немцы таксама людзі. Толькі што чужыя людзі, не нашы... Гавораць не па-нашаму...

— А чаго яны сюды прыйшлі, цёця? У іх што — няма дзе жыць? — перапытала цётку Васілінка, працяжна вымаўляючы кожнае слоўца.

Ганна ўсміхнулася дзяўчынцы, села побач на ўслончыку.

— Ёсць, Васілінка, у іх і зямля свая, і дамы свае, і рэчкі свае. І лугі свае. Але яны падумалі, што ў нас усё лепшае. Але нічога з гэтага ў іх не атрымаецца. Нічога. Татка не дасць. Дзядуля не дасць. Мы не дадзім. Бо гэта ўсё — наша. І мы тут гаспадары... Так, Волька?

Але адказаць сястра не паспела, маці, убачыўшы некага на двары, шумна завохкала.

— Дзеўкі, бацька бяжыць! Так хутка, маладым, здэцца, не бегаў так на любошчы. Усё, дзеванькі,— скамандавала яна,— бяром клункі. Бывай, родная хатка!

Толькі Домна збіралася пусціць слязу, як у хату ўляцеў бацька. Твар асунуўся, рукі ў мужчыны трэсліся.

— Позна!!! — з жахам у вачах паведаміў ён.

У хаце ўсталявалася прыгнечаная цішыня. Толькі, седзячы ў маці на каленях, зарумзала напалоханая Васілінка, — яе ніхто не супакойваў. Тады дзяўчынка заплакала яшчэ мацней. Волька прыціснула дачушку да сябе, калі пачула, як на вуліцы гергечуць нямецкія салдаты. Ганна падышла да маці, якая, трымаючы ў руках святы абраз, пачала нервова маліцца:

— Святы Божа, заступіся, абарані...

Нарэшце ў хаце паказаліся чужынцы. Спачатку ўвайшлі два салдаты: адзін застаўся каля дзвярэй, другі смела прайшоўся па хаце, зазірнуў за шырму, і, не пабачыўшы нічога падазронага, вярнуўся да парога. Расчыніў дзверы і ўслужліва запрасіў:

— Bitte, Herr Offizier!!!

У хату ўвайшоў малады нямецкі афіцэр. Брылі разгублена глядзелі на яго. Васіль застыў каля печы. Домна стаяла з другога боку, ля акна. У яе вачах быў амярцвелы страх. Здавалася, яна вось-вось страціць прытомнасць. Да грудзей яна прыціснула іконку, нібыта тая магла яе абараніць. Ганна, спалохаўшыся за маці, абняла яе. Волька нават не павярнулася, яна, знямелая, сядзела на ўслончыку спінай да дзвярэй. Васілінка, пабачыўшы чужых, змоўкла, стала ўважліва іх разглядаць.

Чужынец з парога павітаўся:

— Guten Morgen!

Ён агледзеў усіх уважліва і, раптам убачыўшы клункі, усміхнуўся. Афіцэр быў высокі, чорны колер скуранкі пасаваў яго светламу твару і цёмна-русым валасам. Ён, відаць, здзівіўся, што ніхто не адказаў, ступіў некалькі крокаў да стала. Сцягнуў з рук пальчаткі. Уважліва яшчэ паглядзеў на старых, з ног да галавы, мабыць, асабліва яго зацікавіла іх вопратка, пасля паглядзеў са спіны на Вольку і яе дачушку, і, нарэшце, — на Ганну. Ён некалькі хвілін не адводзіў ад яе вачэй і раптам звярнуўся да яе:

— O, Frëulein, bitte, komm zu mir!..

Ганна нечакана пачырванела, разгубілася. Усе ў хаце зразумелі, што сказаў чужынец.

Дзяўчына ўсміхнулася маці, якая ціха спалохана войкнула: «Дачушка!..», і смела зрабіла некалькі крокаў, стала насупраць. Раптам яна зірнула на бацьку і скамянела: у вачах яго чыталася рашучае жаданне — калі што якое — ратаваць дачку.

Афіцэр не без цікавасці разглядаў дзяўчыну. Яна ж з непрыхаванай нянавісцю зірнула яму ў твар. І па-нямецку, напружліва-злосна, адказала ад усіх яе сямейцаў:

— Guten Morgen, Herr Offizier. Was wollen Sie?

Афіцэр, відавочна, ашаломлены, нечакана для ўсіх, раптам загаварыў па-руску:

— О, фройляйн, я прыемна здзіўлены. Вы размаўляеце па-нямецку?

— Спадар афіцэр павінен ведаць, што прыйшоў на зямлю, дзе жывуць цывілізаваныя людзі.

Сказана павучальна, як школьніку. Ганна нават здзівілася такой сваёй смеласці. Афіцэра ж гэта зусім не кранула, ён нават усміхнуўся дзяўчыне.

— Фройляйн, я гэта больш іншых, так сказаць, ведаю. Я вучыўся, вырас на расійскай класіцы, ад твораў вялікіх рускіх — Пушкін, Лермантаў, Талстой! — у захапленні… Вы спецыяльна вывучалі нямецкую мову? Дзе, якім чынам?

Адчувалася, што гэтага чужынца цікавіла ўсё.

— Так, я яе вучыла... Магчыма, не так дасканала, як хацелася, бо ваша нацыя дала свету не менш вялікіх Гётэ і Шылера. Я — настаўніца, і вучыла сваіх дзяцей, што гэта — гуманісты, выдатныя творцы. А ваша адукацыя, аднак, не перашкодзіла прыйсці да нас — са зброяй.

Яна дзёрзка паказала рукой на салдат, што стаялі ў дзвярах.

— Дачушка, змаўчы! — спалохалася Домна.

— Ганна!.. Думай, што гаворыш... — злосна дадаў бацька. Дачцэ перадаўся страх родных, і яна замоўкла, апусціла вочы долу.

Афіцэру, відаць, не спадабалася сказанае дзяўчынай, але праз імгненне ён засмяяўся. Пасля, нешта абдумаўшы, прамовіў:

— Вы, як бы гэта правільна вымавіць, не для пары занадта смелая. Я вам параіў бы нікому больш так не адказваць.

Ганна здзекліва ўсміхнулася:

— Я сама ведаю, пан афіцэр, як мне адказваць…

— Донька, супакойся, наклічаш бяду на сваю галаву… — заплакала, не вытрымала даччынай непакоры Домна, яшчэ мацней прыціскаючы да сябе святы абраз.

Афіцэр падышоў бліжэй да дзяўчыны, не зводзячы з яе вачэй. Зараз ён быў амаль поруч з ёй.

— Гэта, у рэшце рэшт, ваша справа, фройляйн Анна. Так, як я пачуў, вас завуць?

—Так, — з выклікам адказала Ганна і без страху зірнула ў вочы немцу. Яна разгубілася на імгненне. Ён быў такі малады і энергічны, гатовы да ўсяго, што прынясе яму жыццё. Ніякай насцярожанасці ў сініх бяздонных вачах. І ў тое ж імгненне яна падумала: «Глядзі, які смелы. Каб ад гэтай смеласці не застаўся пшык!..»

— А мяне — Аўгуст. Мяне пакінулі тут надоўга. Будзем знаёмы, фройляйн. — Немец не зводзіў з яе вачэй. — Аднак мушу вам сказаць колькі слоў. Не кожны з немцаў, якіх вы не чакалі на сваёй зямлі, зразумее пачутае так, як, напрыклад, я. На першы раз вам трэба даравацъ…

Ганна маўчала, нібыта яе не датычылася, толькі абыякава ўсміхнулася. Нарэшце, выдавіла з сябе:

— Вы першы пачалі, цікава...

— Дык вось, фройляйн Анна. Я — журналіст, прадстаўнік самай мірнай прафесіі. Я, магчыма, і зразумею, але не ўсе немцы будуць думаць так, як вам хочацца. Вайна ёсць вайна, хутка нямецкія войскі дойдуць да Масквы, і Расія,

вялікая Расія, набудзе новы парадак. Калі хочаце жыць пры гэтым парадку — раю: думайце, што робіце і што гаворыце. Да таго ж, вы — надта прыгожая дзяўчына, і вам трэба ў новых умовах планаваць сваё жыццё. Прыміце маю параду, фройляйн…

— Дзякую, пан афіцэр, за камплімент і за параду — сказала Ганна, сашчапіўшы зубы.

Афіцэр загадкава ўсміхнуўся і звярнуўся да бацькоў, паказаў на клункі.

— Вы дарэмна некуды збіраліся з'язджаць. Трэба жыць, як і жылі. Той, хто не будзе процістаяць новай уладзе — будзе жыць дастойна і заможна. Гэта мы гарантуем. А хто будзе супраць — ён будзе знішчаны. Такі загад нямецкага камандавання! Ды вы гэта і самі павінны разумець — як сказала фройляйн, мы, чужынцы, сапраўды прыйшлі на цывілізаваную зямлю. Хоць і не пазбаўленую дзікаватасці…

Нечакана зноў заплакала дзіця на руках у збялелай Волькі. Афіцэр падышоў да маці з дзіцём, пагладзіў па галаве маленькую дзяўчынку. Усміхнуўся Вольцы.

— Яна вельмі падобная на вас. Беражыце малую! Дзеці — гэта цудоўна. Дзеці — гэта будучыня любога народа. Цябе як завуць, дзяўчынка?

— Нашто гэта пану афіцэру?.. — адвярнулася ад яго Волька.

Той не чакаў такой пагарды.

— Я… проста… люблю дзяцей… — ён неяк дзіўна ўсміхнуўся.

— Ілін-ка… — працяжна адказала дзяўчынка і пужліва прыціснулася да маці.

— Васілінка, — паправіла ціха маці малую.

— Дзіўнае, але прыгожае імя. Я ніколі такога не чуў. Васілінка…— афіцэр яшчэ раз дакрануўся да светлых, нібы лён, валасоў дзіцяці.

Раптам ён дастаў з кішэні шакаладку і працягнуў дзяўчынцы. Тая не ўзяла, спалохалася, і яшчэ мацней прытулілася да мамы. Здзіўлены афіцэр паклаў шакалад на край стала.

— Bitte. Das ist sehr smekt…[1]

Ён адышоў да парога. Раптам павярнуўся, ступіў крок да бацькі. Спытаўся:

— Вы, я так разумею, іх бацька? — ён паказаў рукой на Ганну і Вольку.

— Так. А што? — не зразумеў Васіль.

— У вас вельмі прыгожыя дочкі. І ўнучка. Беражыце іх. А вось з фройляйн Аннай асабліва пагаварыце — язычок у яе едкі. Хай не рызыкуе — застанецца жыць. Да сустрэчы. — Зірнуўшы на салдатаў, павярнуўся неяк неахвотна і прамовіў: «Хайль Гітлер!». Чужынцы ўслед за афіцэрам пайшлі з хаты.

## Незвычайны падарунак

*19 кастрычніка 1941 года*

На дварэ стаяў густы прыцемак, калі Ганна, нарэшце, узялася правяраць вучнёўскія сшыткі. Яна была ў хаце адна, бацькі недзе бавіліся. Лямпа свяціла скупа, а падкручваць язычок дзяўчына не хацела: газу трэба было эканоміць.

Занятая сваёй справай, яна нават не пачула, як у хату ціхенька ўвайшоў малады, гадоў дваццаці хлапчына. Ён доўга сачыў за дзяўчынай, і, мабыць, жадаючы спалохаць, на мысачках падкраўся да яе збоку.

— Немцы ў хаце!!! — гаркнуў ён, ды так гучна і неспадзеўна, што Ганна ледзь не звалілася з услончыка.

— Во-х, дурніла! Каб на цябе! Адкуль ты ўзяўся, га?! Спудзіў, ажно сэрца зайшлося. Ну я табе, Колька, пакажу, гад ты гэтакі! — Ганна перавяла дыхан-

не і, нечакана нават для сябе, пайшла ў наступ на свайго крыўдзіцеля, хаця разумела, што хлопец, яе прыяцель Коля Сасноўскі, не знарок, а дзеля жарту напалохаў яе.

А Колька фанабэрыста падсвіснуў і пацвяліў яшчэ больш:

— Ну, пакажы, галубка, пакажы, Ганначка!

Ганна зазлавалася ўсур'ёз, але не стрывала лагоднай усмешкі, нетаропка адступіла крок назад, да стала, нібыта хлопец яе ніколечкі не хвалюе.

— Ну, што ж ты спалохалася, пакажы! — не супакойваўся той.

— Дык ты яшчэ і цвеліш? Забыўся, нябось, як я цябе ў школе лупцавала! Няўжо не памятаеш? Ты ж такі маленькі, кволенькі быў, рыжунчык!

— Ай, а ты хіба рабой не была? — асмеліўся бліжэй падысці Колька, а Ганне толькі гэтага і трэба было.

Нібы даруючы яму, падыгрываючы хлопцу, яна нечакана апынулася побач, ухапіла яго за вуха.

— Забыўся — я табе нагадаю зараз!

Колька падманліва завыў ад болю, чым яшчэ больш напалохаў дзяўчыну, і яна адпусціла руку. Той адскочыў за стол, стаў насупраць і гучна зарагатаў:

— Даверлівая ты наша, дурнічка!

— Ну ж такі пачакай...

Ганна, паддаўшыся яго настрою, стала лавіць хлопца. Валтузня вакол стала, у рэшце рэшт, ні да чога не прывяла. Колька быў шустрэйшы, і дзяўчына, нарэшце, злосна папярэдзіла:

— Я табе адпомшчу, вось пабачыш, бандзюк ты гэтакі! Быў малым дзіцем, такім і застаўся...

— Ну што, Гануля, спаймала? — зарагатаў яшчэ больш Колька. — Я ж — вырас, мужчына ўжо! А вось я цябе за-ра-з злаўлю. Падумаеш, настаўніца знайшлася… Не той цяпер Колька, зусім не той!

Яна, ведаючы, які неўтаймаваны Сасноўскі, паспрабавала адступіць, уцячы, але хлопец порстка апынуўся побач, злавіў яе, заціснуў рукі, не вырвацца.

— Колька, пусці! Рукі выкруціш. Кажу: горш будзе! — прыгразіла Ганна.

Але той і не думаў адпускаць, толькі ласкава пасміхаўся, у яго радасна забілася сэрца.

— Баялася кацяня малачко лізаці… А я вазьму ды…

— Ну што — што ты такое зробіш? — Ганна перастала вырывацца з яго адбымкаў, нібыта згадзілася з такой доляй.

Колька аслабіў абдымкі:

— Вазьму і пацалую цябе! Ты ж ведаеш, колькі я па табе сохну, а ты ўсё адно: не пара мы і не пара… Я ж і вучыцца з-за цябе на пчаляра падаўся, а тут — вайна. Думаю: сорам мне невукам быць, калі Ганна на настаўніцу вывучылася.

Ганна здзекліва паківала галавой.

— Анігаткі, так ужо і з-за мяне?..

— А то, думаеш, з-за каго? Я ж цябе… з пятага класа люблю!

— О, божачкі! А я ў чым вінавата, ці прасіла? Адпусці, каханак! — яна стала вырывацца, але не тут было: Колевы рукі сталі як абцугі. Хлопец і не думаў выпускаць «птушку» на волю.

— А што ты мне зробіш! Ну, што?! — не здаваўся ён і, нарэшце, асмеліўся і пацалаваў Ганну. Тая не чакала ад хлопца такога наступу, напружылася, вырвала з палону свае рукі, замалаціла імі па чым папала. Колька, нарэшце, адпусціў дзяўчыну, адскочыў убок — саданула добра-такі па плячы.

Ганне хацелася крычаць, яе затрасло як у ліхаманцы, кроў нібыта забунтавала ў жылах. Злосная, адышлася ўбок, паправіла валасы.

Яна кінула халодны позірк на хлопца.

— Дурань! Навучыўся, бачу… Натрэніраваўся. Цікава, як толькі ў цябе гэта з пчоламі атрымліваецца? Не джаляць?

Колька зарагатаў шчасліва, толькі шапка рыжых валасоў закалыхалася на галаве.

— Хай сабе і з пчоламі… А скажы, няўжо не спадабалася?

— Ды цішэй ты, баламуць. Мабыць, паслізнуўся сёння ды дзе галавой стукнуўся… Прыткі, гляджу! Пачуе хто... Мае вось-вось вернуцца.

Колька, зразумеўшы, што гэта знак да прымірэння, смела ступіў да Ганны. Яна ж выглядала проста чараўніцай у гэтым скупым водсвеце лямпы.

— Ну, скажы, Ануля, вось чаму ты мяне не любіш? Што гэта за несправядлівасць такая! Хлопец да цябе з душой, можна сказаць, усім так сказаць… целам, а яна, як кабылка фанабэрыстая, неаб'езджаная, не паддаецца — і ўсё тут! — Хлапец прамовіў гэта ўсё з найгранай сур'ёзнасцю, напорыста заглядваючы ў яе вочы.

Ганне, нарэшце, гэта надакучыла.

— Слухай, Колька, ты як быў пустазвонам, пустазвонам, мабыць, і памрэш...

Дзяўчына, махнуўшы на назойлівага кавалера рукой, прысела на лаўку, разгарнула вучнёўскі сшытак — трэба было завяршыць пачатае.

Колька расчаравана сеў на стулак насупраць.

— Чуеш, Ганначка, як на духу… Слухай мяне, праўду кажу…Толькі табе — адной. Я ведаю — як памру… Чуеш, на міне падарвуся. Так — бу-бу-бух! І няма Колькі. Звон будзе стаяць, што не толькі ў Пралесках, нават у Берліне — адзавецца!

Ганна пырснула смехам і трохі са здзекам, не падымаючы вачэй, канстатавала:

— Геройскі бачу ты хлопец, Колька. Ага… Толькі вось не кахаю я цябе… І — не твой я лёс…

Колька нібыта пакрыўдзіўся, цяжка ўздыхнуў.

— Гэта як сказаць…Ты, Гануля, толькі не спяшайся… І павер мне — нікуды ты, хочаш таго ці не, ад мяне не дзенешся. Прыгажун з мяне, канешне, невялікі, але іншаму, — прагучала так пагрозліва, што Ганна зноў пырснула смехам, — цябе не ўступлю! Я… Я раўнівы — заб'ю яго! Вось пабачыш… А так — толькі немцаў выправім — чакай сватоў…

Ганну гэта зусім рассмяшыла, але яна з незвычайнай замілаванасцю ўважліва паглядзела на хлопца. Сур'ёзна сказала:

— Раз так, то чаго — чакаць. Давай зараз — вось-вось бацька з маці вернуцца. Скажы ім: так і так, сватацца прыйшоў... — і зноў пырснула смехам. — Ге-рой!

Колька ўскочыў з месца, нібы жарэбчык вырваўся з няволі.

— А што — і скажу! Я дзеля цябе, Ганначка!.. Толькі згадзіся! Што хочаш — зраблю! Хоч, на калені стану. Каб палюбіла...

Ганна цяжка ўздыхнула, апусціла вочы і, нібыта нічога не адбылося, ціха прамовіла:

— Што — хачу? Дай — падумаю! А ў мяне, рыжунчык, адна бяда. Ці паправіш яе…

— Якая, скажы?

Хлопец раптам убачыў у куточках яе вачэй слёзы і знямеў.

Маўчала і Ганна, нарэшце, адказала:

— Сёння быў апошні дзень заняткаў ў школе. Немцы закрылі яе. Вось... сшыткі праверу, а заўтра разнясу па вёсцы дзецям. Колькі той вучобы і было! А як я марыла вучыць малечу!..

— Чуў. — Сумна, нават крыху зласнавата сказаў хлапец. — Камендатуру там уладкоўваюць, гады.

У хаце наступіла цішыня, якая напаўняла абаіх злосцю.

— Няхай, пакуль, уладкоўваюць, пакуль — іх час. Але кароткі гэта будзе час. Вернецца наш час, Ганначка. Вернецца. А пакуль трэба рабіць адно. Таму, па праўдзе, я і прыйшоў да цябе.

Ганна закончыла правяраць апошні сшытак, здзівілася.

— Няўжо, паспачуваць? Таму і цалавацца палез? Блазен жа ты!

— Ганна, я сур'ёзна. Я пра другое хачу пагаварыць… — хлопец і праўда не жартаваў.

Колька ўзяў крыху ашаломленую дзяўчыну за руку і, адвёўшы далей ад лямпы, пачаў шаптаць. Ганна слухала ўважліва, з кожным яго словам здзіўленне з'яўлялася на яе твары ўсё больш і больш.

— І Сцяпан Іванавіч… І Сідараў… Зінка і ты… — паўтарыла Ганна, ніяк не даючы веры хлопцу.

— Каб ты ведала, мы маем указанне адтуль, — Колька загадкава паказаў пальцам уверх, — ствараць камсамольска-маладзёжнае падполле. За возерам — пакінуты атрад чырвонаармейцаў. Мы павінны ім дапамагаць, на нас ніхто не падумае… Ты — настаўніца, камсамолка, на цябе вельмі вялікая надзея. Ты — згодна?

— А што трэба рабіць? — ад такой навіны Ганне стала аж горача, шчокі запунсавеліся.

— Пра гэта — даведаешся пасля. А пакуль трэба збіраць моладзь. Скарацца ворагу нельга, калі радзіма ў бядзе. Мы радыёпрыёмнік з канторы схавалі, як немцы прыйшлі. На былой калгаснай канюшні Маскву слухаем. Чуеш — не здаюцца нашы. І не здадуцца. Сталін вядзе за сабой. І мы, камсамольцы, не павінны сядзець у кустах, трэсціся, бачачы, як нехта паскудзіць нашу зямлю!

Ганна захоплена, з павагай цяпер глядзела на хлопца, які за нейкае імгненне вырас у яе вачах.

— Колька, я не ведала, які ты… на самай справе. Прабач, дурніцы. Ты ж — такі адчайны… За тое, што рыжунчыкам заву — не крыўдуй… Ты і сапраўды нічога сабе хлопец…

Колька на гэта сарамліва ўсміхнуўся, ціха прамовіў:

—Ты ж ведаеш, я на цябе ніколі не пакрыўджуся.. Я ж цябе — кахаю…

— Зноў — за сваё…

— Прыйдзе час, і ты пакахаеш мяне, як я цябе. У нас будзе моцная сям'я. Сын і дачка.

Ганна адступілася ад яго.

— Годзе, рамантык! Тут вайна, а табе…

Але хлопец не здаваўся, вёў сваё.

— Вайна — што, пройдзе! А вось каханне — ніколі. Можа, пацалуеш мяне? Ну, разочак! Адзін толькі! Так паціху прывыкнеш…

— Ага, дачакаешся!.. — па-добраму засмяялася яна, але яе шчаслівую ўсмешку перарваў нечаканы гул аўтамабіля, фары бліснулі яркім святлом у хату.

Хлопец і дзяўчына разгублена пераглянуліся, пачуўшы на падворку нямецкую гаворку. Ганна спалохалася, сама падалася да хлопца.

Нарэшце, у хату ўвайшоў чужынец з нейкімі пакункамі ў руках. Калі ён падышоў бліжэй, дзяўчына неяк з палёгкай уздыхнула — пазнала. Гэта быў той самы немец, што заходзіў у іхнюю хату месяцы з тры таму. «Як жа яго

імя?» — маланка пранеслася ў галаве дзяўчыны, і высветліўся адказ гэтак жа хутка: «Так, Аўгуст...»

— Добры вечар! — прывітаўся немец і вельмі прыязна паглядзеў на Ганну, а пасля, уважліва і крыху занепакоена — на Кольку. Колька быў ашаломлены, што чужынец гаворыць гэтак жа, як і яны.

— Вечар добры! — разгублена прамовілі абое.

Афіцэр загадкава ўсміхнуўся, нібы зразумеў нешта, падышоў да стала і паклаў на яго два скруткі кніг, перавязаных нітоўкамі. Зірнуўшы на Ганну, весела сказаў:

— Фройляйн Анна, вы, пэўна, памятаеце мяне… Тую першую сустрэчу… у вашай хаце. Я прашу прабачэння. Мабыць, я не ў час. Вы размаўляеце тут з мужам… Сям'я, разумею…

Ганна нечакана засмяялася і адступілася ад хлопца, ступіла крок да стала, з цікавасцю паглядзела на кнігі.

— Што вы, пан афіцэр! Колька — мне не муж.

Кольку сцяла дыханне, але, асмялелы, ён зрушыўся з месца, стаў побач з Ганнай.

— Але — не выключана, што будучы муж…

Ганна паказала яму кулак.

— Язык свярбіць — як каса наклёпу просіць…

Чужынец, бачачы такія «перамовы», таксама ўсміхнуўся.

— Што ж, справа маладая, канешне...

Ён раптам аслабіў вузел аднаго скрутка, узяў у рукі першую кнігу, разгарнуў яе.

— Мой шаноўны зямляк… Ёган Вольфганг Гётэ. Мы, дарэчы, нават з аднаго горада — па мураванцы адной хадзілі… Яго муза найвышэйшага ўзлёту дасягнула ў лірыцы. Вось мой самы любімы твор… Недасягальна…

Нечакана для Ганны і Колькі ён пачаў дэкламаваць.

Юнацкіх дзён вы асвяжылі краскі,
І вось я ўгледзеў колішняе зноў,
Перада мной цяпер, нібыта з казкі,
Паўстала дружба, першая любоў…[1]

Ашаломленая Ганна не магла адвесці ад яго вачэй.

— «Фауст»?.. Вы так любіце паэзію?

Аўгуст, здзіўлены, аддаў ёй кнігу.

— Калі ўзахлёб знішчаць за ноч некалькі кніжак — то гэта значыць, што я яе сапраўды багатвару… Але ж мушу прабачыць. Я павінен прасіць прабачэння за сваіх салдат, якія сёння так паспешна папрасілі, калі гэта тое слова, пакінуць школу вас і дзяцей. Камендант, на жаль, забараніў заняткі. Не час для школы. Будынак пакуль будзе выкарыстаны для ваенных мэтаў. Аднак там засталася бібліятэка. Я падумаў, што вам некалі гэта спатрэбіцца.

— Вы — добры чалавек, спадар лейтэнант!.. — узрушана прамовіла Ганна.

Той яшчэ больш загадкава ўсміхнуўся і адказаў:

— Я — адукаваны чалавек, фройляйн Анна. Памятаю вашы словы, падчас нашай першай сустрэчы. І… паважаю такіх людзей, якія ўмеюць слухаць. Вы малайчына, што паслухаліся свайго бацьку. Бывайце…

— Дзякую вам…— закрыла кнігу і ціха прамовіла ўслед Ганна.

— Я зрабіў, што мог, — азірнуўшыся, гэтак жа ціха адказаў афіцэр. — Прабачце, што перашкодзіў вашай размове...

На развітанне ён раптам падміргнуў Кольку і хутка сышоў з хаты.

У хаце стаяла маўклівая цішыня. Было чутно, як паехала машына, у вокны зноў блiснулі агеньчыкі фар.

— Слухай, што за… экземпляр? Адкуль ты яго ведаеш? — разгублена прамовіў Колька.

— Немец — не бачыш. Хоць і немец, а, мабыць, яшчэ і чалавек…

Ганна была задуменная, і Кольку гэта не спадабалася. Ён набычыўся, злосна сказаў:

— Мне… пачынаць раўнаваць?

— О, Божанька!..

— Бога клічаш? Саромейся — камсамолка!

— От дурань і ёсць дурань!

Колька аднак не слухаў, сказаў разважліва пра сваё:

— Вось ён які — вораг… Адукаваны! Слухай, а ён шпарыць на нашай мове — дай Бог.— Хлопец перагледзеў усе да адной кніжкі. — Пушкін, Лермантаў, Гогаль… Трэба сказаць Сцяпану Іванавічу. Дужа цікавы, ведаеш, экземпляр… Ладна. Разбяромся з ім… Дык ты прыйдзеш — як сказаў?

— Прыйду. І Вольку вазьму. Дамовіліся…

Колька падаўся да дзвярэй, важна заківаў пальцам.

— Глядзі мне… Усё роўна мая будзеш! Не забывайся.

— Ідзі, баламуць… — сумна ўсміхнулася дзяўчына.

За Колькам грукнулі дзверы, а Ганне раптам стала так неспакойна. З чаго б гэта? — спыталася сама сябе і не знаходзіла адказу.

Яна з нечаканай замілаванасцю перабірала кнігі зноў і зноў, нарэшце, знайшла тую, якую толькі што чытаў той чалавек, што прынёс такое багацце. Дзяўчына разгарнула старонку, знайшла тое месца ў творы, адкуль ён цытаваў, прачытала пра сябе, а пасля ўголас.

Яна не ведала, што з ёй адбывалася ў гэты момант. Нейкі няўцямны неспакой, неспазнаная трывога і адначасова прасвятленне адбіліся ў душы маладой настаўніцы.

## Стараста

*10 лютага 1942 года*

...Людзі, што прыйшлі густым надвячоркам у хату Брылёў, Домне былі знаёмыя. Камандзіра партызанскага атрада, Сцяпана Шматава, як і начальніка разведгрупы Сідарэнку, амаль пагодкаў, ведала добра. Пазнала і камсорга Кольку Сасноўскага. За ім з'явіліся Ганна і Волька. І раптам у хату ўвайшоў нямецкі афіцэр — ад нечаканасці Домна войкнула:

— Божачкі, а што гэта… Чула маё сэрца… Заарыштавалі!

Ганна, падышоўшы да маці, пачала ціха супакойваць яе.

— Усё добра. Гэта наш чалавек. Татка, Волька — посцілку на акно. Я лямпу падкручу…

Бацька падначаліўся дачцэ. Праз імгненне ў кухні стала ярчэй.

Шматаў падышоў да гаспадыні:

— Добры вечар у хату, хоць мне… вітацца сёння нельга…

Домна завохкала.

— Ох, Сцёпачка, чула, чула пра тваё гора. Звялі, нелюдзі, бацьку твайго… Прымі Цімафееву душу, Божанька… Распранайся, усе распранайцеся, у хаце ж цёпла. І вы, — яна як накалолася вачыма на немца, адступілася на крок, — праходзьце, на стулак сядайце, калі — з дабром прыйшлі...

— Дзякую, — неяк няпэўна прамовіў афіцэр.

Ганна ўзяла ў немца скураное паліто, павесіла на цвік ля вілачніка. Ён удзячна ўсміхнуўся дзяўчыне, яна адказала тым жа, што не спадабалася Кольку Сасноўскаму. Ён, раўнівец, прайшоў побач з Ганнай, шапнуў на вуха: «Глядзі ў мяне!» Дзяўчына толькі зыркнула вачыма, хлопца і след прастыў, і звярнулася да бацькоў.

— Тата, мама, вы не пакрыўдзіцеся...

— А што такое, дачушка? — спытаў бацька.

За Ганну адказаў сам Шматаў.

— Васіль Мінавіч, трэба з паўгадзінкі папільнаваць на вуліцы — каб часам не нарваліся фашысты. А мы тут пагаворым пакуль пра свае справы. Як што — адразу ў хату…

— Зразумеў, зразумеў. Мы ето хутко... — ён зірнуў на жонку, вачыма паказаў на дзверы.

Домна ж наказала дочкам:

— Ганна, Волька, мы тут адыдземся па справах. А вы паварушыцеся: у печы — бульба, капусткі ў сенцах вазьміце, гурочкаў кіслых, сальца, хоць старое, але ж кішку забіць можна — людзей пакарміце…

Васіль пайшоў да дзвярэй, але раптам спыніўся, спытаў камандзіра:

— Дык, разумею, пахавалі нябожчыка? Гэта ж тры дні вісеў…

— Пахавалі, бацька. На могліцах пахавалі. Хоць ноччу, але побач са сваімі… Каб не Аўгуст, — Шматаў горка ўсміхнуўся, — нічога не атрымалася, і самі маглі б патрапіць у перадзелку… Ганна ваша проста малайчына, на яго выйшла. Дапамог, чалавеча!

— Ёсць Бог на свеце — пасылае дапамогу ў час і добрых людзей.

Домна ўпершыню без страху паглядзела на немца.

— Мама, зноў вы са сваім Богам... — не вытрымала Ганна.

— Дажывеш майго — зразумееш. Пайшлі, стары…

— Волька, за прыпечкам, у лучыне, пляшка першаку. Памяніце, мужчыны, нябожчыка. Так заведзена. Пухам яму зямля… — распарадзіўся Васіль, і старыя выйшлі з хаты.

Сёстры хутка ўсё зрабілі. За стол селі толькі мужчыны. Ганна з Волькай абладзіліся на ўслоне каля печы. Не ў час прачнулася, заплакала Васілінка, паклікала маці. Аўгуст уважліва глядзеў на Ганну, гэты позірк перахапіла Волька. Вачыма паказала сястры на Кольку, які, здавалася, зараз узарвецца ад рэўнасці, і, ўсміхнуўшыся Ганне, пайшла да дзіцяці.

За сталом тым часам адчувалася нейкае напружанне. Нарэшце, бадзёра ўсхапіўся Сідарэнка.

— Таварышы! Памянём дзядзьку Цімафея. Пухам яму зямля. І няхай прабачыць нас, што так… спазніліся… Устанем, таварышы!

Усе моўчкі выпілі, сталі прыкусваць. Шматаў нервова закурыў. Яго рука сутаргава «хадзіла» па стале.

Сідарэнка стаў яго супакойваць, спрабаваў засмяяцца, але такі гумар ніхто не падтрымаў.

— Камандзір, не кісні. Усе там будзем…

Шматаў кінуў на яго незадаволены позірк, але прамовіў іншае.

— Што ж… А вы, Ганна, што збоку, вы ж таксама галодныя. Сядайце побач. Налівай яшчэ, Сідарэнка. А цяпер давайце вып'ем за знаёмства, Аўгуст... — прапанаваў камандзір.

Ганна, адчуваючы сябе ніякавата, прысела каля Колькі. Камандзір уважліва паглядзеў у вочы незнаёмаму раней чалавеку, скупа ўсміхнуўся.

— Ты ж на яго паглядзі! Скінь гэту брыдоту нямецкую — паляшук сапраўдны. Давайце, сябра!

— І за дружбу, мужчынскую дружбу між народамі. Толькі дзеля перамогі, а не… — Колька зласнавата глянуў на Ганну і Аўгуста.

— Ну, баламуць…— зазлавалася Ганна, тузанула яго за рыжую чуприну.

— А што я не так сказаў? — нібыта пакрыўдзіўся камсамольскі важак.

Шматаў рассмяяўся.

— Ты ўсё правільна, Мікола, сказаў. Фашызм, гэтую заразу, без аб'яднання, не згуртаваўшы сілы ў адзін кулак, не адолееш. І, як я разумею, наш новы нямецкі таварыш, хоча нешта сказаць…

Аўгуст крыху разгублена паглядзеў на кожнага з прысутных, устаў. Ганна падняла на яго вочы, старалася падтрымаць.

— Так, — кашлянуў ён, — я маю што сказаць. Найперш, тое, што я, хоць і немецкі афіцэр, але ўсім сэрцам ненавіджу фашызм і іх правадыра. Я супраць вайны наогул, супраць планаў Гітлера. У сябе дома я быў самы міралюбівы чалавек, журналіст, але мая сям'я даўно з-за палітычнай дзейнасці бацькі патрапіла пад праслед. Гэта доўгая гісторыя: я вымушаны быў пайсці ў войска, каб не зачапілі маці і двух малых братоў. Мая маці чэшка, яна, як і фройляйн Анна, настаўніца, а бацька — немец, тэльманававец, замучаны ў турэмных засценках. Я хацеў помсціць за яго, але як? Амаль год як я тут, на вашай зямлі, бачу ўсё, што творыцца, і мне балюча. Я хачу дзейнічаць, ды вось толькі як… Я магу здабываць для вас патрэбную інфармацыю, медыкаменты, соль, магчыма, зброю. Усё, што ад мяне залежыць, можна разумна выкарыстаць…

Колька знарок апярэдзіў Ганну, якая хацела нешта сказаць.

— Ну вось, а я вам даўно яшчэ гаварыў — свой чалавек…

— Я думаю, Аўгусту можна давяраць... — сказала сваё слова Ганна.

Аўгуст сеў. За сталом на нейкі час усталявалася цішыня, якую парушыў Сідарэнка.

— Вы, таварыш, выйшлі на нас своечасова. Я начальнік разведгрупы. Нам патрэбны звесткі літаральна аб усім. Мы, канешне, сёе-тое разведалі самі, але падступіцца без аўсвайсаў да горада цяжка… Рызыка вялікая. У вас ёсць такая магчымасць. Не хочацца рызыкаваць сваімі хлопцамі. Іванчыка, такі разведчык быў, страцілі амаль… Калека, ці выжыве? Не, трэба нешта рабіць…Усіх пакладзём так.

Ганна дадала заклапочана:

— Пасты на кожным мосце…

— Баяцца… Адзін жа мы ўзарвалі… — уставіў разгарачаны гарэлкай Колька.

Аўгуст таксама пагадзіўся.

— Перапалоху нарабілі шмат. Камендант атрымаў вымову, цяпер начамі не спіць…

Чакалі, што скажа Шматаў. Той нешта абдумваў, нарэшце, устаў з чаркай у руках.

— Таварышы, вып'ем. Хоць і па кепскай нагодзе сабраліся ў гэтай хаце, але сёння пераканаліся: не ўсе немцы такія, якімі хоча бачыць іх Гітлер. Фюрэр памыляецца. І прайграе вайну. Тое, што вы, Аўгуст — з намі, гэта вельмі добра. Вы павінны ведаць, што вакол горада гуртуюцца немалыя сілы, якія, як прыйдзе час, пакажуць сябе. І Масква не маўчыць. Але пакуль — нам патрэбна інфармацыя: колькі войскаў, раскватараванне, матэрыяльная база, планы тактычныя і аператыўныя… За дружбу!

Выпілі стоячы, нават Ганна крыху прыгубіла пякучкі і нечакана раскашлялася. Колька ўслужліва пастукаў ёй па спіне і раптам пачаў здзекавацца:

— Півака, а яшчэ падпольшчыца!

Усе засмяяліся.

Аўгуст праз нейкую хвіліну дастаў з камандзірскай папкі паперы і ціха прамовіў:

— Я прадугледзеў, што вас будзе цікавіць. Тут сеё-тое я пераклаў на рускую мову. У астатнім вы разбярэцеся самі. Фройляйн Анна няблага ведае нямецкую мову, яна дапаможа.

Сідарэнка працягнуў руку першым, але афіцэр перадаў дакументы Шматаву.

— Камандзір, тут праверыць трэба, каб не ўліпнуць! — незадаволена сказаў Сідарэнка.

Аўгуст пакрыўдзіўся.

— Гэта дакладныя звесткі, гонар афіцэра.

Шматаў доўга разглядваў паперы, раптам ускочыў на ногі.

— Братка, цяпер можна ваяваць!.. Таварыш, руку! З гэтага моманту мы — сябры!

Камандзір моцна, па-мужчынску, паціснуў руку новага таварыша і схаваў дакументы.

Сідарэнка чамусьці незадаволена ўсміхнуўся, але хутка сам падаў руку немцу:

— Не чакаў, што…

— Што магу — пастараюся зрабіць... — суха адказаў той.

— Дзякую, Аўгуст. Цяпер, я так разумею, нам як паветра патрэбна наладзіць каналы сувязі. Гэта павінны найперш быць асобы правераныя... — паставіў новую задачу Шматаў і ўважліва паглядзеў на кожнага, хто быў за сталом.

— Зразумела, яны павінны быць тутэйшымі, быць сярод людзей, каб не выклікаць ні ў сваіх, ні ў немцаў падазрэнняў. Трэба такіх укараняць на службу акупантам. У мяне на прыкмеце ёсць той-сёй. Вы нам можаце тут дапамагчы, Аўгуст? — удакладніў Сідарэнка.

Аўгуст пацвердзіў.

— Так. Зараз набіраюцца рабочыя ў лясніцтва. Усім будуць выдавацца пропускі… А таксама патрэбны два сувязісты — пры чым неадкладна. Падбярыце людзей — я іх прадстаўлю каменданту.

Колька дадаў сваё.

— Можна падабраць туды нашых хлопцаў, з нашай групы. Іван Рыбачок вучыўся на сувязіста… Студня Пятро…

Шматаў прыняў рашэнне адразу.

— Сёння ж збяры сваіх камсамольцаў. Зрабіце ўсё акуратна. Калі атрымаецца — дзякуючы Аўгусту — у нас будзе вялікі прарыў. Застаецца адно пытанне.

— Якое? — удакладніў начальнік разведгрупы, было бачна, што ён сп’янеў, твар наліўся крывёй.

Шматаў крыху памаўчаў і загадаў:

— Мы ні рухам, ні словам, ні ўчынкам не павінны падставіць Аўгуста. Ён павінен бездакорна выконваць свае абавязкі. Патрэбна, каб найменшая колькасць людзей ведала, што ён з намі. Мы яго павінны берагчы больш чым сябе. Сувязь Аўгуст будзе падтрымліваць з намі праз чалавека, які б не выклікаў падазрэння з боку нямецкага камандавання. Гэта — абавязковая ўмова і звышзадача.

Сідарэнка, падп’янелы, згадзіўся з камандзірам:

— Так, перадусім — поўная канспірацыя. Трэба гуляць па правілах. Мы іх установім… Па нашых правілах!

— Ты нешта хутка раскіс…— незадаволена зірнуў на Сідарэнку камандзір. — Чым менш кантактаў у Аўгуста з намі, тым лепш для справы. Але хто будзе сувязным?

— Я магу! — ускочыў Колька.

Шматаў не згадзіўся, уздыхнуў.

— Ты, Коля, занадта шустры. Гарачы. Тут ціхі, разважлівы чалавек трэба. Магчыма, жанчына нават. Яе б уладкаваць да немцаў, каб на работу хадзіла і былі непасрэдныя стасункі з Аўгустам, нібыта па працы… Можа, нават прыбіральшчыцай…

Аўгуст уважліва слухаў Шматава, але не зводзіў вачэй з Ганны. Тая сарамліва апусціла вочы.

— А чаму гэта не даручыць фройляйн Анне? Я так разумею, самы праверанны ў вас чалавек. Яна — смелая, і, як сам пераканаўся, умее кантраляваць сябе… — прапанаваў ён і ўсміхнуўся Ганне.

Колька ўспыхнуў:

— Не, я супраць! Ганна не можа…

Але рашучасць Ганны здзівіла ўсіх.

— Я — згодна. Тым больш, што з лейтэнантам мы знаёмы.

Сідарэнка смехам кінуў:

— А чаму б і не… Парачка што трэба.

— Калі сур'ёзна, то ў гэтым рацыянальнае зерне ёсць. Так, разумна. А ты, Сідарэнка, думай, што вярзеш. І, Коля, язык прыкусі! — Шматаў паказаў абодвум сваё незадавальненне.

Колька нязгодна заківаў рыжай галавой:

— Ёю рызыкаваць не варта. Я лепей бы справіўся…

— Камсамол, слухайся старэйшых! — злосна на яго цыкнуў Сідарэнка.

Шматаў нават усміхнуўся на гэта.

— Вось толькі б аўсвайс ёй ды ў якую кантору на работу... — сказаў ён. — Няблага было б... Ганна без падазрэння прыносіла б інфармацыю ад нашага сябра, за горадам перадавала б таму, каму я асабіста даручу, ён дастаўляў бы яе ў атрад.

— Ты што — нам усім не давяраеш? Зараз — вызначымся… Ёсць у мяне хлопец. Проста бая…бая…вы… — незадаволена заківаў Сідарэнка.

— Піць не ўмееш… — сутрымаў таго камандзір. Той вінавата залыпаў вачыма.

— Ну, прабач…

— Ёсць адна прапанова. — Немец уважліва паглядзеў на камандзіра. — Не ведаю толькі, як да яе паставіцеся… Тут, у вёсцы, знік стараста. Так разумею — вашых рук справа. Сам бы гэтую жывёліну расстраляў, рана ці позна. Ён аднаго часу знюхаўся з Людвігам Колем, са службы разведкі. Я некалькі разоў бачыў іх разам. Хачу папярэдзіць: беражыцеся Коля — гэта фанат Гітлера і надта кепскі чалавек. Але яго, я чуў, хутка павінны перавесці ў іншае месца. Пакуль таксама некуды знік — можна скарыстацца яго адсутнасцю. Няхай фройляйн Анна будзе старастам. Коль заўсёды кантралюе ці лепш сказаць інспектуе старастаў — яны збіраюць яму інфармацыю. Ну, як бы падначаліў іх сабе, хаця гэтага рабіць не павінен.

— Ды вы што? — спалохалася дзяўчына.

— Кіньце спрачацца. Ганна — сур'ёзная дзяўчына, настаўніца. А настаўнікаў заўжды паважалі на вёсцы. Канешне, многія не зразумеюць, але трэба рызыкаваць, калі яна не пабаіцца. Ну што, дачка? Як ты думаеш — зможаш? — ён з непадробнай цікавасцю паглядзеў на дзяўчыну.

Ганна разгубілася, не магла сказаць ні слова. Але Шматаў не зводзіў з яе вачэй.

— У тым і справа… Я ж — дзяўчына, хто ж мяне слухацца будзе? Ды і як людзям у вочы глядзець? Ведаюць жа, раты не пазашываеш — настаўніца, камсамолка, і вось — прадалася ворагу… Тут мужчына трэба, наш чалавек…

Сідарэнка прыцмокнуў.

— Ганна… А ў гэтым нешта ёсць… Сёй-той у вёсцы пачаў здагадвацца, што ты маеш сувязь з партызанскім атрадам.

Шматаў кінуў занепакоены позірк на яго:

— Адкуль ведаеш? Чаму не далажыў?

Сідарэнка пачухаў патыліцу і ціха ўдакладніў:

— Не праверана…

Шматаў у чарговы раз зазлаваўся на свайго памочніка.

— Раз так — вось на раток і накінем платок. Ну што, дачка, лічы, што гэта твой самы галоўны загад. Загад партызанскага камандавання.

Ганна, узрушаная пастаўленай задачай, уся зачырванелася.

— Калі выбару няма — я згодна. Але як паводзіць сябе? — яна ўважліва зірнула ў блакітныя вочы Аўгуста.

— Пакуль — ніяк, — усміхнуўся той. — Хутка ў вёску наведваецца група немцаў па правізію. Збяруць людзей. Запатрабуюць старасту. Вы, фройляйн Анна, выйдзеце наперад і скажаце: «Я — стараста. Мяне прызначылі». Ніхто правяраць не будзе, а пасля і аўсвайс зробім. Стараста можа хоць кожны дзень хадзіць у камендатуру — там і будзем сустракацца…

Ніхто не звяртаў увагі на Кольку, які сядзеў насупіўшыся, нават не глядзеў на Ганну.

Шматаў яго падбадзёрыў:

— А ты не перажывай, якраз ты ж і прыдумаў Ганне падпольную клічку — будзем так і называць яе — «Маланка». А Аўгуст няхай будзе «Ліўнем», дзякуючы якому на кожную кроплю дажджу мы выдадзім па кулі кожнаму ворагу. Згодны?

Усе згодна заківалі і выпілі патроху трэці раз.

— Што ж, дамовіліся. Будзем разыходзіцца... — першы даў знак камандзір.

На развітанне Шматаў падаў руку Аўгусту.

— Цісну тваю мужную руку, таварыш «Лівень». У імя нашай агульнай справы.

Аўгуст усміхнуўся:

— Каб хутчэй закончылася вайна. Нашай агульнай перамогай…

— Хаця ёсць яшчэ адна просьба.

— Слухаю.

— Нам трэба друкарскае абсталяванне, каб наладзіць выпуск лістовак. Трэба вывезці з горада некаторае абсталяванне, а каб не выклікаць падазронасці, друкарню ж пасля трэба ўзарваць.

— Трэба падумаць, каб зрабіць усё акуратна…

Аднак дасказаць не змог, бо ў хату ўскочыла запыханая Домна:

— Хлопчыкі, немцы, чуваць, з Дзятлаўкі едуць!..

Усе хутка апрануліся, развіталіся і па чарзе выйшлі з хаты. Аўгуст выйшаў апошнім. Развітваючыся, Ганна зірнула на яго заклапочана. Перад дзвярыма ён раптам спыніўся.

— Фройляйн Анна, усё будзе добра. Я вам дапамагу. Галоўнае — не палохацца. — Ён усміхнуўся дзяўчыне.— Я проста зачараваны вамі — вы такая смелая…

— Каб мне гэтая смеласць бокам не выйшла. Я спадзяюся, мы станем сябрамі. — Яна нясмела працягнула яму сваю маленькую руку.

— Нам суджана імі стаць, Ганна. Бывайце...

Ганна ў здранцвенні доўга пазірала на дзверы. Паўтарыла пра сябе з усмешкай: «Нам суджана імі стаць…»

Але пасля прымусіла сцерці з твару і без вялікай ахвоты прыбрала са стала.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

## *Міткавічы. Пралескі*
## *3—13 студзеня 2002 года*

### 1

...Настрой у Міхалевіча сапсаваўся з самага ранку: дзве гадзіны давялося праседзець на нарадзе ў райсельгасхарчы. А што ён новага, як журналіст і тым больш рэдактар раённай газеты, даведаўся? Адны згрызоты. Да ўсяго ён разам з кіраўніком сельгаскааператыва атрымаў спагнанне за бяздзейнасць, за спад вытворчасці малака. Даказваць сваё, адкрыта не пагадзіцца са старшынёй райвыканкама Хамутоўскім, які асабіста ладзіў разборкі, мог толькі самагубца.

Праз два месяцы заканчваўся яго кантракт, і Сідар Пятровіч, адрабіўшы ў раённай рэдакцыі дваццаць чатыры гады, яшчэ ніколі не адчуваў сябе так кепска як цяпер. Да сённяшняга дня ніхто нават і не згадваў пра яго. А тут — гэтая неспадзяваная вымова. Ці не дурны знак?

Яго думкі перапыніў працяглы званок тэлефона. Гэта быў Іванчык, пралескаўскі старшыня.

— Жывы? — весела спытаўся.

— Не ведаю, што і думаць, Сцяпан Мікалаевіч. Не да весялосці… — адказаў як адчуваў.

— Не бяры да галавы. Ты ж мудры хлопец. А што змурзалі — няхай ім будзе ад таго кепска...

— Лёгка сказаць, у мяне праз два месяцы кантракт закончыцца, а тут...

— Кажу, не думай. Пустое. Падпішуць твой кантракт. Ты ж выдатнік друку! Лепш пра прыемнае думай. Альбо зрабі каму на Каляды падарунак. Я нават ведаю — хто яго варты... — спакойны голас старшыні гаспадаркі, з якім за гэтыя месяцы добра зблізіліся і нават пасябравалі, узбадзёрыў.

— Што маеш на ўвазе, Мікалаевіч? — зацікавіўся рэдактар.

— Ёсць у нас па табе работа. Сёння мая Зінка, ты ж ведаеш, яна ў сельсавеце за сакратара, на хвасце прынесла: ў Сасноўскай дзень нараджэння...

— У Ганны Васільеўны? Яна ж столькі год пісала ў газету...

— Дык нашы тут у клубе праграму рыхтуюць. Ведаеш, Сасноўская цікавы чалавек. У вайну падпольшчыцай была...

— Як жыве? Ці здаровая?

— Ну, браце, у яе гады, зразумела, адчуванне адпаведнае. Жыве адна. Дзеці наязджаюць. Дачка ў яе медыцынскае свяціла — заляцаўся я некалі да яе. Ды знікла з поля зроку, не лёс... — гаварыў Іванчык. — Так што бяры сваю франтавую «лейку» і...

— Угаварыў. Сасноўская заслугоўвае добрага артыкула. Дзякуй за падказку... — ужо весела адказаў Сідар Пятровіч. — І за маё самаедства прабач. Заўтра буду.

— А пра сённяшняе забудзь, вымова ў жыцці — не самае кепскае, што можа здарыцца з чалавекам, — на развітанне пафіласофстваваў старшыня і паклаў трубку.

## 2

Ганна спала, ціха і спакойна, як дзіця. Волька сядзела на стулку каля хворай сястры і малілася. Малітва тая і не падобная на малітву, хутчэй на просьбу да Усявышняга, які ўсё бачыць, усе грахі чалавечыя даруе, падводзіць усе рахункі: «От, ліха з гэтым сэрцам, расперазалася ды не дае табе спакою… Няшчасная мая сястрычка. Хапіла твайму сэрцу — ох, хапіла. І ў вайну, і пасля. Згарэла на сваёй рабоце — вось і нямашака таму сэрцайка… Але нічога, вось фельчарка і ўкол дала, можа, і пройдзе, супакоіцца… Ігарок прыедзе, Кацярынка прыедзе, яна ж сама ўрач, падмацуюць маці. Дзеці цябе і трымаюць на зямлі. Я ж бачу, як ты сумуеш без іх. А ты ж з-за мяне да іх не едзеш, з-за мяне…»

Волька на нейкі час змоўкла, выцерла набеглыя слёзы.

— Ганначка мая... — усхліпнула зноў. — Баішся кінуць адну… І праўда, засохну без цябе, як зломленая галінка. Адзін у нас корань, адзін лёс Бог даў. Ківаюся на зямлі, дзякуючы табе, Гануля. Дзякуючы тваім дзеткам, якія і маімі сталі. І я шчаслівая на Зямлі … Ох, а як хораша было б, каб Васілінка мая засталася жыць… Ручанькі мае пухленькія, вочкі — сіненькія, нібы васілёчкі, косы мякенькія, як лён… Дзіцятка маё няшчаснае! Завошта так з табою несправядліва… Толькі жыві, жыві!..

Старая жанчына плакала, надрыўна, горка, нават не заўважыла, што сястра прачнулася і няўцямна пазірае, на разумеючы, што здарылася.

— Волька, ну што ты зноў? Я ж яшчэ не памерла, — дакранулася рукой да пляча сястры.

Волька адразу аціхла, выцерла вочы, усміхнулася:

— На сухі лес, на цёмныя воды твае словы. Цьфу, дурніца…

Ганна засмяялася — ад душы, з удзячнасцю.

— Знахарка ты мая… Прыйдзе мой час — памру. Усіх смерць не міне. Куды падзенешся? Не мінеш яе. Так. Але ведаеш, сястро, вось што… Я толькі што сасніла. У другі раз за ўсё жыццё ўсіх — сасніла — адразу. Мамку, татку, Васіліначку тваю, Кольку майго няшчасніка. Нібы жывыя, усміхаюцца. Васілінка ў такой прыгожай сукенцы, квяцістай, нібыта падрасла. І Колька мой быццам толькі з касьбы вярнуўся…

Волька перахрысцілася.

— З чаго б ето табе прыкінулася? Каб жа толькі не на бяду!

Ганна ўсміхнулася ці то сабе, ці то так адрэагавала на словы сястры. І вырашыла ўстаць.

— Ну, здаецца, адпусціла. Хопіць у пані гуляць, уставай Ганна!

Але толькі яна зрабіла першае намаганне, каб устаць, як на яе наляцела з крыкам, як каршун, Волька:

— А ну, ляж! — сурова загадала яна. — Выздаравела мне ўмэнт! У цябе што, карова рыкае? Курам я сама зараз сыпну.

Ганна пакрыўдзілася.

— Крычыш, нібы і не чалавек ужо я.

— Не са злосці, Ганначка, не са злосці. Фельчарка вунь што казала. Вось ты і паляжы, мілая, паляжы…

Ганна ўздыхнула і падпарадкавалася.

— Ну то, Волька, там, у бакоўцы, крупы… А Рэксу хлебца скарынку дай, і яшчэ адну, мякчэйшага, адрэж. Там учарашні і булён стаіць — хай есць…

Волька ўсхапілася, зацерусіла ў сенцы:

— Клопат хіба? Я — зраблю. Ляжы…

— Ага, наляжыш тут, сасніўшы такое?! — Ганна не магла стрываць, паціху ўстала, сунула ногі ў тапачкі, паціху пайшла па хаце да партрэтаў, у яе вачах застылі слёзы.

— Дарагія мае… — нібы ў царкве адчувае сябе Ганна, нібы побач яе родныя. Яе голас дрыжыць, але яна разумее, што кажа, да каго звяртаецца.— Праўду, ты, мамка, мне некалі казала — пастарэеш, да Бога павернешся… Вось я, мамка, былая камсамолка, былая камуністка, і звяртаюся да яго. Прашу яго, надта прашу. Трошкі пажыць бы яшчэ…

## 3

— Добры дзень, цётка Ганна! Пенсія! — прывіталася і паведаміла з парога паштарка Арцёміха. За ёю ў хату ўскочыла дзяўчына, прывіталася таксама.

— Добры дзень, Ганна Васільеўна.

Ганна сёння пачувала сябе лепей, выйшла насустрач.

— Добры, дзяўчаткі, добры. Анігаткі, у час грошы прынеслі. Якраз да майго дня нараджэння. Добра як. Дзеткі ж мае прыедуць, унучкі.

Паштарка тым часам хуценька падлічыла дзесяткі, дваццаткі і некалькі пяцьдзесятак, а затым працягнула жанчыне ведамасць:

— Вось тут, цёця Ганна, распішыцеся.

Ганна няспешна ўстала, паклала грошы і квітанцыю ў буфет, і, вярнуўшыся назад, зразумела, што, нарэшце, пазнала другую дзяўчыну.

— Пачакай, то я ж цябе толькі прызнала… Няўжо ты — Верка?— Здзівілася Сасноўская.

Арцёміха ўсміхнулася на гэта, зрабіўшы ўсё, паправіла шлейку на плячы.

— Мая сястрычка, мая, Ганна Васільеўна. Прапажа мая… Прыехала ўчора з Гомеля…

Ганна пляснула ў ладкі, яшчэ больш дзівячыся:

— А як жа расцвіла ты, Верка, як вішня ў садзе… Пасправўнела трохі, а то была ж такая худзенькая! Даўно не паказвалася на вёсцы.

— Даўно, Ганна Васільеўна. Як маці памерла. Дзевяць гадоў прайшло… — згадзілася дзяўчына, усміхнулася жанчыне і ніякавата пaглядала на сястру. Тая ўспрыняла гэта як нейкі знак, заспяшалася.

— Я пайду, трэба яшчэ паўвуліцы разнесці пошту. А Верка хоча з вамі пагаварыць, цётка Ганна. Ну, то бывайце шчаслівa...

Ганна яшчэ больш здзівілася такой навіне.

— Калі так… Сядай, Верачка, сядай, галубка, бліжэй. Як жывеш хоць у сваім Гомелі? Замужам ці як?

Верка горка ўсміхнулася, і гэта здзівіла старую.

— Замужам? Не, мабыць, не суджана. Працую ў краме, ужо загадчыца. Кватэрка ёсць — аднапакаёўка, праўда, але хапае... Я… Мне патрэбна… Я хацела папрасіць у вас… адрас…

Яна раптам пачырванела, гэта яшчэ больш здзівіла Сасноўскую.

— Адрас?

— Вашага ўнука… Косці…— нібы глытаючы словы, паведаміла ціха госця.

— Косці… Пачакай, нешта нічога не разумею… А навошта ён табе? — Бабулька ажывілася, уважліва пагледзела на Верку. А той, відаць, цяжка было сказаць, дзеля чаго прыйшла. Нарэшце, Верка асмелілася.

— Ведаеце, мы з ім сябравалі. Даўно... Ён жа часта летам на канікулах быў у вас.
— Косцік раней заўсёды налета прыязджаў. Пачакай!.. Дык, кажаш, сябравалі? Гэх, дзяўчо, прызнавайся, ужо... Прызнайся — ці не закахалася, Верка, у яго? Ну, як жа, у гэтага блазена нельга не закахацца! Але ж...— Сасноўская сумна ўздыхнула, — у яго вецер у галаве...
Верка зноў сарамліва апусціла вочы.
— Памятаеце, амаль дзесяць гадоў таму... — пачала яна.
Ганна згадала, пацвердзіла.
— Пачакай! Тады Косцік яшчэ студэнтам быў, прыязджаў з Ленінграда на два тыдні...
— У нас было — сур'ёзна... Гэта я яго адштурхнула, і Косця назло мне гуляў з іншымі.
— Ну а пасля? — Сасноўская чакала пачуць нешта важнае, расхвалявалася так, што яе твар загарэўся жыццём і незвычайнай адметнай у гэтыя гады прыгажосцю.
— А пасля я зразумела, што цяжарная...

## 4

Тэлефонны званок перарваў кепскія думы Міхалевіча.
— Ну, здароў Сідар Пятровіч!
— Здароў, сусед! — узрадаваўся званку калегі з суседняга раёна Смірнова.
— Не чакаў? — зарагатаў той.
— Ды, думаю, куды гэта прапаў мой настаўнік...
— Я чаго тэлефаную...
— Аграгарадок у Азёрцах пабудавалі, на новым пасёлку, ведаеш. Амаль побач — тарфянік, былое балотца Азёрыцкае. Дык вось на адным новым селішчы вясной знайшлі астанкі жанчыны. Ясна, што ад вайны.
— Ходзім па касцях...
— Не кажы, браце. Дык вось гэтыя маладыя людзі, што знайшлі магілу, не дазволілі яе перанесці на могліцы. Пакінулі на ранейшым месцы, ужо і помнік паставілі. Але я не проста званю. Мы тут падключыліся, матэрыял зрабілі. Раптам, нехта падкажа: як, чаму, хто гэтая нябожчыца. Паўгода прайшло, але ціха.
— А што, вёска не пацярпела ў вайну?
— Згарэла, у тым жа і справа. Сведкаў няма. Таму мы з ваенкомам параіліся: а што калі суседзі наш матэрыял надрукуюць? Каб сумленне чыстым было. Раптам...
— Дапаможам, Іван Іванавіч. Памяць — агульная справа...
— Ты ўжо сёння па пошце атрымаеш мой ліст. Там і фота магілы — адсканіруеце. Лады?
— Зробім. У наступны нумар паставім. Там у мяне таксама цікавы матэрыял плануецца. Таксама на ваенную тэматыку. Наша жанчына ў гады вайны па заданні партызан стала старастам. Людзей колькі выратавала ад згубы, прайшла праз смерць. А пасля вайны і папрокаў нацярпелася, людзі ж не ўсе разумелі. Пасля вайны камандзір атрада партызанскага спецыяльна з Масквы прыехаў, ордэн за перамогу ў клубе ўручыў — вёска ахнула. А яна ж свой боль у сэрцы насіла ўсе гады. Заслужанай настаўніцай пасля вайны стала. З Пралесак, дарэчы, родам. Бацькоў немцы расстралялі, калі даведаліся, што

дочкі — падпольшчыцы. Тут, ведаеш, гавораць пра патрыятызм моладзі. Такога патрыятызму цяпер няма і не будзе. Іншымі мы сталі...

— Тады людзі былі ў выключным становішчы, і важна было захаваць чалавечы твар. Ну, бывай, Сідар. Калі нехта адгукнецца па публікацыі, дай знаць...

— Якія размовы, Іван Іванавіч. Справа святая. Будзь здароў!..

## 5

Ганна ўвайшла ў хату з кошыкам бульбы, паставіла на ўслончык перад печчу, якая добра ўжо ўгарэлася. Каля печы было зырка, а яна паспела настыць, пакуль хадзіла ў істопку і цяпер пагрэла крыху рукі.

— Бач, які калядны марозік? Бярэцца не на жарт... — сказала сама сабе незадаволена. — Старым такі мароз ужо й не трэба...

Раптам, нешта згадаўшы, Сасноўская хуценька падалася з кухні да акна, стала праз шыбу ўважліва ўглядацца на двор.

— Свеціцца ў Волькі, ага... Ну то й добра, хутка прыйдзе...

Вочы зачапіліся за свежыну — звычаёвае, якое прынёс сусед Іван.

— Ахвоці мне, Зоська, няйнакш, разарылася: з гэтага ж сапраўднае вяселле можна справіць!

Але ўвага жанчыны раптам прыцягнула іншае — на вуліцы забрахаў сабака, а затым засігналіла машына.

— Вой!!! Няўжо прыехалі? А я ж нічога не паспела падрыхтаваць, старая дурніца!

Яна толькі пакіравала да дзвярэй, каб пайсці сустракаць дзяцей, працягнула руку па фуфайку, як у хату ўляцеў расхрыстаны малады чалавек з букетам белых руж.

— Косцічак, родненькі мой, унучак…

— Ба, твой блудны ўнук вярнуўся ў сваё дзяцінства! Як жа я па табе, ба, сумаваў! Ад неразздзеленага кахання, думаў, памру. Навекі. А ты, гордая, непрыступная, так і чакала маёй смерці… Памятаеш у ранняга Куляшова…

*Мне сніўся сон, ты адляцела ў вечнасць,*
*І зоркаю зрабілася між зор,*
*А я — душы і цела супярэчнасць,*
*Жыву, не звар'яцеў і не памёр.*

Класна! Ба, я ўсё памятаю! Я памятаю твае ўрокі! Мая мілая ба!

— Не забывайся! Задушыш… ад сваёй вялікай любові! Ад гэтага не паміраюць… — шчасліва ўсміхнулася яна. — Ты… Такі ж, такі ж, як твой дзядуля… Рамантык. Але… ён не дарыў мне руж… На жаль.

Косцік адначасова з зайздрасцю і з сумам адзначыў:

— Вось гэта — каханне! Ты памятаеш яго, шчаслівчыка, дагэтуль — кожнае слова! Ну, ба, даеш! Заўсёды ведаў, што ты ў нас — незвычайная. Я захапляюся табою ўсё жыццё!

Ганна падыграла яму:

— Станіслаўскі сказаў бы адназначна: не веру.

Косцік раптам тэатральна стаў на калена, працягнуў ёй кветкі.

— Гэтыя ружы засведчаць маё вечнае каханне да вас, прыгажуня… Даруй, што дагэтуль не выканаў галоўны твой наказ і свой абавязак — не знайшлася тая з жанчын, якая б пагадзілася нарадзіць ад мяне твайго праўнука. Даруй, ба! Няма, ведаеш, дастойнай… Я б хоць сёння ажаніўся!

— Блазен і падманшчык. Уставай і хуценька давай свае кветкі. Ды запомні гэты момант. І дай слова сваёй бабулі: ты жэнішся зараз жа! — ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказала Ганна.

Косцік не саступаў са свайго:

— А чаму ж не?! Згодзен нават на царкву!

— Пачакай, пачакай, толькі пост закончыўся… Кажуць, пасля калядных святаў вяселлі граюць не выпадкова — сем'і моцныя будуць. А калі гэта ўсё ж здарыцца — не спалохаешся?

— Я — чалавек слова, ба!

Абое смяюцца ад душы, і, шчаслівая, Ганна пацалавала ўнука. Нарэшце, яна здзіўлена запыталася:

— А дзе ж астатнія? Няўжо ты адзін?

— Пачакай, я зараз, нешта забыўся ў машыне. Адну хвілінку…

— Куды ты, вецер? — наўздагон унуку гукнула Ганна, але той ужо знік з хаты. — Вось, вецер!

Пакуль ён не вярнуўся, Ганна дастала з буфета крыштальную вазу, наліла ў яе ваду і паставіла ружы на стол, шчаслівая глядзела на іх. Расчыніліся дзверы, і Косцік з пыханнем увалок у хату вялікую кардонную скрыню.

Ганна зачыніла дзверы.

— А Божа мой, што гэта, Косцічак? — здзівілася яна, адначасова ўзрадавана і спачувальна ківаючы галавой, і пайшла за хлопцам услед у чыстую палову хаты: той туды ўвалок скрыню і паставіў пасярод пакоя. — Дык што ж гэта, Косцічак?

— Зараз, ба! — той хутка распрануўся, кінуў на канапу дублёнку. — У цябе так цёпла. Як мне хацелася гэтага дамашняга ад печы цяпла. Я марыў пра гэта начамі! Можна, я сёння буду спаць на печы, як у дзяцінстве?

Ганна засмяялася:

— Ты ўжо, Косцічак, не маленькі… І ложкаў хапае.

Як фокуснік, дэманструючы свой цуд, унук раскрыў скрынку:

— Ага... Увага: тут у нас, бабуля, цудоўны каляровы тэлевізар. Так сказаць, прымі падарунак ад унукаў — мяне і Веранікі. Прабач, ад праўнукаў атрымліваць падарункі яшчэ рана…

Ганна загадкава ўсміхнулася.

— А можа, мае праўнукі дзе па свеце бегаюць — хто ведае?

— Мілая ба, я б даведаўся пра гэта першым…

— А калі б так было, скажы, ты прыняў бы сваё дзіця?

Косцік усміхнуўся, але ад Ганны не схавалася, што яе нечаканае пытанне прымусіла яго задумацца.

— Канешне, трэба было жаніцца. Не слухаў цябе, бацьку. А цяпер…

— А пасля трыццаці, кажуць, што не жэніць і чорт… — сказала Ганна.

Косцік з тэатральна засмучаным выглядам на твары пакрыўджана паглядзеў на бабулю, затым бяскрыўдна засмяяўся:

— Няўжо я такі нягеглы? Не, ба, у мяне ўсё яшчэ будзе!

— Ну-ну, дажыць бы. Хаця ж ты мне даў абяцанне ажаніцца.

Косцік насцярожыўся, здзіўлена паглядзеў на бабулю.

— Нешта, ба, у цябе ў галаве! — Ён зняў са стала стары тэлевізар, паставіў пад стол.

— Ба, ні аб чым не турбуйся. Скажу па сакрэту, мяне не выдай толькі: з Мінска вязуць усё ўжо прыгатаванае. На дзень нараджэння. Цётка Каця пастаралася.

— Дачушка мая, божанька, хапіла ёй клопату… Але ж і я хачу сваё на стол паставіць. Суседзяў паклічу на вячэру, баба Волька прыйдзе. Вось толь-

кі, унучак, гарэлкі, мабыць, трэба будзе дакупіць. Ты скокні на машыне ў сельмаг, купі. І хлеба, хлеба свежага — з ранку павінны прывезці. Вось тут грошы... — яна дастала з буфета грошы. — А я тым часам калядзінкі буду рабіць... Калядзінкі пячы будзем... Памятаеш мае калядзінкі?

— Я смачнейшага, ба, нічога на свеце не еў... А можна я дапамагу рабіць?

— Паспяшаешся — і табе хопіць работы. А пакуль скоч да бабы Волькі, яна табе будзе рада, парадуй старую, і ў сельмаг. Хутка!

Косцік хутка апрануўся і збіраўся пайсці, але каля самых дзвярэй нечакана затрымаўся.

— Ба, я цябе люблю!

Ганна жартаўліва-пагрозліва прыгразіла:

— Пачакай, ты хутка мне іначай запяеш...

# ЧАСТКА ШОСТАЯ

## *Швейцарыя — Беларусь, 2001 год*

### 1

Ён пахаладзеў ад сваёй згадкі. Здалося, спыніўся час.

— Вы хочаце сказаць, ваша дачка... — рыжавалосы Гюнтэр разгублена лыпаў вачыма і, нарэшце, зразумеў: ён сам ведаў адказ на сваё ж пытанне.

У голасе жанчыны прагучаў глыбокі і шчыры смутак. Аднак у зяця складвалася ўражанне, што цешча зусім не шкадавала дачкі. Даніэла шкадавала сябе. Больш, чым дачку.

— Я ведала, што гэта павінна было здарыцца. Бог вёў... — холадна прадоўжыла яна.

— Заткніся ты са сваім Богам! — страціўшы цярпенне, раз'юшана закрычаў Людзвіг. Ён стаяў ля акна, разгублены, жончыны словы ўшчэнт знішчылі яго. — А можа, ты лічыла, адмовіцца мне ад свайго адзінага дзіцяці? Ты і так усё жыццё грызеш мяне жыўцом. За што толькі. Каб хто спытаўся? Адгарадзілася, пабудавала нібы крапасны вал, а цяпер...

— Розум цябе... пакінуў!.. — Даніэла ледзьве авалодала сабой. — Я — добрая маці! Я любіла і люблю сваё дзіця!

Прагучала злосна і жорстка.

— Вось табе на! Не, даражэнькая, ты — кепская маці! Скажы, калі гэта не так, прызнайся свайму зяцю!

У Людзвіга сціснулася сэрца ад жалю да хворай, кволай жонкі, але стрываць, як Даніэла прыняла навіну пра дачку і ўсё, што з ёй здарылася, ён не мог.

Гюнтэр зразумеў, як нялёгка цесцю раскрываць таямніцы іх сямейнага жыцця. Бачыў, як хвілін пяць таму ў цешчы гнеўна выгнуліся бровы — ад злосці не магла сказаць і слова, і дзівіўся цяперашняму яе спакою.

Даніэла цяжка ўздыхнула, нібы збіралася ў падарожжа, далёкае і доўгае.

— Інакшага ад цябе я і не магла чакаць, мой мілы... — устаючы, прамовіла яна ціха і, не зірнуўшы нават на мужа, накіравалася да дзвярэй на кухню.

Так звычайна завяршаліся ў гэтай сям'і спрэчкі. Зяць быў іх рэдкім сведкам, і ў інакшай сітуацыі тое, што адбылося ў яго прысутнасці, яго б здзівіла. Аднак цяпер ён адчуваў сябе прыгнечаным. І крыху вінаватым у гэтай сварцы.

Людзвіг, нарэшце, зразумеў, што перастараўся, вінавата паглядзеў услед жонцы.

— Дані, я не хацеў, даруй...

Даніэла азірнулася. У яе голасе чуўся адчай.

— Я вельмі старая, каб нешта паправіць. І ты, стары дурань, гэтага ніяк не зразумееш...

Худая і зграбная, упэўненая ў сабе, не жадаючы паказаць мужчынам сваёй слабасці, а прыступы ўдушша не давалі ёй спакою ўсё часцей і часцей, жанчына рашуча выйшла з пакоя, рэзка зачыніла за сабою дзверы.

Заінтрыгаваны Гюнтэр доўга глядзеў на дзверы, за якімі схавалася жанчына, у якой ён зрэдзь знаходзіў падобныя рысы з жалезнай ледзі старога англійскага кабінета.

— Я ўсё што заўгодна мог падумаць, толькі... — прамовіў ён разгублена.

Не пазбаўлены ў свае немаладыя гады прывабнасці, а сівізна толькі падкрэслівала мужнасць і сталую прыгожосць, Людзвіг, сядаючы за стол насупраць зяця, рашуча адсунуў шклянку, і сок ледзь не праліўся праз край. Здзівіўшыся свайму ўчынку, мужчына шырока расплюшчыў вочы і з непрыхаваным болем паглядзеў на зяця. У адчаі, нарэшце, прамовіў:

— Не думаў, што яна... здолее. Лічыў, забыта, замацавана пячаткамі памяці, ніхто пра тое не даведаецца і праўда сыдзе з намі на той свет. Не вытрымала, усё жыццё мне пакрамсала... — хрыплым голасам прызнаўся ён.

У глыбока асаджаных вачах немаладога чалавека застылі слёзы. Яго позірк быў разгубленым. Ён уставіўся на рукі, якія сціснуліся ў кулакі. У Гюнтэра ад спачування зашчымела сэрца.

— Што адбылося — не вернеш... — усё, што ён мог сказаць у такой сітуацыі.

— У кожнага чалавека ёсць мінулае, і гэтае мінулае рана ці позна яго даганяе... — Людзвіг цяжка ўздыхнуў, стараючыся супакоіцца. Праз імгненне з болем у голасе спытаў:

— Што ты цяпер будзеш рабіць?

Гюнтэр прамовіў не адразу, затым пахмурна кіўнуў:

— Не ведаю.

— Вып'еш? — прапанаваў цесць.

— Дзякуй, не. Мне яшчэ вяртацца ў Цюрых, потым... дадому.

Кожны цяпер думаў пра сваё, доўга маўчалі.

— Сад у гэтым годзе хараша цвіў? — вырашыў перавесці гаворку на іншае Гюнтэр, дапіўшы, нарэшце, са шклянкі яблычны сок.

Стары фермер ведаў, што зяця ў цяперашніх абставінах якраз найменш цікавілі справы на ферме, але з радасцю падтрымаў прапанаваны напрамак у размове.

— Ведаеш, зусім як нявесты дрэвы былі сёлета. Люблю гэты час, быццам занава нараджаешся... Хаця ж... навошта мне ўсё гэта, старому? Па цяперашнім часе вялікай выгады не чакай. Нашаму ўраду, так атрымліваецца, цяпер прасцей нямецкага фермера падтрымаць, чым сваіх землеўладальнікаў. Еўропа на пяткі наступае, браце. За бясцэнак, лічы, лікёр свой аддаў. А які ж лікёр атрымаўся, братка ты мой! Цуд дый толькі... А былі ж часы! Працаваў і працаваць хацелася. Цяпер толькі клопат застаўся, звычка. А сілы не тыя… Маладыя не жадаюць працаваць на зямлі, няма выгады, ім высокія тэхналогіі падавай... Швейцарыя ж багатай не заўсёды была, і галечу давялося перажыць. Нашы дзяды працавалі не пакладаючы рук, дзякуючы ім выжыла краіна ў цяжкія часы: на працы, такіх, як я. Забыліся на гэта. Шкада,

крыўдна. Усё ж яшчэ вернецца, чужым кавалкам падавімся. Толькі б не было позна... Знаеш, надумаўся прадаць частку зямлі...

Цесць расчаравана махнуў рукой. Хвіліны з дзве маўчалі.

— Дзякую за ўсё, Людзвіг... — Гюнтэр вырашыў ехаць, устаў.

— Ты спусціся ў склеп, для бацькі скрынку з віном вазьмі там, я падрыхтаваў. Ён любіць маю вішнёўку... І сабе — калі хочаш... — прапанаваў ён зяцю.

— Дзякуй. Бацьку перадам. Абавязкова. Ну, мне час... — Гюнтэр марудна пайшоў да дзвярэй.

Здавалася, у гэты момант Людзвіг пастарэў гадоў на дваццаць, ён не чакаў, што прыйдзецца некалі весці такую размову з зяцем. Цяжка выдыхнуў:

— Гюнтэр, паслухай... Я цябе заўсёды паважаў. Ты прыстойны чалавек. Шмат што пераняў ад свайго бацькі, майго сябрука. Я ведаю Хойслераў вельмі даўно. І... прыму любое тваё рашэнне. Калі захочаш змяніць сваё жыццё... — Людзвіг у гэты момант быў варты жалю, апусціў вочы.

Гюнтэр адчуў сябе кепска: навошта ён наогул сюды прыехаў? Спапяліць сэрцы гэтых двух старых? Не, свае праблемы, як мужчына, ён павінен быў вырашаць сам. А старыя ў такой сітуацыі — не суддзі і не дарадцы! Дурань! Ідыёт!

— Карацей, у цябе, зразумела, ёсць прычыны вырашыць справу так, як лічыш патрэбным. Дастаткова, прызнаю, прычын... Але ж, сынок, я хацеў бы, каб гэты твой учынак быў па-сапраўднаму мужчынскім...

Стары абапёрся рукамі аб калені, устаў і, гледзячы Гюнтэру ў вочы, сказаў:

— Адно толькі прашу. Калі канчаткова прымеш рашэнне, пастарайся зрабіць гэта па-мажлівасці не так балюча для сваёй сям'і, для маёй дачкі, для маіх унукаў. Скрушыць заўсёды прасцей, чым што-небудзь пабудаваць...

— Я ведаю, але гэта залежыць ужо не столькі ад мяне... — Гюнтэр хацеў штосьці яшчэ сказаць, аднак не паспеў. За сцяной на імгненне пачуўся незразумелы шум, нешта ўпала.

— Даніэла, што там здарылася? — схамянуўся Людзвіг.

Жонка чамусьці не адказала, хаця мужчыны ведалі, што яна ўвесь час была за сцяной, побач, корпалася на верандзе.

Адчуўшы, што там адбылося нешта няладнае, цесць і зяць кінуліся праз кухню на веранду...

З паветрам адбывалася нешта незразумелае, дыханне перахапіла абодвум: у цэнтры прасторнай веранды, на кафельнай падлозе яны пабачылі маленькую гаспадыню старога фермерскага дома. Побач з ёй ляжаў перавернуты самаробны стул, на які яна звычайна станавілася, каб вышэй павесіць толькі што вымытую бялізну. У руках жанчына трымала махровы ручнік.

Мужчыны адначасова схіліліся над жанчынай. Краёчкі губ яе ўсміхаліся, а вочы глядзелі некуды ўверх. Здавалася, яна была шчаслівая. Даніэла не дыхала...

## 2

Сваё гора Мерыям хавала ад усіх. Усе апошнія ночы яна бесперапынна ціха плакала ў пакойчыку дачушкі, якая спакойна спала ў прыгожым, з ажурнай разьбой ложку.

Кожную раніцу яна спадзявалася знайсці сілы, каб паехаць у паліцэйскі ўчастак, прызнацца: ніхто іншы, а толькі яна вінавата ў страшнай Ігаравай смерці. Няма ёй даравання і не будзе ніколі! І — не ехала.

...У думках Мерыям развіталася з ім даўно. Пасля Мінска дала сабе слова: ніколі больш не набліжацца да той рысы, за якой чакала небяспека згубіць сям'ю, павагу, любоў радні. Не, яна ніяк не зможа прамяняць усё гэта на каханне. Таму нічога і не трэба змяняць. Ні за што! Але ж... Што рабіць з ім, гэтым дураватым каханнем? Толькі ж пабачыла яго, напоўненыя страсцю, малочна-блакітныя вочы, — вярнулася ўсё...

Не, не ўсё. Усё было ўжо іншым. І яна стала іншай, зусім другой Мерыям Хойслер, чым да паездкі ў Беларусь, той паездкі, якая падарыла ёй радасць і пакуты. Знікалі месяцы, а пасля галоўным стала іншае. Самай дарагой стала навіна: жыццё маленькага чырвоненькага камячка, які адзін, здавалася, і здольны злекаваць збалелую яе душу. Яе дзяўчынка хутка набірае вагу, будзе жыць! Дачушка яе, яе крывіначка, яе Анэта. Яе...

...Перажывала, што прызнанне ў паліцыі народзіць чараду чутак і нават плётак: хто ж у іх гарадку не ведае будаўнічага бізнесмена Гюнтэра Хойслера? Цяпер — тым болей цяпер! — не хацела разладу ў сям'і. І праклінала сваю нясмеласць: трэба было ж прымусіць сябе, чортава баязліўка, прайсці трыццаць крокаў... Толькі трыццаць крокаў — яна ж пайшла вечарам з ім на сустрэчу, але, спалохаўшыся, стаілася пад мостам, а пасля вярнулася дадому...

Страх і боль не пакідалі жанчыну ні на хвіліну. Яна ўжо нічога не магла зразумець... «Такі ж разумны, правільна ўсё зразумеў, здавалася, усё ўдакладнілі — кожны павінен жыць сваім жыццём. Што ж ты, дурань, нарабіў? Навошта так сышоў — адпомсціў, жадаў ёй кепскага?!»

Мерыям безупынна дакарала сябе: магло ж быць іначай, калі б захацела. Цяпер Ігара, яе каханага, адзінага ў свеце мужчыну, якога сапраўды кахала, забрала халодная Аарэ...

Збалелася яе душа: а як жа там, у Беларусі? У Ігара ёсць маці. Яна чакае сына дадому. Ігар жа неяк заўважыў, што маці дзеля яго можа ўсё аддаць... Што яна адчувае зараз? Не, ёй, Мерыям, неабходна ісці ў паліцыю!

Учора ў «AZAarau» надрукавалі інтэрв'ю з фотаздымкам нейкай мілавіднай мадам Хінтэррэдэр, якая сапраўды некалькі тыдняў таму бачыла ля ракі прыемнага маладога чалавека. Нябожчыка яна не апазнала, але вось плашч, пакінуты тапельцам у адной з лодак на беразе Аарэ, запомніла. З целам, паведамлялася ў іншым выданні, зробяць так, як і належыць у такіх выпадках...

«Што ж, даруй, даруй мне, Ігар... Нават цяпер я нічога не магу зрабіць для цябе! І для тваёй мамы...»

Таямніца адбірала ў яе дыханне, Мерыям, хаваючы ад мужа і сына слёзы і настрой, імкнулася радзей трапляць ім на вочы. Штосьці гатавала на кухні, штосьці гаварыла ім услед...

Хутка слёзы зніклі. А бяссонныя ночы не маглі не адбіцца не толькі на настроі, але і на самаадчуванні. Жанчыне аднойчы падалося: яна загінула ў снежнай лавіне, і на яе жыцці некім пастаўлена тлустая кропка. Тлустая!!!

Аднойчы ў сне сустрэлася з ім: усмешлівы, шчаслівы Ігар бяжыць ёй насустрач, а ў руках галінкі чаромхі — чароўны, дурманлівы пах... Згадала, што ўжо сніла яго ды забылася.

Прыгожы і страшны сон, нібы насланнё, пераследаваў яе цяпер кожную ноч, нават баялася заплюшчыць вочы...

«Дурніца!»

Як даравать сябе за тую і сённяшнюю баязлівасць? Трэба хаця б зараз, узяўшы Анну, з'ездзіць у праваслаўны храм у Цюрых — на гэта хопіць у яе

духу?! Ды і гэты ж неверагодны сон: закаханы, усмешлівы, шчаслівы Ігар бяжыць ёй насустрач, а ў руках — яе любімая чаромха. Ён хоча нешта ёй паведаміць?..

## 3

Што за дурное пачуццё — гэтае праклятае каханне!!!

Ліхаманка, якая авалодала ім, не давала жыць. Дастаткова было падумаць пра Мерыям, каб усё ўнутры бунтавала! Праклён нейкі на ім ці што — ён не мог забыцца пра яе! А павінен жа, павінен быў праклінаць той злапомны дзень, калі ўпершыню ўбачыў, упусціў яе ў сваю душу! І што рабіць цяпер? Што? Як жыць далей?

Божа, яна прагнала яго, як сабачку. Непатрэбную істоту... Нават збіраецца завесці яшчэ адно дзіця з тым, каго не кахае...

Ён не ненавідзеў яе, ён яе шкадаваў, як маленькае, невідушчае кацяня. Але ці мог нешта змяніць?

Ігар думаў, што справіцца сам са сваім болем, забудзецца. Час — лечыць. Толькі нічога не выходзіла, што б ні рабіў.

Днём Косціч хапаўся за любую працу, абы мець занятак і не думаць пра яе, а як толькі заканчваўся рабочы дзень, вяртаўся ў інтэрнат — і ўсё пачыналася зноў: думаў пра яе, такую далёкую яго радасць. Свой боль глушыў цыгарэтным дымам. Не дапамагала. У адзіноце ўпершыню ў жыцці напіўся. Вынік быў яшчэ горшы: прачынаўся ў нейкім чадзе, злавіўшы сябе на думцы, што толькі што гутарыў з Мерыям. Цяпер ён баяўся начы, якая як у кіно пракручвала зноў і зноў усе дэталі іх сустрэч і такога сумнага расстання. І навошта гэта ўсё на яго галаву?!

Як божы знак, раптам падала пра сябе вестку Машка: патэлефанавала і пацікавілася яго жыццём. Неўсвядомлена, але хапаючыся як тапелец за саломінку, Косціч абрадаваўся. Выйшла так, а не іначай: раптам сам запрасіў дзяўчыну да сябе.

— У нас, Маша, тут такое... Усе запыханыя, як мурашы сноўдаюць. Хутка турыстаў, паломнікаў наедзе... Тысячагоддзе Тураўскай епархіі, юбілей Мазыра. І ў Тураве вялікія святы чакаюцца — у верасні...

— Тураў... — паўтарыла невядомую назву масквічка. — Штосьці старажытнае...

— Ага, пасля Кіева, у свой час, другі горад на Русі... Тураву вернуты статус горада, хоць і нагадвае вёску. Але ўсё ж — гісторыя славянства. Калі ёсць жаданне, чакаю... — вырвалася між іншым у Ігара.

— Ты мяне запрашаеш, Ігарок? — дзяўчына, адчувалася, шчыра ўзрадавалася, а прапанова спадабалася ёй. — Я абавязкова прыеду. Вось пабачыш...

Ігар, пачуўшы яе згоду, разгубіўся: вось дурань, ляпнуў на сваю галаву. З'явілася другая думка: хопіць зводзіць сябе! Гэтае прывабненькае дзяўчо — што тут перабіраць? — чым не варыянт для блізкіх зносін, здольных адрынуць з яго душы застарэлы боль. Хаця ж, гледзячы праўдзе ў вочы, мінскую гасцінічную ноч з масквічкай Косціч даўно выкрасліў з памяці. Здавалася, назаўжды. Ды не, нешта зварухнулася ў душы. Няўжо ўсе мужчыны так успрымаюць жанчын, з якімі хоць аднойчы дзялілі ложак?

Зараз, калі столькі перагарэла ў душы, стала відавочным: няхай вядзе яго лёс куды захоча. Мерыям гэтага хацела, нават — прасіла...

— Ведаеш, з маёй дурной працай лепш сустракацца пасля святаў... — раптам вырвалася ў яго.

— Спалохаўся? — пачуўся вясёлы смех у трубцы, але дзяўчына была настойлівая. — Няўжо адмовішся ад запрашэння?

— Навошта ты так... Я буду вельмі рады... — выцягнуў з сябе ноткі ветлівасці.

— Я думаю, што ты не пашкадуеш! — загадкава праспявала ў трубцы Машка. — Бывай, мілы. Прывітанне...

— Бывай...

Пачуліся кароткія гудкі, а Ігар упершыню спакойна, лагодна ўсміхнуўся і сказаў сам сабе: «Вось табе і замена, Мерыям… Магчыма, Машка і ёсць мой лёс? Хто ведае...»

Ён злавіў сябе на думцы, што яго адпусціла; лягчэй і лягчэй станавілася, калі думаў пра дзяўчыну, выпадковую спадарожніцу ў бязрадасным для яго пералёце некалькі месяцаў таму. Як магніт прыцягвае жалеза, так і ён цяпер імкнуўся прыцягнуць у свае мары другога чалавека, адносіны з якім у першы раз пакінулі цяжкаватыя пачуцці на душы, але, нягледзячы на гэта,— бесклапотныя і светлыя.

На працы Косціч таксама выглядаў спакойным. Яго не кранала канторская мышыная мітусня, пабудаваная на даносах і плётках. Вось дзе сюжэты для раманіста — няма чаго і галавы ламаць, — толькі спісвай. І плагіятам не назавеш. Праз нейкі час бесталкоўшчына стала раздражняць Косціча. Складвалася ўражанне, што перамыванне «костачак» і ёсць асноўны клопат большасці яго калег. Ігар ледзь стрымліваўся, каб не ўчыніць бунт.

У канторы адсутнічала як лагічнасць, так і элементарная разумнасць таго, чым гэтыя людзі займаліся. Косціч раптам зразумеў важнасць аднаго пастулата: дык усе ж жывуць дзеля сябе? Усе — без выключэння — імітуюць занятасць, не прыносячы грамадству ніякай карысці. А зарплата, па беларускіх мерках, невялікая, але і не маленькая. Педагогам, напрыклад, і не снілася... Толькі якая аддача ад гэтых гора-спецыялістаў?

Ён губляўся ў роздуме: хоць тысячу разумнікаў будзе ў камандзе прэзідэнта, да палітыкі якога Ігар адносіўся часта з крытычнага боку, але паважаў, пакуль людзі не будуць адказваць за канкрэтныя вынікі працы, — нічога не зменіцца. Разарвіся, а не будзе змен! Адных стаў ранняў наверсе і спрыяльных законаў мала. У любым выпадку для іхняй, згубленай у глыбінцы, структуры, пакінутай без увагі высокага кіраўніцтва. Ад таго і бардак у аддзелах. І справа не ў метадах кіраўніцтва, а ў каранёвай савецкай псіхалогіі людзей, адносінах да працы. Любіць трэба тое, чым займаешся, каб мець хоць нейкі вынік. І адаптавацца да сусветных змен: ліха б вас пабрала, дваццаць першае стагоддзе на дварэ!

Сляпец, як ён раней гэтага не бачыў?! Шэф, нястрымны, як і ягоная жонка, да лёгкай нажывы, некалі ж падаваў надзеі ў навуцы. А што цяпер? Як сапраўдны тэатрал рэжысіраваў бурную дзейнасць-спектакль, быццам па разнарадцы пакрыкваў на падначаленых, толькі нічога не прымаў з канкрэтных захадаў, каб што-небудзь прывесці да лагічнай разумнасці ў канторы. А ці мог ён — пытаўся цяпер пастаянна ў сябе Ігар — нешта змяніць да лепшага? Галоўнае: ці хацеў? Выходзіла: і не стараўся. Пра навуку забыўся зусім — неактуальна, бо яна даўно не корміць. Галаўным болем апошніх месяцаў было адно: збыць адрамантаваны пасля чарговых жончыных аварый «мэрсік». Спектакль дасягнуў свайго апагею: нарэшце, акт куплі-продажу звяршыўся. Таўстун Пал Палыч лунаў у паднябессі ад радасці: збыў! З наварам! А калегі як шчыра яго віншавалі, нібы самі прэмію атрымалі.

Настрой Косціча з кожным днём пагаршаўся і па іншай прычыне: напярэдадні на яго навуковым абгрунтаванні па захаванні і абароне ад на-

ступальнай дзейнасці чалавека на запаведныя верхавыя балоты шэф размашыста напісаў: «Тав. Косціч! Памылковыя, мала аргументаваныя вывады. Неперспектыўны накірунак для сённяшняга дня. Установа задыхаецца ад недафінансавання, трэба шукаць дадатковыя сродкі...»

Ігар пасварыўся з Пал Палычам, той абазваў яго сапляком. І тады малодшы навуковы супрацоўнік падняў гэтую тэму на навуковым савеце, дзе даказаў: не захаваўшы верхавыя балоты і прыродныя пойменныя дубровы, жывёльны свет у асобна ўзятых рэкрэацыях парку і асабліва ў запаведнай зоне збяднее, хутка вучоным не застанецца ў цэнтральнай частцы Палесся аніякай работы. А пакуль ёсць навуковыя работнікі, то павінна развівацца такая дзейнасць па ахове...

Даказаў, аказалася, самому сабе. Пасля памянёнага савета з ім баяліся нават загаварыць. Толькі адзін чалавек асмеліўся. Маўклівы Васіль Ігнатавіч, у курылцы, сказаў яму: «З'ядуць цябе, Ігар. Ей-богу, з'ядуць. У мяне ёсць сябар ва універсітэце. Кідай усё, едзь. Навукай табе трэба заняцца, а не тут на пасылках бегаць. Галаву светлую маеш, праб'ешся. Пакуль не позна і нічога не трымае ў асабістым плане. Пасля, можа, і нашу кантору паднімеш...»

Здзівіў, стары! Ды толькі зноў схаваўся, нават не заўважаў Косціча.

Начальства паказвала незадаволенасць, і Ігар разумеў прычыну. Хто дазволіў яму, маладому свавольніку, падымаць непапулярную тэму? Актуальна сёння іншае — гаспадарчаразліковая дзейнасць, развіццё агратурызму, прыцягнення іншаземцаў на паляванне. Сядзі дзе сядзіш, ды не высоўвайся. Зарплату табе ж налічваюць. А навука? Каму яна патрэбна ў гэтым шалёным гоне за грашыма, якія самі плывуць у рукі?

«І навуку рухаць трэба. Усё павінна мець навуковую базу, прыроднай раўнавазе адпавядаць, абароне адзіных у старой Еўропе сапраўдных прыродных рэзервацый?» — спрачаўся ў думках Ігар, але выказаць іх не было каму. Акрамя падазронасці, нічога за апошнія дні не нажыў.

За кароткі час раптам усё змянілася. Рамантычная натура, нарэшце, зразумеў: з балота трэба некуды выбірацца. Надакучыла да чорцікаў. І... ніяк не рашаўся на апошняе дзеянне, хаця заставацца ў канторы было немалым выпрабаваннем. Ён «выядаў» сябе знутры: «Што, малодшы навуковы супрацоўнік Косціч, і ты прыняў устаноўленыя Пал Палычам правілы гульні?..»

Днямі шэф загадаў Косцічу замест сваёй жонкі, якая раптам з'ехала на Нарач, працаваць з групай расіян. Ігар адмовіўся.

— Незадаволеных не трымаем... Заяву на стол — вольная птушка... — раз'юшаны Пал Палыч паказаў на дзверы.

— Час вас раздавіць, запомніце мае словы... — сумна адказаў Ігар і выйшаў.

Праз пяць хвілін Ігар Косціч аказаўся без працы. Ён не ведаў, ці правільна зрабіў, але і заставацца тут больш не мог. Спакойна напісаў заяву на чарговы адпачынак. І другую — на звальненне. У аддзеле кадраў са спачуваннем аддалі працоўную кніжку: шчодрае сёння было начальства, нават не чакала завяршэння адпачынку...

Для маці звальненне сына стала сапраўдным шокам — тут, у палескай глушы, за працу ў такой саліднай установе любы трымаўся б да апошняга. Ці зразумеюць яе сына ў маленькіх Міткавічах, дзе знайсці добрую працу — галаву скруціш?

...Мудрая жанчына, якая сорак гадоў працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры, з паўслова зразумела сына: не склалася. З кім не зда-

раецца. Бывае. Не прападзе яе Ігарок. Чырвоны дыплом нечага ж варты? Знойдзе працу. А яна — падтрымае. Няхай і пенсіянерка, але ж ў яго ёсць маці. Яна ж ад вайны расла адна. Без нічыёй дапамогі. Выжыла. Ці можа яна сумнявацца ў сыне, у якога закладвала ўсё лепшае, што, па яе перакананнях, павінны быць у мужчыне? Тое, чаго не даў Бог яе былому мужу, Ігараву бацьку, які пакінуў яе з малым дзіцёнкам на руках, без кавалка хлеба, дзеля другой жанчыны? А потым, зразумеўшы сваю памылку, згарэў ад гарэлкі... Але так і не вярнуўся назад. А яна кахала. І прыняла б, што б там не казалі потым у школе. Ганарлівы быў, але так апусціўся чалавек. Зламаўся там, у іншым сваім жыцці. Такой долі ніякая маці свайму дзіцяці не пажадае. І цяпер яна перажывала за сына: у ягоных вачах было столькі намешана, што сэрца маці збалелася. Яна ведала: сын закахаўся. Ды — не клеіцца нешта. Бачачы, як ён перажывае, думала пра адно: толькі б не нарабіў ты, сынок, памылак у гэтым жыцці, якія выправіць цяжка...

— Значыць, гэта не тваё, Ігарок. Цяжка будзе, ведаю. Грошай у нас мала, мая пенсія, прырабатак мой за падрыхтоўку вучняў да здачы тэстаў у інстытут... Капейкі. Машыну на Швейцарыю, канешне, дарэмна абмяняў... Але не памром. Куды толькі табе падацца? Можа, у школу? Працуюць жа людзі. Чула, там цяпер філолагаў зашмат, а біёлагам можна ўладкавацца... Я магла б спытацца ў дырэктара, усё ж не забыў на сваю калегу, нейкай жа і заслужанай настаўніцай лічуся... — прапанавала яна.

— Не хвалюйся так, мама. Табе з тваім сэрцам толькі пра гэта думаць? Я ўсё вырашу...

— Бог з табою. І добрыя людзі ёсць паўсюль.

Але спаць спакойна цяпер не магла. Прыходзіла ў галаву чамусьці толькі кепскае... Маці — самы вялікі вораг свайму дзіцяці.

## 4

Бацька... Маўклівы, бяздзейсны, для якога жыццё нібыта спынілася на магілкавым квадраціку. Маці ў маленькай урне, казань у пратэстанцкай царкве. Святар знайшоў такія цёплыя развітальныя словы пра сваю памочніцу — дагэтуль яны не сцерліся з памяці Мерыям. Ёй было балюча: чаму яна не ведала сваёй маці, а тая ж, так атрымліваецца, столькі добрага зрабіла для людзей?!

А яшчэ такі раптоўны холад, які сыходзіў ад мужа — гэта яна адчула ў час пахавання. І — зараз. Гюнтэр чамусьці аддаліўся ад яе, у яго вачах нешта змянілася. Куды ж знікла тая радасць, з якой ён сустрэў нараджэнне маленькай дачкі? Няўжо яна памылілася? Няўжо так і ёсць? Няўжо Гюнтэр таксама не кахаў яе? Хаця б для прыліку пашкадаваць мог...

А раптам у яго з'явілася іншая жанчына?

Яна гублялася ў здагадках, аднак адказу не знаходзіла. Вось ужо тры дні Гюнтэр наогул не прыязджаў, нават не тэлефанаваў. І яна не ведала, што думаць. Петэр быў няўмольны: штохвілінна пытаўся пра яго, сумаваў — хлопчык так падобны на бацьку. Мерыям набрала цюрыхскі нумар мужа, аднак сакратарка адказвала адно і тое ж: шэф заняты, ён абавязкова звяжацца з ёю пазней.

Але тэлефон маўчаў. Няўжо Гюнтэр абыякавы да яе гора? Не, штосьці здарылася. Сотавік не злучаў. І вечарам яна набрала нумар дамашняга тэлефона. Нарэшце, Гюнтэр узяў трубку.

— Табе цяжка пазваніць? Няўжо гэтак заняты? — у голасе Мерыям прагучаў дакор. Але насцярожылася, калі той нічога не адказаў. Нарэшце, яна не вытрымала:

— Што ў цябе там, чорт вазьмі, адбыв...

Гюнтэр абарваў яе з паўслова:

— А ты не здагадваешся? Святая грэшніца... Гэтае пытанне задай найперш сабе, а не мне!

Ён быў п'яны. Яе муж, вядомы бізнесмен, напіўся да чорцікаў.

— Гюнтэр, скажы праўду... — вочы Мерыям пацямнелі, устрывожаная яго словамі, яна ледзь не выпусціла з рук тэлефонную трубку.

— Здарылася даўно, — Гюнтэр закрычаў у трубцы дзіка, страшна. — Даўно здарылася, чуеш? Нявінная горная козачка аказалася далёка не нявіннай. А як жа іначай: ці можа дачка рускай прастытуткі парушыць мацярынскі наказ?! Яна абавязкова стане такой жа... прастытуткай. Яблык ад яблыні далёка не коціцца... Усё жыццё прытворнае, наплявала ў душу, на мае пачуцці! Я праклінаю цябе...

— Ты здурнеў, Гюнтэр! У цябе выражаная белая гарачка... — знямелая Мерыям нічога не магла зразумець. — Я прыеду зараз дадому.

— Дадому? Табе тут больш няма месца! І ніколі не будзе! Можа, ён ёсць у цябе ўжо ў Беларусі? Дык гэта мяне, ведаеш, ніяк не датычыцца, гэта — твая асабістая справа. Давай, звані ў аэрапорт, ляці! Ён, дарэчы, жывы, распусніца, твой каханак. Я звяртаўся за даведкай — вылецеў своечасова, так што здаровы, як бык. А то ты, няшчасная, звялася... Бедненькая, утапіўся з-за кахання, палюбоўнічак... Як высакародна! Усе падушкі вымачыла. Жывёліна!!!

— Ты, ты... — Мерыям захліпалася ад слёз.

— Я ўсё ведаў з самага пачатку. Ты вярнулася другой, не швейцаркай, рускай... А потым прыйшло па электроннай пошце пацвярджэнне з Берліна, ад тваёй сяброўкі па падарожжы: няўжо ніяк не падзялілі прыгожанькага смаркача? Амаль жабрака-хлапчука, які... з радасцю зняў швейцарскіх дам? Я ж даравала табе ўсё, прыняў тваю дачку, няўдзячная. Я ўсё дараваў! Навошта ж гэтаму быку было лезці напралом у мой дом? Каб зняважыць маё добрае імя? Я не верыў, пакуль на свае вочы не ўбачыў: пайшла на сустрэчу. Нашто ты гэтак са мной? Адказ да смеху просты: твае праклятыя гены, праявы якіх я заўсёды заўважаў. І расцэньваў не як адхіленне, а як звышдадзенасць. У мяне была такая непадобная на швейцарскіх жанчын жонка! Я не дарую сабе, што так позна даведаўся пра праклятую генеалогію тваёй сям'і!

— Выдумкі неўрастэніка! — Мерыям здавалася, што сілы яе вось-вось пакінуць, яна страціць прытомнасць, але нешта стрымлівала яе.

— Гэта — горкая праўда...

— Ты ўдарыўся галавой... — холадна адказала амаль змярцвелая жанчына.

— Што ж, дзякаваць Богу, гэтага не адбылося. Спытайся лепш свайго бацьку, пасля чаго здарыўся няшчасны выпадак з Даніэлай... Я ненавіджу цябе: дазволіла гэтаму прыдурку прыперціся сюды, арганізавала сустрэчу ў рэстаране, бегала за ім, як апошняя сучка. У цябе не хапіла розуму ці хаця б сораму спыніцца, вырашыла пагуляць з маімі пачуццямі... Не выйшла. Мне не патрэбна ў маім доме дачка прастытуткі, жонка прастытутка, унучка і дзіця прастытуткі. Я забяру сына, а ты кацiся на ўсе чатыры бакі. Мой адвакат ужо вядзе справу. Хаця ж ты можаш вярнуцца да мяне пры адной умове: калі адмовішся ад свайго... вырадка. Заплачу колькі трэба, каб ён вярнуўся

туды, дзе быў зачаты. Выбар за табою — адваката знайсці ведаеш як. Другой магчымасці вярнуцца да ранейшага жыцця ў цябе няма.

— Гюнтэр, так нельга. Мы ж цывілізаваныя людзі...

Размова была скончана.

Мерыям не верыла, што гэта ўсё адбываецца з ёй! Катастрофа... Як абухам па галаве. Трэба супакоіцца. І раптам...

О, Божа! Яна адчула сябе неверагодна шчаслівай, згадаўшы самае важнае, пачутае ад Гюнтэра: яе Ігар жывы!

І ў той жа момант усвядоміла — яе жыццё сышло пад адхон. Толькі што значыла яго страшная заява пра маці? Ці значыць гэта, што Даніэла, яе маці, дзесяцігоддзямі прыслужвала ў царкве, каб замаліць нейкі свой грэх... Няўжо яна руская? Кім яна была да сустрэчы з бацькам?

Нарэшце, крыху акрыяўшы, яна накіравалася да сына, адарвала яго ад камп'ютэра. Хітрун Петэр на просьбу пабыць ля Анэты зявіў катэгарычна:

— Добра, але заўтра адправіш мяне да бацькі. Мне тут сумна...

— Паглядзім. Гэта пакуль немагчыма, твой бацька вельмі заняты... — схлусіла Мерыям. — Сынок, калі сястрычка прачнецца, адразу пакліч мяне...

Мерыям накінула на плечы кофтачку і накіравалася ў сад, дзе ў вячэрняй прахалодзе абходзіў свае ўладанні Людзвіг. У дзённую спякоту выходзіць на поле яму забараніў урач, смерць жонкі падкасіла мужчыну. Дачка баялася непакоіць яго, але ў яе не было выбару.

Бацьку знайшла ў альтанцы на ўскрайку вішнёвага саду, супакоенага і ціхага. Убачыўшы дачку, ён ажывіўся.

— Унучка заснула?

— Ага, татка. Петэр наглядае...

Яна села насупраць бацькі, рукі склала на самаробным століку.

Людзвіг скупа ўсміхнуўся дачцэ:

— Мы так любілі сядзець тут з тваёй маці. Цэлае жыццё — перад вачыма. Так, цэлае жыццё.

— Нам будзе не хапаць яе, тата. Усім цяжка зараз, а табе ж асабліва. Толькі ты трымайся. Ты патрэбен мне, Петэру, Анэт, нашай Анначцы... Я не дарую сабе, калі, не дай Божа, з табой нешта здарыцца. Ты ж мудры чалавек і павінен трымацца за жыццё...

— Дачушка, я ведаю, ведаю, як ты любіш мяне... Ведаю. Толькі ж... зараз ты прыйшла з іншым, важным для цябе. Ты хочаш ведаць праўду...

У куточках яго выцвілых вачэй, як у промнях апошняга сонца, заблішчалі слёзы, а рукі старога, але яшчэ дужага чалавека, не згубіўшага за гады сваёй прывабнасці, затрэсліся.

— Супакойся, тата... — Мерыям прыкрыла яго вялікія, пабітыя венамі, рукі сваімі, пагладзіла іх.

— Я ўсё ж спадзяюся, Гюнтэр вырашыў справу па-мужчынску, і вы пагаварылі без скандалу... — цяжка даліся словы бацьку.

Яна шырока расплюшчыла вочы і зразумела: бацька ведае ўсё! Божа, як яна магла менавіта ў такі складаны перыяд жыцця дадаць яму, самаму дарагому чалавеку на свеце, столькі перажыванняў?

— Даруй, тата...

— Кажы, дачка, як ёсць... — ён глядзеў ёй у вочы з разуменнем, адкрытасцю, нейкім унутраным жалем.

— Што ж, тата... Усё так няпроста... — пачала блытана Мерыям. — Я вымушана засмуціць цябе. Толькі не прымай блізка да сэрца, добра? Я вельмі кепская дачка, калі ў такія дні перакладаю на цябе і свае турботы. Толькі так складваюцца абставіны...

— Балючай мне не зробіш, чым ёсць. Ды толькі каму мая маленькая Мерыям можа паскардзіцца, калі яе нешта турбуе. Гавары... — расчулена прамовіў Людзвіг.

Божа, нават у такім стане ён знаходзіць сілы, каб падтрымаць яе, сваю дачку! Колькі ж душэўнай і фізічнай моцы ў гэтым чалавеку!..

— Гюнтэр, як ні балюча табе будзе слухаць, ніколі не быў маім абраннікам. А пасля сённяшняй размовы, якую і размовай цяжка назваць, не думаю, што яшчэ магчыма нешта наладзіць у нашых адносінах. Мамін разлік на гэты шлюб, на жаль, не спраўдзіўся. За выключэннем...

— Петэра. Анна — дачка другога мужчыны. — Людзвіг паглядзеў на дачку добразычліва, без намёку на дакор.

Мерыям здалося, што яна вось-вось праваліцца пад зямлю, яе шчокі сталі пунсовымі, а на ілбе выступіў пот.

— Гюнтэр? — ціха ўдакладніла яна.

— У той самы вечар. Перад смерцю той жанчыны, якую ты лічыла сваёй маці амаль трыццаць гадоў.

— Што? — Мерыям войкнула. І ў тую ж самую хвіліну перад яе вачыма так ясна адбіўся вобраз незадаволенай Даніэлы, напамінак пра дурную кроў, адгаворы ад заняткаў па славянскай гісторыі і культуры.

— Тата, гэта — няпраўда!

— Паслухай, дачушка. Даніэла — табе не кроўная маці. Цябе нарадзіла іншая жанчына.

Мерыям на імгненне знямела. Толькі ўтомленыя пагаслыя вочы за яе гаварылі, што жанчына хацела ведаць усе падрабязнасці гэтага, падобнага на няпраўду, прызнання. Бачачы яе ўзбуджаны стан, Людзвіг, які хваляваўся не меней дачкі, прадоўжыў.

— Ты ж павінна разумець, што для нашага ўзросту ты — вельмі позняе дзіця. Даніэла ж проста не магла мець дзяцей. Калі гэта стала вядома, нічога нельга было змяніць. Яна раней халадна ставілася да рэлігіі, але, калі ўрачы аб'явілі несуцяшальны дыягназ, ледзь не звар'яцела. Суседка, каб развеяць, запрасіла яе на царкоўны сход, і яна знайшла там суцяшэнне...

— Я — прыёмнае дзіця? — Мерыям, здавалася, вось-вось расплачацца.

— Не, супакойся. Я твой бацька. Так здарылася, што мы не маглі нейкі час жыць разам з Даніэлай. Яна кінула мяне, паехала да бацькоў. А я вярнуўся сюды, у наш родны кантон, стаў дапамагаць бацьку на ферме. Ну і... разумееш, я ўсё ж такі мужчына. У мяне доўгі час была сувязь з жанчынай... Ты ведаеш, як такіх завуць...

— Божа...

— Праз нейкі час Даніэла адумалася і вярнулася да мяне. Мы купілі побач з маімі бацькамі кавалак зямлі... Аднойчы да нас прыехалі з паліцыі. Так і так. Ірына, так звалі тваю сапраўдную маці, атруцілася ў бардэлі. Яна нарадзіла два гады таму дзяўчынку...

— Гэта кашмар... Тата, няўжо гэта праўда? — Мерыям заплакала.

— Так, дарагая, сумненняў не заставалася, што ты мая дачка. Я падлічыў: у яе не было ў той час мужчын, і я ўтрымліваў яе... Ды і Ірына, мабыць, спадзявалася на большае са мной, але, калі даведалася, што Даніэла вярнулася, не прызналася… і нарадзіла дзіця. Назло мне, ведаючы, што ў нас не будзе сваіх... Паміраючы, яна пакінула на стале мой адрас і прызнанне...

— Гэта неверагодна.

— Забраць цябе было складана. Даніэла — спачатку... Гэта трэба было перажыць... Пра родзічаў Ірыны нічога ў паліцыі невядома. Я ж толькі ведаю, што яе бацькі з Расіі. Эмігранты. Пераехалі пасля вайны з фашыстамі. Жылі

недзе ў Аўстрыі, а потым з імі нешта здарылася. Памерлі. Ірына была вельмі прыгожай жанчынай, толькі жыццё было бязлітасным да яе...

— Мая маці — прастытутка... — праз сілу выдыхнула Мерыям.

— Твая маці была, нягледзячы ні на што, добрай жанчынай. Так, ёй без падтрымкі радні, без прафесіі цяжка было выжываць, і за такі занятак я яе не асуджаў. Думаю, нейкі час я нават кахаў яе. І ўдзячны ёй за такі падарунак. Згубіўшы сэнс жыцця, яна, адыходзячы, падаравала мне, даверыла цябе мне, сапраўднаму твайму бацьку.

— Вось чаму Даніэла мяне не любіла! — усклікнула Мерыям.

— Яна любіла цябе, толькі па-свойму. Ты ж была ёй, зразумела, пастаянным напамінкам аб маёй здрадзе, але яна старалася быць табе за маці. Сапраўднай маці. Ты не можаш гэтага адмовіць...

— Так, тата. Толькі я ўсё роўна штосьці адчувала. Нешта было не так. А калі паступіла на славянскі факультэт...

— Для яе твой выбар стаў сапраўдным ударам. Яна так і не змагла, як ні старалася, змяніць твой лёс. Імкнулася, рвалася, ненавідзела ўсё, што было звязана з рускімі, са славянствам. Адно, што выйшла па-ейнаму плану — твой шлюб з Гюнтэрам Хойслерам. Я не мог супрацьстаяць яму, усё было даўно вырашана. Ды і сябрукамі сталі мы з яго бацькам, агульныя ў нас былі інтарэсы. Толькі і тут, яна зразумела гэта перад смерцю, нічога не атрымалася. Я ж ні слова не сказаў пра тваю паездку ў Расію, ці куды ты там ездзіла, усё роўна. Даніэла, напэўна, гэтага б не перажыла. Ты ж вярнулася адтуль зусім іншай. Вочы не тыя, нібы падмянілі цябе ў той Белай Русі... Затым з'явілася Анэта, Анна. Яна так радавалася гэтай дзяўчынцы, штодня паўтарала, што гэтая дакладна будзе — яе. І тут нечакана прыехаў Гюнтэр... Даведаўся, што гэты хлапчына, беларус, заявіўся ў Аараў, сапраўдны бацька тваёй дачушкі. Даніэла ўзарвалася: вылажыла ўсё, як ёсць... І такі трагічны зыход — як дакор мне, маёй даўняй здрадзе. Ды і ці можна той разлад лічыць здрадай? Мы, лічы, разышліся на той перыяд... А я жывы чалавек.

— Тата, а як мне цяпер жыць? — у Мерыям ад пачутага закружылася галава.

Людзвіг перасеў да яе, абняў за плечы.

— Я баюся, тата... Мне страшна згубіць сына. Гюнтэр адмовіўся ад мяне і Анны, а мой Ігар так далёка. Я яго так кахаю... — прашаптала яна ціха, крыху супакойваючыся.

— Жыць, дачушка. Жыць. Свой лёс не абмінеш. Я веру, што так і ёсць, — цвёрда адказаў бацька і пацаваў дачку ў лоб. — Жыццё само падкажа табе дарогу, мая Мерыям, мая Марыя...

## 5

Навошта ён схлусіў ёй, што кахае? Навошта? Магчыма, яна проста гэта хацела пачуць. А ён, цынік, хлусіў. І гэта чамусьці яго ніколькі не хвалявала.

Было штосьці незразумелае ў гэтых адносінах, без узаемных абавязкаў і папрокаў. Маша звалілася як снег на галаву, у самы разгар гарадскога свята. Чаму ж, як снег на галаву? Запрашаў жа, выходзіць. Два дні яны былі разам: кахалі... І пра заручыны загаварылі неяк само па сабе, на другі дзень. Маша першай завяла размову.

Ігар не спяшаўся. Разумеў, што дзяўчына даўно прыкіпела да яго душой. Машка прыязджала яшчэ і яшчэ, нічога не паведамляючы сваім бацькам. Ігар чамусьці не спяшаўся разбіваць яе надзеі.

Развітваючыся ў чарговы раз, дамовіліся сустрэцца ў Мінску. Ён прыедзе туды па першай яе просьбе. А ў красавіку Ігар, нарэшце, зможа паехаць у Маскву — знаёміцца з будучай цешчай і цесцем. Затым яны вернуцца на Палессе, каб і яго маці пазнаёмілася з будучай нявесткай.

Яніна Іванаўна крыху прыхварэла апошнім часам, але радасць — сынава жыццё наладжваецца — яе паставіла на ногі. Ігар тым часам уладкаваўся ва універсітэт на кафедру прыродазнаўчых дысцыплін, узяўся за кандыдацкую дысертацыю. І дзяўчына добрая, як відаць, знайшлася. Сын, нарэшце, асмеліўся і расказаў маці пра масквічку Машу. Не думаючы занадта, паўтарыў словы будучай нявесты: яго кар'ера як вучонага, дзякуючы нябеднаму, з патрэбнымі сувязямі, цесцю, можа быць больш чым бліскучай.

Аднак на душы сына было няладна, маці ўбачыла гэта ў вачах, і паранейшаму занепакоілася. Усё ж нешта не так з ім, штосьці яго гняце. Што, сыночак? Хацела б дапамагчы, але чым... Нават схадзіла ў царкву, каб усё заладзілася. А вярнуўшыся дадому, завяла размову.

— Тваё рашэнне, сынок, я паважаю, і табе жыць. Не год і два — усё жыццё. Упэўнены, што будзеш шчаслівы — жаніся. Галоўнае, каб кахаў і паважаў тую жанчыну, якую назавеш сваёй жонкай...

Маці і сын не ўтойвалі нічога адно ад аднаго, заўсёды былі шчырымі. А тут Яніна Іванаўна западозрыла: сын штосьці не дагаварвае. Нешта не так у яго з незнаёмай ёй рускай дзяўчынкай.

— Ты дарослы чалавек, Ігарок, каб разабрацца ў сабе найперш. Толькі адно скажу: я твайго нябожчыка бацьку дагэтуль люблю. І ён мяне любіў. Ты — дзіця сапраўднага кахання, хоць і позна я цябе знайшла, мне было далёка за трыццаць. Потым нешта зламалася ў бацькавай душы, нейкая спружына... Магчыма, і я вінавата ў нечым: настаўніца, сухар... А мне мякчэй трэба было з ім, ласкавей. Маладзейшы за мяне быў... Не змагла. Ведаю ж цяпер адно: без кахання не створыш сапраўднай сям'і. Я ж стану самай шчаслівай маці, калі Маша будзе з табою па-сапраўднаму шчаслівая, а ты, як мужчына, пастараешся зрабіць усё дзеля гэтага. Для любой маці важна, каб яе дзіця было шчаслівым. Я ж хачу, каб твае пачуцці былі моцнымі... І хвалююся вось яшчэ аб чым. Так, для кожнага вучонага важны кар'ерны рост. Які ж без гэтага вучоны? У цябе ўсё наперадзе, галоўнае, галава на плячах светлая. Можна дасягнуць вышынь хутка, за кошт добрай падтрымкі, падпоркі, пры гэтым і нічога не зрабіць. А можна ўсяго самастойна дабіцца. Але гэта не так хутка. Я хацела б, каб ты і тут не памыліўся. Каханне і кар'ера, бясспрэчна, важныя рэчы ў жыцці чалавека, але што важней — трэба вырашаць толькі самому, каб паважаць самога сябе...

— Мам, як ты мяне моцна любіш! Каб жа я ведаў, што Машка сапраўды пакахала мяне, то галавой у палонку. А кар'ера… справа такая, як атрымаецца. Каб жыццё было не ў цяжар, я так разумею...

— А калі сам не кахаеш — ужо няважна? Памыляешся. Сынок, як жа я жадаю табе шчасця. Будзеш ты шчаслівы — і я буду шчаслівай... — у кутках яе вачэй заблішчалі слёзы.

Ён абняў маці.

— Ну, добра, — выцерла незаўважна вугалком хусцінкі слёзы. — Бяжы на вакзал па білет. Калі паедзеш у Маскву?

— Паслязаўтра. А першага мая будзеш прымаць дома сваю будучую нявестку... — усхваляваны, ён пацалаваў маці, і, апрануўшы лёгкую куртку, выйшаў з дома.

Прыемны вячэрні халадок чарговай вясны дзіўна студзіў яго твар. Косціч ніколі ў жыцці не адчуваў нічога падобнага: маці не правядзеш: у нечым

сумняваецца, можа, не ўпэўнена, што правільна робіць сын? Ха... Каго ж ён хоча ўвесці ў зман? Ніякага кахання тут не было і не можа быць! Дык каго? Сябе? Машу не назавеш дурніцай. Вырашыла, што пакахаю пасля? І — заплюшчыла вочы на яго швейцарскія прыгоды? Ведала ж... Балбатун-гід прагаварыўся, што іх загадкавы паляшук падаўся да каханай жанчыны. Нечаканае яго знікненне ў самым пачатку для Машы рамантычнай паездкі усё ж такі яе пасля не спалохала: дзяўчына пачала змагацца за сваё шчасце. Не спалохалася, што ў мінскім гатэлі назваў яе іншым іменем. Пасля нават не ўспомніла ніколі. І ён быў удзячны Машы за гэта. Хаця…

Душа Ігара па-ранейшаму імкнулася туды, дзе была тая, іншая, улюбёная ва ўсё славянскае, чужая і такая родная яму жанчына. І зараз перад вачыма — зялёнае прадгор'е Юра, амаль нерэальны старажытны Аараў, залітая сонечнымі вясеннімі промнямі Аарэ і яна, яго мара Мерыям...

Нечакана па шляху да адрэстаўраванага нядаўна чыгуначнага вакзала, які пабудавалі пасля вайны нямецкія ваеннапалонныя, Ігар адчуў нейкі ледзь заўважны зрух у душы. Нешта адбывалася ў паветры вакол: чамусьці сёння раней звычайнага, ярчэй і неяк задзірыста-весела загарэліся прывакзальныя ліхтары, а ў краіне толькі і чуеш пра эканомію... Мясцовая дзятва весялей гуляла ў футбол на стадыёне, які, здавалася, стагнаў ад задавальнення — кожны ўдар па ім гулкім рэхам адбіваўся ў спальных мікрараёнах. Была ж пятніца, і побач, падаючы сігналы рэдкім гараджанам, рабіў круг гонару па дарожным кальцу вясельны аўтамабільны картэж, і жыхары віталі нараджэнне новай сям'і. Ігар усміхнуўся: па традыцыі, нават міліцыя не ўмешвалася ў гэтыя самавольныя змяненні, унесеныя закаханымі ў правілы дарожнага руху. Здавалася Косцічу, усё ж штосьці такое з'явілася ў паветры, чым ён не мог надыхацца, ён быў так усхваляваны і незвычайна шчаслівы. Нейкая пакуль невытлумачальная перамена адбылася ў родным маленькім горадзе і ў ім самім...

Білет на міжнародны беларуска-расійскі цягнік, што курсіраваў праз іх гарадок, на шырокім пероне Ігар вывучаў вельмі ўважліва. Паслязаўтра ўсё павінна змяніцца ў яго жыцці. Паслязаўтра. Новы паварот у яго жыцці.

«Ці правільна ён робіць?»

Гэта было пытанне, якое Ігар задаваў і задаваў сабе ўжо не раз, стоячы на пероне. Да таго часу, пакуль не падзьмуў лёгкі свежы ветрык, які прынёс пяшчотна-густы пах, што здаўся яму такім шчымліва-знаёмым.

Мужчына натыкнуўся вачыма на невысокае дрэўца, што схавалася сярод высокіх дрэў суседняга з вакзалам невялікага парку і скалануўся: чаромха! Дык гэта яна пахне!!! Няўжо гэты пах будзе праследаваць яго ўсё жыццё?! Няўжо ад яго нікуды не схавацца?

Прыбываў пасажырскі поезд «Брэст-Масква». У гэты ж час, паслязаўтра, ён панясе і яго, Ігара Косціча, у залатаглавую. У вокнах вагонаў мільгалі пасажыры. Маладыя хлопцы, як толькі сімпатычныя праваднiцы ступілі на перон, накіраваліся ў гандлёвую кропку, што нядаўна прыклеілася да чыгункі. Ігар яе раней і не заўважыў: калі толькі паспелі пабудаваць?

«Што ж, час дадому...» — падумаў Косціч і раптам рукавом зачапіўся за галінку чаромхі. Нейкі добры чалавек, відаць, падняў яе з зямлі і ўтыркнуў між адтулін у цаглянай агароджы.

Без патрэбы скалечаная некім, пышная чаромхавая галінка зверху ўжо буяла квеценню, а знізу белыя пялёсткі толькі распускаліся. Божа, які пах зыходзіў ад яе! Ажно галава закружылася... Косціч вырашыў аднесці яе дадому, каб прадоўжыць на некалькі дзён ёй жыццё: вясна ж толькі ўбіраецца ў сілу.

— Косціч, ты ўсё ж такі непараўнальны рамантык! — да болю знаёмы жаночы голас пачуўся аднекуль збоку.

Ён азірнуўся...

Не, гэта не сон. Адыходзячы цягнік і тая жанчына, з якой толькі што ў думках развітваўся і якую мог бы чакаць усё сваё жыццё. Яна — гэта мроя, няпраўда! — тут, у Міткавічах. Неверагодна, але факт. «Чаго ж ты стаіш, дурань?»

Мужчына, не адчуваючы пад сабой ног, кінуўся да Мерыям...

Чаромхавая галінка, выпадкова патрапіўшая яму ў рукі, аказалася паміж імі. Яго сэрца, здавалася, выскачыць ад шчасця з грудзей. І раптам Ігару сцяла дыханне. Жанчына была не адна: на руках яна трымала паўсоннае, не больш чым год, з такімі знаёмымі ямачкамі на шчоках, дзіця.

— Скажы яшчэ раз, што кахаеш мяне! Скажы тое, чаго я не магла пачуць у Аараў... — па твары Мерыям паліліся слёзы. — Скажы, што ты чакаў мяне і рады бачыць тут, пазнаёміцца са сваёй дачушкай, маленькай Анэтай-Аннай... Скажы, што я зрабіла хоць што-небудзь у жыцці правільна? Хутчэй толькі, не маўчы...

Ігар не мог прамовіць ні слова. Язык, здаецца, прыкарэў да паднябення. Ён проста прыгарнуў да сябе каханую і сваё дзіця так моцна, нібы больш ніколі не збіраўся адпускаць. Нарэшце, на яго вачах таксама выступілі слёзы шчасця.

— Я проста паміраю ад кахання да цябе... І да нашай маленькай дачушкі. Толькі нас чакае яшчэ адзін чалавек...

Ён пацалаваў абедзвюх сваіх жанчын — пяшчотна, ласкава. Косціч яшчэ не да канца верыў у сваё шчасце.

... Позна вечарам на гэтым самым месцы прыбіральшчык знайшоў скамечаны дарагі білет у Маскву.

***Працяг будзе.***

---

[1] Меша — старая, бязладная жанчына (*дыялект.*).

[2] Калі ласка, гэта вельмі смачна…

[3] Цытата з «Фаўста», пераклад В. Сёмухі.





## Генадзь АЎЛАСЕНКА

* * *

Вечар
так непрыкметна, так ціха прыйшоў,
дзень прайшоў, а ў душы нараджаюцца вершы.

Колькі
зорак на небе ўзышло ў гэты час
і заззяла якраз, толькі ў кожнай свой колер.

Ружы
сыплюць, губляюць пялёсткі ў траву,
і чароўны іх пах галаву маю кружыць.

* * *

Ноч прытушыла зорак россып.
Блішчаць, як дыяменты, росы
    ў мільён карат.
Зірнуць на гэтыя дзівосы
бяжыць па лузе хлопчык босы.
    Ён сонцу рад!
Ды ўжо звіняць над лугам косы,
кладуцца травы на пракосы
    за радам рад.

---

*Аўласенка Генадзь Пятровіч нарадзіўся 16 жніўня 1955 года ў вёсцы Ліпавец Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працуе настаўнікам біялогіі і хіміі ў Вайнілаўскай базавай школе Чэрвеньскага раёна.*

*Піша вершы, п'есы, творы для дзяцей. Друкаваўся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Полымя», у калектыўных зборніках. Аўтар паэтычнай кнігі «Час збіраць камяні».*

* * *

У восені
надвор'яў восем
на кожны дзень…
Таму яна такая,
восень —
то сонечка,
то дождж ідзе.

Ляціць пажоўклая лістота,
сама не ведае — куды,
нібы сцякае пазалота
з галінак,
з кроплямі вады…

І па-над шэранню травы
туман устане на світанні…
І так тужліва журавы
нам пракрычаць на развітанне.

* * *

За справамі
бацькоў не забывайце,
не крыўдзіце няўвагай…
І, дарэчы,
ніколі не кажыце ім:
— Бывайце!
Лепш:
— Да сустрэчы!

* * *

Часта марнуем
Мы час і свой, і чужы.
Час працякае,
Нібы вада скрозь пальцы.
І не вярнуць яго зноў.

* * *

У лесе зімовым стаіць цішыня і спакой.
Ды вось варухнула яліна зялёнай рукой.
А, можа, са мною яна павітацца хацела,
Што вырваўся зноўку сюды з мітусні гарадской?

## НАВАГОДНЯЕ

Вось і ўсё…
Бой курантаў
вось-вось прагучыць.
Год стары
на хвілінку прысеў адпачыць.
А яшчэ праз хвілінку
пастукае ў дзверы
Новы год…
Мы ў яго
па-сапраўднаму верым.

Шчыра верым,
што ёсць навагоднія чары, —
гэта ў нас засталося
з дзяцінства, відаць, —
што, калі загадаць,
то збываюцца мары…
Тут, галоўнае, —
правільна іх загадаць.
І тады
немагчымае стане магчымым,
і няўдачнік
пакіне самотнае дно.
І падыдзе сама,
і ўсміхнецца дзяўчына
юнаку,
што ў яе закаханы даўно.

Б'юць куранты…
Плывуць навагоднія чары…
Год стары
эстафету паспеў перадаць.
І бакалы звіняць,
і збываюцца мары…
Тут, галоўнае, —
правільна іх загадаць.





Уладзімір СЦЯПАН

# ДЗЕД

## Акварэльныя малюнкі

*Сердцем помню только детство:*
*Всё другое — не моё.*

И. Бунин

* * *

**Зямля.** Мой васьмідзесяцігадовы дзед вырашыў паміраць, бо дужа захварэў. Балела «сярэдзіна». Захварэў напрыканцы лютага, а я, сямікласнік, прыехаў на вёску пасля сакавіцкіх святаў. Дзед загадаў, каб я ўзяў рыдлёўку і схадзіў на вясковыя могілкі, глянуў, ці глыбока зямля адтала, бо сам ён з хаты выбрацца нядужае. І патлумачыў далей, каб мужчынам-далакопам было няцяжка магілу капаць, а то мерзлая зямля, як камень, ламамі біць давядзецца… Узяў я рыдлёўку. Апрануў ватоўку, надзеў боты і рушыў праз агарод, а потым напрасткі, па гразкім полі, да невясёлых і няўтульных могілак. Ішоў, ледзь ногі з зямлі сакавіцкай выдзіраў. Дацягнуўся. Пастаяў на цвёрдым укарэлым снезе. Паторкаў дол, дзе цямнелі лапікі зямлі, пад елкамі і бярозамі голымі. Развярнуўся і пайшоў па сваіх жа слядах да нашай хаты. Дзед засмуціўся. Пакрахтаў, пастагнаў, калі даведаўся, што зямля крышку больш, чым на штых рыдлёўкі, адтала. Я не маніў, так тое і было… Праз тыдзень дзед тупаў па двары і разбіваў цяжкім ломам уляжалы і цёмны снег пад плотам і на сцежках.

* * *

**Кузня.** Конь чырвоны, нават залаты. Зваць каня — Сокал. На лобе белая зорка. Ён, як усе прыгажуны — капрызлівы, злосны. Я хацеў даць яму скарынку хлеба з соллю, пакуль дзед парадкаваў на калёсах рознае жалеззе. Сокал скарынку з’еў і нямоцна кусануў мяне за плячо. А потым мы паехалі з дзедам у кузню. Гэта далёка-далёка — за лесам. На ўсе мае пытанні дзед

---

***Уладзімір Сцяпан*** *(Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч) нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў мастацкае вучылішча імя Глебава і тэатральна-мастацкі інстытут, служыў у войску, працаваў на тэлебачанні.*

*Аўтар кніжак прозы «Сам-насам» і «Вежа». Піша вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

адказвае падрабязна і ахвотна. Толькі ні пытанняў, ні адказаў не запомніў. У лесе дзед перадае мне, шасцігадоваму, лейцы. Вось таму я і шчаслівы, а ў шчаслівых — памяць павярхоўная. Торгаю шырокія лейцы, пакрыкваю. Сокал бяжыць па лясной дарозе. Хвост яго чорны матляецца перад вачамі. Калёсы падскокваюць на каранях, якія выпінаюцца на дарозе, быццам жылы на дзедавых руках. Дзіўна, запомніў з той паездкі мала. З цёмнага лесу выязджаем — вялікае поле і агромністае летняе неба з белымі аблокамі. І яшчэ запомніў, як дзед сказаў, што, калі яго не будзе, я стану жыць заместа яго…

Тады мяне праблема бессмяротнасці не займала, а вось сляпні на ўзмакрэлай спіне каня здаваліся ворагамі. Я іх забіваў, забіваў...

* * *

**Імя.** Мяне назвалі па дзеду.

Памятаю свайго дзеда Уладзіміра добра.

Ён памёр, калі мне ішоў дваццаць першы год.

Ні разу дзед не сказаў мне кепскага слова, не пакрыўдзіў. Не ўдарыў, і бацькам не дазваляў на мяне сварыцца. Ні разу, калі я сядзеў за кніжкай ці маляваў, не выключыў святло, не загадаў і нават не папрасіў, каб я ішоў нешта рабіць па гаспадарцы. Ён ставіўся да кніжак і да малявання з павагай неверагоднай. Ён навучыў мяне касіць, кляпаць касу і гайстрыць яе шурпатай мянташкай. Пілаваць і калоць дровы, араць і скарадзіць, вадзіць каня і хадзіць за плугам, запрагаць і выпрагаць каня, правільна валіць дрэва, так, каб яно не захрасла і не паламала іншыя, меншыя. Ён цярпліва паказваў і тлумачыў, як і што павінен рабіць мужчына. І ён радаваўся і пасміхаўся ў вусы, калі бачыў плён сваёй сялянскай навукі… Ён зрабіў мне маленькую рыдлёўку і касу пад мяне. І малаток у мяне быў свой — спрытны, маленькі, з ясеневай ручкай. Здавалася б, а што мне, гарадскому чалавеку, з той сялянскай навукі, дзе я магу яе скарыстаць сёння? Але за кожным з гэтых заняткаў стаяць зямля, лес, пожня, жывёлы і птушкі, дождж і снег. За гэтым хаваюцца родныя словы. І не важна, што зараз многія амаль выйшлі з ужытку, зрабіліся старажытнымі. Але музыка захавалася… Тая сапраўдная, адзіная… Не расейская і не літоўская, не польская і не ўкраінская, а свая.

Хацеў напісаць пра дзеда, а напісаў пра выхаванне… І гэта справядліва.

* * *

**Словы.** Дзед ведаў назвы ўсіх траў, птушак, кветак, звяроў, інструментаў, зорак, дарог і сцежак, мясцін у лесе і на балоце, на пожні… Па габлюшцы мог сказаць, з якога яна дрэва, са старога ці маладога… Ён не адмахваўся ад маіх пытанняў, а размаўляў са мной, як з дарослым. І з маімі аднагодкамі гаварыў так, як са сваімі… Я забыўся тысячы родных слоў. Тых, прамоўленых дзедам доўгімі восеньскімі вечарамі, летнімі днямі на палявых і лясных дарогах. Шкадую, што няўважліва слухаў, што не запісваў, што не збярог… Але ведаю, што многія згадаю, калі вазьму ў руку ці дакрануся позіркам: да травінкі, да дрэва, да кавалка цагліны, ці прысню альбо пакаштую… І тады я зноў пачую голас свайго дзеда. І вернецца тое пачуццё лёгкасці і надзейнасці. І адчую пад нагамі зямлю. І перастану тлуміць сваю душу неадольнымі пытаннямі…

Я гляну на дзеда, зазірну ў яго сінія вочы, і ён скажа: «А гэта, унук, рэзьвіны… Здымай іх са сцяны, і пойдзем па салому…»

* * *

**Узрост.** Вечар доўгага летняга дня. Мне гадоў сем ці восем. Дзед, у свае восемдзесят, яшчэ дужы мужчына. Сядзім на канапе за сталом, гамонім — у старога з малым заўсёды ёсць пра што. Дзедавы рукі ляжаць на абрусе. Вялікія, жылістыя, напрацаваныя, дужыя і адначасова спрытныя. Скура на іх, як пергаментная, як паверхня дубовага ліста — коўзкая. Разглядаю звілістыя жылы. Дакранаюся і пальцамі сціскаю скуру над суглобамі... Яна не разыходзіцца, застаецца стаяць, як скамечаная... Здзіўляюся і шчыпаю сябе за руку. Дзед смяецца, а я палохаюся. «Стары я, Валодзька, і скура на руках старая, цвёрдая. Ідзі кладзіся, што сядзець без справы», — кажа дзед і падымаецца з-за стала. Доўга не магу заснуць — баюся скуры, як у дзеда. Учора гуляў з дачкой. Яна сціснула скуру на маёй руцэ і, здзіўленая, сцішэла. Як я — даўным-даўно.

* * *

**Час.** У дзедавай хаце быў адзін гадзіннік. Ходзікі з намаляванымі мядзведзямі, з гіркамі на доўгім чорным ланцужку. Заводзіў гадзіннік дзед — унукам не дазвалялася, каб не сапсавалі. Калі дзеда не было — гадзіннік спыняўся. Баба паспрабавала завесці гадзіннік — зламала. Побач з гадзіннікам вісеў адрыўны каляндар. Па начах дзед падымаўся паглядзець, колькі часу. Мяне дзівіла тады і дзівіць сёння дзедава павага да часу. «Вось дзень зрабіўся на пяць мінут большым, ці на дзесяць карацейшым, ці роўным з ноччу...» — казаў ён перад гадзіннікам, як перад абразом. Нікуды спазніцца мой дзед і баба не маглі. Адкуль у іх такая павага да хвілін і гадзін? Якая ім розніца, карацейшы гэты дзень за папярэдні ці даўжэйшы. Карову выганялі не па гадзінніку, спаць кладліся па сонцу... Пра справы дамаўляліся так: «Зайду, як паснедаеце, прынясу, як каровы прыйдуць, заходзь апоўдні, убачымся, як пошту прывязуць...» З непадробнай увагай слухаў дзед па радыё сігналы дакладнага часу і папраўляў штодня чорныя стрэлкі. Сварыўся на гадзіннік, калі той пачынаў спяшацца ці спазняцца. Гадзіннік мусіў паказваць дакладны час. Калі дзед памёр — гадзіннік перастаў цікаць. Ён так і вісеў, з нерухомымі, як намаляванымі, стрэлкамі. А баба мая нават заўважаць яго перастала...

* * *

**Скарб.** Колькі сябе памятаю, столькі памятаю і чорны куфар сваёй бабы. Ён стаяў на адным і тым жа месцы — пад акном, паміж канапай і шафай. У тым вялізным і ёмістым куфэрку я мог пры жаданні схавацца. Зроблены ён быў з дубовых дошак, а таму акрамя сялянскай груваскасці меў неверагодную вагу. Аднойчы за яго заляцела манетка. Адсунуць куфар ад сцяны я не здолеў. Паклікаў стрыечнага брата, але і разам рады не далі. У чорным куфэрку, акрамя ўсяго іншага, ляжалі цукеркі. Найчасцей падушачкі ці карамелькі. Але цукеркі мяне не заўсёды цікавілі. У чорным куфэрку я шукаў грошы. А дзе ж яны могуць быць, калі не там? Мне, калі бабы з дзедам не было ў хаце, карцела падымаць за кованае колца цяжкае века...

Звонку куфар быў чорны, бліскучы, а з сярэдзіны светлы. На дошках века, з сярэдзіны, хімічным і звычайным алоўкам, роўнымі радкамі ішлі запісы, зробленыя дзедавай рукой. Радкоў з лічбамі — датамі мелася шмат. «Злучка...», «Жыта пасеяў...», «Ацёл...», «Апарос...», «Капалі бульбу...», «Садзілі бульбу...», «Жыта жалі». Штогод надпісаў дадавалася. Потым словы і даты пісаліся паверх папярэдніх. Я спытаў дзеда, а чаму ён не піша ў сшытку?

Дзед крыху падумаў, а потым патлумачыў, што каляндар ці сшытак могуць згубіцца, а куфар не згубіцца. Дзіўна, а вось грошы ні дзед, ні баба ў чорным куфэрку не трымалі. Баба хавала грошы ў падушцы. А дзед клаў пенсію ў бляшаную пушачку, якая стаяла ў шуфлядцы стала, пад абразамі. Так што ў скарбы ў куфэрках я перастаў верыць яшчэ ў дзяцінстве.

* * *

**Піла.** Мы з дзедам пілуем дровы. Мне гадоў сем. Пілуе дзед, а я дапамагаю. Цягаю аберуч вялізную чорную пілу, напінаюся, стараюся. Вострымі зубамі ўгрызаецца чорная піла ў бярозавае бервяно, струменьчыкам сыплецца пілавінне. Дрэва цвёрдае, а пілавінне мяккае і духмянае. Мне гэта падабаецца. Я люблю працаваць з дзедам на пару. Ён не прыспешвае, не сварыцца, калі нешта не атрымліваецца адразу. Дзед добры… Яшчэ ў чорнай пілы новая адпаліраваная ручка. Гладзенькая такая, прыемна яе сціскаць пальцамі. Піла ці не большая за мяне. Яна пагрозліва гудзе і ўздыхае, бывае, выгінаецца, калі захрасае ў бервяне. Мы ўжо напілавалі шмат. Я крыху стаміўся, але не прызнаюся. А дзед бярэ наступнае бервяно, кладзе яго на сталюгу, прыкладае да бервяна пілу. Паленца павінна быць напалову палатна пілы. Я адзначаю на бервяне рыскай тое месца. Аловак замяняе кавалачак вугалю. Пачынаем пілаваць.

Памятаю, што, калі прыйшоў стрыечны брат Міша з фотаапаратам, дзед адставіў пілу і ўзяўся зашпільваць на кашулі каўнер. Дзед саромеўся фатаграфавацца непрычасаным, непрыбраным, а мне было без розніцы. Міша паставіў нас побач са сталюгай. Мне даў у рукі пілу. Адышоўся на пяць крокаў, апусціўся на калена. Шчоўкнуў. Застаўся фотаздымак. Няма майго дзеда. Няма той пілы. Даўно згарэлі і дровы, што мы напілавалі. Застаўся ўспамін пра летні дзень, пра дзеда Уладзіміра, пра пах пілавіння і новую ручку для пілы, якую зрабіў дзед, каб мне было зручна яму дапамагаць. Гэта можна намаляваць. Толькі малюнак, як і фотаздымак, не змесціць усіх тых пачуццяў, якія выклікае ў маёй душы такая простая і дасканалая рэч, як вялікая чорная піла.

* * *

**Поціск рукі.** Бывала, што мне не падавалі рукі, здаралася — і я не падаваў. Пацiснуць руку — мужчынскі жэст, учынак… Са сваім дзедам заўжды вітаўся за руку. Не было абдымкаў, і слёз не было. Толькі поціск. Моцны — мужчынскі, цёплы, надзейны, крэўны… З першых гадоў свайго яшчэ не вельмі свядомага жыцця да апошніх сустрэч мы з дзедам віталіся поціскам, глядзелі ў вочы. Праз той поціск мне перадаваліся сіла і спакой. Я мог прыехаць на вёску нечакана, убачыць дзеда, занятага справай. «Пачакай, рукі брудныя…» — казаў ён крыху вінавата і старанна мыў свае вялікія рукі. Выціраў, а потым мы абавязкова віталіся. Так было…

«Здароў, дзед!» — Сціскаю пяць пальцаў правай рукі. Яны хапаюць холад і бязважкасць.

Можна сціснуць тры пальцы, нібыта ў спробе схапіць нябачную павуцінку. Дакрануцца да лба, а потым…. Але гэта пра іншае, пра дотык, а не пра поціск.

* * *

**Фрэска**. Мацак, Сокал, Плісіца, Малы, Бэня… У свае пяць гадоў я ведаю імёны калгасных коней. Яны ўсе, як адзін — прыгожыя, а Мацак — найпры-

гажэйшы, бо менавіта на яго і пасадзіў мяне дзед. Я трымаюся за блытаную грыву стомленага каня. Мацак ідзе цяжка, глуха тупае капытамі па ўтрамбаванай сцежцы. Мацака вядзе дзед. Ён стрымлівае наравістага каня. Праплываюць платы, замёты, гусі, штакетнік, аблокі, яблыкі… Я прашу дзеда, каб ён даў мне зашмальцаваны потнымі рукамі повад. Але дзед ведае, што конь можа пабегчы да канюшні, можа ўпудзіцца, можа раптам стаць і не дае аброць. Яны ідуць мерна, крок у крок. Мой дзед і шэры вялікі конь. Яны ідуць урачыста, святочна. І мужчыны, і жанчыны, і паштарка на ровары зайздросцяць майму дзеду Уладзіміру, бо яго пяцігадовы ўнук Воўка сядзіць на кані, як клешч, і не падае. Калі мы будзем вяртацца з канюшні, то мае далоні будуць пахнуць канём, а стомленыя ногі крыху падгінацца.

* * *

**Смерць.** Першае маё сутыкненне са смерцю і нябожчыкам адбылося ў 1963. Пачатак лета. Спёка. Памёр стрыечны брат майго дзеда Кандрат, ці, як звалі ў вёсцы, Круль. Хата нябожчыка стаяла праз адну ад нашай. Яе было відаць з вокнаў. Вакол хаты раслі вялізныя бярозы... Мне і пяці гадоў тады не было. Дзед узяў мяне на пахаванне. У хаце быў невыносна цяжкі дух. Труна стаяла на доўгай лаве. Я падышоў да прычасанага, паголенага дзеда Кандрата, каб лепш яго разгледзець. Ён ляжаў з заплюшчанымі вачамі.

Да гэтага часу мне не даводзілася бачыць памерлага чалавека. Свінню — бачыў. Жабак, птушак, змяю, забітага суседскага сабаку… Я апынуўся твар у твар з дзедам Кандратам. З васкова-шэрага вуха нябожчыка тырчэлі доўгія сівыя валасы. Нехта адчыніў дзверы. Пацягнула скразняком, і сівыя валасы заварушыліся. Я заплакаў як рэзаны.

Дзед вывеў мяне ў двор і сказаў, што не варта баяцца нябожчыкаў. Ён пасадзіў мяне на калёсы, якія стаялі ў двары, а сам сеў побач. З таго, што дзед гаварыў, добра запомніў пра траву, якая расце, робіцца большай, а потым сохне… Размова пра сухую траву мяне супакоіла, бо яе не было шкада. (Паскаля мой дзед не ведаў. Гэта — дакладна.)

Калі я вучыўся на мастака, то шмат разоў маляваў падворак дзеда Кандрата, старыя бярозы, платы, агарод і сад, саламяную страху хлява, зялёную траву.

Атрымлівалася трагічна — заўсёды.

* * *

**Цемра.** Канец лістапада, пачатак снежня, асабліва калі яны чорныя і бясснежныя, мой дзед не любіў. Зразумела, што дзед не выключэнне, старыя людзі і ў горадзе гэты цёмны час не паважаюць.

* * *

**Абраз.** У дзедавай хаце было тры абразы. Адзін — на дошцы. Дзеду яго даў бацька на вяселле, а да таго часу ён вісеў у хаце майго прадзеда. Фарбы пачарнелі, і цяжка было разгледзець выяву Марыі ў бурачкова-карычневым адзенні і маленькага Хрыста, да якога яна схіляла галаву. Я вырашыў абраз той крыху паднавіць. Дзед быў не супраць. Я ўзяўся за справу. Бабе мой намер не падабаўся, але яна адно незадаволена хітала і старалася праходзіць за маёй спінай хутка. На дошку не глядзела. Уся справа заняла тры дні. Атрымалася ярка і звонка. Адзенне я перафарбаваў з чырвонага на блакітнае, бруднабелае зрабіў снежна-белым, галовы і рукі — залацістымі. Дзеду вясёлы абраз

спадабаўся, а баба і слова не прамовіла. Прайшоў год. Наступным летам я вучылішча мастацкае скончыў і ў інстытут паступіў. Глянуў я на той абраз, і не спадабаўся ён мне.

Леташняя фарба адыходзіла лёгка, як скарынка з загоенай раны…

Зазіхцелі старыя фарбы, праступілі колеры яркія. Не бурачковым было адзенне Марыі, а чырвоным… Баба дастала навюткі ручнік са свайго куфэрка, самы прыгожы, з птушкамі і кветкамі, а дзед абраз у кут павесіў.

* * *

**Малітва.** Ні дзед, ні баба маліцца мяне не вучылі. У маладыя гады дзед спяваў у царкоўным хоры. Аднойчы ён расказаў доўгую малітву. Тое было, калі я хварэў. Я ляжаў у ложку пад ватнай коўдрай і глядзеў на дыванок. На залатых аленяў, на сінюю ваду, кучаравыя аблокі і дзівосныя дрэвы…

Дзед сядзеў побач, гладзіў маё пляча і няспешна гаварыў. Незразумелыя словы не давалі заснуць…

Сніліся мне алені і бліны.

* * *

**Голас.** «Летам дні хоць і доўгія, а ўсё парабіць не паспяваеш, а зімой дні кароткія, а вось ночы доўгія, усё жыццё ўспомніш-перадумаеш», — гаварыў дзед і адварочваўся ад акна. Ад змрочнага бясснежнага краявіду.

Мне ж тады было добра, цёпла і ўтульна.

І голас дзедаў гучаў утульна… І гучыць…

* * *

**Мяжа.** Не памятаю, вясной тое здарылася ці па восені. Дзедаў агарод межаваў з агародам нашага суседа Лявона. Сусед парушыў мяжу, адхапіў баразну, а можа, і дзве — узараў мяжу. Лявон — высокі і маладзейшы за майго дзеда гадоў на дваццаць пяць мужчына. Дзед пачаў тлумачыць Лявону, што мяжа — не яго зямля, што палова яму не належыць. Лявон адштурхнуў майго дзеда, ударыў у грудзі. Дзед упаў. Сусед таргануў лейцы, сцебануў каня і прыгнуўся да плуга.

За мяжу, за вузкі пасак зямлі пасварыліся дарослыя людзі. Перасталі размаўляць. Свая зямля і зямля суседа… Мне было гадоў сем, і заступіцца за дзеда я не мог, але крыўда на дзядзьку Лявона, на бацьку маіх вясковых сябрукоў: Толіка, Стасіка, Шуркі — засталася. Побач з вёскай пачалася меліярацыя. Наш сусед уладкаваўся на «канавы». Ён іх абкошваў, даглядаў. Там і застудзіўся ў восеньскай вадзе. Захварэў. Адняліся ногі. Дзядзька Лявон ляжаў у ложку цэлы год. Хадзіць нядужаў, ногі не трымалі. Мне было гадоў трынаццаць. Я зайшоў да суседзяў у хату. Дзядзька Лявон паспрабаваў сесці ў ложку. Ён хапаўся за брудны рушнік, навязаны ў нагах, да білаў. Лявон хацеў са мной павітацца, як даросламу падаў руку. А я не пацісную яго шырокую далонь з цёмнымі пальцамі і бруднымі пазногцямі. Адно спытаў пра некага з сыноў і выйшаў з хаты, дзе гулі мухі. Вышываны рушнік павязалі суседу на дубовы крыж, а праз сем гадоў такі ж рушнік павязалі на крыж майму дзеду. Яны ляжаць побач, як і жылі.

Узмежак. Баразна. Могілкі. Беларусь…

* * *

**Лекі.** «Па мурашкі» мы хадзілі з дзедам. Закопвалі ў мурашнікі паўлітровыя бутэлькі, а праз дзень забіралі поўныя рудых лясных мурашак. Памятаю, як дзед клаў на мурашнік рукі, як іх аблеплівалі вялікія мурашкі. І я свае рукі ў цыпках апускаў і чакаў-цярпеў, пакуль іх мурашкі абсядуць. Потым хутка расціраў. Далоні доўга і востра пахлі расціснутымі мурашкамі. Мы прыносілі бутэлькі дамоў. Дзед выціскаў з мурашак сок. Працэджваў. Той брудна-карычневы сок настойваўся на гарэлцы, а потым ім мазалі спіну, плечы, рукі, ногі, шыю. Дзед лічыў, што гэта лепшы сродак ад раматузу. Мне падабаўся яркі водар тых самаробных лекаў. І нават калі ў мяне нічога не балела, то я прасіў, каб дзед ці баба памазалі мне спіну, а спаць паклалі не на ложку, як звычайна, а на печы.

Апошнім часам баліць правая рука… І тады я думаю пра мітуслівых рудых мурашак і свайго дзеда. Боль крыху адпускае, быццам дзед дакранаецца да майго пляча.

* * *

Кіёк і цапок… Стаялі пры дзвярах у сенцах. Адпаліраваныя дзедавымі рукамі… Такія родныя словы.

**Пастка.** У дзедавай хаце мелася камора. Частка сенцаў была адгароджана вышэзнымі і тоўстымі дошкамі. Колеру дзіўнага — залацiста-чырвонага. Дошкі тыя не напілаваныя, а наколатыя. У каморы стаяў куфар, дзежкі, бочкі, хамут, лейцы, вяроўкі, косы... Скрыні з цяслярскім інструментам. На жэрдках віселі кумпякі, на паліцах — мяхі з соллю, зернем, слоікі… І яшчэ з каморы на хату вялі драбіны…

Не памятаю, што мне спатрэбілася ў цёмнай каморы? Можа цвік, а можа кавалак дроту, а можа аброць… З паліцы на мяне, васьмігадовага, скочыў пацук. Вялізны і цяжкі, як кот… Спалохаўся я моцна, упаў, заенчыў. А баба, на наступны дзень, паказала дзеду пагрызены мех і рассыпанае па падлозе жыта. Дзед прынёс з паветкі старую іржавую пастку. За ёй цягнуўся такі ж іржавы ланцуг. Два дні дзед рамантаваў пастку, а я дапамагаў: то апцэнгі падам, то напілак, то малаток… Зрабілі. Колькі разоў трэсачкай выпрабавалі. Пастка шчоўкала і вокамгненна, трохкутнымі зубамі перакусвала трэску. Ланцуг прыкруцілі да драбінаў, а пастку з кавалкам свіной скуры паставілі на паліцы, побач са скрыняй з салёным салам. Мне заходзіць у камору забаранілі, але я туды і не хацеў. Сполах ад сустрэчы з пацуком пакуль не прайшоў. Тры дні палявання прайшлі безвынікова. Мы з бабай стаміліся чакаць. А дзед здзіўлена разводзіў рукамі, паціскаў плячамі…

Я стаяў у двары і піў з калонкі сцюдзёную ваду. Сенцы расчыніліся. На ганак выйшаў дзед. Ён трымаў за ланцуг пастку. Жалезныя сківіцы сціскалі вялізнага пацука з кароткім хвастом. «Вось і трапілася, бач ты — цяжарная… А пастка добрая. Секанула, аж шлунне павылазіла». Дзед узяў у паветцы рыдлёўку, і мы з ім пайшлі закопваць цяжарную пацучыху пад плот. А пастку дзед павесіў высока ў паветцы, сківіцы скруціў дротам, каб я, крый Божа, не расціснуў.

Мне радасна, калі згадваю тыя дні.

* * *

**Мячык.** Тое, што зямля круглая, мне расказаў дзед. На маім чырвоным мячыку ён і паказаў, што калі пайсці ў адным напрамку, то напэўна прыйдзеш у тое месца, адкуль выправіўся. Вядома, дзеду свайму я паверыў. На наступны дзень і вырашыў спраўдзіць яго словы. Раніцай выправіўся ў кругасветную вандроўку. Мне было пяць з паловай. Выган. Лес. Дарога. Галоўнае ісці і не зварочваць. Я ішоў. Мяне знайшлі позна ўвечары. За чатыры кіламетры ад вёскі… Прывёз на кані дзядзька Кандрат. Я пазнаў знаёмага каня Мацака і падышоў, каб пагладзіць…

А вяскоўцы, дзед з бабай, нават калодзежы абшукалі, і па лесе хадзілі, гукалі-гукалі…

Калі быць шчырым, то сёння для мяне і не вельмі важна, што зямля круглая.

* * *

**Войска.** Быў пахмурны восеньскі вечар. І мой дзед быў пахмурны, і яго ватоўка. Мы з ім стаялі на шашы, пад старой таполяй. А па мокрай дарозе, якую нам трэба перайсці, паўзла вайсковая тэхніка. Вялікія машыны, крытыя цёмным брызентам, выдыхвалі дым, гулі і паўзлі, не спыняліся. Мы з дзедам стаялі больш за гадзіну, а тэхніка ўсё ішла-ішла. У кодабах сядзелі стомленыя салдаты ў пілотках. Не ведаю чаму, а гэтая пахмурная карцінка засталася ў памяці, як і словы дзеда: «Пайшлі, унук, дамоў. Добра, што табе ў войска яшчэ не скора». Мы ішлі пад пахмурнымі вербамі і таполямі, я азіраўся на шашу, а дзед больш не глядзеў на машыны, гарматы, цягачы… Ён маўчаў усе пяць кіламетраў, думаў пра нешта сваё. А мне падабаўся пах таго дыму над шашой і яго сіняваты колер… Гэта быў 1967 год. Верасень. Войскі вярталіся з вучэнняў «Днепр».

* * *

**Маладосць.** Незваротнае… Прыязджаў у вёску да дзеда з бабай. Не, каб пасядзець з імі, параспытваць, паслухаць… Бег да вясковых падшыванцаў у карты гуляць, на конях калгасных па полі гойсаць, з прыпяканак страляць. А баба шмат песень ведала, а дзед мог расказаць пра… Цяпер думаю, каб вярнуць назад, то сядзеў бы з дзедам і слухаў, слухаў… Ад некаторых бабіных песень засталіся толькі мелодыі і словы. «Пра зязюлю шэрую, пра ваду сцюдзёную, пра дзеўку неразумную, неразумную ма-ла-дую…»

Можа, песня тая і пра мяне спявалася, але не разумеў. Ма-ла-ды быў…

* * *

**Крыжы…** Мой дзед нарадзіўся ў 1886 годзе. Трапіў на Першую сусветную вайну. Ваяваў далёка-далёка ад дому — у Румыніі і Турэччыне. Яго ўзнагародзілі трыма Георгіеўскімі крыжамі. Адкуль ведаю? Бачыў два фотаздымкі. На адным дзед мой малады і прыгожы ў гімнасцёрцы, а на грудзях два крыжы, а на другім — у доўгім шынялі, на грудзях — тры крыжы.

Чацвёрты атрымаць не паспеў… Дзеда на той вайне моцна кантузіла. Снарад трапіў у кацёл з ежай. Загінулі ўсе, а дзеда нават асколачкам дробным не зачапіла. Адно недачуваць стаў моцна. З гэтым і пражыў доўгае жыццё. Вайну ненавідзеў.

Я тых крыжоў не бачыў, у руках не трымаў. Дзед узнагароды хаваў і картачкі хаваў. Спярша хаваў ад бальшавікоў, а калі пачалася Айчынная вайна, то і ад немцаў з партызанамі. Схаваў крыжы на агародзе, потым перахаваў, ды так добра, што і знайсці не здолеў. Але мой бацька тыя крыжы бачыў, у руках трымаў, і цётка пра крыжы расказвала. У суседняй вёсцы Баркі жыў дзедаў сябрук, ні прозвішча, ні імя я не ведаю. У таго мужчыны крыжоў было аж чатыры. То ён прыходзіў да майго дзеда пагасцяваць, то дзед хадзіў да яго. Трэба было героям пагаварыць, выпіць трэба было добра…

А я меў мару — знайсці дзедавы ўзнагароды. Але, акрамя патронаў іржавых, нічога вайсковага на агародзе не траплялася.

Мне здаецца, што гэта вельмі па-беларуску — хаваць узнагароды.

І яшчэ — блаславёныя тыя кулі, бомбы і снарады, тыя асколкі, якія нікога не забілі….

* * *

**Таямніца**. Выган, асветлены вечаровым сонцам.

— А твая аднавокая баба — табе няродная!— сказаў, як плюнуў, Лявонаў Стасік і пабег, як мог, хутка, агародам да свайго двара.

Пачуў — і не мог даць веры, уцягнуў галаву ў плечы і застаўся стаяць пад яблыняй. Тое, што ў маёй бабы няма вока, — праўда, хто ж спрачацца стане, гэта я і сам ведаю. А вось што баба мне няродная — мана! Як жа гэта так, баба, якая заўсёды плача, калі мяне прывозяць у вёску, і гэтак жа плача, калі мяне забіраюць ад яе, — мне чужая?

Стасіка паб'ю. Нават не спалохаюся яго старэйшых братоў: Толіка, Шуркі, Косціка.

Стаю пад вялізнай старой яблыняй і чую галасы.

Бачу сябе і тым хлапчуком, босым, неабазнаным — і сённяшнім...

Цяпер я ведаю праўду. А вось мой бацька так і пайшоў з жыцця, упэўнены, што ўсё было менавіта так, як ён расказаў мне, а яму яго бацька — мой дзед.

«...сярод ночы ў трыццаць трэцім годзе забрахаў сабака ў двары, пагрукалі ў шыбку, яна прахапілася, думала, можа, хто з сыноў вярнуўся, і паляцела з печы. Пабілася дужа; і галаву, і плячо, і рэбры, відаць, паламала... Злегла, а праз колькі дзён і памерла... Я яе нават і не памятаю — малы яшчэ зусім быў... Мне тры, а твайму дзядзьку і года тады не было»... — гучыць, чуецца нетаропкі, амаль не ўсхваляваны бацькаў голас.

Як было насамрэч, расказала дзедава дачка — дзевяностагадовая цётка Адарка. Зразумела, у такім узросце памыліцца і пераблытаць няцяжка, але старыя звычайна блытаюць і забываюцца на дзень сённяшні-ўчарашні, а вось тое, што было семдзесят гадоў таму, — памятаюць дакладна.

«... увесну пад вечар прыйшлі да нашага двара трое мужчын. Старшыня, міліцыянер і адзін незнаёмы, апрануты па-гарадскому. Бацька згледзеў і паспеў схавацца на агародзе, залез у стог, за хатай. Гэтыя, што прыйшлі, загадалі, каб мама аддала ім золата, якое, як яны казалі, у бацькі ёсць. Пачалі шукаць, а калі не знайшлі, пачалі маму біць, каб сама паказала, дзе схованка. Білі доўга: і нагамі, і рукамі, і палкай, і наганам жалезным. Бацька хаваўся, чуў, як крыкам крычыць жонка, плачуць-заходзяцца дзеці...

Тата загадаў, папрасіў мяне — сваю адзіную дачку — нікому пра тое, што было, не казаць, бо калі яго забяруць — уся сям'я прападзе»...

Яна паслухмяна маўчала аж семдзесят гадоў. А калі б памерла, то і знесла б з сабой таямніцу смерці маёй па крыві роднай бабулі.

А Лявонаву Стасіку я на другі дзень за абразу разаб'ю глыжам дурную галаву. Выскачу з-за плоту, перайму, калі ён карову пагоніць. Стасік спалохана ўцякаць кінецца, я следам, а калі зразумею, што не даганю — шпурну глыжам у спіну, а патраплю ў патыліцу. Старэйшыя браты нават і не заступяцца за малога.

І толькі мая няродная аднавокая баба, якая не ведала прычыны маёй злосці ды пахмурнага настрою, насварыцца на мяне і паабяцае расказаць бацькам. Але так і не раскажа — відаць, забудзецца.

Бачу яе, ідзе ад поля з вялізнай посцілкай травы за спінай. Цёмная хустка на вочы, ражкі абвязаныя вакол шыі, у руцэ граблі, а другая сціскае вузел посцілкі на грудзях. Доўгі цень яе цямнее на колкім золаце іржэўніку. Яна рыхтык адна з тых, каго маляваў знакаміты Франсуа Міле на сваіх змрочных і тужлівых палотнах...

* * *

**Венскае крэсла**. Бацька на той час ляжаў у бальніцы. Мама яго дагледала. На вёску з маладой жонкай мы паехалі адны. Ішлі пяць кіламетраў праз лес: цалаваліся, абдымаліся, гаварылі. Алёне спадабаўся наш чысты і светлы лес. Яна з Віцебшчыны, а там лясы цёмныя, змрочныя... Але не пра тое мой успамін. Вядома, дзеду з бабай Алёна спадабалася адразу, з першага позірку. Не магла не спадабацца — маладая і неверагодна прыгожая. На агародзе, за яблынямі, зелянела канюшына. Вялікі лапік. Мне давялося яе касіць. Дзед ужо быў стары — за дзевяты дзесятак. Я пачаў касіць. Алёна з дзедам стаялі каля плота і глядзелі. Канюшына густая, каса ледзь цягнецца, ледзь прабіваецца праз шчыльную сцяну травы. Вечарэе. Цёплы жнівеньскі вечар. Дзед раптам пайшоў у хату і прынёс лёгкае венскае крэсла, якое стаяла ў чыстай палове пры стале. Занёс пад яблыню, паставіў. Не для сябе прынёс, а для маёй маладой жонкі. Алёна, асветленая вечаровым сонцам, сядзіць з яблыкам у руках пад яблыняй. Я кашу канюшыну і адчуваю яе позірк. Дзед стаіць каля плота і дзівіцца на маю Алёну. Я скасіў усю канюшыну да вечара, хоць збіраўся пакінуць палову на раніцу.

Успамін з венскім крэслам, якое прынёс дзед Ладзімір для Алёны, застаецца ў маёй душы як адзін з самых каштоўных.

* * *

**Халва.** Мне гадкоў пяць-шэсць... За акном сіні-сіні зімовы вечар. У грубцы гарыць цяпло. Мы размаўляем з дзедам пра жыццё, пра зайцоў і ваўкоў. Я хварэю, а таму і жаданне незвычайнае... Сяджу пры грубцы і вялікай лыжкай ем са шклянкі самаробную халву, а баба незадаволена пазірае на дзеда і пасміхаецца...

Халву дзед Ладзімір зрабіў, каб пачаставаць мяне, хворага. Каб зрабіць мне прыемнае... Браў перабраныя арэхі, на печы заўсёды стаяла ладная квацістая торбачка. Малатком біў тыя арэхі, потым трушчыў-расціскаў ядры таўкачом у місе. Падліваў трошкі вады, а потым дадаваў алею і цукру. З жалезнай місы перакладаў мяккую кашу у кубак, шклянку, чарку... Вось такую халву рабіў мне дзед Ладзімір. Я еў тую самаробную халву і пераставаў нудзіцца і думаць пра кепскае. Ці магчыма зараз такую зрабіць? Не!

* * *

**Снег.** Цёмная сцяна Лугінскага лесу, а перад лесам белае-белае поле. Можна перайсці тое заснежанае поле і не пакінуць сваіх слядоў…

Да лясной дарогі дзед нясе мяне на руках…

«Ну, а далей, унук, сам…» — кажа ён і хукае на мае азяблыя рукі.

Такі сон, але так і было.

* * *

**Вялікая лыжка.** У дзедавай хаце лыжак-відэльцаў хапала: жалезных, алюмініевых. А дзед упарта працягваў усе стравы есці сваёй вялікай драўлянай. Для мяне, малога, яна была завялікая. Скрозь абліваўся, расплёхваў, карацей, не атрымлівалася ў мяне есці дзедавай лыжкай. Дзед зрабіў мне маленькую. Зграбная такая атрымалася лыжачка: зручная, лёгкая, вясёлая... Сядзім з дзедам за сталом, з адной місы капусту ядзім. Дзед у місе дзеліць сваёй лыжкай капусту напалам, і сваю палову прытрымлівае, каб я не з'еў. Спяшаюся, завіхаюся... Мая новая лыжка ціха грукае ў парожняй місе. Тут я разумею, што дзед мяне падмануў, але зусім на яго не крыўдую. Чаму дзед Ладзімір не паленаваўся і зрабіў мне драўляную лыжку? Відаць, разумеў, што ў памяці дзіцёнка застаецца толькі незвычайнае, выбітнае, непадобнае...

Дзе яна, тая лыжка? Няўжо толькі ў маіх успамінах і захавалася?

* * *

**Мора.** Майму дзеду Ладзіміру было добра за восемдзесят, калі ён трапіў у буда-кашалёўскую бальніцу. Дзеду зрабілі тэрміновую аперацыю. Паставілі катэтар. Малады хірург з'едліва пацікавіўся, а ці шмат дзядуля выпіў за сваё доўгае жыццё? Сівавусы пацыент крыху падумаў і разважліва адказаў: «А мора выпіў, як ёсць мора»... Колькі памятаю свайго дзеда, то п'яным ніколі яго не бачыў. А вось як ён піў, то бачыў штодня, калі прыязджаў у вёску. Бутля з гарэлкай, на дзевяць літраў, стаяла пад ложкам. А ў старым шкапку, пры акне, жыў яе меншы брат — зялёны графін. Побач карагодзіліся чаркі, класічныя стограмовікі. Дзед наліваў чарку, выпіваў і працягваў працаваць. Пілаваў, касіў, складаў, разграбаў снег, падмятаў двор, карміў жывёлу... Праз гадзіну заходзіў у хату, казаў, што стаміўся, выпіваў чарку і сыходзіў. Нават ноччу ўставаў мой дзед Ладзімір, каб глянуць на гадзіннік і глынуць гарэлкі. Я думаю, што не мора ён выпіў за сваё доўгае жыццё, а ўсё ж крышку меней.

* * *

**Сіні агонь.** Мне самагонка пахне дзяцінствам і бацькаўшчынай. Моцны пах — мужчынскі, з іншымі не зблытаю. Хлеб, агонь, дым, гліна, снег, сенцы…

Дзед моцна недачуваў, а таму мне трэба было стаяць побач з чорнымі вялізнымі чыгунамі. Ніжні, у які дзед заліваў тры вядры густой пульхірыстай брагі, месціўся на чорнай жалезнай печы. На ім стаяў, дагары дном, другі. Чыгуны абвязваліся доўгай і вузкай анучай, абмазваліся рудой глінай. З донца верхняга чыгуна вытыркалася труба, а потым яна хавалася ў доўгім карыце са снегам, лёдам, вадой. З трубы вісела нітка, па якой збягала самагонка. Я павінен быў слухаць, як булькае брага. Каб яна моцна не закіпела і не «скінула» верхні чыгун. Такі я меў абавязак. Дзед сядзеў

на ўслончыку і зачаравана глядзеў, як цурчыць у слоік гарэлка. Падкідаў у печ дровы, закідаў у карыта снег, заліваў халодную ваду. Яшчэ я павінен быў слухаць, ці не брэша сабака, ці не едзе па вуліцы машына… Карацей, я вартаваў. Справа ішла добра. Я казаў, што ў чыгуне булькае дужа, дзед таропка паменшваў агонь… Калі казаў, што ціха і не булькае, то дзед падкідаў трэсак. Мне, шасцігадоваму, падабаліся такія абавязкі. Узнагародай за пільнасць была не цукерка, а поўная лыжка цёплай, амаль гарачай самагонкі, лустачка хлеба са скрылікам сала. І яшчэ дзед дазваляў мне плюхнуць на падлогу гарэлкі і падпаліць трэсачкай. Так мы выпрабоўвалі яе на моцнасць.

Самагонка гарэла празрыстым нябачным полымем.
Сіняватым, як неба ці дым…
Агонь. Дзед. Неба. Дым.

* * *

**Стома.** Млосць. Уваччу то белыя зоркі, то рознакаляровыя колы, то пісягі зялёныя. Пальцы не згіналіся і не разгіналіся, як драўляныя. Ногі падкошваліся… Але я перамог пяцьдзесят сотак травы. Не адзін, з хросным. Ён мужчына дужы, важыў удвая больш за мяне. Падначваў, каб я не спыняўся, бо пяты паадразае. Вось такі вясёлы хросны. Загадаў, каб я паперадзе ішоў, а ён са сваёй касой следам. На далёкай пожні. Пачалі касіць на світанні, а скончылі апоўдні. Мазалі на маіх далонях паздзіраліся, каса ў крыві. Але я перамог траву і сябе самога. Як даехаў да вёскі, не памятаю, і хто падвёз, не згадаю. Сеў за стол — і лыжку ў руках трымаць не магу. Міргаю, на дзеда з бабай гляджу, як тая рыбіна на беразе. Баба ежу на стол выстаўляе, каб мяне, работніка, пакарміць. Дзед пайшоў да свайго шкапка і прынёс графін зялёны з гарэлкай. І не чарку паставіў, а шклянку «малінкоўскую», і не сабе, а мне, шаснаццацігадоваму. Я адмаўляцца пачаў, баба на дзеда сварыцца, а ён поўную, як вока, шклянку ў руцэ трымае, мне ў руку ўкладае, прымушае выпіць. Выпіў. Дзед яшчэ палову шклянкі наліў і да мяне пасунуў. Я зноў выпіў. Есці не змог… Потым, калі на ложак лёг, то дзед бабе загадаў мне рукі тлушчам гусіным памазаць і чыстай тканінай загарнуць. Балюча не было. Поўная абыякавасць і трава перад вачамі. Кветачкі, пчолкі. І гук, калі жалеза сухую траву зразае…

Прачнуўся, дзед сядзіць побач, на мяне глядзіць. Акно ў сад адчынена.
«Жывы, то ўставай памалу… А я цябе чакаў, каб палуднаваць разам».
Я праспаў дваццаць шэсць гадзін. Дзед не дазволіў мяне будзіць.

* * *

**Дошкі.** Сем дошак, адна на адной, ляжалі на гарышчы дзедавай хаты. Доўгія, шырокія, сухія, негабляваныя, сасновыя. Мне падабалася сядзець на іх, раскладаць старыя рэчы, праглядаць бацькавы школьныя сшыткі… Дзівіцца праз маленькае акенца на сіні лес, на залатое поле лубіну, на зліняла летняе неба. Гула і караскалася па расколатай шкліне стракатая і драпежная аса. Яна мяне не чапала, і я яе не чапаў…

Нашто нарыхтаваныя вялікія дошкі, я ведаў. Дзед патлумачыў.

Не памятаю, што я рамантаваў у двары, але спатрэбілася шырокая дошка. Спытаў у дзеда, а ён сказаў: «А як не хопіць на труну, то па людзях бегаць давядзецца, пазычаць будзеце?» Тыя шырокія дошкі і не прыдаліся. Паха-

валі дзеда ў куплёнай труне. Вяскоўцы зайздросцілі, якая труна прыгожая. А мне крыўдна было. Але ведаю, што труну рабіць не было каму, а я б сам і не змог.

Жанчыны, адрозна мужчын, пра свой знешні выгляд клапоцяцца, пра дробязі думаюць: хустка якая, насоўка, кофта, спадніца… Мужчыны ж пра дом разважаюць, пра архітэктуру і месца.

А куды тыя сем дошак сышлі, і не згадаю, і спытаць няма ў каго…

* * *

**Памяць.** І апранаўся дзед чыста, неахайным і расхрыстаным не хадзіў. Гузікі заўсёды зашпільваў, нават на ватоўцы старой.

Я не ўмею галіцца небяспечнай брытвай-раскладанкай. Колькі ні спрабаваў навучыцца, так і не змог. Дзед жа галіўся толькі ёй. Сам гайстрыў, сам наводзіў на скураным рэмні. Добра памятаю дзедаў рыштунак: брытву ў цёмна-зялёным скураным футарале, яна сама паслухмяна выслізвала ў руку. Тронкі былі касцяныя, мядовага колеру. Лязо бліскучае, вузкае. А памазок і місачка жалезныя, звычайныя. Нічога асаблівага. Дзед галіўся ўдзень, тры разы на тыдзень і абавязкова напярэдадні святаў. Станавіўся насупраць акна, каб святлей, правіў брытву. Намыльваў твар. Пальцамі левай рукі прытрымліваў вусы, а ў правай цьмяна бліскала брытва. Нават маладзейшыя за дзеда мужчыны хадзілі па вёсцы няголеныя, а мой дзед сабе такога не дазваляў. Вядома, як усе старыя, маршчыністую шыю добра пагаліць цяжка. Але гэта не толькі ў нас, па ўсім свеце ў старых шыі паголены кепска. Мне падабалася глядзець, як дзед наводзіць прыгажосць, маладзее. Раней, думаў, што ён для людзей стараецца, а цяпер ведаю: для сябе. Здаралася, што і пакідала брытва шнарок на шчацэ, калі я «пад руку» што спытаю. Шнарок дзед заклейваў кавалачкам газеты. Потым яна падсыхала і адвальвалася.

Можа, таму, што здаралася гэта раз на год, я і памятаю кавалачак прысохлай газеты на дзедавай шчацэ.

* * *

**Далёкая вайна.** Радыёпрыёмнік вісіць на белай сцяне пад люстэркам, над самаробнай драўлянай канапай. Побач з прыёмнікам, на цвічку, старыя нямецкія нажніцы, колькі не спрабую прачытаць паўсцёрты надпіс — не атрымліваецца. Дзед слухае радыё — навіны там розныя і надвор'е — па колькі разоў на дні. І газеты мой дзед чытае: «Гомельскую праўду» і будакашалёўскі «Авангард», і не таму, што выпісвае, а таму, што падабаецца ведаць, што дзе адбываецца. Газеты і спазніцца могуць, а вось радыё, канешне, калі вецер драты не парве, працуе ад рання да паўночы...

— Ты, Валодзька, сёння нікуды не адыходзь ад хаты, баба дзе? — дзед кажа ціха і ўстрывожана, на ганак выйшаў без шапкі.

Я паказваю рукой з яблыкам на прачыненыя вароты хлява, адкуль чуецца задаволенае рохканне і бразгае парожняе вядро.

Калі я забег у хату папіць вады, дзед аддзіраў шпалеру на стoлі, каля печы, а потым лічыў грошы. Як мне падалося, рознакаляровых паперак шмат. А праз гадзіну мы з бабай kaцілі палявой дарогай вазок, а дзед ішоў з неверагодна засяроджаным выглядам і пазіраў сабе пад ногі. Парожні вазок каціць лёгка і нават прыемна. Ён сам бяжыць па ўтаптанай палявой дарозе.

Да суседняй вёскі, дзе крама, ад пагорка зусім блізка. З гары я пабег, а вазок заскакаў следам...

Вяртаемся. Вазок напакаваны так, што колы вязнуць у мяккай зямлі, а мы ўтраіх ледзь яго цягнем. У вазку, прыкрытыя клятчастай посцілкай, мяхі, мяшэчкі, торбачкі, скрыні і скрыначкі. Соль, цукар, мука, крупы, цвікі, запалак ажно цэлая скрыня, алей у гранёных брудных бутэльках... Спыніліся адпачыць. Мне здаецца, што я змарыўся больш, чым дзед з бабай. Хукаю на чырвоныя далоні, выціраю ўспатнелы лоб, паляпваю па мяхах і мяшэчках і не магу даўмецца: а навошта мы ледзь не паўкрамы вясковай на свой вазок перацягнулі?

Як толькі ўкоцімся ў двор, дзед зачыніць браму і пойдзе ў хату. Скіне кепку, пакладзе побач, сядзе на канапу, прыцісне вуха да радыё і стане насцярожана слухаць навіны. А я пабягу праз выган да стрыечных братоў, каб паведаміць, што хутка, можа, нават заўтра, пачнецца вялікая вайна...

За колькі дзён крамы ў суседніх вёсках пазачыняюцца, бо не стане чым гандляваць.

А праз два тыдні цётка Адарка атрымае ліст ад свайго сына Міколы, аж з той самай далёкай Чэхаславакії, пра якую гаварыла радыё. Ці не палова радкоў будзе зафарбаванай на чорнае — не прачытаць, а канверт без маркі з трохкутным штэмпелем прыйдзе незаклееным.

Запалак, купленых летам шэсцьдзесят восьмага, калі мне было дзесяць, хапіла гадоў на пяць — не менш.

* * *

**Размовы.** Дзедаў ложак стаяў пры печы. Вялікі і шырокі. І падушка вялікая. Ложак месціўся за квяцістай шырмай. У галаве, за чорнай драўлянай спінкай, паточанай шашалем, хавалася паліца. Там хлеб, прыкрыты старым абрусам, мука, цукар, крупы, вязкі цыбулі і часнок.

У ногі цёпла ад печы, а ў галаву смачна ад хлебнага духу. Бывала, калі наязджала народу бульбу капаць ці кабана біць, то я спаў побач з дзедам. Мы з ім тады гаманілі. Адно дзед прасіў, каб я гаварыў яму на вуха, каб іншых нашымі размовамі не будзіць. Пра што гаварылі? А пра ўсё на свеце. Пра балота і змей-вужакаў, пра ваўкоў і сабак. Пра коней. Пра тое, адкуль дзеці бяруцца. Пра малако і грыбы. Аднойчы дзед расказаў пра вайну. Пра раку, з якой нельга было піць ваду, бо смярдзела, столькі ў той рацэ забітых салдат было. І потым, адразу, пра тое, якія прыгожыя дзеўкі былі ў маленькім гарадку. Адна была такая, што ён яе і цяпер памятае. Цела белае-белае, круглае, а валасы светлыя, доўгія і бліскучыя. І смяялася тая дзеўка ўвесь час, калі яго бачыла, і пахла яна смачна — алеем… І не вельмі мне тады пра дзеўку цікава было. Больш захапляла пра гару, на якой крэпасць стаяла варожая, і як тую крэпасць загадалі захапіць ноччу. Дзед мой і яго таварышы пабеглі, а туркі пачалі з гары вялікія камяні спіхваць. Камяні каціліся, грукацелі, іскры сыпаліся, салдатаў душылі. Я пацікавіўся памерам тых камянёў. Дзед сказаў, што вялікія, як печ, але і меншыя былі, як капешка саломы, і такія, як падушка… Крэпасць той ноччу не захапілі… А потым зноў пра дзеўку пачаў расказваць. Тут я не вытрымаў і заснуў. Прахапіўся сярод ночы. Камяні вялікія на мяне ляцелі...

Дзеда побач не было, і я яшчэ больш спалохаўся.

А мой дзед сядзеў за сталом і еў лыжкай кіслае малако з чорным хлебам.

* * *

**Смак.** Самая смачная беларуская страва — звараная на добрым кавалку свініны кіслая капуста з сухімі баравікамі. Зімовая ежа. Сытная. Мы з дзедам па тры-чатыры разы на дзень маглі есці тую гарачую капусту. За акном снег, халодна, а мы сядзім за сталом і ядзім. Адзін на аднаго паглядаем. А баба наша задаволеная…

І так нам добра і ўтульна, і так нам смачна, што і не расказаць словамі…

* * *

**Грошы.** Зрэдку баба мая, а найчасцей дзед на развітанне давалі мне грошы. Зусім малому — рубель, падлетку — тры, а потым і па дзесяць і па дваццаць пяць. Заўсёды адной паперкай. Дзед разумеў, што калі бацькі даюць грошы, то яны і спытаць могуць, куды я іх і на якія цацкі-забаўкі змарнаваў… А тыя, якія ён даў, — бацькоў не тычацца, і ўнук можа іх патраціць, як пажадае. Я ніколі не адмаўляўся. Браў і дзякаваў. Ні дзед, ні баба ніколі не пыталі, што я сабе купіў на тыя падараваныя грошы, як ведалі, што не звяду на кепскае. Перад тым, як прысесці на канапу пад акном, дзед ішоў на чыстую палову хаты. Грукала шуфляда самаробнага стала, бразгацела ў пушачцы з-пад чаю дробязь… Дзед выходзіў і даваў мне грошы. «На гасцінцы, ад мяне з бабай. Толькі не згубі, пакладзі ў кішэнь і гузік зашпілі», — казаў ён і строга глядзеў на маіх бацькоў. Трэба сказаць, што ні бацька, ні мама на тыя грошы не прэтэндавалі. Але я за іх нічога і не набыў запамінальнага, важкага, такога, што мог бы захоўваць доўга-доўга, каб думаць пра сваіх дзеда з бабай. Грошы сыходзілі на нязначную драбязу, нават і прыгадаць не магу, на што канкрэтна. А мог жа купіць і што каштоўнае… Мог, а не купіў…

Калі згадваю падараваныя дзедам грошы, то на душы робіцца па-летняму лёгка і светла, але не бесклапотна.

Цікава, а калі ў мяне будуць унукі, то я буду як мой дзед?..

* * *

**Дзічка.** На яблынях яшчэ віселі дзе-нідзе крамяныя ранеткі, а лісця амаль не было. І сланечнік пад акном выглядаў абгарэлым, са сваёй адкручанай галавой. Гразка і цемнавата. Але дзед надзеў паверх ватоўкі вялікі брызентавы плашч з башлыком. Ён яго і да кароў заўсёды браў, хоць і не было дажджу. Сёння ж дождж ішоў. Аднастайны і дробны — кастрычніцкі. З рыдлёўкай, у гумовых ботах, дзед рушыў праз выган да лесу. Я ведаю, куды ён. Каб не дождж, то і мяне б абавязкова ўзяў. Я капаць умею. А дзед выправіўся да лесу. Чорны сланечнік захістаўся, як п'яны. Дождж пачаўся сапраўдны — касы, з ветрам. Праз гадзіну я заўважыў кропку, якая аддзялілася ад іржавай сцяны лесу. Потым кропка пабольшала, нарэшце можна было разгледзець і дзеда. Яго брызентавы плашч зрабіўся цёмна-каляным, а гумовыя боты блішчэлі. Дзед прайшоў пад вокнамі хаты, я пагрукаў у шыбку, але ён не пачуў. Тады я выбег у сенцы, каб паглядзець на невялікае дрэўца з каранямі, прынесенае з лесу. Гэта была дзічка… На наступны дзень мы разам пасадзілі яе на агародзе за хатай. Я сам капаў ямку. «Як прыжывецца, то прышчаплю, і будуць вам дулі. І не будзеш па чужых садах гойсаць»...

Дзед паспеў пакаштаваць тых ігруш — салодкіх і даўкіх. Але паспявалі яны па восені, а не напрыканцы лета, як разлічваў мой дзед.

* * *

**Шэрая кепка.** Усё змянілася. Моцна змянілася, амаль непазнавальна. Не ведаю, як хто, я ж беларускага мужчыну без кепкі не магу ўявіць. Сам люблю кепкі, бацька насіў кепку і дзед. Нават дзеці хадзілі ў кепках.

Не так і часта выпадае ў жыцці магчымасць папрацаваць анёлам. Увасобіць сабой і сваімі дзеяннямі вышэйшую справядлівасць. Мне тройчы такая магчымасць выпадала. І заўсёды яна была звязаная з шэрай кепкай майго дзеда Уладзіміра. Праўда, гэта цяпер, калі я дарослы, то і пачаў разумець тое сваё дзіцячае…

Штогод летам пожню дзялілі. Спрадвеку менавіта так. Дзе дзяльба — там і крыўды. Пакуль дзед быў маладзейшы, хадзіў добра і шырока, то яму і даручалі дзяліць пожню на соткі. І дзед дзяліў. Хадзіў па мокрай роснай траве з белым сажнем, мераў, калкі з нумарамі ў зямлю забіваў. Я за дзедам бегаў, малаток і калкі тыя насіў. А за намі следам мужчыны ўсхваляваныя спяшаліся. На кожным калку быў нумар хімічным алоўкам намаляваны. Калі пожня была падзеленая, то і пачыналася самае таемнае. Дзед здымаў сваю шэрую кепку…

Скручаныя ў трубачку паперкі сыпаў у кепку і клікаў мяне. Тут я пачынаў адчуваць сваю значнасць. Мужчыны стаялі вакол маўклівыя, нашатораныя, на мяне глядзелі лісліва. Кожны хацеў лепшую дзялянку травы. Каб не топка касіць было, каб трава не пасохлая, без дзядоўніку, а зялёная і густая. Я апускаў руку ў дзедаву кепку і выцягваў паперку з нумарам. Клаў у мужчынскія далоні. Нам жа з дзедам заўсёды заставалася апошняя паперка… Дзед з кепкай у руцэ ішоў глядзець нашы соткі і заўжды казаў, што я малайчына, бо пакінуў калі і не самую лепшую траву, то і не горшую.

А каб не тая дзедава кепка, то я хіба ведаў бы, што адчувае сапраўдны анёл?

* * *

**Агонь і вада.** Вельмі мала на свеце людзей, якіх не хвалюе агонь. І старыя, і малыя, і мужчыны, і жанчыны могуць доўга і зачаравана глядзець у полымя. Хаця што там такога ўбачыш? Але глядзелі нашыя продкі, мы глядзім і глядзець будуць нашыя нашчадкі. Таямніцу агню не вытлумачыць ні паэту, ні чараўніку, ні навукоўцу.

Я не дацягваўся да пячуры, бо быў вельмі малы. Прысунуў услончык, узлез на яго, а потым дастаў скрыначку запалак, якую ад мяне, малога, і хавалі так высока. Мне ж хацелася пагуляцца з агнём. Хацелася ўбачыць, як агонь нараджаецца ў маіх руках. Хацелася зыркага і гарачага цуду. Колькі запалак я падпаліў у хаце. А ў скрыначцы іх яшчэ заставалася незлічоная колькасць. Са скрыначкай у руцэ я пайшоў праз агарод, за хлеў — пад бярозы. Там і пачаў вогненныя гульні. Падпаліў адну трэсачку, потым скрутак бярэсты, потым… Каб не прыйшоў дзед, то хлеў і разам з ім падворак згарэлі б. Лета было сухое. Дым убачыў сусед, які каціў ровар і прыпыніўся, каб павітацца з дзедам.

Думаеце, што дзед мяне пакараў, насварыўся… Не! Ён зрабіў хітрэй. Ён паказаў, як можна засікаць агонь. Мы разам і патушылі тое невялікае цяпельца пад вуглом хлява. Стыхія нашай вады перамагла стыхію агню. Іншае адкрыццё было зроблена ў той жа дзень. Мужчынам быць лепш, бо мужчына можа патушыць агонь сваёй вадой, а жанчына — не…

* * *

**Брахня.** Дзед мог доўга слухаць радыё. Сядзе на самаробную канапу, кепку побач пакладзе, вуха да рэпрадуктара прыцісне, гучнасці дадасць і сядзіць, у акно пазірае. Хто куды паехаў, хто куды пайшоў, што панёс. Радыё на ўсю хату крычыць. Буда-кашалёўскія навіны былі ці не самай любімай перадачай. Заканчвалася слуханне аднолькава, што ўчора, што сёння. Пра вываз на палеткі азотна-тукавых угнаенняў дзед яшчэ слухаў. Калі ж казалі, колькі цэнтнераў сабралі з гектара, дзед браў кепку. «Брахня!» — казаў ён і надзяваў кепку. І пра прагноз надвор'я казаў тое ж самае, але заўсёды даслухоўваў. Адзінае, чаму насамрэч верыў, — былі сігналы дакладнага часу.

А цяпер і я веру толькі гэтаму піканню…

* * *

**Крыўда.** Мама плакала. Дзед на яе сварыўся, дурніцай абзываў. Яна так моцна плакала і прыціскала мяне да сябе, і цалавала, што мае валасы зрабіліся мокрымі… Але гэтага я не памятаю. Гэта мама расказала. Яна прыехала ў вёску, а я навязаны ручніком да канапы. Тапчуся мурзаты, як сабачка на ланцугу, баба каля печы ўпраўляецца, а дзед у двары дровамі займаецца. Баба чугуны з кіпенем і бульбай варанай дастае, назад у агонь стаўляе. Пара, дым, грукат. Я да печы бліжэй хачу, бо там цікава. Толькі не магу адысці ад канапы цяжкай далёка — можа, на якіх пару крокаў. Прывязаў дзед ручнік добра, вузел за спінаю дзіцёнку двухгадоваму не развязаць. Цяпер я разумею: правільна дзед рабіў, бо бярог мяне ад бяды.

А раней, калі мама расказвала, то заўжды сябе і яе шкадаваў.

* * *

**Старое люстэрка.** Стаю пры акне, за якім ружова-шэры ранішні туман. Гляджу на сябе ў старое люстэрка, крыху каламутнае, а таму глыбокае, як вір. Разглядаю драпіну на шчацэ, думаю пра тое, як ціха тут у вёсцы, у хаце. Раптам бачу дзеда. Са спіны, у кароткім зімовым паліто і кепцы. Гузік на чатыры дзірачкі на шырокім хлясціку. «Дзед!» — гукаю ў люстэрка. Ён паварочваецца, як усе старыя мужчыны, усім целам. Гэта не дзед, а бацька прымервае зімовае паліто. «Цяжкое якое, не павярнуцца, як ён у ім хадзіў. Думаў, можа, у лес надзець, а то мая куртка не высахла…»

Я закрываю твар рукамі, праз пальцы гляджу ў люстэрка, як мой дзед ператвараецца ў майго бацьку.

* * *

**Іскры.** Прыкладна такой парой, снежаньскімі днямі, калі святло прыходзіла позна, а цямнела рана, дзед збіраў усе, якія меліся ў хаце, нажы. Адбывалася гэта пасля сняданку. Адзін нож быў вялікі, як меч. Лязо цёмнае, а ручка з драўлянымі тронкамі. Нажоў тых шэсць. Мы з дзедам ішлі да тачыла. Я трымаў нажы, а дзед, уздзеўшы акуляры, гайстрыў. Круціўся шэра-бэзавы шурпаты камень, сыпаліся іскры. Былі яны неверагодна зыркія, але зусім не гарачыя. Мне падабалася лавіць іх далонню. Дзед засяроджана і старанна гатаваў рыштунак. Гуло каменнае кола, звінела жалеза, я задаволена шморгаў носам. Самы вялікі нож рабіўся падобным да селядца — чорная спінка, срэбнае пуза… І на душы ў

мяне рабілася святочна, бо сёння ўвечары прыедуць бацькі, а заўтра мы будзем калоць свінню… У дзеда настрой сумнаваты, ён пакрыквае, каб я не здымаў з рук вязёнкі, не развязваў шалік, не смактаў снег.

Гэта ніколі не паўторыцца.

* * *

**Сяброўства.** У дзеда быў сябар — стары Міхалевіч. Здаецца, на пару гадоў маладзейшы за майго дзеда. Міхалевіч прыходзіў у адведкі. Здымаў кепку, вітаўся, паціскаў дзедаву руку і садзіўся да стала. На стол ставіў бутэльку, баба — чарку і закуску. Стары Міхалевіч моўчкі наліваў сабе і выпіваў. Няспешна закусваў. Праз паўгадзіны маўчання зноў наліваў і выпіваў. Сядзеў яшчэ паўгадзіны і паглядаў на свайго хворага сябра. У 1929 годзе яны з дзедам першымі прыехалі на гэтую зямлю. Першымі паставілі тут хаты. Міхалевіч уставаў з-за стала, паціскаў дзеду руку. Надзяваў кепку і выходзіў. «А чаго ён прыходзіў?» — пыталася баба. «Як чаго — пагуляць», — адказваў дзед і глядзеў на пакінутую сябрам палову пляшкі. Баба закаркоўвала гасцінец і хавала ў шкапок.

Старыя сябры разумелі адзін аднаго без слоў.

* * *

**Крыж.** І цяпер, нават з завязанымі вачамі, знайду тое месца ў лесе, той пагорак, дзе рос гожы дубок.

Ехалі са стрыечным братам. На калёсах ляжалі піла і сякера. Перад лагчынай я саскочыў з калёс і павёў каня за повад. Мы не баяліся, што нас можа злавіць ляснік. Нам трэба быў дуб, каб зрабіць дзеду крыж.

Я ўсё зрабіў, як некалі вучыў дзед. Падпілавалі дубок пры самай зямлі. Павалілі, каб ён не захрас у соснах, каб не паламаў маладзейшы дубок і дзве бярозы. Абсеклі галлё, на якім дзе-нідзе, сярод лісця, паблісквалі жаўтлявыя жалуды. Распілавалі на тры часткі камель. Самую тоўстую пакінулі доўгай. Нам ніхто не трапіўся на лясной дарозе. Мне казалі, каб я сам не рабіў дзеду крыж. Але я хацеў і таму не паслухаў дарадцаў. Абчэсваў бярвёны яшчэ дзедам нагойстранай сякерай. Стараўся, каб было роўна і прыгожа. Абпілаваў чыстыя і светлыя брусы. Выбраў далатом колькі было трэба, а потым сабраў — збіў крыж… Ручнік на крыж павязала цётка, дзедава дачка. Крыж стаяў на ганку побач з векам труны. Неверагодна светлы і чысты, як той дубок на пагорку.

Я тады яшчэ падумаў, што дзед быў бы задаволены маёй работай. Можа, і не пахваліў, але б і ганіць не стаў.

*Мінск. 2008. Кастрычнік—снежань.*





## Мікола ЛЯШЧУН

### КРЫЛАТЫЯ КОНІ

Палошча вятрыска збуялыя гоні,
Люляе ўспаміны задумлівы бор,
Імчаць мае згадкі — крылатыя коні —
У снах на палескі на родны прастор.

Бо там я пакінуў нязбыўныя мары —
Дадому ірвецца бясконца душа,
Дзе я у маленстве блукаў па імшарах,
Дзе ўецца да хаты старая шаша.

Хоць знаю — не будзе ніколі звароту
Ў той час непаўторны, той час залаты,
А сэрца ўсё болей ад году да году
Імкнецца у край свой праз навісь слаты.

І гэта не проста хвіліна натхнення,
Калі закіпае паэтава кроў, —
Радзімы павечнай жывой прыцягненне,
Мазольная сувязь паніклых вякоў.

### ЯК ЖЫВУ, ТАК І ПІШУ

Як жыву, так і пішу,
Не пішу, дык думаю.
Не кранай адно душу,
Не трывож бяду маю.

---

*__Ляшчун Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 8 студзеня 1955 года ў вёсцы Губарэвічы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў (1980). Працуе настаўнікам англійскай мовы на Лагойшчыне.*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Палескія сны».*

Неяк спраўлюся я сам
З бураю сустрэчнаю,
А сумлення не прадам —
Несыходна-вечнае.

Пакладу жыццё ў пракос,
Стомлена спынюся
Ля крынічкі, дзе узрос,
І нагбом нап'юся.

Панясу далей свой крыж
З верай пілігрыма,
Хоць падчас на свет глядзіш
Скрушнымі вачыма.

Я тугу і боль спазнаў,
Думаў, што стамлюся,
Ды Гасподзь мне сілы даў
Не скарыцца скрусе.

## ГУБАРЭВІЦКІЯ ВІШНІ

Вішні ў вёсачцы роднай паспелі —
Ліпень «галкі» ў садах пачарніў.
Смутак тоіцца неадбалелы
У цішы незасеяных ніў.

Вокал нема, нібы на пагостах,
І глядзець нават сіл не стае.
Край маленства — пакінуты востраў,
Згадкі тут пахаваны мае.

Не сасню больш, напэўна, ніколі,
Тых ружовых і радасных сноў.
Разрываецца сэрца ад болю —
Я па сцежках маленства прайшоў.

Толькі ў снах ды ў заваблівых мроях
Наталюся мінулым спаўна.
І чамусьці мне чуецца тое,
Што ва ўсім і мая ёсць віна.

## МАЛІНАЎКА

Жалобна кліча кнігаўка
З радзінных паплавоў.
Сталічная Малінаўка,
Мне хочацца дамоў.

Я на сваю зямельку
Без крылаў палячу,
Спраду сваю кудзельку
І душу залячу.

У горадзе багата
Прывабаў і спакус.
А там — пустая хата!
І ў сэрцы — землятрус.

Ужо не ступяць ногі
Па ранішняй раллі,
Ўсе сцежкі і дарогі
Травою параслі.

Сталічная Малінаўка,
Мне хочацца дамоў.
Жалобна кліча кнігаўка
З радзінных паплавоў.

## ПАСЛЯ ПАЕЗДКІ Ў РОДНУЮ ВЁСКУ

Нарэшце спаткаўся з радзіннай зямлёю
І ў скрусе да бацькавай хаты дакрочыў.
Што сталася з хатай і вёскай маёю —
Хай лепей зусім бы не бачылі вочы!

Таполі і вербы без нас аўдавелі,
На вуліцы шчэціцца ссохлы быльнёг.
І жмут растрапаны ссівелай кудзелі
На вечны спачын у застрэшку залёг.

Ні клуба, ні школы не бачна — у лесе,
І выган учэпістым хмызам парос.
І ценямі продкаў жывое Палессе
Праходзіць над хатамі ў высях нябёс.





Валерый ГАПЕЕЎ

# РАЗВІТАЛЬНАЯ ВЯЧЭРА

*Сямейная драма*

## 1

Дом быў не стары, высокі і светлы — абшаляваны і пафарбаваны знізу сіняй, пасярэдзіне — жоўтай фарбай, накрыты ацынкаванай бляхай. Двор густа здзірванеў невысокай травой, па ёй, пэўна, было б прыемна прайсці басанож. Івану, які нёс вялізны баул сястры, захацелася зараз менавіта гэтага — зняць туфлі, шкарпэткі і адчуць мяккае казытанне травы на падэшвах ног.

Дзверы ў сенцы былі адчыненыя.

Зайшлі. Спачатку Іван, за ім, з меншым баулам, Надзея, яго сястра. Апошняй нясмела, употай хутка ўсё аглядаючы, увайшла Лена. Яна пагадзілася ехаць з Іванам цяпер, каб пазнаёміцца з яго бацькам, братам і сястрой — балазе, усе павінны былі сустрэцца ў гэты вечар.

Але хата была пустая. Іван патузаў ручку зачыненай другой паловы дома, паваліўся стомлена на канапу каля вялікага драўлянага стала, пакрытага лінялай цыратай.

— Ну, сястрычка, я за тое, што гэта цягнуў, палову з яго з'ем.

— Ага, еш, — Надзея сама апусцілася на стул, выцягнула з-за пазухі мятую насавую хусцінку, ацерла твар і шыю. — Трусы там жаночыя, паглядзі, раптам спадабаюцца.

— Якія трусы?

— Баваўняныя, 400 штук. Добрыя, якраз для баб вясковых. Хаця і тваёй Лене можна нешта выбраць, там рэйтузы добрыя ёсць.

— А на якую халеру ты сюды столькі трусоў прыцягнула? — здзівіўся Іван.

— Не ў падарунак жа бацьку. Па вёсцы адвячоркам пабегаю — бабы расхапаюць.

---

*__Гапееў Валерый Мікалаевіч__ нарадзіўся 6 лютага 1963 года ў пасёлку Восава Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум электрычнай сувязі (цяпер — Вышэйшы каледж сувязі).*

*Працаваў майстрам у вучылішчы ў г. Балхаш (Казахстан), рабочым на мінскім ВА «Інтэграл», на прыборабудаўнічым заводзе ў Івацэвічах. Цяпер – адказны сакратар газеты «Івацэвіцкі веснік».*

*Аўтар кнігі прозы для падлеткаў «Пастка на рыцара» (2002).*

— Ну, ты даеш! І тут сваё ўхопіш. Яе тэлеграмай выклікаюць, а яна трусамі гандляваць едзе, — папракнуў Іван сястру.

— *А што там баця з яго тэлеграмамі?* — *адмахнулася Надзея.* — Прыспічыла старому чагосьці ўсіх нас сабраць, сумна яму стала, вось і нарассылаў тэлеграм. Не відаць яго нешта… У агародзе дзе-небудзь. Чакае, пакуль выйдзем, дапаможам. На стол каб прыгатавалі, любіць жа на гатовае прыходзіць. Ох, давай, Лена, ставіць што, я тут не толькі трусы везла…

Надзея прынялася разбіраць адзін з баулаў. Лена, якая да гэтага стаяла каля дзвярэй, схамянулася:

— Так-так, мы таксама з сабою прывезлі вось, трохі… — і пачала мітусліва даставаць са сваёй торбы скруткі.

— Ды не мітусіся ты! — прыпыніла яе Надзея. — Паспеем. Кліма нашага яшчэ няма.

— Зараз прыкоціць Клім на «Мерседэсе» сваім, — упэўнена заявіў Іван.

Надзея ўздыхнула.

— І калі ж я на свае колы разжывуся? Цягну-цягну, а грошы як вада — раз і сплылі… Чуеш, Іван, выйдзі ты ў агарод, а то бацька вусны закусіць. Выгледзеў, нябось, як мы ў хату заходзілі. Цяпер чакае.

— Добра, пайду, — адказаў Іван, з неахвотай паднімаючыся.

Жанчыны рыхтавалі на стол некаторы час моўчкі. Маўчанне парушыла Надзея:

— Даўно, ці што, жывяце разам?

— Мы не жывём разам, — адказала Лена збянтэжана. — У мяне пакой у інтэрнаце.

— Спіце хоць? — як аб самым простым спытала Надзея.

— А… навошта вам гэта ведаць? — Лена пачырванела.

— Ды ажаніцца гэтаму шалапуту трэба, — гаварыла Надзея, не гледзячы на Лену, з цяжкасцю рэзала селядзец. — Я гляджу, дзеўка ты нічога, ён кватэру толькі пабудаваў. А то знойдзецца якая набрыдзь, абвядзе вакол пальца і без страхі над галавой пакіне. Ён такі…

— Мы неяк не гаварылі аб жаніцьбе…

— Цю-ю, зацяжарыць не ўмееш? З дзіцём не кіне — ён у нас сумленны.

— Я не жадаю… так.

— Ну, тады сказаць проста можна, што цяжарная. Маўляў, затрымка ў мяне месяц. А потым і адгаварыцца. Ды як заява ў ЗАГСе, можна і па-сапраўднаму. І ўсе справы, — Надзея паставіла талерку з нарэзаным селядцом на сярэдзіну стала, як ставіла кропку.

— Як проста ўсё ў вас атрымоўваецца, — асуджальна зазначыла Лена.

— А чаго ўскладняць? Жыццё, яно простае: ухапіў — тваё, празяваў — хадзі галодны. Чапляцца трэба за шчасце сваё, пазногці ў кроў зрываць, а трымацца.

— Я так не ўмею, — Лена адказала цвёрда.

— Нічога, жыццё навучыць, — махнула рукой Надзея. — Папіхаешся вось, як я: з двума дзецьмі, з мужам-п'яніцам — кіпцюры адрастуць. Як аднойчы няма чаго будзе дзецям есці даць — імгненна з'явяцца. Калі дзеці заплаканыя са школы прыходзіць пачнуць, таму што з іх там смяюцца за старыя адзёжкі — і іклы выступяць. Мне вось што трэба? Перахапіла чаго нашча, на вагоннай паліцы выспалася, мужык раз у месяц пакрэкча наверсе — і ўсё мае шчасце. А дзеці — гэта іншае. Для іх усё здабуду. Сябе сто разоў прадам і сто адзін раз выкуплю, але ў іх і булка з маслам будзе, і адзенне лепшае, чым у іншых. Я ў дзяцінстве чорным акрайцам душылася,

са старой мамінай спадніцы мне сукенку ў школу сшылі — хопіць. Хай яны людзьмі пажывуць.

— А яны? — Лена прысела на краёк крэсла. — Яны таксама будуць жыць для сваіх дзяцей? Вашы бацькі жылі дзеля вас. У чым тады сэнс усяго жыцця гэтага? Калі жыць дзеля сябе? Ці не трэба для сябе?

Надзея таксама села, задуменна працягнула:

— Бацькі, гаворыш… Маці, так, для нас і жыла. Хлеб за сталом не ела, у рукаў хавала ад бацькі, каб нам потым аддаць. А бацька… Мы за стол садзіліся, калі ён канчаў есці. І даядалі, што заставалася. Ён жа ў нас працаваў! А мы — не! І маці — не! Гэта ён так лічыў. У сельсавеце ён працаваў, пісарчуком нейкім, ці яшчэ кім. Восем гадзін адседзіць, прыходзіць дахаты — сто-о-омлены. Я яму боты сцягваю, Клім на рукі цёплай вадой палівае, маці на стол накрывае. Як жа — карміцель наш прыйшоў. Паеў — на канапу, паляжаць гадзінку. Хоць там пажар, а пасля абеду паляжаць было справай святой. А дзве каровы, пяцёра кабаноў, куры, качкі, гусі, агарод — гэта ж не праца… Ведаеш, я восені і цяпер баюся. Бульбы саджалі шмат, страшная гэта пара была — копка бульбы. Дзень крукам сагнуўшыся стаіш, да позняга вечара мяшкі цягаеш. Маці тварам чарнела за месяц. І сам бацька чарнеў, нас падганяў. Сябе ён на такой працы, калі капейку ўрваць можна было, не шкадаваў. А нас тым больш… Бізун ён з свайго старога рэменя сплёў. Ім нас і выхоўваў. Так хвастаў, што па месяцу сінякі не сходзілі. Усе атрымоўвалі.

— Усе? І… маці? — спалохана спытала Лена.

— Не, маці ён бізуном не хвастаў, — адмоўна кіўнула галавой Надзея. — Маці біў кулакамі. І толькі ў жывот. Каб слядоў не было. Кашуля дрэнна адпрасаваная, суп перасолены або проста сам не ў настроі — знаходзіў прычыну. Маці прыгожая была, а ён — смаркач побач з ёй, але заўсёды з сабою на розныя гулянкі цягнуў. Вось, маўляў, пазайздросце, якая ў мяне жонка прыгажуня. А дома біў неміласэрна пасля гэтых вечарынак. Чаго, курва, таму ўсміхалася? Навошта, сука, з гэтым танчыць пайшла? І звёў у магілу…

— Як звёў?

— Так і звёў… — Надзея замоўкла на хвіліну, працягнула: — А ёй жа толькі саракавы год пайшоў. Яшчэ прыгожая была і тварам, і целам. Мне тады акурат 16 споўнілася. Даўно ўсё як было…

## 2

Адкрыліся шырока дзверы, увайшоў упэўнена Клім, у строгім гарнітуры пад гальштукам, з «дыпламатам».

— Добры дзень!

— Ай, выдатна, братка! — Надзея ўстала, падышла, каб абняць брата. — Вітаю!

Клім чуць памарудзіў, быццам у роздуме: абдымаць сястру ці не, але ўсё ж падставіў шчокі для пацалункаў, абняў.

— Ой, якім ты стаў! Проста прафесар, — Надзея, адступіўшы крок назад, агледзела з захапленнем Кліма. — Нездарма цябе маці ад бацькі хавала, каб ты не ў кароў чысціў, а кніжкі чытаў.

Клім паставіў асцярожна «дыпламат», падышоў да стала, адкрыў бутэльку мінеральнай вады, наліў у шклянку і павольна выпіў, аглядаючы хуткім поглядам Лену.

— І ты, калі б вучылася, зараз не па рынках бы цягалася. А гэта што ў нас за госці?

— Бач, кот, учуў мяса! Я вось патэлефаную тваёй Зоі, раскажу, як ты на незнаёмых жанчын глядзіш, — падчапіла Надзея.

— Гляджу, як трэба на незнаёмых і сімпатычных глядзець сапраўднаму мужчыну. З захапленнем. А пазнаёміць у такіх выпадках ты абавязана.

— Ах, манеры! Ленка гэта. Але ты на каленкі яе не зыркай, гэтыя каленкі па іншых руках нудзяцца.

— Прыгожае імя — Алена. А калі каленкі аднаму прызначаныя, значыць, ад іншых вачэй іх трэба хаваць. Хіба не так?

— Не бянтэж дзеўку. А прыгажосць толькі дурні хаваюць. Гэта Івана нашага сімпатыя. Табе ятроўка будзе.

— А, Івана... — працягнуў нібы з расчараваннем Клім. — А дзе ж ён сам?

— На агародзе, з бацькам. Ідзі і ты, ды кліч у хату ўжо, стол накрыты.

Клім падняўся і выйшаў.

Лена, пасля таго, як за Клімам зачыніліся дзверы, нечакана спытала:

— Ён любімчыкам у маці быў?

Надзея села.

— Маці-то больш за ўсіх Ваньку любіла, ён у яе і ўдаўся. Але Кліма яна берагла ад бацькі. Адчувала, што ён адзін з нас у людзі выйдзе. Яна аб гэтым марыла: каб мы былі пры грашах, пры чыстай працы. Клім вучыўся добра. Цямлівы ён... Усё разумеў і адносіны маці да сабе ўмеў прыкмеціў. І выкарыстаў. Бацька з маці не лічыўся ніколі, але Кліма яна перад бацькам з такой лютасцю абараняла, што і той здаваўся. Вось і вырас... Ды што я табе распавядаю, будзе час самой усіх нас пазнаць.

— Вы мне ўжо ўсіх апісалі, — Лена ўстала, прайшлася па пакоі. — Чыста тут так, не верыцца, што мужчына адзінокі жыве.

— Ага, адзінокі! Ды ён наймае, каб яму прыбіралі, варылі і мылі. Пенсія ў яго — ого! Будзе ён табе падлогу мыць. У такім доме вялікім. Будзь ён пракляты, дом гэты! — нечакана закончыла Надзея з надрывам.

— Ой, як жа вы так...

— Закончылі ўжо ўсё, — загаварыла Надзея задуменна. — Маці гліну мясіла, нас са школы чакала — трэба было па лесвіцы гліну на гарышча падаць, комін печкі атынкоўваць. Не стала чакаць маці нас, сама палезла на гарышча... Іван у другую змену хадзіў, ды яму тады 13 было, ростам малы, слабы. Ён маці і знайшоў. Сарвалася яна з лесвіцы, вядро з глінай акурат на грудзі ўпала. Дактары гаварылі — памерла імгненна... Што ж яна нас не пачакала тады... Ну, здаецца, усё ў нас гатова? — рэзка змяніла яна тэму. — Дзе там мужыкі?

Яе слоў быццам чакалі — дзверы адчыніліся і зайшлі ўсе адразу: Клім, Іван і іх бацька, Сямён — высахлы, танклявы, увесь сівы, але акуратна падстрыжаны і гладка паголены.

— Бач, хутчэй стол ставіць, а яблыкі ў садзе гніюць, сабраць няма каму. Грошы пад нагамі валяюцца... — выгаворваў Сямён дзяцей.

— Хопіць бурчаць, баця. Ці здаровы? — прымірэнча сустрэла яго Надзея.

Сямён сеў за стол, хуткім поглядам акінуў яго.

— Здароўе, здароўе... Чужыя людзі даглядаюць, здохну, хаваць не прыедзеце.

— Ну, тата, аб смерці рана думаць. Аб жыцці гаварыць трэба. Бачыш, якая нявестка ў цябе будзе? — загаварыў Клім, прысеў за стол.

Сямён павярнуўся да Івана, які сеў побач з Ленай.

— Ажэнішся, значыць? За блаславеннем прыехаў?

— Мне тваё блаславенне не трэба. Не табе з Ленай жыць, — рэзка адказаў малодшы сын. — Ты дзверы ў другую палову адчыні.

— А ты што там забыў?

— А мне табе дакладваць, куды ў сваёй роднай хаце нагу паставіць?

— Хе-хе, сваёй, — прыжмурыўся Сямён. — Мая гэта хата! Мая! Ты сабе кватэрку пабудаваў — гэта твая. А гэта — мая...

— З сабою ў магілу не панясеш.

— Іван, ты чаго гэта, як самавар, разышоўся? — папракнула брата Надзея. — Якая цябе муха ў садзе ўкусіла? Садзіся, Іван. Клім, налівай. Тры гады не бачылася, толькі па тэлефонах, а сустрэліся і слова добрага не знайшлі адзін для аднаго.

— Паспеецца выпіць, — стаяў на сваім Іван. — Мне трэба ў святліцу спачатку.

Сямён дастаў ключы з кішэні, моўчкі адамкнуў дзверы ў другую палову хаты.

— Ну, схадзі, схадзі. Ды не чапай там нічога, учора прыбіралася...

— Мне твайго дабра не трэба. Пойдзем, Лена, — запрасіў Іван сваю дзяўчыну.

Яны прайшлі ў другую палову хаты. Іван адразу ж падышоў да вялікага партрэта маладой жанчыны на сцяне — партрэта маці, зняў яго. Дастаў насоўку, працёр асцярожна шкло. Павесіў рамку на месца.

— Гэта маці, — сказаў ён Лене, павярнуўся да партрэта і загаварыў з ім, як з жывым чалавекам: — Добры дзень, мама! Ты прабач, што доўга не прыязджаў — закруціўся з гэтай кватэрай зусім. У мяне ўсё добра, мама. Вось, вырашыў ажаніцца. Яна дзяўчына добрая, мая Лена, ты сама, мама, убачыш. Так што слова, якое я табе тры гады назад даў, я стрымаў. І ўнукі ў цябе яшчэ, значыць, будуць. Мы дваіх нарадзіць хочам. А як ты, мама? Сумна табе тут... Ты мяне прабач — я нікому не магу той праўды расказаць. І таму ненавіджу сябе з кожным годам усё больш. А яго ненавіджу так, што глядзець не магу. Але сказаць — нікому не магу. Быццам закляцце якое на мяне ён наклаў, калі крычаў мне ў твар, слінай пырскаў. «Не было мяне тут! Не было! Не было!»... Я трымаў тады цябе за руку, а рука халаднела. Мне здавалася, што і на самой справе нікога не было на свеце — толькі я, знямелы ад страху, і ты, якая памірае. Ці ўжо мёртвая. Дзесяць гадоў мне здавалася, што то быў страшны сон: ты на хісткай лесвіцы, з вядром гліны, а бацька ўнізе. Твая спадніца старая, лінялая да поўнай шэрасці, учапілася за цвік. Тканіна разышлася бязгучна, ад самога пояса, і ў прарэзе агалілася твая нага. У цябе былі прыгожыя ногі... Мама, ты прабач мяне, я хачу табе сёння прызнацца... Мы, людзі, памятаем не сам час, а падзеі ў ім: самыя яркія, самыя светлыя. Я памятаю, што быў зусім маленькім. Ты павяла мяне ў суседскую лазню. Калі ты палівала мяне голага там гарачай вадой, хвастала венікам на палку, мыла — я нічога не бачыў. Ды і цяжка было нешта ўбачыць у пары пры цьмяным язычку свечкі. А потым ты выцірала мяне ў прылазніку ручніком, які быў трохі жорсткі, але пах так цудоўна! У прымыльніку гарэла электрычная лямпачка, пераноска. Ад твайго цела ішла пара. У цябе на плячы, на левым, прыляпіўся лісток ад веніка. Мне карцела яго зняць, але раптам я зразумеў, што ён блізка ад тваіх грудзей. Я паглядзеў на іх і ... мне, мама, стала сорамна. Пэўна, я быў тады сталей, чым здавалася табе. Я не мог глядзець на цябе, але я бачыў цябе, мама. Я тады зразумеў, якая ты прыгожая... Ты прабач мяне за тое, мама. Мне было сорамна. Сорамна ад таго, што мне

хацелася глядзець на цябе… І я разумеў, што глядзець нельга… У цябе былі прыгожыя ногі, мама. І калі бацька ўбачыў, як агалілася адна, цалкам, ён закрычаў тады па-вар'яцку: «Чаго выставіла зад, сука!» І стукнуў ботам па лесвіцы. І пад табой суха стрэліла прыступка лесвіцы. Яна зламалася. І ты звалілася. Я ўбачыў гэта з акна… Ты прабач, мама, што толькі зараз расказваю ўсё гэта табе. Прабач, што столькі часу твой забойца ходзіць па зямлі... Мая Лена прывезла насенне кветак. Заўтра мы прыйдзем да цябе туды, на могілкі… пасадзім кветкі, і я цябе пазнаёмлю з Ленай. Ты адразу зразумееш, што яна добры чалавек. Ну, не самая сімпатычная, не такая прыгажуня як ты, але яна на цябе вельмі падобная. Душой. Ну, я пайду, а то ім там засмягла ад жадання выпіць. Да заўтра, мама...

Іван моўчкі ўзяў Лену за руку. Яны выйшлі, селі за стол.

### 3

— Ну, усім наліта? — бадзёра загаварыла Надзея. — Давайце за сустрэчу!

Сямён браў ежу рукамі, еў, смачна прыцмокваў.

— Бач, як цары есці сталі. Каўбаса, рыбка вэнджаная, гарэлачка заморская.

— Раз у год можна і паесці смачна, — адгукнулася Надзея. — Ды і што тут такога? Ці ж не для таго ўсе гэта робяць, каб людзі елі? Налівай па другой, Клім, ды давайце па справе гаварыць. Чаго, дзед, тэлеграмамі ўсіх сабраў? Што здарылася?

— Так, так, — Сямён адкінуўся на спінку крэсла, пакалупаўся пазногцем у зубах. — Пагаворым зараз, пагаворым.

— З гэтай штукай лягчэй гутаркі весці і справы рабіць, — рагатнуў Клім, наліваючы гарэлку.

— Як жа, як жа, — ускінуў вочы Сямён на Кліма. — Гэтая штука дапамагае… Нават званні навуковыя атрымоўваць.

— Што… Што ты гэтым жадаеш сказаць, тата? — замёр Клім. — Гарэлка навуцы перашкода…

— Як сказаць, як сказаць… Гарэлка — яна ўсюды гарэлка. Мне за гарэлку аруць і сеюць, жнуць і дапамагаюць. Ды і вам яна дзверы вось да гэтай каўбасы адчыніла. Так жа, Надзька?

— Ты аб чым, баця? — разгублена спытала Надзея.

— Так, аб тым усё, аб гарэлцы. Яна выдатна і табе дапамагае.

— Ну, дапамагае. Узімку за прылаўкам без яе нікуды. У цягніку праваднiцы даць трэба… Ох, ды ці мала каму…

— Ну, за тваё здароўе, тата! — Клім падняў кілішак.

— Хе, здароўя мне жадаеш. Глядзі, як бы смерці маёй не захацеў.

— Чаго мне табе смерці жадаць? — папярхнуўся Клім.

— Хто яго ведае, хто яго ведае, — мякка загаварыў Сямён. — Вы, дзеткі мае, думаеце я вас сюды навошта паклікаў? Дакладна, Клімушка, аб заўтрашнім пагаварыць. Аб маім, аб вашым. Чаго гэта мяне павінны чужыя людзі даглядаць?

— Сам жа наняў! — абурылася Надзея. — Магла б і я раз у тыдзень прыязджаць.

— Ну, чаго табе, дачушка, сябе трудзіць, ездзіць. Я лепш сам да цябе прыеду. Жыць.

— Як жыць? Назусім?

— Пакуль не памру, — пацвердзіў Сямён. — Я вас гадаваў, даглядаў, пара і доўг аддаць.

—Ты даглядаў? — Надзея адышла ад разгубленасці. — Ды я ад шчаўя аднаго па вясне крывавым паносам пакутавала! Хлеба чорнага ўдосталь не ела. А зараз ты мяне папракаць тым будзеш? Ну ды чорт з табой — ідзі, жыві, але толькі дом гэты тады мой, і «жыгуль», які ў хляве дзесяць гадоў іржавее, — мой. І пенсіі палову ты мне аддаваць будзеш. Вось тады будзеш у чыстым, накормлены і дагледжаны.

— Бач, як дачушка мяне любіць. Хе-хе...

— Той любоўю, якой і ты мяне любіў! — раз'юшылася Надзея, стала казаць з крыўдай: — Мая спіна па гэты дзень твой бізун памятае. Мне назаўтра фату апранаць было, а ты мяне, у лазню заскочыўшы, голую адхвастаў, не пасаромеўся нават. Я сваю першую шлюбную ноч у сарочцы праляжала, праплакала, мужу не магла нічога патлумачыць. А завошта? На штанах тваіх спехам прас пакінула.

— Ты ледзь хату не спаліла! — закрычаў Сямён.

— Але ж не спаліла! — цвёрда ўступіўся за сястру Іван.

— Бач ты, абаронца! А ты бацьку ў сваю кватэру на якіх умовах прымеш? — хутка спытаўся ў Івана Сямён.

— Ні на якіх. Я табе магу толькі ў адным шляху дапамагчы — на могілкі.

Усе, акрамя Сямёна, уздрыгнулі. Калі яшчэ пасля слоў надзеі заставалася хоць кропля спадзявання, што вячэра пройдзе міралюбіва, то цяпер стала зразумела, што гэта не вячэра...

— Нянавісці, нянавісці ж колькі, — быццам з ухвалай зазначыў Сямён. — І завошта ж ты мяне так ненавідзіш?

— Забыў?

— А чаго забываць? — паціснуў плячамі Сямён. — Што ў інтэрнат цябе не аддаў? Што грашыма, калі вучыўся, не дапамагаў? Дык былі ў цябе ўжо памагатыя — Надзька, вось.

— Не тое ўспомніў! — з пагрозай выціснуў скрозь зубы Іван.

— Ну, хопіць вам, — перабіў Клім, спадзеючыся вярнуць мір за стол. — Калі ўжо так востра ўзнялі пытанне, прыязджай, тата, да мяне. Наконт хаты і аўтамабіля, думаю, пытанне можна вырашыць па справядлівасці. Хто бацьку дагледзіць, той, лічу, мае на гэта права...

— А кім гэта пабудавана? На чые грошы? — Надзея нават прыпаднялася на крэсле.

— На мае, дачушка, на мае, — зазначыў Сямён.

— Гэта дакладна, на твае, — згадзілася Надзея. — Маці ты на працу не пускаў. Дык ты ж ад нас гэтыя грошы забіраў, мы ж у абносках хадзілі, бульба ды малако — уся ежа. Мяса раз у год, на Вялікдзень елі. Што вырадоўвалі, ты ўсё здаваў. І сёння ты гаварыць станеш, што толькі табой хата пабудавана?

— Мной, дачушка, мной.

— Вось што, бацьку вырашаць, каму хату пасля смерці пакінуць, — умяшаўся Клім. — Узяліся дзяліць спадчыну пры жывым гаспадары.

Сямён раптам рэзка склаў кукіш, абвёў ім дзяцей.

— Вось вам хата!

Склаў кукіш на другой руцэ і яе рэзка выкінуў наперад:

— А вось вам «жыгуль»! З'елі? Прадаў я ўжо машыну, цю-цю! Ага! І хату прадаў! Праз тры дні тут новы гаспадар будзе.

— Як прадаў?

— Хату маці?

— А грошы дзе?

Гэтыя воклічы яго сыноў і дочкі зліліся ў адзін ускрык здзіўлення і роспачы. Потым хвіліну стаяла цішыня. Сямён сам наліў сабе гарэлкі, выпіў, не спяшаючыся закусваў.

— Бач, разагналіся, — загаварыў ён цяпер спакойна. — А жыць я буду там, дзе захачу. Магу ў кожнага па чарзе.

— Няма ў мяне месца, — не хаваючы крыўды загаварыла Надзея. — Двое дзяцей, кватэра двухпакаёвая.

— Не выганіш жа, калі прыеду. Не выганіш…

— Выганяць не буду. Толькі… — Надзея задумалася і нехаця працягнула: — Я ў раз'ездах часта, а дзеці цябе і забылі ўжо з-за тваёй такой гасціннасці. Могуць не пазнаць. А дзверы чужому яны не адкрыюць, навучаныя.

— Вунь як…— працягнуў, быццам з радасцю, быццам чакаў менавіта такога адказу, Сямён і звярнуўся да старэйшага сына: — А ты, Клім, так салодка слаў… Пусціш бацьку роднага на парог?

— Бачыш, бацька…— Клім нервова пакруціў пусты кілішак у руцэ, памарудзіў. — Мы з'язджаем на тры месяцы за мяжу, а кватэру ўжо здалі кватарантам. Капейка лішняя не памяшае. Хто ж ведаў…

— Нічога, я з кватарантамі пажыву.

— Мы здавалі ім кватэру на ўмовах, што яны будуць гаспадарамі гэтыя тры месяцы. Я не магу іх выгнаць. Грошы яны заплацілі наперад, — ужо цвярдзей заявіў Клім.

— Ну, тады мне да малодшага прыйдзецца падацца, — крутнуўся Сямён разам з крэслам да Івана. — Новая нявестка абходжваць будзе. А я ёй падарунак вясельны за тое зраблю.

— Прыходзь — я цябе з лесвіцы спушчу, — сказаў Іван амаль весела.

— Вось як! Во, выгадаваў дзетак. І вады перад смерцю не пададуць, — пляснуў сябе па калене Сямён. Здавалася, апошнія словы дзяцей яго толькі больш весялілі.

— Прыязджай да мяне, добра. Але каб пенсію я атрымоўвала, — звярнулася да бацькі Надзея, нешта як падлічваючы.

— Таргавацца, значыць? — хітра прыжмурыўся Сямён.

У яго гэтых прыжмураных вачах, спакойным і адначасова яхідным голасе, падспудна адчувалася нейкая ўтоеная ад іх усіх пагроза. Надзея адчула гэтую пагрозу сваім бабскім чуццём першая і першая ж вырашыла хоць нешта змяніць:

— Мне гандляваць не прывыкаць. Толькі дзяцей маіх ты аб'ядаць не будзеш. І плату я з цябе за мыццё браць буду, як ты з мяне ў дзяцінстве браў. Я табе за кожны кавалак хлеба нешта зрабіць павінна была. Вось і ты мне плаці. Рабаваць не буду. Вазьму, колькі трэба. Астатняе — тваё.

Сямён замоўк надоўга, сядзеў, схіліўшы галаву долу і ўбок. Потым загаварыў, і кожнае яго слова гучала ўсё гучней і пагрозлівей:

— Ну, дык вось што я вам скажу, дзеткі мае. Я нечаму за жыццё навучыўся. І вас добра ведаю. Добра… Вось вы ў мяне дзе ўсе! — ён сціснуў кулак, выставіў яго высока ўверх. — Тут! Ты, Клім, тут. І ты, Надзька, тут. І ты, Іван, тут. Тут усе. Усе. І нікога адгэтуль не выпушчу.

## 4

— Што ты жадаеш гэтым сказаць, бацька? — нервова спытаў Клім.

— Табе сказаць? Ну, давай, ты першы… Вучоным, значыць, стаў? Працу напісаў, прэмію атрымаў. Хе, хе, добра. А хто такі Сяргей Пушкароў, памятаеш? Дакладна, дакладна, вы з ім разам у аспірантуры былі, і сюды вось, у хату гэтую, разам прыязджалі. Любіў выпіць Сярожка, любіў. І пагаварыць любіў. Ох, светлая галава была ў хлопца. Шмат ён мне чаго нарасказваў. Звычка ў яго была — як вып'е, так распавядае, як распавядае, так абавязкова малюе нешта, піша. Каб мне, старому, зразумела было. Ой, шмат мне ён распавядаў! А колькі папер для мяне змараў, колькі ён начамі тых папер перапсаваў! А я ўсе тыя паперкі, ім спісаныя, захаваў… А далей што было, нагадай, Клім? — Сямён прыжмурыўся, глядзеў на сына, як глядзяць на трапіўшую ў пастку здабычу.

— Што было, што было… Спіўся Сяргей, у аварыю патрапіў, — нехаця сказаў Клім.

— Дакладна. Усё дакладна, — у згодзе паківаў галавой Сямён. — А ў каго ён у пакоі да трэціх пеўняў гарэлку піў? Хто яму наліваў? Ай, вялікая сіла — гарэлка. Не да ідэй стала светлай галаве. А гэта ты, Клім, яго спайваў. І ў той вечар, калі ён разбіўся, ты частаваў сябра свайго. Моцна частаваў. Чаго, маўляў, не выпіць, у мяне заначуеш, за руль не сядзеш. А потым ты быццам па бутэльку пайшоў ды заадно і сваёй знаёмай дзеўцы патэлефанаваў — прыходзь тэрмінова. І прыйшла дзяўчынка. Па тваім званку прыйшла, а не сама, як ты Сярожку сказаў. Ён, зразумелая справа, не захацеў вам перашкаджаць. Адправіў ты яго, у вусцілку п'янага. Ён і з'ехаў. Назаўжды з'ехаў. А паперы яго засталіся. У цябе засталіся, у мяне засталіся. Калі праз паўгода ты са сваёй працай на вяршыню славы сваёй падняўся, купіў я часопіс той разумны з тваёй пісанінай. Нічога я там не зразумеў, але параўнаў з Сярожавымі паперамі… Украў ты! Нябожчыка абабраў! — Сямён перайшоў на крык. — Усё прахам у цябе пойдзе, калі я свае паперкі, Сярожкам спісаныя, пакажу, дзе трэба!

Кліма як кантузілі гэтыя словы бацькі. Ён некалькі раз адкрываў рот, каб загаварыць, але толькі праз хвіліну маўчання ў яго атрымалася выціснуць з сябе:

— Ды як… Як ты смееш мяне ў чым вінаваціць? Што ты разумееш у навуцы? Што ты ўвогуле ведаеш аб маіх справах?

— Смею, смею, — спакойна ўжо і ўпэўнена адказаў Сямён.. — Я не разбіраюся — іншыя разбяруцца.

— Ты… ты.. — У Кліма не знайшлося слоў, ён падняўся і моўчкі выйшаў з хаты.

— Куды? — наўздагон кінуў яхідна Сямён. — Тэлефанаваць пайшоў, каб кватаранты не спяшаліся? Ідзі-ідзі…

— А ты гад… — пасля хвіліннай цішыні працадзіў скрозь зубы Іван.

— Маўчы, да цябе чарга не дайшла, — адмахнуўся як ад мухі Сямён.

— Мяне не возьмеш, я сяброў не спойваў.

— А цябе і браць не буду. — Сямён быццам задумаўся на хвіліну, працягнуў: — Лена твая, яна па бацьку Антонаўна? Котава Алена Антонаўна, а?

— Што? — Лена здрыганулася.

— Не чапай Лену! — Іван прыпаднябся на крэсле.

— А я і не чапаю. Пакуль не чапаю. А магу і спытаць: чым ёй яе юнацтва запомнілася, што найбольш узрушыла... Потым спытаю, прыйдзе чарга… Я вось пакуль з дачушкай пагаварыць хачу.

— Ну, я чым саграшыла? — імкнучыся захаваць самавалоданне, загаварыла Надзея, але голас выдаў яе, задрыжаў.

— Што, няма граху за душой? Пакапайся ў душы, пакапайся, можа, на дне там што і ляжыць… Насцю Дворыну памятаеш? — рэзка выгукнуў Сямён.

І Надзея раптоўна, быццам стукнулі яе, асунулася.

— Памятаю…

— Мне табе расказаць, як ты да яе двух грамілаў падаслала даўгі выбіваць і што з гэтага выйшла?

— Я ніякіх грамілаў не засылала… — пабялеўшы, выгаварыла Надзея. — Не думала, што так выйдзе… — з горыччу прадоўжыла яна. — У мяне рэйс зрываўся, я сама без грошай была, а яна хавацца ад мяне кінулася.

Сямён сеў прама, зноў стаў калупаць у зубах каравым доўгім пазногцем.

— Хавалася яна, гэта дакладна. Тут у нас, у вёсцы, і хавалася. У хляве, побач з каровай. Бо ёй гэтыя грамілы, як там яны завуць, лічыльнік уключылі.

— Я іх не пасылала! Я іх у вочы не бачыла! — у роспачы закрычала Надзея.

— І гэта дакладна, — кіўнуў Сямён. — Табе іншы знаёмы. Той, да якога ты звярнулася, ды за гарэлачкай угаварыла дапамагчы доўг вярнуць.

— Няпраўда, — выціснула Надзея скрозь зубы. — Не так усё было! Не дакажаш…

— Дакажу, дакажу… — упэўнена працягнуў Сямён. — Насця да мяне забягала грошай пазычыць. Цябе згадвала, гаварыла, што забіць яе могуць. Грошай я ёй не даў — з дзяцінства гэтую шылахвостку ведаў.

— Ніхто Насцю не забіваў…

— Гэта так. Сама павесілася, — згадзіўся Сямён. — Толькі яе перад гэтым ох як білі. Балюча білі. І такое з ёй вытваралі, такое вытваралі… Усё я праз шчылінку бачыў. Старая адрына, шмат у ёй шчылінак. І чуў я ўсё. Дзве тысячы з яе пыталі. А з тым лічыльнікам і ўсе чатыры. Паперы ёй падсоўвалі, каб падпісала. А яна адмовілася, крывёй плявалася. Яны ёй дзень тэрміну далі, з'ехалі. А яна, адразу пасля гэтага, пятлю зрабіла, на шыю накінула, ды і скокнула. І хруснулі пазванкі… Імгненна, стала быць, памерла, не мучылася…

Іван амаль ускочыў з крэсла, навіс над сталом — збялелы, напружаны, закрычаў:

— Ты бачыў? Ты, гад, глядзеў, як яе білі і гвалтавалі, глядзеў, як яна робіць пятлю, вешаецца? Ты не паклікаў на дапамогу, не спыніў яе, не паклікаў маці? Ты не гад. Ты горшы...

— А чаго ў чужое жыццё лезці? — абыякава зазначыў Сямён, не звяртаючы ўвагі на «гад». — Жыццё ў кожнага сваё, кожны ім распараджацца вольны.

Іван не садзіўся на месца.

— Але Надзьку ты гэтым не возьмеш, на яе сумленні мо і ёсць смерць Насці, але ёй за гэта перад Богам адказваць, а не перад людзьмі.

Сямён хітра прыжмурыўся:

— Вось тут якая закавыка атрымоўваецца: тых, хто Насцю катаваў, да гэтай пары шукаюць. А Надзька, можа, і ведае, як на іх выйсці. Я ў хаце Насцінай маці, калі перапалох падняўся, паперку адну падняў, запіску ад Надзькі.

— Дзе яна? — амаль ускрыкнула Надзея.

Сямён не адказаў на гэты выкрык, спытаў, прыжмурыўшыся:

— Так памятаеш, дачушка, як ты ў той запісцы Насці пагражала, штоноймеш каго-небудзь, і яны даўгі з мёртвай выб'юць? Я паперку гэту ў міліцыю аднясу. Павінюся, што доўга трымаў, дачка ўсё ж мая. А зараз вось жадаю ўсё па законе. Вось ты ў міліцыі і раскажаш, каго ты наняла. А якое ў цябе жыццё пачнецца пасля гэтага, табе лепш ведаць.

— Не наймала я нікога! — адчайна ўскрыкнула Надзея і панікла, са слязамі ў голасе дадала: — Мяне ж заб'юць. Ты смерці маёй жадаеш?

— А па мне лепш мёртвай дачку аплакаць, чым жывую.

— З якім бы задавальненнем я...— выціснуў праз зубы Іван, нахіліўся яшчэ больш да бацькі.

— Што? Забіў бы мяне? Рукі кароткія! — рагатнуў Сямён, ані не выказаўшы непакою.

— Хопіць рук!

Іван рэзка кінуўся праз стол, схапіў рукамі бацьку за горла.

**5**

Лена тут жа схапілася ззаду за пінжак Івана:

— Ванька, Ванечка, не трэба!

На дапамогу Лене кінулася і Надзея, з бабскім надрыўным лямантам:

— Ванечка! Ванечка! Пакінь ты яго, не бяры грэх на душу!

Іван адпусціў рукі, яго пасадзілі. Сямён пацёр шыю, нічуць не здзівіўшыся нападам на яго, ён і бараніцца не спрабаваў, загаварыў адно з лёгкім здзіўленнем:

— Ты глядзі! А задушыў бы! Э, недаацаніў я цябе... Бач ты які!

— Я адгэтуль цяпер з'еду, калі цябе ў зямлю закапаюць, сказаў Іван, падкрэсліваючы кожнае слова:

— Дык забі ды едзь! Чаго чакаць?

І тут Надзея раптам забожкала з падвываннем:

— Божа, ды што ж гэта такое? Божа, ды людзі вы ці хто? Вы ж родныя! А-а-а Божа ж мой...

Так, з падвываннем яна вылезла з-за стала, пайшла, калыхаючыся, у другую палову хаты. За ёй паднялася і пайшла Лена, гукнула за сабой Івана. Той таксама вылез з-за стала.

Сямён нібы не бачыў гэтага, пацягнуўся за бутэлькай. Наліў, выпіў, стаў ціха есці.

Надзея сядзела на старой канапе, апусціўшы галаву на калені. Плечы яе сутаргава ўздрыгвалі. Плакала яна моўчкі. Іван стаяў ля дзвярэй, нібыта каравуліў каго. Лена села на крэсле побач з Надзеяй, нясмела кранулася яе пляча.

Надзея ўзняла на яе заплаканы, чырвоны твар:

— Ды хіба ж так можна? ...Ох, як з гэтымі торбамі па рынках пацягаешся, па цягніках, па вакзалах — чаго толькі не наслухаешся, чаго не перажывеш... Куды ад гэтай злосці дзецца, чым ад нянавісці прыкрыцца, за што ад зайздрасці схавацца, дзе зневажанне пературываць? Адно ўсяму месца — сям'я. На крылах дахаты ляціш, а зойдзеш — калені падгінаюцца... Нешта не тое ў мяне... Муж папівае добра, ды і гуляць на баку стаў, чую. Дочкі грубіяняць, насы на парозе вернуць, кажуць: смярдзіць ад цябе... Усіх у мяне з імі гутарак: як справы, ды дай грошай. З бацькам і то яны больш размаўляюць. Чужая я ў сям'і стала. А чаму? Я ж сябе не шкадую, усё ім цягну:

і ежу, і адзежу. Прымаць сталі, як належнае. І забылі, як некалі абарванымі хадзілі, забылі, як бульба вараная была на абед і смажаная на вячэру. Бядней жылі, ды неяк дружней. Там няма мне супакою, і тут вайна. Ой, а хіба ж хацелася, каб так выйшла? Хіба ж так бачылася? Вось прыехала б з дзецьмі ды з мужам, братоў ды ятровак сустрэла, дзеда з бабай гасцінцамі ды ўнукамі папесцілі б. Лазню б напалілі, стол у садзе накрылі. Сядзелі б за вялікім сталом — усе-ўсе. І ўспаміналі самае добрае. Смешнае. Каб весела было, радасна… Ёсць жа ў кагосьці такое?

— Не ведаю, — ціха адказала Лена. — Думаю, што калі ўсё максімальна па праўдзе, то такога не будзе. У кожнага чалавека сваё бачанне, нехта крыўдлівы больш, нехта больш амбіцыйны, нехта славалюбівей.

— Я веру — у некага ёсць, — пераканана адказала Надзея. — Ёсць такая сям'я. Там дзеці між сабою сябруюць, маці і бацьку паважаюць. Там любоў ёсць, паміж усімі любоў. Там рады адзін аднаму проста таму, што рады, што хочацца ім родныя твары бачыць. Эх, сустрэць бы такую сям'ю! Я б спытала ў іх — як? Як жыць, каб жыццё ў радасць было? Ты ведаеш, як?

— Не, я не ведаю…— разгубілася Лена, і асцярожна спытала: — Скажыце, а з Насцяй… Гэта праўда?

— Праўда… Я потым даведалася. Дачка ў яе ёсць. Муж яе забраў, як развяліся. Яна праз суд яе запатрабавала, калі… Словам, калі ад алкагалізму вылечылася. На адвакатаў моцна патрацілася. У мяне заняла, хацела зарабіць адразу многа, ды тавар не пайшоў, прагарэла… Зноў у некага грошы заняла, ды на мытні яе затрымалі — левы тавар. Ну, ад усіх хавацца стала, запіла зноў. Я яе вылавіла, кажу: кінь піць, паехалі са мной, станеш на рэалізацыю, патроху ўсё наладзіцца… Яна адно на бутэльку пазычыла і пайшла. А тут да мяне адзін на рынку падышоў. Чуў, гаворыць, вашу гутарку. Давайце разам. Яна, аказваецца, і яму павінна была суму куды большую, і яшчэ некаму. Я і пагадзілася. Адно сказала, хатні адрас яе ды адрас маці. Думала, прыстрашаць яе — пачне думаць галавой, а не гарэлкай.

— Хай бы прадала яна сваю кватэру і разлічылася. Чаго ж хавацца?

— Маці яна таму што, — уздыхнула Надзея. — Дачцэ кватэра будзе. А так… Яны што жадаеш, падпісаць прымусяць. Паяльнік вось усунуць… ды ўключаць. Усё падпішаш, калі пачнеш знутры смажыцца… І саму б у рабства прадалі. За даўгі ў нас папросту прадаюць. І не шукае ніхто. Села ў цягнік, а не сышла. Ужо не адна так прапала… У Бога мне за Насцю даравання доўга вымольваць.

— А дачка Насціна з бацькам жыве? — спытала, абы каб нешта спытаць, Лена.

— У бабулі дачка Насціна. У гэтай вёсцы. Бацька яе ажаніўся праз два месяцы пасля Насцінай смерці. А падчарка яго новай жонцы не спадабалася. Я бабу навучыла, каб не пусціла свалату тую ў кватэру Насціну. Ну, цяпер во кватэру здала, грошы дачцэ Насцінай на рахунак кладу. Яшчэ ад сваіх заробкаў дабаўляю штомесяц. Апранаю… Што ёй тут баба купіць добрае. Разумная дзяўчынка расце. І быццам разумее, чаго я так аб ёй пякуся…

— Вазьміце бацьку да сябе, — нечакана прапанавала Лена.

— Ох, і дурнічка ж ты яшчэ! — Надзея ўсхліпнула. — Куды ж яго вазьму?!

— Ён вам родны бацька, яго кроў у вас цячэ, — працягнула Лена. — А ў вас да яго жалю ніякага. Ён хутка стане хворым і нямоглым…

— Цьфу на цябе, дурнічку… У каханні ты мо і разумееш што, а вось нянавісці вучыцца трэба. Кроў родная… Дурасць. Маці мяне хоць нарадзіць, грудзьмі выгадуе. А гэты… Любіць мне яго за тое, што з маёй маці за дзе-

вяць месяцаў да майго нараджэння спаў? У маёй кватэры два пакоі, дзеўкі дарослыя амаль. А я яго характар ведаю… У мяне ж там пекла сапраўднае будзе…

— Бацька там ваш адзін застаўся…— змяніла тэму Лена.

— Ды ціха ж… Але, не сядзець жа тут вечна, — паднялася Надзея з канапы. — Пайшлі…

У пакой яны зайшлі адначасова з Клімам, які вярнуўся з двара. Клім упэўнена прайшоў за стол, сеў на сваё месца, загаварыў роўна:

— Я тут, бацька, падумаў, у мяне нядрэнная думка, мне здаецца, ёсць. Хату ты прадаў, машыну прадаў — справа твая. Я хачу табе і ўсім прапанаваць такі варыянт: прыязджай жыць на маё лецішча. Хата там вялікая, выгоды ёсць, праўда, палова з іх у двары, але вада, газ…

— З ваўкамі ў лесе жыць, тваё дабро вартаваць? — прыжмурыўся Сямён.

— Зусім не — круглы год там шмат людзей жыве старэчага ўзросту, — запярэчыў Клім. — Спакайней, чым у горадзе, вось і з'язджаюць. А мы ўсе разам ноймем табе туды каго ў абслугоўванне. Я не думаю, што табе ў гарадской кватэры будзе лепш.

— Добра гаворыш, добра…— Сямён падпёр шчаку кулаком, прыжмурыўся.

— Ну, вось, давайце вып'ем ды забудзем на ўсе калатнечы. Бо свае ж мы людзі ўрэшце! — прыкметна ўзрадаваўся Клім.

— Выкруціўся, брацік! — з'едліва зазначыў Іван, але ніхто не звярнуў, ці пастараўся не звярнуць увагу на яго словы.

Сямён адхіліў працягнуты яму Клімам наліты кілішак.

— Пачакай, пачакай, потым піць будзем. Я хачу паслухаць, што там Надзька вырашыла…

— Прыязджай ды жыві, — стомлена і абыякава махнула рукой Надзея. — Адно толькі, каб па сумленнаму: па паўгода ў кожнага. Або як Клім вось гаворыць. Можа, так і лепей за ўсё будзе. Складземся разам ды ноймем каго, каб штодзень наглядала…

— Дзякуй, дзякуй, дачушка, па сэрцы мне твае словы. Ну, а ты, малодшы, чым пацешыш?

— У багадзельню ідзі. Там табе месца, — як адсек Іван.

— Гэта здаровага бацьку, пры жывых дзецях — у прытулак?

— Не хвалюйся, возьмуць, — з той жа злосцю працягнуў Іван. — А не, ды я з цябе за паўгадзіны дурня зраблю. Прыдушу вось падушкай, а потым ажыўлю. Факт праверaны — нармальным не будзеш. Возьмуць у любую псіхушку.

— А ты зможаш…— задумаўся Сямён. — І рука не здрыганецца. Так, дзеткі, зараз, значыць, я гаварыць буду. Вы вось усе падабрэлі, хіба што Іван казырыцца. Ну, малодшыя заўсёды капрызныя... Што ты, нявестачка, мне сказаць жадала? — Сямён улавіў рух Лены.

— Я слухала, я сёе-тое пачала разумець. — Лена нацягнута стала каля стала і гаварыла роўна і ўпэўнена. — У мяне ёсць самы просты выхад з гэтай сітуацыі. Калі ўзнікае шмат праблем і адразу, трэба знайсці галоўную прычыну іх. І рашыць яе. Тут у кожнага праблема паўстала свая, але народжаная яна адным. Вашым, Сямён Карпавіч, рашэннем жыць у дзяцей. Трэба зрабіць так, каб рашэнне нельга было выканаць.

— Чакай, чакай, кажаш задужа разумна, мне не зразумець, — нават лагодна ўсміхнуўся Лене Сямён. — Ад чаго тут што залежыць? Прасцей скажы.

— Проста? Вас трэба забіць.

## 6

Надзея коратка войкнула, заціснула рот рукой. Клім адкінуўся назад, вытарашчыўшы вочы. І толькі Іван спакойна калупаў відэльцам у талерцы.

Сямён неадрыўна глядзеў на Лену, уважліва, як вывучаў яе твар, потым устаў з-за стала:

— А ведаеш, Ванька, ведаеш, нявестачка, і на вас жа ўправа ёсць, — ён павярнуўся да расчыненага акна, што выходзіла ў сад, і крыкнуў:

— Грыня, заходзь у хату!

Праз хвіліну ў дзверы асцярожна, з вінаватым выглядам зайшоў мужычок невядомага ўзросту, выскаліўся ва ўсмешцы.

— Вечар добры ў хату.

— Усё чуў? — строга спытаў Сямён.

— Дык не глухі, чуў...

— Што Іван мне гаварыў? Што гэтая дзеўка прапаноўвала?

— Так чаго тут паўтараць? — затаптаўся Грыня. — Ну, забіць, значыць, каб...

— Вось і добра, — пляснуў яго па плячы Сямён. — Усё запомніў добра, трэба будзе — скажаш, каму трэба. На, вось, гарэлачкі заморскай выпі.

Сямён наліў гарэлку ў шклянку, працягнуў Грыню. Той выпіў прагна, пусціўшы з куткоў рота бягучыя струменьчыкі.

— Дзякуй за пачастунак, — ужо адважней загаварыў Грыня. — А на памяць не скарджуся. Слова не вылеціць, як у тым магнітафоне.

Ён выйшаў, і ў хаце павісла пахавальная цішыня.

— Ты яго шпіёніць за намі паставіў? — выціснуў з сябе Іван.

— За табой толькі, за табой. — Сямён сеў за стол. — І калі што здарыцца... — Сямён пачаў гаварыць з пагрозай: — Хоць валасінка з маёй галавы не па маёй волі зваліцца — ты адкажаш. Так што маліся зараз Богу, каб здароўе ў мяне дужае было і няшчасця якога не здарылася. А не — дык сядзець табе ў турме за забойства бацькі.

Іван сціснуў у руцэ кілішак з такой сілай, што той лопнуў.

— Ой, Іванка, парэжашся! — ускінулася Надзея.

— Хопіць, хопіць кіпяціцца, — устаў і рашуча загаварыў Клім. — Калі здарылася так, нічога не вярнуць. На тым і вырашым, што я прапаноўваў.

Сямён раптам сам устаў з-за стала.

— Ты сядзь, — рэзка загадаў ён Кліму, і той ад нечаканасці паслухмяна сеў. — Мяне тут забіць прапаноўвалі... Раз астатнія маўчалі і цяпер маўчаць, стала быць, амаль згодны. Так, пытаю? — выгукнуў ён рэзка, памаўчаў затоена, працягнуў: — Мяне забіць? Вы каго забіць жадаеце? Думаеце, бацьку нялюбага? Думаеце, нейкую праблему, пра якую гэтая смаркачка напляла, у зямлю закапаеце? Не-е-е. Вы сумленне сваё забіць жадаеце, у труну пакласці. Не бацька я вам — я сумленне ваша. Я — цёмны бок вашай душы. Той чорны бок, якога вам самім кранацца не хочацца. Страшна. Той бок, на які б вы забыцца хацелі, у сон ягоператварыць. Бо калі я ў зямлю — і хто яшчэ Кліма папракне, што ён злодзей? Хто Надзьцы скажа, што яна амаль забойца? Хто Ваньку засароміць, што ён баязлівец? Сядзі, — махнуў ён у бок Івана, які ўмомант напяўся. — Забіць бы ты мяне забіў, ды і з-за баязлівасці забіваюць. Забіў бы, ды нікому б не сказаў — завошта? Ты — баязлівец! Вось вы сабраліся, на смерць мяне аддаць гатовыя. Ды якое ж права вы маеце судзіць мяне? Хто без граху, хай кіне ў мяне камень — ёсць такое ў Пісанні. Мо яна кіне? — каравы палец Сямёна накіраваўся на Лену. — Дык яна ў пятнаццаць гадоў аборт зрабіла! Цыц! — спыніў ён зноў гато-

вага ўскочыць Івана. — Я ўсё ведаю... Судзіць мяне... Бач, хлебам мяне папракаеце, азадкамі адхлістанымі... А вы самі на што здольныя? Ты, Клім, дзеля свайго дабрабыту нялюбую ў жонкі ўзяў, лепшы сябар у магілу з-за цябе пайшоў. Надзька на ўсіх людзей праз дзірку ў кашальку глядзіць, дзеля грошай і сорам, і зневажэнне трывае, з дзеўкі-прыгажуні ў брудную бабу ператварылася. Іван у баязлівасці жыве, і сёння пабаяўся сказаць, што яму ў святліцу зайсці трэба, каб перад партрэтам маці пастаяць. Ды не толькі ў гэтым прызнацца баіцца. І жыве. І сорамна яму, што баязлівец. Чым больш сорамна — тым больш баіцца, чым больш баіцца, тым больш сораму. А ў высакароднага гуляе. «З лесвіцы спушчу!» З лесвіцы мяне, старога, любы спусціць! І забіць можа кожны. І вы можаце. Вось ён я! — Сямён апантана ірвануў каўнер сваёй кашулі. — Біце! Закапаеце заўтра, раз'едзецеся — і ўсе справы. Але не выйдзе. Заб'яце — мёртвы я вам супакою не дам. Таму як грэх на грэх — два грахі. Крыж я ваш да апошняга дня вашага — вам яго несці.

Сямён скончыў ціха, нават сумна і цяжка сеў.

Цішыню парушыў Іван:

— Дзякуй, вочы мне адкрыў. Так, я баязлівец. Колькі часу я ў сабе гэтую страшную таямніцу нашу, зжыўся з ёй, як... Часткай маёй яна стала.

— А ты падзяліся, падзяліся часткай сваёй! А потым адкажы — чаго дзеля чапляўся за яе? — падахвоціў яго Сямён, нібы наперад ведаючы, аб чым будзе гаварыць яго сын. — Я табе падкажу — шкадаваў ты сам сябе. Пакутаваў і любіў сябе за свае пакуты. Ах, я штосьці ведаю, страшнае ведаю, але такі я добры, такі добры, што нікому не скажу, адзін пакутаваць буду. Шкадуйце мяне!

— Скажу... — не зусім упэўнена пачаў Іван, потым голас яго пасмялеў: — Паслухайце, ты брат, і ты сястра. Маці тады не спатыкнулася. Бацька... Ён быў тады дома. У яе парвалася сукенка, агалілася нага. Ён ашалеў, як убачыў. І стукнуў нагой па лесвіцы... Лесвіца калыхнулася, прыступка трэснула...

Усё маўчалі.

— Што ж вы... маўчыце? Ён — забойца! — разгублена закрычаў Іван.

— Ведала я гэта, Іван, — ціха загаварыла Надзея. — Пасля пахаванняў бацька ўсё расказаў. І Клім ведае.

— І вы маўчалі?!

— Па-твойму, трэба было бацьку ў турму? — спытаў Клім і сам адказаў: — А завошта? Ён што, жадаў яе забіваць? Маці ў зямлі, а бацьку — у турму... А мы потым куды? Па дзіцячых дамах?

— Словамі вінаваць, душой апраўданне шукай, — падтрымала Кліма Надзея. — І так усё наперакасяк, чаго самім сябе ў труну заганяць? І потым: бацька што — хацеў? Ці ён тую прыступку зламаў? Кліма вучыць трэба было... Цябе вось на ногі ставіць. Адна я змагла б?

— Вось вырас Клім — вучоны! — выгукнуў Іван адчайна. — Навучыўся красці!

— Вырас... вучоны... — Клім пацягнуўся было да гарэлкі, але піць не стаў, узняўся за сталом. — Ты, тата, і на самой справе той самы чорны бок. Толькі не бывае нічога чорнага, у чым не было б белага, гэта я табе ўжо як вучоны кажу. Многа ты ведаеш, ды не ўсё. Украў я ідэю — няхай так! Па вялікім рахунку — украў. А што яна — ідэя? Нуль. Пустое месца. Гук у паветры. Колькі яшчэ начэй я на яе патраціў, пакуль яна з голай дзеўкі царэўнай стала? А Сяргей без мяне па начах спіўся. Усё закінуў, ніякіх разлікаў не рабіў. Усё пражэкты будаваў: што ды як атрымаецца, як ён прасла-

віцца, як прэмію атрымліваць будзе. А трэба было сядзець, лічыць, лічыць і лічыць да пацямнення ў вачах. Ён паклікаў мяне ў сааўтары, я пагадзіўся. І ўсе гэтыя чортавы разлікі рабіў. Дзень за днём, месяц за месяцам. Паўгода амаль. Ён прыязджаў, правяраў іх з большага, потым даставаў бутэльку… Так, я патэлефанаваў тады той дзяўчыне. Каб прыбраўся ён, п'яны, з пакоя. Не мог я яго бачыць такога: самаўлюбёнага генія, паблажліва пахлопваючага мяне па плячы: лічы Клімыч, лічы. Ён зваў мяне толькі так — Клімыч… Я ў яго чорнарабочы быў. Але не было ў мяне думкі той, што можа ён разбіцца. Не было! І не жадаў я яго смерці… І, не хацелася мне тут апраўдвацца, але ведалі ў акадэміі, чыя ідэя, хто якую ролю выконваў. Дарэчы, прэмію за работу цалкам маці Сяргея атрымала…

— Апраўдаўся, брацік! — з адчаем і нянавісцю выгукнуў Іван. — Дык ты святы! І што ажаніўся на жанчыне, цябе старэйшай, дзеля прапіскі сталічнай — святая справа!

Клім горка ўсміхнуўся.

— Дай Бог так другім жыць, як мы з Зояй жывём. Хай і тое праўда, што жаніліся мы па дамове: я каб прапіску атрымаць, яна — грошы. Ды бачыш — не разводзімся. І ў маёй кватэры новай разам цяпер жывём. Не прыгажуня яна, і за мяне старэйшая. А дзіця мы чакаем. Нашае дзіця. Зоя шчаслівая, што дзіця нарэшце народзіць. І я шчаслівы, што яно будзе...

— Зусім анёл! — пляснуў у далоні Іван. — Крыльцы намалюй сабе!

Клім нічога не адказаў, моўчкі выйшаў з-за стала, памацаў па кішэнях, выцягнуў цыгарэты і адышоў да адчыненага ў сад акна. Там закурыў.

— Трэба, пэўна, чайнік паставіць, — нечакана будзённа прагаварыла Надзея. — Схадзі, Леначка, там газпліта ў сенцах і чайнік на ёй. Кавы мо хто пап'е.

Лена паслухмяна ўстала з-за стала, пайшла, але прыпынілася на парозе пры першых словах Івана.

Ён загаварыў напачатку разгублена, потым закрычаў:

— Я не разумею… Я не разумею! Як жа вы так можаце! Каву зараз распіваць будзем? Ён забіў маці, ён гатовы зараз растаптаць нашы жыцці, зрабіць невыносным наша існаванне, а вы… Вы — спакойныя!

Яму ніхто не адказаў, і ён закрычаў далей, ужо са слязьмі ў голасе:

— Думаеце, я вас зразумею? Не жадаю. Разумець не жадаю, бо зразумець — напалову прабачыць. Прабачаць не жадаю. Ні цябе, — тыцнуў ён пальцам у Сямёна. — Ні цябе, Клім. Ні цябе, Надзька. Не прабачу вам за маці. Вы яе прадалі. Вы бацьку баіцеся. Вы баіцеся, што спакой ваш парушыцца, што нехта яшчэ даведаецца пра вашы цёмныя справы.

— Што ты вярзеш? Якія цёмныя справы? — з жалем сказаў ад акна Клім.

— Тыя самыя! Ты — злодзей! Бацька — забойца. Надзька ў смерці сяброўкі вінаватая!

— Ого! Разышоўся… — паблажліва загаварыў Клім. — А хто ты такі, каб усіх судзіць? Не ціснe на лоб німб святога? Не? Тады чаго пра Лену сваю забыўся? Праслухаў, што там бацька казаў? Ці не верыш?

— Лена? — спатыкнуўся Іван, разгублена паглядзеў на дзяўчыну, быццам толькі што яе ўбачыў. — Што, ты праўда, рабіла аборт?

Лена сціснулася ля вушака дзвярэй, ціха адказала:

— Паспытала першы раз віна. Ажно дзве шклянкі выпіла… Нічога не памятала… Вось і скарыстаў суседскі хлопец момант. З ім пілі…

— Ты… Ты… — Іван не мог знайсці патрэбнае слова. — Чаму ты маўчала? Чаму не сказала мне?! — закончыў ён адчайным крыкам.

Лена паглядзела на яго ўмольна:

— Але ад таго, ведаеш ты ці не, я ж не раблюся іншай! Я такая, як была да гэтага вечара, гэтых слоў, такая і пасля іх!

— Не, ты не такая… — Іван адмоўна пакруціў галавой. — Ты — ілгала мне. Ты хавала ад мяне праўду!

Лена нечакана ўспыхнула, быццам адважылася на нейкі адчайны крок.

— Ідзі ты к чорту! Ты ў мяне пытаўся пра аборт? Ты пытаўся, дзе і пры якіх абставінах я страціла цноту? Я сказала табе, што было ў мяне ўжо з мужчынам, хоць ты і гэтага не пытаў?..

— Але ты павінна… Ты павінна была мне ўсё расказаць! Мы ж збіраліся разам жыць! Нельга жыць, нешта бруднае хаваючы адзін ад аднаго! — упэўнена казаў Іван, а па шчацэ яго пакацілася адзінокая бліскучая кропля. — Нельга! Ты ілгала мне…

— Ну, ты ўжо зусім! — выгукнуў Клім. — Хочаш ведаць — дык спытай. Чаго яна павінна расказваць табе пра свае дзявочыя праблемы і болі, што даўно забыліся? Каб ты іх калупаў пры зручным выпадку? Мая Зоя з мужчынам год жыла, дык мне ёй допыты наладзіць па кожнай ночы: як было і ці са мной лепш ці з тым?

— Я ў цябе не пытаю! Ты як хочаш жыві, а я буду жыць…

— А ты будзеш жыць праведнікам! — перабіў Клім Івана. — Глядзі, не здужаеш. Не такі лёгкі гэты шлях.

— Я здужаю, — адказаў Іван, з пагардай гледзячы на Кліма. — І вы мяне ў свой бруд не запэцкаеце.

— Цьфу, дурань, — сплюнуў у кут ля печы Клім, дастаў яшчэ адну цыгарэту. — Хто цябе ў што пэцкае?

— Ванька, Ванька, супакойся, — стала ўшчуваць Надзея. — Ну не трэба ж так…

— А ты мяне не вучы! — агрызнуўся Іван. — На тваёй душы — смерць Насці.

Надзея захлюпала носам, паднесла да вачэй насоўку, якую ўжо пастаянна трымала ў руцэ.

Нечакана ад дзвярэй загаварыла Лена. Ціха, але так жа роўна, як і прапаноўвала забіць Сямёна:

— Ваня, а цябе ж сястра ад 13 год глядзела. За маці табе была…

— Ніхто мне маму не заменіць! І нішто вашы душы чорныя не адмые, хоць вы цяпер такімі добранькімі выглядаць хочаце.

— І маю нішто не адмые? І мая душа… чорная? — гэтак жа спакойна спытала Лена.

— Чорная! Ад ілжывасці!

Лена павярнулася, выйшла ў сені. У поўнай цішыні было чутна, як чыркнула запалка, зашыпеў газ, а потым успыхнула полымя.

— Хутка закіпіць, — вярнулася Лена з сянец, прайшла і спакойна села за стол.

Іван нейкі час засяроджана глядзеў у цэнтр стала, потым высока ўзняў галаву і загаварыў надрыўна:

— Нельга такое прабачаць. Не прабачу. І вы яшчэ ўспомніце. З гэтага моманту няма ў мяне больш бацькі, няма брата, няма сястры, няма нявесты. Запомніце гэта.

— Ну, пакутуй далей, — быццам абыякава зазначыў Клім. — Расстаўся ты з адным болем, знайшоў іншы…

Надзея заплакала:

— Божа, ды што ж гэта такое…

Іван, цвёрда ступаючы кароткі адрэзак, — ад кута пакоя да дзвярэй, — выйшаў у сенцы, потым на двор, прайшоў праз акно. Ішоў, гледзячы толькі прама перад сабой.

Лена стаяла хвіліну ў нерухомасці, закусіўшы вусны, потым схапіла ля стала сваю сумку і кінулася з хаты.

**7**

Клім усё гэтак жа паліў каля акна. Адну цыгарэту за адной. Надзея безуважна сядзела за сталом, падпёршы галаву рукой, ледзьве прыкметна калыхалася.

— Вось, значыць, было ў мяне два сына, а стаў адзін… — загаварыў Сямён.

Ніхто не адгукаўся.

— Так-а…— працягнуў Сямён. — Ну, ён сваю долю атрымаў ужо…

— Ты пра што, бацька? — не паварочваючыся, спытаў Клім.

— Пра долю спадчыны гавару, — адказаў Сямён.

Ён цяжка ўстаў з-за стала, прайшоў у святліцу, вярнуўся праз хвіліну.

— Вось яна, спадчына, — Сямён згроб шырокім махам рукі з боку стала талеркі, відэльцы, паклаў акуратна дзве нятоўстыя пачкі даляраў. — А гэта — вашы долі: твая доля, Клім, твая, Надзька.

Надзея доўга глядзела на грошы, асцярожна кранулася аднаго пачка, быццам баючыся абпаліць руку:

— Гэта за хату?

— Ну, за хату, за машыну, са сваёй пенсіі сабралася, — ахвотна адказаў Сямён.

— А Ваньцы?

— Што ты за яго перажываеш? — падышоў да стала Клім. — Ён жа ясна сказаў, што ні бацькі, ні сястры, ні брата ў яго з гэтага часу няма.

— Дурны ён, — уздыхнула Надзея.

— У яго ўзросце гавораць не аб дурасці, а аб інфантыльнасці. Яго прывучылі да жалю — шкадавалі і шкадавалі. Калі перасталі шкадаваць — ён вырашыў гэта рабіць сам. Надзеў на сябе вянок пакутніка, і паспрабуй, знімі…

— Гэта я вінаватая — трэба было раней яму аб усім расказаць, — заспрачалася Надзея. — Думала, забыў ён ужо ўсё.

— Ну, вы сабе спрачайцеся, а вырашаць мне, — зазначыў Сямён. — Усім пароўну. А Ваньцы… Я грошы паклаў на рахунак яго крэдыту, што ён на кватэру браў. Усё, стала быць, няма сэнсу спрачацца. Бярыце грошы. І маці помнік сёння пастаўлены. Вось…

Клім нехаця ўзяў грошы са стала, трымаў у руках.

— Навошта ж было вось так? Камедыю ламаць? — папракнуў ён бацьку.

— Трэба, значыць, — упарта адказаў Сямён. — Табе не зразумець… Не так часта вы ў сярэдзіну самі сабе зазіраеце. Каб памяталі.

— Што памяталі?

— Што не святыя.

— А я і не забываўся.

— Ведаеш, бацька, — задуменна загаварыла Надзея, — а гэта ж першы раз ты дзецям грошы проста так даеш… І ўнукам ніколі не даваў. Гасцінцаў не дарыў…

— Што, каб добрым дзедам за падарункі лічылі? Ці добрым бацькам, што грошы дае? — выскаліўся Сямён. — Такога бацьку ўсякі палюбіць, да такога дзеда ўнукі — уга — прыляцяць! А як няма грошай? То і на халеру такі стары, праўда? Э-эх… Не хачу любоў купляць. Ні дзяцей, ні ўнукаў. Што меў — усё адразу аддаю. Больш не пытайце.

Надзея моўчкі згарнула грошы ў скрутак і звыкла саўганула яго за пазуху.

Раптам стала ясна, што ў іх сустрэчы пастаўлена апошняя кропка. Цяжкая цішыня вісела так доўга, што стала амаль фізічна адчувальная.

— Усё, значыць, — ціха прагаварыў Сямён. — Работы ля дома няма, едзьце сабе.

— Я начаваць не застануся, — адказаў Клім. — Заўтра вар'яцкі дзень, трэба збірацца ў дарогу. І Зоя хвалюецца. Пакуль даеду…

— Мо, возьмеш мяне з сабою? — нерашуча папыталася Надзея.

— Баулы гэта твае? Ты ж гандляваць ехала? — здзівіўся Клім.

— Ды будзь ён пракляты, гандаль гэты, — Надзея паднялася, азірнулася на сядзеўшага моўчкі за сталом Сямёна. — Баця, ты калі да мяне прыедзеш? Заўтра, пазаўтра? Ці нам з Клімам лецішча яго прыгатаваць адразу?

— Можа, і так… Можа, і так, — ціха прагаварыў Сямён, ачуўшыся ад сваіх думак. Прыеду. Хутка…

— То патэлефануеш. Са стала прыбраць?

— Не трэба. Я яшчэ пасяджу, — спыніў Сямён Надзею, якая ўзялася была збіраць посуд.

Надзея падхапіла адзін баул, другі ўзяў Клім. Яны прайшлі да парога, спыніліся.

— Да пабачэння, — нягучна развітаўся Клім.

— Спакойна начаваць, баця, — пажадала Надзея.

— Едзьце, — прамовіў Сямён, не паварочваючы галавы.

На вуліцы завуркатаў матор, потым стала ціха-ціха, і гарэлка, ліючыся з бутэлькі ў шклянку, булькала гучна, запрашальна.

На гэтае булькатанне ціха адчыніліся дзверы, і гэтак жа асцярожна, як і раней, зайшоў у пакой Грыня.

— Гэта… Як бы гэта, трошкі дадаць, а, Сямён Карпавіч?

— Праходзь, садзіся, — не азіраючыся, запрасіў Сямён, паставіў на бок стала напоўненую гарэлкай шклянку, паказваючы Грыню яго месца.

Той шмыгнуў за стол, хутка адпіў паўшклянкі, агледзеў талеркі, нясмела пацягнуўся па закуску.

— Бяры, даставай, — Сямён падсунуў да яго талерку з каўбасой і вяндлінай. — Вось і жыццё прайшло…— загаварыў ён сам з сабою. — Трэба ж, здавалася — вон колькі гадоў наперадзе. І як яны хутка праляцелі. А што зрабіў? Хату вось пабудаваў, ды не ўнукі родныя ў ёй гуляцца будуць. Чужыя людзі. Не прадай — перасварацца. Лепш самому дзяліць. Калі бацька дзеліць — заўсёды справядліва. Галоўнае — пароўну. Усім — пароўну…

Ён падняў галаву дагары, доўга глядзеў на ўбіты ў бэльку крук.

— Бач, трывала сядзіць. Колькі гадоў сядзіць? На другі дзень, як Надзька нарадзілася, ты, Грыня, калыску прынёс і крук гэты ўбіў. Маці печ паліць і Надзьку калыша…

— А? — праглынуў Грыня, ўтаропіўся на бэльку. — Вы гэта пра што, Сямён Карпавіч?

— Ды пра жыццё, — незразумела адказаў Сямён. — Дзеля чаго трэба было жылы цягнуць з сябе? З жонкі? З дзяцей? Эх, жыццё, што ж ты не падказала, як цябе пражыць? Пражыў вось, быццам і не жыў. Навошта

жыў, навошта дзяцей хвастаў, навошта грошы збіраў? На вяроўку ці шмат трэба было? А і за гэта зганяць… Дурныя людзі: чаго ім да чужых жыццяў? Нельга, гавораць, жывым у магілу класціся. Пакутуй — а жыві. Няма сэнсу — а жыві! Дзеля чаго? Навошта, я вось цябе пытаю? — звярнуўся ён да Грыні, не стаў чакаць адказу, адказаў сам: — А каб ім, здаровым, жыццё труціць. Каб не забываліся, што будуць самі старымі і хворымі. І не столькі табе гэтыя пакуты, колькі ім. Так?

— Ага, — адгукнуўся Грыня, які пачуваў сябе смялей пасля выпітага. — От, Сямён Карпавіч, Антон Мішчын доўга паміраў. Ногі адняліся, адна рука ледзь варушылася. То што дзеці? Кожную раніцу прыходзілі і заглядвалі: а можа, ж ужо памёр? От як…

— Ты ідзі! — нечакана ўладна загадаў Сямён Грыню. — Выпі яшчэ вось, ідзі і забудзь усё, што я табе раней гаварыў і што ты сёння чуў! Чуеш, забудзь!

Грыня паспешна наліў сабе сам, хутка выпіў, схапіў у руку кавалачак хлеба, вяндліны і выслізнуў з-за стала, асцярожна, нібы шкляныя, зачыніў за сабою дзверы.

Сямён сядзеў нерухома хвілін колькі. Потым выйшаў у сенцы, вярнуўся з новенькай вяроўкай. Сарваў абрус са стала, паляцеў на падлогу посуд, закусь, бутэлькі...

## 8

Выехалі на шашу, і Надзея кранула Кліма за руку:

— Глядзі, вунь Ванька стаіць з Ленкай сваёй. Прытармазі…

— Там яшчэ жанчына з імі… — Клім прыцішыў ход.

— То фельчарка наша, — пазнала Надзея жанчыну, якая стаяла побач з Ванькам і нешта яму расказвала.

Клім прыпыніў машыну. Ванька нават не глянуў на аўтамабіль. А Лена спуджана нахілілася да адчыненага акна і выгукнула ў твар Надзеі:

— У вашага бацькі рак!

— Што-о-о? — Надзея хутка адчыніла дзверы, выйшла з машыны. — Дзень добры, Ягораўна, — павіталася з фельчаркай. — Гэта вы сказалі?

— Я, — вінавата кіўнула фельчарка. — Тыдзень таму абследаванне ў вёсцы рабілі. У Сямёна Карпавіча дзве вялізныя, з кулак, гулі пад пахамі. Рак лімфатычных залоз. І хутка прагрэсіруе…

— Яму сказалі?

— Сказалі… Ён і сам здагадаўся. У мінулым годзе ваш сусед памёр ад такой жа хваробы. Чарнобыль адгукаецца. Зона ж… — стала тлумачыць фельчарка. — Уколы раблю вось… Для падтрымкі…

Надзея хвіліну стаяла, маршчынячы лоб у нейкім цяжкім роздуме і раптам скаланулася, кінулася да аўтамабіля з роспачным крыкам:

— Клім! Разварочвай, Клім! Разварочвай!..



## Юля НОВІК



### СВЯТЛО ГРЭЕЦЦА

Халодныя абцасы
Разбіваюць святло ў лужынах.
Больш-менш, больш-менш.
Святло грэецца.
У цыгарэтнай фігурцы,
У запальнічцы,
Якая вандруе,
Каб асвятляць новыя і новыя вусны.
Святло грэецца
Ў штучным агні,
У фіранках з дыму.
Бруднашчокае —
У пыльных фарах машын.
Безгалосае —
Апранутае ў свяцільнікавыя строі.
Голае —
У тваіх зрэнках.
Святло грэецца,
Не спяшаючыся,
Нібыта ўцяміўшы:
Агонь — гэта агонія.

* * *

Збяру кветкі колеру тваёй самоты.
Яны звянуць у дзень,
Калі мы сустрэнемся.

---

***Новік Юлія Анатольеўна*** *нарадзілася 1 студзеня 1985 года ў горадзе Салігорску. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт (2008). Працуе перакладчыкам.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Сонца за тэрыконамі».*

* * *

Няміга сёння пахне морам.
Разносяць чайкі неспакой.
А тваё вочы, як азёры,
Узгадаваныя ракой.

Няміга выбегла на ўзвышша
І выглядае цішыню.
І кожны першы тут не лішні.
І хопіць кожнаму агню.

Расце цяжкі вячэрні подых
Ці то машын, ці то людзей.
Святло насычана свабодай,
Святло хвалюецца ў вадзе.

Няміга вызваніла горад,
А горад стаў сабе малы.
Ды сонца ўсё ж знайшло апору —
Святых сабораў купалы.

* * *

З мільёна сцяжын
Адна — да цябе.
І сэрца, якое кахае,
Падкажа, якая.

* * *

Прадонне памяці аднойчы высыхае,
І чалавека рэчы забываюць.
Нібыта рэчкі, спыненыя жвірам,
На ніве памяці пракосы —
Людскія лёсы.
І чалавек забудзе чалавека, быццам рэч,
І, не развітваючыся, спешна рушыць прэч.

* * *

Дождж —
Мільёны асцярожных крокаў,
Дэкарацыя для цішыні.
Так сярод бяссонніцы і змроку
На спакой сплываюць вашы дні.

Тут размовы на заключнай ноце
Набіраюць горнай вышыні,
А жыццё цвярозай адзіноце
Дорыць торбу, кій і камяні.

Запытацца б тут пра вечны цэннік,
Пра людзей, што па начах не спяць.
Запыталася б, калі б не цені,
Што да сонца тварамі стаяць.

А ці варта гэтай вартай страшыць?
Рух патрэбны. Рух — не мітусня.
На далонях працавітых вашых
Вырастаюць хай усмешкі дня.

* * *

Чаму вы, сярдзітыя, рэжаце хлеб?
Яго б адламаць, адкусіць, адшчыкнуць,
Яму б прысягнуць
І адчуць
Хлебазбор, медазвон, зерняпад,
Музыку каласоў
І вясельны настрой.

Не жывём — спажываем жыццё…

* * *

Восень слепа звужае ранак.
Твар знаёмы здаецца цьмяным.

Светласкуры і адзінокі,
Ты на сэрцы схаваў аблокі.

Я цікую. Цікава. Ціха.
Маннай кашай накормім ліха.

Светласкуры і дарагі,
Дай напіцца тваёй тугі.

## У ШАПТУХІ

Жанчына прыйшла лячыцца,
Па сілу прыйшла да слова.
А погляд, нібы ў ваўчыцы,
Якую чакаюць ловы.

Прыйшла, бо ад думак цесна
І песню пад сэрцам носіць —
Чакае, што вось дзіцёнак
На свет усміхнецца ўвосень.

Хадою спакойнай, роўнай
Памкнецца яна дадому.
Вада яе след напоўніць,
Дарозе пакіне стому.



Аляксей ЯКІМОВІЧ

# СЛЯДЫ

*Апавяданне*

## 1

Павел Герасюк замкнуў дзверы, скінуў у калідорчыку туфлі, зайшоў у пакой, лёг на ложак, заплюшчыў вочы і раскінуў рукі. Усё-ткі стаміўся, нахадзіўся за дзень. Зараз ён крышку адпачне, падрэмле, а потым зварыць бульбы і павячэрае. «Я і баба, і мужык, я і конь, я і бык», — нявесела падумаў пра сябе. Так, усё аднаму прыходзіцца рабіць. Сем гадоў, дзень за днём, пасля таго, як развёўся з жонкай і пакінуў сям'ю.

— Цяжка нам! Ой, як цяжка нам! — з калідорчыка нечакана пачуліся два скрыпучыя галасы.

Павел устрапянуўся і прыўзняў галаву.

— Цяжка нам! — у другі раз аднатонна, зладжана, як адзін, праскрыпелі галасы.

У Паўла ёкнула сэрца. Ён асцярожна ўстаў з ложка і пайшоў на калідорчык. Ні ў калідорчыку, ні на кухні нікога не было.

— Што ж гэта робіцца? — прашаптаў Герасюк і, рэзка азірнуўшыся, зайшоў у пакой і стаў каля акна.

На двары ярка свяціла летняе сонца, пенсіянеры прымасціліся на лаўцы, сядзяць, грэюцца, воддаль участковы стаіць.

— Ой, як цяжка нам! — у трэці раз праскрыпелі галасы.

— Таварыш лейтэнант, зайдзіце на хвілінку! Вельмі прашу вас! — расчыніўшы акно, ґукнуў растрывожаны, зніякавелы і перапуджаны Павел.

---

*Якімовіч Аляксей Мікалаевіч нарадзіўся 15 кастрычніка 1949 года ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1973). Настаўнічаў на Слонімшчыне: у Кастровіцкай і Дзеравянчыцкай васьмігадовых, Жыровіцкай і Касцянёўскай сярэдніх школах.*

*Аўтар кніг для дзяцей і падлеткаў «Гордзіеў вузел», «Залатая дзіда», «Эльдарада просіць дапамогі», «Пастка для пярэваратня», «Сакрэт тунгускага метэарыта», вучэбных дапаможнікаў для настаўнікаў пачатковых класаў «Жывыя літары» і «Творческий алфавит». Выступае і як драматург: шэраг яго п'ес для дзяцей пастаўлены тэатрамі рэспублікі.*

## 2

Хвілін праз пяць у Паўлаву аднапакаёвую кватэру зайшоў участковы. Павел паглядзеў на яго малады, ружовашчокі твар і міжволі ўздыхнуў. Некалі і ён быў гэткі ж малады, ружовашчокі, а цяпер зусім негадзяшчы: валасы сівыя, шчокі маршчыністыя, цёмныя кругі пад вачыма.

— Чаго клікалі мяне, дзядзька Павел? — прыемным баском прагаварыў участковы.

— Таварыш лейтэнант…

— Вадзімам мяне завіце, — перапыніў Герасюка ўчастковы. — Колькі раз вам казаць!

— Таварыш лейтэнант, — Павел казаў так, як прывык, — я во на ложак прылёг, а з калідорчыка галасы ідуць…

— Чые галасы?

— Не ведаю. Каб жа я ведаў? Вас убачыў праз акно і думаю, во хто дапаможа…

Участковы заморгаў вачыма.

— Дзядзька Павел, я вам тут, відаць, не дапамагу. Тут, дзядзька, доктар трэба...

## 3

У гэты вечар галасы больш не трывожылі Паўла. А на другі дзень, калі ён, як звычайна, прыйшоўшы з працы разуўся і прылёг на ложак, яны напомнілі пра сябе.

— Цяжка! Ой, як цяжка нам! — скрыпуча паскардзіліся яны.

«Няўжо вар'яцею?» — падумаў Герасюк, ускочыў з ложка і выбег на двор. Ён шыбаваў па тратуары, утуліўшы галаву ў плечы, нікога не заўважаў. Раптам хтосьці схапіў яго за руку.

— Сваіх не пазнаеш?

Павел павярнуўся і ўбачыў Ніну, жанчыну сярэдніх гадоў, з якой пазнаёміўся некалькі месяцаў таму. Жыццё ў яе, як і ў яго, чамусьці не склалася. Яна таксама, і ўжо даўно, развялася.

Пасля апошняй сустрэчы Ніна змянілася. Пад вачыма з'явіліся маршчыністыя мяшэчкі, валасы на скронях пасівелі.

— Іду, а галава рознымі думкамі занята, — стаў апраўдвацца Павел.

— І пра што ты ўсё думаеш? — з выразнай іроніяй спыталася Ніна.

— Ды ўсё такое… Часам такі заняты… — прамармытаў Павел.

— Ты заўсёды заняты. У цябе заўсёды справы, — з'едліва прагаварыла Ніна.

Герасюку стала няёмка. У час апошняй сустрэчы ён, можна сказаць, прагнаў Ніну са сваёй кватэры. Вось як было.

Стомленая і знерваваная прыйшла яна да яго.

— Сёння ў цябе застануся, — заявіла, сеўшы на крэсла.

А ён яшчэ раней вырашыў: больш не будзе сустракацца з Нінай. Не пара яны. Яму за пяцьдзесят, а ёй і сарака няма.

— Ніначка, — сказаў тады пяшчотна, каб вельмі не пакрыўдзіць, — мне няма калі. Я перакушу і пабягу.

Ніна паглядзела на яго поўнымі прыкрасці вачыма.

— Я пачакаю цябе. Калі трэба, есці звару ці адзенне памыю.

— Кажу табе, што мне няма калі, — з раздражненнем прамовіў ён, — справы ў мяне.

Жанчына цяжка ўздыхнула.

— Каб ты ведаў, як мне не хочацца дамоў вяртацца! Сын і нявестка цэлымі днямі сварацца.

— У мяне шмат спраў! Зразумей! — ускліхнуў ён.

Ніна моўчкі ўстала і пайшла, згорбіўшыся, як старая.

Не спадзяваўся ён, што сёння яе сустрэне. Можа, яна што-небудзь параіць яму.

— Ніначка, — сказаў пяшчотна, зусім не так, як тады, калі выпраўляў з кватэры, — у цябе скроні зусім пасівелі. Ці гэта меліраванне такое?

— Табе розніца, Павел? — прагаварыла кабета і, адпусціўшы ягоную руку, таропка пайшла прэч.

«У той раз я яе прагнаў, а цяпер яна мяне пакінула, не стала слухаць», — падумаў Герасюк і пацягнуўся дамоў.

## 4

Звечарэла. Павел распрануўся і лёг на ложак. Ён спадзяваўся, што адразу ж засне, стомлены доўгай прагулкай.

— Цяжка! Ой, як цяжка нам! — як звычайна, праскрыпелі галасы.

Герасюк стукнуў кулаком па ложку:

— А мне, вы думаеце, лёгка?

Галасы, відаць, не чакалі, што ён дасць ім адказ.

— Ты з намі спрачаешся? — здзівіліся яны.

— Не мучце мяне! Мне заўтра на працу, мне трэба выспацца!

— І нам заўтра раніцай на працу, — паведамілі галасы.

— Гм, — хмыкнуў Герасюк. Злосць прайшла. На душы стала неяк спакайней. — Куды, дазвольце пацікавіцца?

— Скажам, але крыху пазней, — пачулася ў адказ.

Павел сеў на ложку, углядаючыся ў цемру.

— Вы доўга будзеце мяне мучыць?

— Мы таксама мучымся, жывучы з табою, — адказалі галасы.

— Раней я не мучыўся, па-людску жыў, — не пагадзіўся Павел.

— А ты добра падумай, успомні тыя гады, што, як адзін дзень, прабеглі ў цябе, — не здаваліся галасы.

Паўлу надакучыла спрэчка.

— Пакажыцеся, шаноўныя. Я вас хачу ўбачыць!

— Заўтра нас убачыш.

— Ну, хоць за гэта дзякуй, — крыва ўхмыльнуўся Герасюк.

— Спі. Мы больш не патрывожым цябе, — паабяцалі галасы.

Павел лёг і заплюшчыў вочы. Ён зразумеў, што галасы не такія страшныя. З імі можна дамовіцца.

## 5

Раніцай Герасюка сустрэў участковы.

— Дзядзька Павел, галасы больш не трывожаць?

— Не трывожаць, маўчаць, — схлусіў Павел. Пакуль няма як казаць праўду ўчастковаму. Галасы паабяцалі, што сёння з'явяцца перад ім. Сёння ён сам з імі разбярэцца.

— Дзядзька Павел, — усміхнуўся лейтэнант, — калі зноў пачуеце іх, то патэлефануйце мне.

«А што ты ім зробіш?» — падумаў Герасюк.

## 6

У дванаццаць гадзін ночы Павел выключыў святло і сеў каля стала на крэсла. Ён адчуваў: галасы неўзабаве акажуцца.

За акном, бясшумна рассякаючы паветра, як дзіўныя здані, праносіліся кажаны, воддаль гудзелі машыны, прарэзлівы жаночы крык прымусіў Паўла ўздрыгануцца.

— Сядзіш? — данеслася з калідорчыка.

— Сяджу, — хрыплым голасам прамовіў Павел і павярнуўся. Крэсла зарыпела пад ім.

— Зайдзі ў калідорчык і ўключы святло.

Герасюк паволі ўстаў і, спатыкаючыся, зайшоў у калідорчык.

— Уключай святло.

Кончыкам пальца, па якім прабеглі мурашкі, Павел намацаў выключальнік і ўключыў святло. Анікога ў калідорчыку не было. Толькі туфлі стаяць у куце.

— Не бачыш нас. Адыдзіся назад і глянь перад сабою.

Павел ступіў два крокі назад і ўбачыў, што ягоныя туфлі прыўзняліся і з-пад іх выйшлі Сляды: з ромбікамі-рубчыкамі, з абцасікамі.

— Э! — усклікнуў Герасюк. — Вы мае Сляды?

Сляды тупнулі абцасікамі па лінолеуме, якім быў засланы калідорчык.

— Мы твае Сляды!

— Гэта вы са мною размаўлялі?

— Мы.

Павел правёў рукою па грудзях, нібы хацеў скінуць страх і цяжар.

— Чаго ж вы хочаце ад мяне?

Сляды ступілі крок наперад і сталі.

— Мы хочам паказаць, што нельга так жыць, як ты жывеш.

Герасюк прытуліўся да сцяны.

— Я жыву так, як многія жывуць.

— Не так, — запярэчылі Сляды. — Заўтра гэта дакажам. Разам з табою пойдзем у горад. Ты за намі будзеш ісці.

— Вас людзі заўважаць. Немаведама што падумаюць.

— Не заўважаць. Ты часта заўважаеш чужыя сляды?

— На чужыя сляды я не гляджу, — прызнаўся Павел. — А куды ж вы, хацелася б ведаць, мяне павядзяце?

— Туды, дзе ты пакінуў свае сляды. А цяпер ідзі спаць, — сказалі Сляды і сталі ў кут, каля туфляў.

## 7

На наступны дзень, у нядзелю, абмінаючы прахожых, Сляды смела тупацелі па тратуары. Ніхто іх не заўважаў.

Стараючыся не адступаць, Герасюк крочыў за Слядамі. «Куды ж яны вядуць мяне?» — думаў ён. Яму было і цікава, і страшнавата, як студэнту перад чарговым экзаменам.

Пачакаўшы, пакуль загарыцца зялёны агеньчык святлафора, Сляды перайшлі вуліцу і падаліся ў гарадскі парк, запушчаны, недагледжаны.

На скасабочанай лаўцы, некалі пафарбаванай на чырвоны колер, сядзела бабуля з кіёчкам у руках. Побач з ёю ляжаў вузялок.

Старая ўсё-ткі заўважыла Сляды. Падслепаватымі вачыма яна ўставілася на іх.

— А Божачка мой! Сляды ідуць!

— Гэта мае Сляды, — пастараўся супакоіць бабулю Павел.

Абедзвюма рукамі бабуля абаперлася аб кіёчак.

— Яны, выходзіць, уцяклі ад цябе?

— Не зусім так. Яны са мною… кватаруюць, — удакладніў Герасюк.

А Сляды павярнуліся да бабулі і сталі танцаваць, мабыць, каб пацешыць яе.

— Танцуюць! — усклікнула старая.

Хмурынка прабегла па твары Паўла.

— Польку, — сказаў ён. — Як некалі я танцаваў. Мае Сляды маю маладосць успомнілі.

Станцаваўшы польку, Сляды пакрочылі далей. І Павел накіраваўся за імі, развітаўшыся з жанчынай.

— Шчаслівай дарогі табе, сынок! — пажадала яна.

## 8

Сляды прывялі Герасюка да дома, у якім жыла ягоная дачка Валя. Ён даўно з ёю не бачыўся. Аднаго разу, гадоў пяць таму назад, у такі ж цёплы летні дзень завітаў да Валі, а яна яго не пусціла, выпаліўшы ў твар:

— Не хадзі да нас! Ненавіджу цябе!

Сляды сталі каля пад’езда і звярнуліся да Паўла:

— Адчыняй дзверы.

— Не пайду туды, — пакруціў галавой Павел.

— Тут твая дачка жыве.

— Яна адмовілася ад мяне, прагнала. А я ж яе ў садок вадзіў, у школу адпраўляў, потым у інстытут уладкаваў, вывучыў. За маму пакрыўдзілася на мяне.

— Трэба было не толькі вучыць, але і выхоўваць, — папракнулі Сляды.

Павел адчуў, як даўкі камяк падступіў да горла.

— Я стараўся, выхоўваў. Зразумейце мяне.

Сляды не хацелі разумець Паўла.

— Выходзіць, не так выхоўваў. Адчыняй.

Павел уявіў, як у той раз бягом спусціўся па лесвіцы і выскачыў з пад’езда. Цэлы тыдзень не мог супакоіцца — набягалі на вочы слёзы.

— Хочаце, каб зноў прагнала?

— Не прагоніць. Час лечыць раны, — у нецярпенні тупнулі абцасікамі Сляды.

Герасюк узяўся за ручку і адчыніў дзверы. Хоць і адчужылася дачка, але яна ягоная крывіначка. Хіба не хочацца яму паглядзець на яе і на ўнучку Марынку, якую бачыў толькі здалёк, крадком прыходзячы да садка.

## 9

Дачка пусціла яго ў кватэру, нават запрасіла на кухню і пасадзіла на табурэтку. А Сляды схаваліся ў куце, дзе стаяў абутак.

— Як жывеш, дачушка? — нясмела кашлянуў Павел.

Валя стаяла каля акна, скрыжаваўшы рукі на грудзях.

— Як усе людзі жывуць.

На кухні павісла прыкрая цішыня. «Я тут не свой і не чужы. Я ніякі», — падумаў Герасюк і зноў кашлянуў у кулак.

— Твой Генадзь дома?

— Дома. У зале тэлевізар глядзіць, — Валя гаварыла адрывіста, суха, як, бывае, знерваваны прадавец гаворыць з пакупніком.

— І Марынка дома?

— Марынка, бяжы сюды! Твой дзядуля прыйшоў! — гукнула дачка, націснуўшы на слова «дзядуля».

На кухню прыбегла бялявенькая пухленькая дзяўчынка з вялікім белым бантам на галаве і стала, дзівячыся Паўлу. Павел засунуў руку ў кішэню, намацаўшы грошы. А Марынка паказала яму ружовенькі язычок і, затупаціўшы тоўсценькімі ножкамі, выбегла з кухні.

Паўлавы вусны скрывіліся ва ўсмешцы.

— Баіцца яна мяне.

Шчокі ў Валі пачырванелі. Яна страсянула галавою. Відаць, хацела сказаць штосьці колкае, але стрымалася, узяла сябе ў рукі.

— Ты, можа, галодны? Есці будзеш?

«Хіба я не марыў, песцячы цябе, дачушка, што сваю ўнучку за ручку буду вадзіць? Я ж такі, як і ўсе», — думаў Герасюк, пазіраючы на дачку.

— Есці будзеш? — паўтарыла Валя і ўхмыльнулася, паказаўшы роўныя белыя зубы.

У Паўла закружылася галава. Твар дачкі расплыўся перад вачыма. Яму здалося, што бачыць не дачку, а жонку з такімі ж роўнымі белымі ў маладосці зубамі. Ён устаў, выняў з кішэні жменю грошай, прыплюснуў далоняй да стала і выйшаў на калідор.

Валя сама адчыніла яму дзверы, сказаўшы на развітанне:

— Вы з мамай ніколі не разумелі адно аднаго.

## 10

На двары Герасюк доўга і часта дыхаў, глытаючы цёплае паветра, як глытае яго рыба, выкінутая на бераг, а затым пацікавіўся ў Слядоў:

— Куды яшчэ мяне заведзяце?

— Да жонкі.

Ён стаяў на шумнай, шматлюднай вуліцы, а яму здавалася, што стаіць у пустыні, дзе тысячы распаленых сонечных праменьчыкаў, як іглінкамі, працінаюць яго, каб зрабіць балюча.

— У мяне няма жонкі.

— Да той, якая была ў цябе.

«Бум-бум-бум!..» — працягла разнеслася ў паветры.

Павел наморшчыў лоб.

— Што гэта?..

— Царкоўныя званы звіняць, — паведамілі Сляды.

Герасюк пажвавеў, дыхаць стала лягчэй, і боль у целе суцішылася.

— Вядзіце мяне ў царкву.

— Дарогі не ведаем. Ты ж туды ні разу не хадзіў.

Павел стаяў і ўсміхаўся, як дзівак. Сапраўды, у мясцовай гарадской царкве ён ні разу не быў. А ў дзяцінстве ў сваю, у вясковую царкву, хадзіў. Маці за ручку яго вадзіла. Як добрае, светлае свята ўспамінаецца гэта. Столькі гадоў прайшло, а ўспамінаецца.

— Хадзем да жонкі, — напомнілі Сляды.

— Не пайду да яе, — упёрся Павел. — Я не вінаваты, што развёўся. Яна да разводу давяла.

— У чымсьці і ты быў вінаваты, — не здаваліся ўпартыя Сляды. — Відаць, мала ўвагі ёй удзяляў. Іншыя на святы кветкі ёй дарылі, а ты не дарыў.

— У тым то і бяда, што іншыя дарылі, — прызнаўся Павел і наблізіўся да Слядоў. — Вы хочаце, каб я зноў праз пекла прайшоў. Чаму?

— Мы хочам, каб ты зразумеў, дзеля чаго на свеце жывеш, — прагаварылі Сляды.

— Дзень прайшоў — і дзякуй Богу, — панурыўся Павел.

Сляды, як і каля пад'езда Валінага дома, у нецярпенні тупнулі абцасікамі.

— Хадзем!

— Хадзем, усё роўна не адчэпіцеся, — махнуў рукою Герасюк.

## 11

За тыя гады, што мінулі пасля разводу, жонка, як і ён, пастарэла. На яе высокім белым ілбе з'явіліся шырокія роўныя маршчынкі.

Яны сядзелі насупраць адно аднаго ў мяккіх крэслах.

— Яшчэ не жаніўся? — весела прагаварыла яна, паказваючы ва ўсмешцы ўсё тыя ж роўныя белыя зубы.

— Ты ж таксама замуж не выйшла, — адпарыраваў Павел.

— Былі прапановы, — паведаміла жонка.

— Развяліся, а маглі б жыць, як людзі жывуць, — уздыхнуў Герасюк.

Жонка скоса паглядзела на яго.

— Сам уцёк.

Павел устаў з мяккага крэсла. «Сам уцёк…» Ад добрага жыцця не ўцякаюць. Што ж, ён стрымаецца, не будзе спрачацца. Гэтай улюблёнай у сябе жанчыне нічога не дакажаш. Няхай Бог даруе ёй.

— Ну, я пайду.

Жончын твар неяк адразу асунуўся.

— Ідзі, — ціха прамовіла яна.

## 12

Апаўдні разам са Слядамі Павел вярнуўся дамоў. Ён адчыніў акно і сеў на крэсла. Сляды сталі побач, каля стала.

У кватэры было ціха.

— Вас мая жонка так і не заўважыла, хоць вы за мною зайшлі, — парушыў маўчанне Павел.

Слядам, відаць, стала няёмка. Яны ўздыхнулі.

— Тады заўважыць, калі зусім пастарэе і нікому не будзе патрэбна.

— Мабыць, — адгукнуўся Герасюк. — Я кепскі, я нядобры! Так?

— Такі скоры судзіць сябе, — заўважылі Сляды. — Паўдня з намі прахадзіў, а нічагуткі не зразумеў. Быллём парасло тое, што было. Не вернеш яго. Жыць трэба.

— Як жыць? — запытаўся Павел.

Сляды не паспелі адказаць, бо зазваніў званок.

Павел ускочыў з крэсла і, адчыніўшы дзверы, убачыў участковага з вялікай аўчаркай на павадку.

— Сабаку ўзяў. Магчыма, яна мне дапаможа знайсці вашага жартаўніка, — сказаў ён.

Сабака вільнуў хвастом — нібы ў знак прывітання. Герасюк адступіўся назад, а ўчастковы разам з аўчаркай зайшлі ў кватэру.

— Таварыш лейтэнант! — паказаў Павел рукой.

— Сляды стаяць! — прашаптаў уражаны ўчастковы, гледзячы на Сляды, якія роўненька стаялі адзін каля аднаго.

Аўчарка прыгладзіла вушы, поўсць на ёй стала дыбком.

— Навошта ты іх пусціў сюды? — крыкнулі Паўлу Сляды.

— Яны жывыя! — усклікнуў участковы і адпусціў павадок.

Сляды ўскочылі на крэсла, з крэсла пераскочылі на стол, са стала — на падаконнік і зніклі з вачэй. Раз'ятраная аўчарка ў перасследзе ледзь не выскачыла за імі праз акно, ды ўчастковы ўхапіў павадок.

— Таварыш лейтэнант, што ж вы нарабілі? Гэта ж мае Сляды. Я сваё жыццё змяніў бы, калі б яшчэ крыху з імі пабыў, — з дакорам прамовіў Герасюк.

— Дзядзька Павел, за мною! Мы знойдзем іх! — гукнуў участковы і ірвануўся да дзвярэй.

## 13

Аўчарка давяла след ад акна да аўтобуснага прыпынку і спынілася як укапаная. Участковы пагладзіў сабаку, яна лізнула яго ў руку.

— Сляды ў аўтобус ускочылі і паехалі, — паведаміў ён, як выснову.

— Я знайду іх! Абавязкова знайду, — загарачыўся Герасюк. — Увесь горад абшукаю, а знайду…

Шырока ступаючы, Герасюк пайшоў па тратуары.



**Зіё АБДУЛО**

# АПОВЕСЦЬ ПРА МЯНЕ І МОЙ ГОНАР

## 1

Вокны бальніцы вачамі не сталі.
У дальнюю далеч цаляе пагляд.
А краты на вокнах —
з айчыннае сталі.
Гляджу я праз краты,
як быццам не рад, —

Ціха, пакорліва, з ценем сумніву
Раптам жанчына ў акне прамільгне…
Я падзівуюся вечнаму дзіву,
Што і назаўтра не ўспомніць мяне.

Скача пагляд мой, і вочы крыляюць,
Сэрца трапечацца, хоча дагнаць,
Б’ецца аб краты, якія не знаюць
Тое, што можна за імі спазнаць.

Тое не зведаць,
што зведана воляй…
Пальцы сціскаюць стальныя пруты.
Усё, што было, —
называюць сваволяй…
Сном малітоўным нахопішся ты…

*Грэшны я,*
*грэшны,*
*найпершы на свеце —*
*Гонар, узрослы на высненай волі...*
*Веру-не веру, што кепскія дзеці*
*Ў гэтым дурдоме не будуць ніколі.*

Дзе гонар сусветны з маім не ў суладдзі,
Гонар жаночы паглядам крану…
У Вашым калісь люстраваўся паглядзе,
У тым, што ў маю не ўпіраўся сцяну.

Бо гонар Ваш —
той здаравенны сабака,
Што гаўкае, потым зацята маўчыць…
Ці ж я забаяўся яго, небарака?
Ці ж ён на мяне,
як на вечнасць,
гырчыць?

А я не баюся яго, ды прашуся:
Гонар,
за свет і мяне заступіся,
Я анічога ў жыцці не баюся, —
Хай бы ўсе душы ў адну не зліліся.

Гонар, што выхадзіў я на брані,
Людзі казалі: «Глядзі, барані…»
Што я зрабіў, як сябе нацкаваў…
Я…
у дурдоме свой гонар схаваў.

*Грэшны я,*
*грэшны,*
*найпершы на свеце —*
*Гонар, узрослы на высненай волі…*
*Веру-не веру, што кепскія дзеці*
*Ў гэтым дурдоме не будуць ніколі.*

Зіё[1] —
гэта тое святое святло,
Якога ўва мне анігды не было.
Хоць я напісаў асучаснены верш,
Ды юны Зіё —
уцякае найперш.

З яго,
выбаўляючы гонар з радка:
«Я ведаю —
звыкла пісала рука…»

А слёзы,
што выпіў душою да дна?
Як быццам і ёсць.
Ды душа — не відна.

А хлопчык Зіё растрывожыць штодня:
«Што? Як заўсёды, ізноў балбатня?..»
Я вершык за вершам, пра што напішу,
Шукаю нястомную нашу душу.

[1] Зіё — імя паэта; у перакладзе з таджыкскай — сонечнае святло, прамень.

А хлопчык Зіё —
ён не ў школу ідзе,
Яго сцежка-покліч у полі вядзе:
Ён ведае —
разам прыходзяць, не спяць,
Сотні нябожчыкаў побач стаяць,
Хлопак збіраюць і моўчкі здаюць,
Не патрабуючы грошай і хлеба, —
Хай хоць жывыя, як могуць, жывуць:
Ім гэта насціць, ім гэта трэба…
А іх незамоўную цяжкую працу
Ніц не аплоціць ніякая каса,
Вераць, што зноўку збяруцца на пляцы —
Роду сваго і краіны акраса.

Ведай, Зіё, што не ўсе мы святыя,
Хоць і стаім ля свяшчэннага стода.
Ведай,
што мёртвыя —
тыя ж жывыя,
Але без кроплі крывінкі народа.

*Грэшны я,*
*грэшны,*
*найпершы на свеце —*
*Гонар, узрослы на высненай волі...*
*Веру-не веру, што кепскія дзеці*
*Ў гэтым дурдоме не будуць ніколі.*

**2**

Ну, відаць, у сцяне былі дзверцы,
Куды гонар уцёк, забаяўшыся сэрца…
Доктар спаў, санітарку кахаў санітар…
З падваконня —
уніз, на пусты тратуар,
За бальніцу, дзе вецер, як злыдзень, аціх,
Уцякаў ад мяне, а нібы —
ад усіх;
Ён пабег.
Я крычаў, ды ніхто не пачуў:
«Даганіце!..
Я з ім паквітацца хачу!..»
Гаражы прамільгнулі, наўзбоч ліхтары,
Дом, дзе некалі жыў на пустэчы стары,
Луг, за лугам — запомнены лес…
Знік мой гонар за ім…
Анізгадкі — на спрэс…
Ды на шчасце,
ляснік, што бяссонна блукаў,

Гонар мой пад ялінай густой напаткаў,
Запыніў і за палкія грудзі ўхапіў:
«Так ляціш, бы цябе аніхто не любіў?..»
Я падбег, пакаціўся, як сноп,
Цалаваў я свой гонар,
хоць кепска, ды ў лоб,
І пытаўся:
«Навошта вось так жартаваць,
Хіба сэрцу абрыдла майму слугаваць?
Хіба ў лесе не страшна насупраць начы,
А пугач непрарочліва ўслед не крычыць?..»
Ён прымоўк…
Я закінуў яго на плячо,
Бы якое гарэзнай прынукі дзяўчо:
«Колькі можна сябе ад мяне аддаляць
І душу вызваляць,
вымушаць,
выпрамляць?..»

Слухаў гонар і тварам, бы золак, яснеў,
Бы дасюль яшчэ зведаць мяне не паспеў…
Я здзівіўся, пачуўшы пагудку асвы,
І прамовіў:
«Жывы,
я жывы,
я жывы!..»

***Пераклад з таджыкскай Уладзіміра Марука.***

**Мухтарам ХАТАМ**

## СЦЭНА

Ці ведаеце вы, што артыст
Самую непаўторную ролю
Стварыў у час нараджэння?
Іншыя яго ролі падобныя да яе,
Іншыя яго ролі на сцэне —
Стварэнне тае самае ролі.
Так першую ролю сваю
Ён стварыў на сцэне калыскі.
А потым ад сцэны калыскі да тэатральнае сцэны
Колькі было ім створана роляў і вобразаў.

Ён быў адданы стварэнню наказаў
І павучанняў.
Чым вышэй ён уздымаўся на сцэне,
Тым шырэйшымі сцэны для яго станавіліся.

Ці ведаеце вы?
Хоць роля сцэны на сцэне часу значна зніжэла,
Узровень кожнае сцэны вышэй узроўню Паміра.
Праца акцёра кожнага куды вышэй за альпініста напругу,
Пакарэнне сцэны складаней за пакарэнне вяршыняў Паміра.

А ці яшчэ ведаеце вы?
Наша жыццё — гэта жыццё на сцэне,
Роля ў жыцці наша не болей ролі на сцэне,
Кожны з нас па сутнасці ёсць акцёр,
Кожны з нас на сцэне сваёй ролю іграе.
Сцэну за сцэнай ролю сваю іграем
І пераходзім да сцэны сваёй заключнай,
Сцэны, заслона каторай дыханнем закрыецца.

Ведаеце вы дакладна,
Пакуль не прыйдзе ў рух сцэна несправядлівасці,
Сцэна акцёрская быць павінна прыгожай.
Каб сэрца, выпушчанае з рук, не разбілася,
Не павінна выпасці з рук чалавечых пяро мастацтва.

## ЦЕНЬ

Ты дарэмна
Імкнешся цень сцерці
Цень Сонца сцірае
І я смяюся над знаходжаннем ценю
За дрэвамі
Ад сонца
Схаваўшыся.

## СЛОВА

Слова
Што прыйшло
З нябёс
У сэрцах асела
Потым з губ пралілося
І ўпала пад ногі
Божа
Узнясі зноў слова на неба

## ВЕДЗЬМА

Пяро
Сквапная ведзьма
Свае думкі
Свой роздум таемны
Я спадзяваўся
Нікому не выдам
А ты ўсё выварочваеш
І выдаеш
Да часу якога мяне на белі паперы
Ты чарніць будзеш?..

## НАЖНІЦЫ

Стрэлкі
На насценным гадзінніку
Штогадзінна раз кожны
Быццам нажніцы
Рэжуць і адразаюць
За імгненнем імгненне
Гадзіну за гадзінай
Наш час
Наша жыццё.
…і мы задаволены калі час наш праходзіць імкліва

## КЛІНАПІС

Рука ветру
Абарванымі акраўкамі воблакаў
Неба як школьную дошку
Выцерла
Ноч — чарнаскуры настаўнік —
На гэтай дошцы чорнай
Вывела клінапісам
Літары што абазначаюць жыццяпіс
Літары са значэннем лёсу
Гэта — клінапіс
Аднак у маіх вачах нядаўняга вучня
Гэта — зоркі…

## НОЧ І МАЎКЛІВАСЦЬ

Ноч настае і маўклівасць
Ноч наступае з маўклівасцю
Ноч абступае

Але маўклівасць
У краі мнагашумных дарог
Не можа сюды прабрацца
Ноч чакае маўклівасці там
Каб потым падацца з ёй разам
Калі б ланцуг машын на шашы
На імгненне мог абарвацца
Цішыня магла б прыйсці наведаць мяне

## ТВОЙ ДОМ

Учора
Твой дом мяне не прывецціў
У доме тваім мы не змаглі з табой пагаварыць
У суцемках вуліцы
Бязлітасны лянівы і свабодны
Ён стаяў
Вочы акон паўпрыкрытыя
Глядзелі з-пад веяк-фіранак
І рук калоны прыклаўшы да скроні
Укрыўся ад дажджу шапкай бляшанага даху
Губы дзвярэй сціснуты
Падумалася мне: а калі дзверы адкрыюць рот
Слова чароўней за тваю постаць з-за іх выйдзе…
Аднак
Учора твой дом
Мяне не прывеціў
І не сказаў мне ні слова…

***Пераклад з таджыкскай***
***Міколы Мятліцкага.***



# ПАКАЯЛЬНАЯ МАЛІТВА

*Пад такой назвай неўзабаве ў Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва» выйдзе ў свет кніга выбраных перакладаў з балгарскай паэзіі вядомага трагічнага беларускага паэта Васіля Сахарчука (1951—2003). Ствараючы таленавітыя ўласныя вершы, паэт выступаў паспяхова і ў жанры перакладу. Асабліва аблюбаванай і блізкай сталася для яго душы паэзія братняй Балгарыі. Яшчэ пры жыцці аўтара былі выдадзены зборнікі «Пад сурдзінку» Дзімчы Дэбелянава і «Апалавы пярсцёнак» Пеё Яварава (сумесна з Н. Гілевічам). Да новага выдання далучаны і многія пераклады з творчай спадчыны В. Сахарчука. Пад адной вокладкай сабраны вершы балгарскіх паэтаў розных пакаленняў, ад класікаў XIX стагоддзя да сучаснікаў, якія працуюць у XXI стагоддзі.*

*Прапануем увазе чытачоў некаторыя пераклады В. Сахарчука, якія і сягоння мацуюць творчую еднасць беларускай і балгарскай паэзіі.*

## Росен ВАСІЛЕЎ

### ПАЭЗІЯ

І зноў — ранейшыя намеры...
Каторы раз?
Перад лістом
даўно забытае паперы
стаю, нібы перад судом.

Я зноў маўчу.
Душа, як рана.
Няма ратунку ад маны.
Зноў мая думка закавана
у словы, нібы ў кайданы.

Імгненне самае цяжкое —
стаю з няпэўным пачуццём
між барацьбою і спакоем,
паміж нябытам і жыццём.

Няўжо сумненні не пакінуць?
Мо з часам гэта ўсё міне...
і вадаспадам вершы хлынуць,
нібы расплата, на мяне.

## Андрэй ГЕРМАНАЎ

* * *

Пасля таго, што ўжо я перажыў,
не вельмі да жыцця душа імкнецца.
Але хацеў бы я на той мяжы
апошні раз на сонейку пагрэцца.

На самым досвітку наведаць свет,
каб паглядзець, як дыхае зямліца,
на даланю пакласці позні квет
і водарам ягоным наталіцца.

Убачыўшы ў блішчыначцы расы
адлюстраванне неба і аблокаў,
здзівіцца цуду вечнае красы,
пазначанае радасцю высокай.

Узрост мой мае асаблівы смак.
Там, дзе святло паволі дагарае,
ён непрыкметна падае мне знак,
зямлю з блакітам назаўжды яднае.

Калі ж пачую зноў жаночы смех
і бунт крыві зноў утаймоўваць буду,
яго, як і раней, я не прыму за грэх,
прыму яго адным з вялікіх цудаў.

## Атанас ДАЛЧАЎ

### МАЛІТВА

Не згадаў я, думаючы думу,
што так хутка век мой прабяжыць,
дык не дапусці, мой Божа, глуму,
каб сканаў я, не пачаўшы жыць.

Адвядзі складанасць-неспадзеўку,
навучы мяне зноў прастаце,
каб ад сэрца я аддаць схацеў
жабраку апошнюю капейку.

Каб адчуў я свой шчаслівы лёс,
бы дзіця цнатлівае, якое
першыя сняжынкі ціха ловіць
вуснамі гарачымі з нябёс.

Каб з людзьмі звычайнымі, як дзеці,
размаўляць без сораму я мог...
Навучы мяне, вялікі Бог,
бы ўсе людзі, жыць на белым свеце.

**1927**

## Дамян ДАМЯНАЎ

### РАЗВІТАННЕ З МЁРТВЫМ

Глянуў на твар яго — камень...
Пакратаў лоб яго — камень...
Даткнуўся да рук яго — камень...
Закрыў яго вочы — камень...
Не стала на твары аблічча.
Не стала на лбе яго думкі.
Не стала ў руках яго сілы.
Не стала ў вачах яго бляску.
З набыткаў сваіх прыжыццёвых
нічога не ўзяў ён з сабою.

Спакойна ўздыхнуў я з палёгкай:
у яму паклалі мы камень.
Засыпалі камень зямлёю.

А сам ён застаўся між намі.

## Ліяна ДАСКАЛОВА

* * *

Зямная я, што соль,
і простая, што глеба,
з якое цуд праклёўваецца ў неба:
пасля дажджу
і першага цяпла.

А потым: ружа расцвітае, як сляза...
І пацеркі выспельвае лаза...

Зямная я, што соль. Ва ўсім я, што зямля.
Хто ведае, чый воблік я прыму пасля...

* * *

Любое слова — простае, зямное —
мой доўг, віна, папрок —
адзінае, апошняе, святое...
А потым — чорны змрок.

І закуюць мяне ў халоднае маўчанне,
як толькі знікне след.
Таму мой кожны верш — нібыта развітанне,
нібыта запавет...

## Дзімча ДЭБЕЛЯНАЎ

### СВЕТЛЫ ЗГАД

Светлы згад пра цябе, бы любімая кніга,
днём і ноччу раскрытая перада мной...
Вечна ў промнях і кветках, не ведаю ліха,
невідушчы ўначы і злавеснай зімой.

Безліч сонцаў пяшчотных святлом залатым
абуджае ўва мне мрой нязведаных слодыч,
адчуваю цябе, быццам водарны подых,
і трымціць тваё сэрца ў суладдзі з маім.

Гэты край, дзе жывём мы з табою, спакон
ні трывог, ні намоў, ні маркоты не знае;
бы іскрысты крышталь, пачуццё наша ззяе,
і ўпрыгожвае вечнасць нас зорным вянком.

Мы ляцім над зямлёй, расцвітаючы ціха;
страх не ўладны над вольнай крылатай душой...
Светлы згад пра цябе, бы любімая кніга,
днём і ноччу раскрытая перада мной...

### ПАРЫЎ

Залатыя струны арфы
зазвінелі пад рукамі
у вясны, і радасць гімна
паплыла па ўсёй зямлі;
і сярод крыштальных гукаў
у далінах пасвятлелых
прачынаюцца фіялкі
і пралескі зацвілі.

Светлым святам жыццядайным
смутак і сумнеў знікаюць,
патаемна спеюць сілы
парыванняў маладых;
і душу на лёгкіх крылах
сны ўздымаюць залатыя
ў прамяністыя прасторы,
куды шпарка мкнуць патокі
разняволенай вады.

**Здраўка КІСЁЎ**

## ТРОХРАДКОЎІ

* * *

Снег — зашыфраваны, таямнічы ліст,
адасланы небам зямлі,
якая затаіла дыханне.

* * *

Кветкі глядзяць з вазы,
як у ложку памірае чалавек,
і ім здаецца, што яны неўміручыя.

* * *

Камень выплакаў
усе свае слёзы,
таму ён такі халодны і цвёрды.

* * *

Рэкі, якія цякуць бясконца
з вачэй нашых матуль,
не адзначаны на картах.

* * *

Калі памру,
на магілу пастаўце камень,
які зваліўся з майго сэрца.

## Іван МІЛЧАЎ

### ЧАКАННЕ

Над палямі ціха-ціха.
А на вуснах пыл гарчыць.
І зямля, як парадзіха,
перавёўшы дух, маўчыць.

Ад спякоты млее ніва.
Душна. З ранку парыць зноў.
Да ракі брыдзе маўкліва
статак змучаных кароў.

Душна. Цяжка. Невыносна.
Вянуць травы на вачах.
Птушка піскне безгалоса
і хаваецца ў хмызах.

Трэба некаму адолець
невыноснасць гэтых мук,
даць зямлі сасмяглай волю,
напаіць з ласкавых рук...

Груз свой цяжкі скінуць хоча
навальніца нада мной, —
цёплы лівень заплюскоча
над іржышчам і травой.

Рэзкім грукатам парушыць
млявасць сонную зямлі
і памые, як пад душам,
нашы душы і палі...

## Хрыста РАДЗЕЎСКІ

### СЛОВА

Была напачатку справа,
Справа была адвеку.
Гэта яна чалавека
з дзікага звера стварала.
Быў час той глухі і суровы,
калі на мяжы нябыту
з вуснаў яго першабытных
сарвалася першае слова.

Расло яно і дужэла,
кавалася ў працы і ў бітвах
і ў бязмежжы блакіту
лунала крылата і смела.
Праз чорныя ночы стагоддзяў
пранеслася слова-светач,
якое святым запаветам
запісана у народзе.

Хрысцілі праклёнам слова,
крывавым мячом жагналі,
святло яго беспаспяхова
хлуснёй засланіць спрабавалі.
У лютай задусе цэнзуры
ганьбу выносіла мужна.
Хоць часта было панурым,
не стала панам на службу.

Душылі яго вяроўкай,
хавалі жывым у магілу,
ды смерць перад ім усё роўна
нікчэмнай была і бяссільнай.
След яго нельга сцерці —
загіне і зноў уваскрэсне,
стане мячом пасля смерці,
у неба ўзнімецца песняй.
І павядзе за сабою,
расправіўшы горда крылы,
як перад рашучым боем,
адразу прыбавіцца сілы.
Адчуеш, уцешаны явай,
як думка да сонца сягае,
як праўда перамагае,
як слова становіцца справай.

**Пеё ЯВАРАЎ**

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

*Брату Атанасу*

Адзін, другі — удары збудзілі ціш нямую...
Царкоўныя званіцы пяюць суладным хорам,
разносяць радасць-вестку; штосілы ім туруюць
бадзёрым, гулкім рэхам насупленыя горы,
нясуць яе над лесам у небнае бяздонне.
Напоўніла ўрачыстасць паўночнае сутонне,

звышземны гул няясны яго агалашае:
ідуць бясконца душы, бязгрэшныя нібыта,
нябачныя, да Бога таемныя малітвы
узносяць — і абходзяць шыр без канца і краю.

Звіняць, пяюць званіцы... І кожную істоту
удары ахінаюць салодкім успамінам;
умомант забывае душа тугу-маркоту,
і казкі-чары ў сэрцы ўсплываюць штохвіліны:
пра незваротнасць часу, маленства дні былыя,
пра мроі залатыя, надзеі маладыя,
пра час наіўнай веры... калі так бесклапотна
на родным папялішчы жыццё цякло паволі,
калі нас не ўпрагалі яшчэ ў ярмо няволі,
пад гнётам чорнай працы не мылі твараў потам.

Наяве ўваскрасаюць, ідуць жывыя сцені,
у змроку прад вачыма праходзяць душы блізкіх:
то састарэлы бацька ў шчаслівым летуценні,
абняўшыся з унукам; то матка, ля калыскі
ласкава-задуменна схіліўшыся над сынам;
браты і сёстры, следам — вясёлая сябрына
свавольных аднагодкаў звініць птушыным роем;
то русая сяброўка... усмешлівыя вочы,
чырвоныя півоні пяшчотных шчок дзявочых —
найпекнейшая кветка часіны веснавое...

Шчаслівае маленства — цвітучая даліна,
што стомлены вандроўнік пакінуў за сабою;
як быццам бурай гнаны, спяшае, гнучы спіну,
і, здзіўлены, дарэмна назад глядзіць з тугою.
Дарэмна... Прад вачыма бялее шлях далёкі,
над ім змрачнее неба, згушчаюцца аблокі —
міжвольны страх штохвілі яго душу трывожыць,
што сонца яго спаліць, а дрэва не схавае,
што ў сухавей зацішку нідзе не адшукае,
што нават спадарожнік яму не дапаможа...

**1900**

***Публікацыя М. В. Сахарчука.***



**Юліус ЗЭЙЕР**

# ІНУЛТУС

*Пражская легенда*

*Празаік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык Юліус Зэйер (1841—1901) пакінуў значны след у чэшскай літаратуры XIX стагоддзя. Першая кніга пісьменніка — паэтычны зборнік «Вышаград» (1880). У сваёй паэтычнай творчасці Юліус Зэйер звяртаўся да літаратуры Сярэднявечча і фальклору, у прыватнасці да гераічных паэм, казак, паданняў, легендаў.*

*У прозе пісьменнік дэбютаваў фельетонамі, пазней паспяхова звярнуўся да жанраў апавядання і рамана. Самыя значныя апавяданні пісьменніка выйшлі пад назваю «Тры легенды пра ўкрыжаванне» (1892). Ідэі для сваіх твораў Юліус Зэйер браў з міфаў, паданняў, казанняў розных культур і ацэньваў іх, як найвышэйшую праяву нацыянальнага менталітэту. Найбольш вядомыя з раманаў пісьменніка «Андрэй Чарнышоў» (1875), «Ян Марыя Плойгар» (1888), «Раман пра вернае сяброўства Аміса і Аміла» (1877). Звяртаўся пісьменнік і да драматургіі. Вядомасць набылі п'есы «Гнеў Лібушы» (1886), «Старая гісторыя» (1883), «Радуз і Магулена» (1896).*

Было гэта, мусіць, дваццаць гадоў пасля бою на Белай гары.

Стаяў цудоўны вечар. Сонца заходзіла над Петржынам. Градчаны купаліся ў ружовым святле, Влтава здавалася ракою з цёмнага бурштыну. Карлаў мост кіпеў людзьмі, коньмі, карэтамі. Гэта была надзвычай прыгожая карціна. Колькі заможнай шляхты ў яркіх экіпажах, у багатым адзенні праязджала тут, тых, фанабэрыстых, бліскучых няпрошаных гасцей, што сёння займаюць месцы і правы абрабаваных тутэйшых родаў, а калісьці тут ездзілі іншыя, тыя, здрадзіўшыя, праклятыя, што паходзілі з чэшскай крыві, якой грэбавалі і прадалі за адзін грош. Іуды! Гэта была надзвычай прыгожая карціна. У пазалочаным цяжкім убранні сноўдаліся прэлаты, стражнікі якіх ніколі б не ўпусцілі Збавіцеля, калі б Ён, у беднай адзежы, басанож пастукаўся б у іх дом; з пагардаю глядзелі навокал статныя дамы ў шаўках, галовы якіх былі ўпрыгожаны золатам, а ў пустых душах даўно не засталося нічога жаноцкага. Паміж коньмі і карэтамі туляліся месцічы, тоўстыя, заўсёды задаволеныя, нягледзячы на тое, ці поўны іх кашалёк, ці нічога не маюць на абед. Заўсёды спакойныя гэтыя жыхары запаўнялі сабою вольныя месцы паміж карэтамі і коньмі, і тым самым дапаўнялі гэтую выдатную карціну, якая мела толькі адзін недахоп. Карціну псавала хеўра абадраных жабракоў непадалёк ад старагарадской вежы каля моста. Гэта былі тыя, хто захаваў вернасць чэшскай зямлі і сімвалізаваў сабою пэўны час, бо не пакінуць межы сваёй Айчыны мог толькі той, хто пагадзіўся быць верным, нягледзячы на гора, слёзы і прыніжэнне.

Позіркі прыгожых пані, фанабэрыстых шляхтуноў, тоўстых месцічаў непасрэдна не сустракаліся з гэтым натоўпам схуднелых і збяднелых людзей, а калі часам выпадкова натыкаліся на яго, то хутка адводзіліся ад такой непрывабнай карціны. Час ад часу толькі жабракі атрымлівалі міласціну ад змрочна апранутых жанчын, што праходзілі побач. Яны сядзелі на бруку, тулячыся адзін да аднаго, старыя, сляпыя, слабыя, у лахманах, як адна сям'я, бо агульнай іх маці была нявыказаная бяда.

Непадалёк ад гэтай групы неяк спыніўся малады мужчына. Вопратка на ім была не нашмат лепшай, але намнога чысцейшаю, твар ён меў бледны і няшчасны, як і ў іх, але можа таму і быў надзіва прыгожым. Рысы яго твару былі ідэальнымі, доўгія мяккія валасы мелі колер цёмнага золата, яго прыгожыя вочы пазіралі летуценна і свяціліся чароўным, таямнічым смуткам, а ў глыбіні іх хаваліся слёзы. Вусны скрыўлены ва ўсмешцы пакутніка. Ён хвіліну глядзеў на жабракоў, потым абшнарыў свае пустыя кішэні, знайшоў там троху грошай і паклаў у далонь старога сляпога. З апушчанаю галавою ён зрабіў некалькі крокаў, абапёрся на поручні моста і заглядзеўся на Градчаны, што пачыналі ахутвацца фіялетавым змрокам. Ружовае ззянне на іх згасала. Ён глядзеў доўга на Пражскі Град, і твар яго злёгку пачырванеў, а вусны нешта шапталі. Нарэшце сеў каля жабракоў на зямлю і закрыў твар далонямі.

Сонца даўно зайшло, і зямлю апанаваў глыбокі змрок, нячутным стаў грукат карэт, сціхла ржанне коней. Мост памалу апусцеў, і жабракі пайшлі тады, калі ўжо не было ніякіх спадзяванняў на міласціну. Але малады мужчына яшчэ доўга заставаўся сядзець нерухома. Калі нарэшце ён узняўся і азірнуўся, навокал была цемра, а на небе зырчэлі зоркі. Рака ўнізе глуха грукатала. Ён зноў абапёрся аб парэнчы і глядзеў на глыбокую цёмную плынь.

«Чаму я не кідаюся ўніз, туды, дзе б знайшоў спакой, дзе б згасла нянавісць, дзе б спыніліся гвалт, несправядлівасць і ганьба?» — пытаўся ён сам у сябе ціхім голасам.

Унізе ў рацэ мігцелі сярод хваляў водбліскі зорак. Ён адарваў ад іх вочы, зірнуў угору, дзе ўбачыў, як ясна і чыста зоркі свецяцца на небе. Вялікі іх спакой напоўніў яго душу. Іх нямая гаворка была нібы абяцаннем раскошы, нейкай насалоды, шчасця няпэўнага, бунтарскага.

«Быць шчаслівым, — шаптаў ён, — якое гэта пачуццё? Да каго звярнуцца, каб мне растлумачыў?» Ён падумаў яшчэ хвіліну і вырашыў пайсці. І ў гэты момант выпадкова апынуўся перад двума людзьмі, што ціха ішлі па дарозе. Гэта былі мужчына і жанчына. Мужчына стары і гарбаты, а жанчына зграбная і маладая. Мужчына асвятляў шлях запаленым ліхтаром, і промні святла выхапілі з цемры летуценны, бледны і прыгожы твар задуменнага юнака.

Жанчына злёгку ўскрыкнула ад здзіўлення. Яна вымавіла ціха і хутка некалькі слоў па-італьянску, адкрыла свой кашалёк і дала юнаку багатую міласціну.

— Я не жабрак, — сказаў ён рэзка і паглядзеў пакрыўджана і з асуджэннем на яе. Яе бледны твар быў надзвычай прыгожы і мармурова спакойны. Позірк жанчыны ахапіў яго вопратку і вытанчаныя рысы твару.

— Прабачце, пан, — сказала пасля, і голас яе салодкі, гучны і глыбокі дрыжаў, як музыка ночы. — Прабачце, пан, я не хацела вас пакрыўдзіць. Ведаю, што на гэтым месцы заўсёды бываюць жабракі, а цяпер цемра і я, безумоўна, не магла разгледзець. Як я магу выправіць сваю памылку?

Яна падала яму руку як мужчына мужчыну. Рука была халодная, як камень, цвёрдая і цяжкая.

— Я не крыўдую, — адказаў юнак і захваляваўся, бо яму здалося, што перад ім мярцвяк. — Гэта здань? — спытаў ён сам сябе і паглядзеў на яе больш

уважліва. Яна была прыгожая, настолькі прыгожая, якіх ніхто, мабыць, не бачыў на свеце, але ў яе прыгажосці было нешта каменнае, як і ў яе дакрананні. Ён заўважыў, што яна ўсё яшчэ трымае яго руку.

— Пан, — сказала, — дакажыце мне, што вы насамрэч прабачаеце. Будзьце ахоўнікам і правядзіце нас дадому. Я запрашаю вас на вячэру.

Твар юнака пачырванеў, і ён выняў сваю руку з яе рукі. Святло падала на яго твар, і прыгожая жанчына бачыла на гэтам твары сорам. Яна ўсміхнулася ўпэўнена і спакойна.

— Я донна Флавія Санціні з Медыалана, — сказала проста. — Дом мой не заплямлены. Ці не чулі вы маё імя? Многія з вядомых людзей гэтага горада з гонарам успрынялі б запрашэнне, ад якога вы так абразліва адмаўляецеся.

Яна махнула яму рукою і сказала старому:

— Ідзі і асвятляй.

— Прабачце, — сказаў разгублена і сарамліва малады мужчына. — Я вас пакрыўдзіў? Зразумейце, мяне гэтыя словы балюча раняць.

Ён ішоў побач з ёю, твар яе не змяніўся, як і раней яна была мармурова спакойная, неверагодна прыгожая, гонарлівая і халодная. Але з яе вуснаў зляцела некалькі слоў.

— Ці чуў ты калі-небудзь маё імя? — запытала яна зноў, ідучы.

— Не, пані, — адказаў ён нясмела, — ці не з роду вы тых чужынцаў, што добра разбагацелі на гэтай зямлі?

— Я чужая тут, — адказала яна, — і мой род не атрымаў нічога ні на гэтай зямлі, ні дзе ў іншым месцы. Выпадак прывёў мяне сюды. Род мой усяго толькі мяшчанскі. У маіх руках малыя грошы. І гэтыя грошы я аддаю мастацтву.

— Ах, — уздыхнуў малады мужчына, — быць мастаком! Тварыць! Тварыць!

Ён узняў вочы да неба і пазней схіліў галаву.

— А вы, кім з’яўляецеся вы? — запыталася прыгожая жанчына.

— Я паэт, — прашаптаў ён так ціха, што словы раставалі ў подыху вячэрняга ветру. Яму было сумна і тужліва. Ён увесь час думаў пра песні, што нарадзіліся ў яго сэрцы, і якія, нібы птушкі ў клетцы, сумна маўчалі, і не было сіл іх выліць са сціснутых тугою грудзей, бо перашкаджала камлыга праклёнаў і цяжкіх няшчасцяў, куды больш цяжкіх, чым на ўсёй яго роднай зямлі. Тыя песні напаўняліся нянавісцю, злоснымі крыкамі, стогнамі ад гора, якім поўнілася Айчына, над пагібеллю ўласнай сям’і, але не знаходзілі форму і словы, бо ў агоніі гэтай краіны анямелі і геній, і кожны звычайны чалавек, што жыў у гэты час, таму што скамянеў, змярцвеў і стаў змрочным, як і сама зямля.

Донна Флавія гэты шэпт пачула, нягледзячы на тое, што быў ледзьве чутны і сказала:

— Вы паэт! Тым лепш, бо зразумееце, магчыма, мяне. Тое, што я вам хачу сказаць, вельмі важна.

Паэт адчуваў сябе цяпер цалкам свабодна. Ён крочыў побач з прыгожай жанчынай і пачуваўся так, нібы ідзе з прыяцелем. Думка пра нейкую прыгоду, што ўзнікла не так даўно пасля запрашэння донны Флавіі, была адкінута і знікла бясследна. Яны моўчкі ішлі вусцішнай вуліцай, якая цягнулася ўгару, пустая і ціхая, пад стрэхамі дамоў узвышаліся цёмныя абрысы градчанскіх манастыроў, палацаў і касцёлаў. Спыніліся каля невялікага дома з высокім франтонам. Стары, што нёс ліхтар, выцягнуў ключ, адамкнуў дзверы, і яны ўвайшлі. Драўляныя прыступкі з багата выразанаю балюстрадаю вялі ўверх да адзінага паверха. Наверсе адамкнуліся цёмныя дзверы, прыгожа акаваныя, і выйшла жанчына з дзіўнымі, рэзкімі рысамі твару, у чорнай сукенцы, з доўгім ружанцам, які вісеў ад пояса ажно да зямлі. Яе вочы жоўтага колеру і круглыя,

як у начной птушкі, здавалася далёка зазіраюць і бачаць тое, чаго не бачыць ніхто. У руцэ яна трымала вялікі падсвечнік з трыма вялікімі свечкамі. Моўчкі прывітала донну Флавію.

— Плацыда, — сказала Флавія, — я прывяла госця. Дай нам паесці і папіць.

Яны ўвайшлі ў вялікі пакой. Сцены пакоя былі ўпрыгожаныя фламандскім жывапісам, пасярэдзіне стаяў вялікі, цяжкі дубовы стол з разьбою. Іншай мэблі не было, за выключэннем некалькіх вялікіх крэслаў і вялізнай шафы, што займала сцяну паміж двума вокнамі, напоўненай даўнім сярэбраным і бронзавым посудам. Паэту, як жыў у беднай каморцы недзе ў пустым квартале недалёка ад новагарадскіх бастыёнаў, гэты пакой здаўся па-каралеўску надзвычай прыгожым. Аднак сваё здзіўленне ён не паказаў, а пачаў уважліва разглядаць дыван, што закрываў вялікую частку цаглянай падлогі. Донна Флавія папрасіла яго, каб ён сеў у крэсла і выйшла з пакоя.

Плацыда моўчкі збірала на стол, рухаючыся нібы ў сне, а стары, які суправаджаў донну Флавію, пэўна, слуга ў доме, прыцягнуў крэсла і запаліў яшчэ тры васкавыя свечкі ў другім латунным падсвечніку.

Донна Флавія ў хуткім часе вярнулася, яна ўжо скінула плашч і была ў жоўтай шаўковай сукенцы, а на шыі і руках мела ўпрыгожанні з серабра. Яе каштанавыя валасы, мяккія і багатыя, былі проста зачэсаны і ўпрыгожвалі твар, а вочы, карычневыя і вялікія, надзіва прыгожыя, здзіўлялі халодным позіркам.

— Прысядзем да стала, — сказала яна і села сама.

Паэт сеў насупраць яе, а стары, што перад гэтым выйшаў з пакоя, увайшоў зноў і таксама прысеў да стала.

— Квідо, — сказала Флавія, — ведае мяне з майго ранняга дзяцінства, як і Плацыда, яны служылі маім бацькам і з'яўляюцца маімі прыяцелямі.

Стары ласкава ўсміхнуўся.

— Ён нямы, — ціха прамовіла Флавія.

Надышло маўчанне, пасля чаго донна Флавія за ежаю сказала:

— Так вы ніколі не чулі маё імя? Я ўжо ў Празе шмат гадоў і мне казалі, што я тут маю вядомасць. А ці не чулі вы выпадкова імя Праперзе дэ Росі? Не чулі? Ну, значыць, я залішне была самаўпэўненаю. Праперзе дэ Росі была самым славутым італьянскім скульптарам. Творы яе напоўненыя сілаю і боскаю прыгажосцю. Бачыла я іх у Італіі яшчэ ў дзяцінстве, і яны натхнялі мяне ўжо тады. Пазней яны далі мне шлях і стымул на ўсё жыццё. Я стала скульптарам, як і Праперзе.

Флавія падумала і сказала цішэй:

— Ці ўздымуся я калі-небудзь вышэй за яе?

Пазней яна звярнулася да маладога паэта і спытала:

— А як вас завуць?

Ён зморшчыў лоб, і ў яго вачах з'явіўся глыбокі смутак, таму адразу не адказаў, але нарэшце ціха вымавіў:

— Называйце мяне Інултус[1].

— Інултус! Вось дзіўнае імя, — заўважыла Флавія, — Інултус, гэта той неадпомшчаны? Або нескароны? Думаю, што ніхто акрамя вас не мае такога імя.

— А між тым, — сказаў Інултус, — так можна было б называць кожнага на гэтай няшчаснай зямлі, бо няма тут ніводнай душы, якая б не чакала або помсты або пакарання.

— Ах, ну калі так, — сказала донна Флавія, — тым лепш.

Інултус пахмурна маўчаў. У гэты час увайшла Плацыда з вячэраю на сярэбраным блюдзе. Донна Флавія ласкава папрасіла Інултуса, каб еў. Ён не еў цэлы

дзень і змушаны быў сябе стрымліваць, каб не паказаць голад. Інултус забыўся ў гэты час на ўсё, што яго прыгнятала, і еў і піў бесклапотна, пакуль голад свой паступова заспакоіў. Донна Флавія ела толькі садавіну. Пасля вячэры яна сказала Плацыдзе:

— Запалі лямпу ў майстэрні.

Праз хвіліну паднялася, адхінула заслону, за якою знаходзіліся невысокія дзверы і дадала:

— Я пакажу вам сваю працу і скажу, чаму я выпрашыла вас запрасіць да сябе. Хадзем.

Святло трох вялікіх лямп асвятляла прасторны пакой, у які ўвайшлі Інултус з доннай Флавіяй. Рэльеф з белага мармуру, які ўяўляў сабою Пуціфару, што цягнула плашч з плячэй Ёзафа, уразіў Інултуса прыгажосцю абрысаў і чысцінёю камня. У гэтым творы мастацтва было столькі сілы і прывабнасці, што Інултус здзіўлена выгукнуў:

— Гэта праца вашых рук, мадонна? Якая вы вялікая, моцная і ўзвышаная!

— Не, — адказала яна, — гэта твор Праперзе дэ Росі. Я толькі капіравала яго. Я не такая вялікая, моцная і ўзвышаная, як яна, але маю на мэце стаць большаю, мацнейшаю і больш узвышанаю, і вы зможаце мне ў гэтым дапамагчы.

— Я? — здзівіўся Інултус. — Як я змог бы гэта зрабіць?

— Скажу вам, — адказала яна, — Праперзе дэ Росі была няшчаснаю ў каханні і памерла ад адхіленага кахання. У гэтую постаць Пуціфары яна ўклала ўсю сваю страсць, увесь свой адчай. Ад кахання да чалавека пры смерці, Праперзе фатальна заставалася прыкаванай да зямлі. Я ж не ведаю, што такое каханне да мужчыны і не хачу ніколі пра гэта ведаць, бо смела ўздымаю свой позірк на зоркі, дзе прываблівы фантом без пагрозы да жыцця доўжыць славу. Слава і мастацтва — гэта адзіная мая любоў і адзіны мой Бог.

Яна падышла да вялікай белай заслоны, якую адхінула, і Інултус убачыў высокі драўляны крыж, на якім быў укрыжаваны Хрыстос у чалавечы рост, злеплены з гліны, і ўсё было даведзена да канца, акрамя твару, рысы якога былі толькі пазначаны.

— Перад вамі праява майго найвышэйшага славалюбства і адначасова мой адчай, — сказала Флавія. — Стварыць вобраз паміраючага Хрыста ў агоніі такім, каб ад жаху сціскалася сэрца, не здолела пакуль жаночая рука ні разцом ні пэндзлем, і я думаю, што гэта не змог бы зрабіць і ніводзін мужчына. Увасобіць у ім вялікую трагедыю Галгофы і праўду жыцця, каб брала ў палон гледачоў да дрыжыкаў ад жаху, каб свяціўся ідэальнаю прыгажосцю мармур, — вось смелая мара майго жыцця! З прагаю рэалізаваць сваю мару жыву я ўжо два гады. Дваццаць разоў я змяняла твар свайго Хрыста і дваццаць разоў была жорстка падманутай. Я не веру ў Хрыста і таму не магу аддаць працы ўсю душу, не магу адлюстраваць усё, што ёсць у маім сэрцы, у гэтым якраз і ёсць перавага людзей набожных, а я з вялікаю цяжкасцю павінна ўдасканальваць сваё майстэрства, тварыць і разбураць.

Інултус задрыжаў.

— Не верыць у Хрыста? — вымавіў ён, і слёзы паліліся з яго вачэй. Яму здалося, што гэтымі словамі ён параніў Збаўцу, і ў той жа час адчуваў вялікую спагаду да гэтай прыгожай, каменна халоднай жанчыны, з яе цёмнаю, няверніцкай, памерлаю душою. Вочы яе загарэліся, калі яна ўбачыла, што яе словы так яго ўсхвалявалі.

— Вы так падобны да Хрыста, як пра яго апавядаецца ў легендзе і як гэта адлюстравана ў мастацтве! — сказала яна з захапленнем. — Зразумейце, я даўно і марна шукаю гэты вобраз сярод людзей, вобраз таго, каго мая душа нарадзіць не можа. Калі я ўбачыла вас на мосце, то ўскрыкнула ад здзіўлення,

бо, гледзячы на вас, я бачыла вобраз свайго Хрыста! А цяпер бачу зноў, я шчаслівая, што абрала вас! Інултус, для вас я яго ствару! Ці пагодзіцеся вы стаць узорам для майго паміраючага караля яўрэяў?

— Ніколі! — адказаў Інултус пакорліва. — Я не падыду! О, як вы можаце нешта падобнае прагнуць, мадонна?

Яна ўсміхнулася і сказала:

— Вы дзіця, дружа!

Потым узяла яго за руку, падвяла да вялікага акна, паказала яму месца, дзе ён змог бы прысесці, і села сама на дыван, разасланы на шырокім падаконніку і перакінуты адным краем у пакой, а другім — у двор дома. Ноч была спакойнаю і поўнаю зорак. Праз стрэхі Малой Страны можна было бачыць горад далёка, ажно да таго краю, дзе ўзвышаліся цёмныя абрысы будынкаў, паміж якімі блішчэла Влтава. Шум ракі напаўняў майстэрню сваім сумным рытмам. Гэта было падобна на вялізарны, трагічны плач Прагі, што ляжала ля ног пахмурнага Града, нібы звязаная каралева, якую прадалі ў рабства, і якая з заміраннем прыслухоўваецца да цвёрдых крокаў свайго захопніка. Інултус у той момант, калі зірнуў на горад за акном, адчуў вялікі боль за прыгнечаную краіну, імя якой было выкраслена з кнігі жывых, зорка якой знікла ў імгле смерці і бяспамяцтва. Цяжкі ўздых вырваўся з яго грудзей, і ён закрыў твар рукамі.

— Дружа! — сказала Флавія, — я ведаю, што адбываецца з вамі. Нягледзячы на тое, што я чужаземка, я разумею вас. Калі дапаможаце мне дасягнуць мэты, то зможаце гэтаму краю, над якім у нямым жалі плачаце, гэтаму народу, з якога паходзіце, аказаць вялікую паслугу.

Інултус паглядзеў усхвалявана на яе з запытаннем.

— Так, — працягвала Флавія, — цяпер я растлумачу вам сваю думку. Адзін з тых, самых уплывовых і наймацнейшых, у чыіх руках знаходзіцца, мабыць, лёс гэтай краіны, назавем яго донам Бальтазарам, бо ён іспанец, наведвае мой дом. Сям'я мая з даўніх часоў была з ім звязаная, і менавіта дзякуючы яму мой бацька прыехаў у Чэхію. Дон Бальтазар з таго часу і наведвае мой дом. Гэта для мяне вялікі гонар, але мала радасці, бо цёмныя д'ябальскія яго вочы выклікаюць у мяне сапраўдны страх. Аднойчы я расказала дону Бальтазару пра сваё разуменне паміраючага Хрыста, хоць і не прызналася яму, як вам, што не веру ў яго боскасць. Дон Бальтазар запрасіў мяне на другі дзень у свой палац, дзе ў мармуровых залах пануе каралеўская раскоша. Ён прывёў мяне ў сваю царкву, якая зіхацела ад золата і дзе цяпер знаходзіцца пусты алтар, і сказаў:

— Душу маю стамілі страсці, яе не ўсыпляюць бясконцыя малітвы, яна атупела ад бою, які я бясконца вяду ў гэтай упартай, праклятай краіне ерэтыкоў. Я не магу ўжо па-сапраўднаму маліцца, таму хачу змясціць у маім пустым алтары такога Хрыста, пра якога вы мне ўчора казалі, такога, каб агоніяй сваёю мяне працінаў, каб выклікаў у маёй застылай душы немы крык болю, і я заплачу вам золатам і ўзнясу ваша імя да зорак. Вось так, Інулт[2], дружа, казаў мне дон Бальтазар, і з таго часу я жыву ў гарачцы... Інулт, я зраблю твар Хрыста падобны да вашага, выкажу ў ім ўвесь боль, які гняздзіцца ў вашых грудзях! Немы крык ваш перад сконам, сумны твар абудзяць нешта чалавечае ў цёмнай сатанінскай душы гэтага іспанца, магчыма выклічуць слёзы! Будзе гэта выглядаць так, нібы ўвесь час ваш змучаны край будзе пытацца вашымі вуснамі ў Бога:

— Чаму, Божа, ты мяне пакінуў?

І ведайце, выратаванне магло б прыйсці ў Чэхію! Ці чуеце вы, Інулт, плач гэтай глыбокай ракі? Ці бачыце, як Прага ў адчаі працягвае свае рукі да зорак?

Яна змоўкла, яе вочы, просячы, уперліся ў яго твар. Інултус, дрыжучы ўсім целам, узяў яе за абедзве рукі.

— Я зраблю ўсё, што пажадаеце! — ускрыкуў ён у экстазе. — О, прывяжыце мяне да крыжа так, як да яго прыбіта мая радзіма! Няхай пакуты, якія вы ўбачыце на целе маім, будуць на твары паміраючага Хрыста, і, магчыма, той пагляд кране сэрца гэтага ката! А ці ў душы вашай не азавецца ціхі голас падчас працы, які ў вас запытае, ці Хрыстос сапраўды жыў і ці быў ён Богам?

Флавія падала яму руку.

— Магчыма, здарыцца так, — сказала яна і адвяла свой пагляд, каб ён не прачытаў у ім нявер'е. Пазней дадала: — Цяпер ідзіце, прыяцель, і прыходзьце заўтра раніцаю. Кашалёк мой для вас заўсёды раскрыты, а маё сэрца напоўнена ўдзячнасцю.

Ён павёў рукою, нібы просячы, каб яна змоўкла.

— Добрай ночы! — сказала тым не менш і паклікала старога Квідона, які Інултуса выпусціў з дома і зачыніў за ім дзверы.

Флавія некалькі хвілін стаяла ў задуменні каля адчыненага акна, пакуль не прыйшла Плацыда.

— Паглядзі, — сказала старая і паказала ёй асколкі шклянкі.

— Ну што? — запытала Флавія.

— Гэты венецыянскі бакал, з якога піў твой госць, трэснуў, як толькі я да яго дакранулася. Гэты мужчына прынясе няшчасце ў твой дом.

Флавія засмяялася.

— Ты ведаеш, — сказала яна, — я не прымхлівая.

— Калі ён увайшоў у дом, я вам свяціла, — дадала Плацыда нізкім голасам, — і бачыла самую сябе ўнізе каля лесвіцы, бачыла, як за вамі зачыняюцца дзверы склепа, бачыла, як я яго, гэтага госця, усяго ў крыві, штурхаю ў склеп.

— Ідзі спаць, Плацыда, — спакойна сказала Флавія, — ты спала ўжо ў тыя хвіліны, калі свяціла нам, і сны твае заўсёды цяжкія і страшныя.

— Амаль заўсёды прароцкія, — дадала Плацыда.

Абедзве разышліся без далейшых слоў.

Інултус туляўся па вуліцах Прагі амаль у гарачцы, трызнячы глядзеў на зоркі, на цёмную раку, раскрываў абдымкі глыбокім ценям, клікаў у захапленні Бога, нібы мара Флавіі ўжо ажыццявілася. Раніцою, бледны і гатовы да смерці, ён пастукаў у зачыненую браму італьянскага скульптара.

Нямы слуга яму адчыніў і, усміхаючыся ласкава, правёў у майстэрню. Донны Флавіі не было. Плацыда ўвайшла і сказала Квідону:

— Пані сказала, каб ты зрабіў тое, што яна табе ўвечары загадала.

У той жа момант пайшла, а Квідон павярнуўся да Інулта. Ён так хутка зняў з юнака адзенне, што Інултус здзіўлена ўбачыў, што стаіць да пояса голы. Квідон зняў з яго абутак, пазней падвёў да ляжанкі, якую ўчора малады мужчына не бачыў і якая ўяўляла сабою пусты драўляны крыж на подыуме. Квідон узняў Інулта, як дзіця, паставіў на высокую прыступку пад крыжам, узяў вяроўкі, прывязаў моцна яго рукі да доўгіх перакладзін крыжа, пасля вызваліў ногі і прыбраў прыступку. Інултус вісеў на крыжы, падобны да Хрыста. У гэты момант увайшла донна Флавія. У свабодным, цёмным, падпераханым толькі поясам адзенні яна была яшчэ прыгажэйшаю, чым учора, яшчэ халаднейшаю, і выраз яе твару быў строгі і важны. Флавія паглядзела на Інулта, як на прадмет, а не як на чалавека, і без слоў распачала працу і аддалася ёй цалкам. Праз гадзіну Інулт страціў прытомнасць і не разумеў, што з ім адбываецца. Калі свядомасць да яго вярнулася, донны Флавіі ў майстэрні ўжо не было. Квідон і Плацыда развязвалі вяроўкі, якія трымалі юнака, дапамагалі яму апранацца і прынеслі віно і ежу. Ён змог трошкі з'есці, задыхаючыся піў і потым доўга ляжаў на дыване, разасланым на падлозе, паклаўшы галаву на падушку, якую яму прынёс Квідон. Калі ён змог устаць на ногі, то нямы дапамог яму сысці з прыступак і давёў да моста.

Падобным чынам гэта доўжылася ўвесь час; Інултус праходзіў праз сапраўдныя пакуты. Цяпер голы, прывязаны моцнымі вяроўкамі, ад якіх у яго ўтварыліся ацёкі, бо да крыві ўпіваліся ў цела, ён вісеў штодзень па некалькі гадзін на крыжы, адчуваючы голад і смагу, бо не мог нічога ні есці, ні піць, вісеў у хваравітым экстазе ад уяўлення пакут Хрыста целам і душою. Яго ахапіла нейкае шаленства. У гарачцы ўяўленне падказала яму думку, што Бог паслаў яго ў няшчасную краіну чэхаў, каб пакутаю на крыжы яе выратаваў. Яму здавалася, што дух самога Збаўцы чалавецтва пераносіўся ў яго цела, якое вісела прывязанае да крыжа, сам Дух Божы жыў у ім, пранізваючы смяротна яго цела, каб святло часам узнікала ў цёмным кутку душы, пра якую яму апавядала Флавія, у душы таго іспанца, што трымае лёс чэшскай зямлі ў сваіх руках. Ён паміраў шчаслівы з думкаю, што яго радзіма будзе выратавана яго смерцю, бо адчуваў, што такое вялікае шчасце варта жыцця.

Інултус быў шчаслівы, але донна Флавія штодня рабілася больш пахмурнаю. Пакуль яна працавала, ёй здавалася, што справа яе ідзе паспяхова, а калі Інултус ішоў з дома і яна заставалася адна, то адчувала цяжар і горыч расчаравання.

— Гэта зусім не тое, чаго я хачу! — казала яна страсна. — Калі цела спакутаванае, здранцвелае, змардаванае абуджае спачуванне і жах, я задаволеная, але твар! Ён цудоўны і смутны. Смутны, чысты, натхнёны, і гэта праўда. Але для мяне гэтага недастаткова! Я не бачу агонію ў гэтай простай стомленасці і непрытомнасці. Дзе таемны выраз, што яднае цела і душу?

І раптам у адчаі яна ўзяла кінжал, які заўсёды насіла за поясам, і спаласавала прыгожы, сумны, натхнёны і чысты твар свайго Хрыста. Пазней яна села пад крыжам і заплакала. Флавія не ўмела плакаць, таму слёзы прыносілі ёй боль, а не палёгку, і яе ахапіла пачуццё, нібы яна забіла чалавека.

Плацыда ўвайшла ў майстэрню, паглядзела на сапсаваны твар, на Флавію ў слязах, са здзіўленнем падышла і сказала:

— Ты плачаш над ім? Няшчасная!

— Над кім? — запыталася Флавія, раптам пабляднеўшы.

— Над Інултам, — адказала смела старая.

Флавія адчула, нібы яе ўдарыла маланка. Сэрца яе так моцна стукала, што яна чула грукат у грудзях. Пазней яна ашалела кінулася з кінжалам у руцэ на Плацыду.

— Ілжэш! — крыкнула.

— Тым лепш, — адказала Плацыда, холадна абараняючыся.

Флавія раптам паспакайнела. Яна ўзняла велічна руку.

— Ідзі! — сказала. — Я ненавіджу яго...

Плацыда пайшла. Флавія ўпарта патрэсла галавою і пачала папраўляць спаласаваны твар свайго Хрыста. На другі дзень, калі Інултус з'явіўся, яна зноў пачала цярпліва, вытрымана працаваць, нібы нічога не здарылася.

Яна ненавідзела прыгадваць тую імгненную слабасць, якую ніколі ў жыцці не ведала і якую Плацыда падлавіла, пранікаючы ў яе сваімі вялікімі, жоўтымі савінымі вачыма. Ненавідзела Інулта і мацней любіла свой твор, які атрымліваўся ўсё лепш і лепш. Было незразумелым, ці шукала Флавія цень смерці на чалавечым целе, але знайшла яго на твары беднага Інулта, які адчуваў набліжэнне смерці, ахоплены сваімі думкамі так, як іншыя каханнем або вінам. У тым пекле, у якім ён жыў, нашчадак некалі слаўнага, але знішчанага роду, ён, паэт, які не мог выказаць тыя словы, што ў ім выспявалі, ён, чэх, які бачыў сваю айчыну, якой здрадзілі, затаптанай, закіданай крывавым і мярзотным брудам; у гэтым пекле жыццё не мела нічога прывабнага, а смерць, якая магла быць збаўленнем не толькі для яго, але і для цэлага краю, для ўсяго народа, здавалася яму

самым прыгожым, самым узвышаным, што чалавек у гэтай даліне слёз і працы можа напаткаць. А як ззяла тады яго выратаванне, якое ён так выразна і насамрэч перад сабою бачыў, нібы карону з зорак на сваёй галаве! Флавія магла быць задаволенаю, бо знак таго скону не быў звычайным, а меў арэол вызвалення…

Аднойчы ён прыйшоў, ззяючы шчасцем, бо нейкі таямнічы голас яму сказаў: «Сёння ты атрымаеш тое, чаго прагне твая душа!» Донна Флавія ўвайшла, калі ён быў ужо прывязаны да крыжа. Быў ён як заўсёды голы, і ад усяго яго цела зыходзіла нейкае святло. Яна паглядзела не без здзіўлення на яго твар, і, убачыўшы на ім бязмежнае шчасце, якое пасля доўгіх пакут на імгненне яго разгладзіла, насупілася. Гэта не быў выраз яе Хрыста ў агоніі — шчасце знішчала яе твор.

— Не ўсміхайцеся так соладка, — сказала яна няласкава, — гэты бляск шчасця ў вашых вачах супярэчыць напружанню вашых рук, што ацяклі і абдзерліся да крыві.

Пазней дадала больш мякка:

— Мне дзіўна, што ў такім стане вы можаце яшчэ цягацца па вуліцах. Чаму вы не пажадалі, каб я па вас паслала людзей з насілкамі або карэту? Я зусім забылася пра гэта.

Інултус узняў вочы да неба і шчасліва ўсміхнуўся. Ужо не трэба будзе яму карэта, ужо не патрэбна будзе яму рабіць цяжкія крокі па зямлі! Ён усміхаўся яшчэ больш шчасліва і нічога не казаў.

Донну Флавію ахапіла нейкая злосць.

— Хоча зрабіць мне ўсё напоперак? — падумала яна. Паклікала Квідона.

— Прывяжы яго тужэй, — загадала цвёрда. — Ці не бачыш, што вяроўкі свабодныя?

Квідон паслухаўся.

— Больш шчыльна, яшчэ мацней! — загадвала Флавія ў нейкай гарачцы, назіраючы, як боль адбіваецца на твары Інулта, як пачала цячы кроў з яго рук і ног. Калі яна глядзела на кроў, то вочы яе свяціліся крываважэрна, як у тыгра. Флавія паківала Квідону, каб адышоў, узяла вялікі цярновы вянок і ступіла на яго ляжанку, паклала вянок на галаву Інулта. Яна дыхала цяжка, і калі ён паглядзеў на яе з нейкім дакорам, то яна адчула, як полымя апаліла ёй сэрца. Нейкая імжа на адзін момант легла на яе вочы, яна ўпарта затрэсла галавою, з нялюдскаю сілаю перамагла сябе і прымацавала жорсткую карону з церну на яго скронях. Ён задрыжаў ад болю ўсім целам, слабы крык прыгучаў з яго вуснаў і ручайкі крыві пацяклі па твары на яго бедныя голыя грудзі. Ён быў смяротна бледны.

— Вось так будзе лепш, — сказала донна Флавія ў нейкім нялюдскім захапленні лютасцю і любоўю, гневам і хваравітым задавальненнем і паспяшала ад ляжанкі да сваёй працы.

Інулт страціў прытомнасць, галава яго схілілася і вочы патанулі ў змрочнай містэрыі, у імгле паміж жыццём і смерцю. Гэта была апошняя агонія! Дзіўнае натхненне ахапіла Флавію, сэрца яе грукатала, але рукі не дрыжалі. Яна цалкам аддалася працы, і ёй здалося, што пад яе пальцамі нараджаецца цуд мастацтва! У майстэрні было ціха, як у труне, толькі моцнае яе дыханне і яго слабыя ўздыхі азываліся ў глыбокай немаце. Але свядомасць паступова вярнулася да Інултуса, ён расплюшчыў вочы.

— Божа, — сказаў, — што гэта са мною адбываецца?

Донна Флавія гучна абурылася.

— Яшчэ паўгадзіны, — усклікнула, — і я б дасягнула мэты! Чаму вы апрытомнелі?

У яе сапсаваўся настрой.

— Мадонна, — сказаў Інултус, — мне здаецца, што я паміраю.

Яна тузанулася, узяла свой кінжал, яе першая думка была чалавечная ад шкадобы, бо хацела вызваліць яго з путаў. Яна ўскочыла на ляжанку, і ён, якога ахапіла прадчуванне блізкай смерці, ужо нічога добра не разумеў, толькі падумаў, што яна хоча яго забіць.

— Так, — сказаў ён слаба, — вашая праўда. Што значыць маё жыццё, калі вы ўсадзіце кінжал у маё сэрца і ўбачыце той сапраўдны выраз твару, які так доўга шукалі, прынёсшы мяне ў ахвяру.

Ён глядзеў на яе трызнячы. Яна адчула, што нібы лава цячэ ў яе жылах, у вушах звінела, а ў скронях білі малаткі. Крыважэрнае шаленства, падобнае дзікунскай асалодзе, ахапіла яе, і яна памкнулася ўдарыць кінжалам у яго сэрца.

— За цябе, мой народ, — сказаў яшчэ больш слаба Інултус, — я аддаю кроў! Божа, дай мне збавенне!

— Ты спакушаеш мяне? — змрочна спытала Флавія, і яе жудасныя вочы ўпіліся ў гэты пасінелы твар, з якога выходзіла святое ззянне.

Яна адышла на крок, узяла кінжал і ўдарыла яго ў грудзі. Ён задрыжаў, аж затросся ўсім целам і паглядзеў на яе здзіўлена. Імгненна ён пазбавіўся трызнення. Яму так сцебанула па галаве, што сціснула сэрца. Інултус пашкадаваў жыццё, якога не ведаў і якое цяпер губляў, шкада стала маладосці, у якой ніколі не бачыў ніякай салодкай красы і якая цяпер раптоўна згасала, шкада стала таго слова, якое так і не прагучала горача, а цяпер навекі знікла! Буйная сляза памалу сцякала па яго твары. Але ён узняў вочы на Флавію і ўсміхнуўся ёй.

— Божа, прабач ёй, — прашаптаў, цень лёг на яго твар і ён, схіліўшы галаву, з ціхім уздыхам сканаў. Кроў з яго грудзей капала цяжкімі кроплямі на падлогу і цёмны жудасны грукат, падобны на стук гадзінніка, абудзіў спалатнелую Флавію, якая акамянела ад жаху. Яна памалу саступіла з ляжанкі, нібы ў сне прайшлася па майстэрні, як самнамбула падышла да свайго твора і ў непрытомным стане стала працаваць з захапленнем. Час ішоў, а Флавія не стамлялася. Калі сонца зайшло і крывавым сваім ззяннем заліло майстэрню, Флавія скончыла укрыжаванне. Яна адышла на крок, ззянне шчасця, якое немагчыма выказаць, лілося з яе вачэй. Яна ўкленчыла, узняла над галавою рукі і ўсклікула:

— Я — геній, таму што несмяротны твор — гэта справа маіх рук! Я ўзнялася вышэй, чым марыла!

Пазней яна паглядзела на свой крывавы твор, і раптам знікла захапленне і шчасце, а Флавія жахнулася таму, што забіла чалавека. Яна павалілася на падлогу і доўга там ляжала. У майстэрні было цёмна, калі яна ўзнялася. Паглядзела зноў на Інулта. Ёй здалося, што ён шырока развёў рукі ёй насустрач, нібы па ёй засумаваў. Валасы яе заварушыліся ад жаху, бо адчула, што прагне пацалунка тых бледных вуснаў.

— Нявеста мерцвяка! — прашаптала яна і на каленях падпаўзла да закатаванага Інулта. Флавія дакранулася сваім ілбом да яго ног. Іх мармуровы холад вярнуў ёй развагу.

Яна ўстала і запаліла лямпу, адчыніла дзверы і паклікала:

— Плацыда! Квідон!

Абое з'явіліся ўсхваляваныя, бо здзівіліся, што яна так доўга працавала, а голас яе быў глухі, сціснуты і не падобны на сябе. Яны глядзелі на яе з жахам, бо яна стаяла жудасная ў змрочным святле, абапершыся аб сцяну, а на яе бледным ілбе быў крывавы знак таго, што дакранулася да яго параненых ног. Яны агледзелі пакой і ўбачылі мёртвага Інулта з акрываўленымі грудзьмі. Без рухаў і гуку яны стаялі ціха, пакуль не азвалася Флавія. Яна нарэшце сказала, паказаўшы пальцам на Інулта:

— Аднясіце яго, — голас яе быў глухі.

— Ты забіла яго? — спыталася Плацыда.

Флавія кіўнула галавою.

— Бог мяне прабачыў, — сказала праз хвіліну.

— Ты кажаш пра Бога? — здзівілася Плацыда. — Пачынаеш у яго верыць?

— Я не магла скончыць сваю працу без забойства, — ухілілася ад адказу Флавія. Пазней дадала: — Ён хацеў памерці.

Яна закрыла твар рукамі.

— Што цяпер? — спыталася Плацыда.

— Не ведаю, — адказала нясмела Флавія.

— Я разумела, што яго некалі давядзецца цягнуць у той склеп, раней ці пазней, — сказала Плацыда і сумна ўсміхнулася. Потым яна павярнулася да Квідона, што ціха плакаў.

— Аднясеш яго, пакуль ніхто не спахапіўся, а вы, мадонна, пасвяціце!

Яны вынеслі Інулта і яго акрываўлены крыж, валочачы па прыступках, а Флавія, адставіўшы ўбок лямпу, адчыніла цяжкія дзверы склепа, які ўяўляў сабою частку старога будынка або хутчэй пячору, выбітую ў склепе, куды вялі жахлівыя, паламаныя, слізкія прыступкі. Хадзіць па іх было небяспечна. Плацыда і Квідон узнялі мёртвае цела, патрымалі яго хвіліну над безданню і кінулі. Калі яно звалілася ўніз, то азвалася з цемры такім страшным, своеасаблівым гукам, што Флавія, Плацыда і Квідон нібы скамянелі і доўга стаялі без руху, а калі нарэшце паглядзелі адзін на аднаго, то ўбачылі толькі пасінелыя ад жаху твары і разышліся, каб больш не знаходзіцца ў кашмары.

Ніхто не заўважыў, што Інулт знік, ніхто пра яго не пытаўся і не шукаў, і донна Флавія магла спаць спакойна. Плацыда задумалася, калі ўбачыла яе праз два дні спакойнаю, як заўсёды, без знаку шкадавання, з усмешкаю на твары.

— Будзе бяда, — сказала яна Квідону, — я не веру гэтаму спакою. Ты яшчэ ўбачыш смерць ад адчаю.

Донна Флавія паўтарыла ўкрыжаванне ў мармуры. Асабліва завіхалася над тварам Хрыста. Калі праца была скончана, то яе ўзялі ў прыгожы палац магната, які яе замовіў. Слава пра донну Флавію неслася па Празе. Дон Балтазар наладзіў вялікае свята ў сваім доме, дзе донне Флавіі падаравалі залаты венец. Яна трымала яго ў руцэ, а вочы яе глядзелі на твар мармуровага Хрыста, створаны ёю, і дзве вялікія, цяжкія слязы пацяклі з вачэй. Сумная і бледная яна вярнулася дадому.

Яна ўвайшла ў сваю майстэрню і села побач з рэльефам Праперзе дэ Росі. Флавія глыбока задумалася. Калі ўвайшла Плацыда, то яна сказала старой:

— Калі б я ведала, як мала слава насычае прагу душы! Калі б я ведала, як мала поспех насычае яе голад!

Плацыда ўзяла вянец з яе рукі і надзела ёй на галаву.

— Ты больш таленавітая за Праперзе дэ Росі, — сказала ёй, цяпер я ўпэўнілася.

— Праперзе дэ Росі! — усклікнула страсна Флавія. — О, якою яна была шчасліваю і якая няшчасная я!

Яна закрыла рукавом твар і пазней дадала, паглядзеўшы зноў на Плацыду:

— Яе забіла каханне, а я забіла каханне!

Яна гучна ўсхліпнула, але ў яе вачах не было ніводнай слязы.

— Маўчы, — сказала Плацыда строга і паклала руку на вусны, — маўчы і забудзь!

Флавія зноў паспакайнела, зняла залаты вянец з галавы і працягнула яго Плацыдзе.

— Ідзі, — сказала, — і кінь гэты вянец за ім у склеп.

— Ты звар’яцела? — спыталася Плацыда.

— Ідзі і выконвай! — загадала Флавія так рэзка і з такою сілаю, што старая паслухмяна пайшла. Калі яна вярнулася ў майстэрню, то ўбачыла, што рэльеф Праперзе дэ Росі ляжыць на падлозе, разбіты на дзве часткі, а на самым моцным круку, на якім калісьці высеў ён, цяпер вісіць донна Флавія, задушаная сваім поясам.

У гэтую самую ноч знікла ўкрыжаванне, зробленае Флавіяй, з царквы таго іспанскага магната, на цёмную душу якога мармуровы Хрыстос так мала мог паўплываць, як і жывы Збаўца. Уцёк той прыгожы крыж з дома грахоў і пыхі ў касцёл, які найчасцей наведвалі бедныя людзі. Гэты цуд нарабіў вялікі шум па ўсёй краіне і разам з тым казалі пра незразумелае самагубства донны Флавіі. Прычына выкрылася, калі Плацыда, змучаная дарэшты, расказала пра ўсё. Яна адчыніла забітыя дзверы склепа, Квідон спусціўся ўніз і вынес астанкі беднага Інулта, а за ім у труну паклалі выкінуты вянец.

Калі вялікая колькасць людзей ішла за беднаю труною Інулта, здарылася нешта дзіўнае. Па ўсім шляху стаялі на камянях бедныя і няшчасныя, схіліўшы галовы ажно да бруку, і гэта не магло не здзіўляць заможных паноў і пані, што ехалі конна і ў прыгожых карэтах, і вымушаны былі назіраць праяву такой незвычайнай і неабмежаванай павагі.

Адзін надзвычай багата апрануты італьянскі кардынал, які ў той час жыў у Празе, вельмі злаваўся, што яго прыгожы экіпаж быў на хвіліну спынены постацямі на каленях. Яму захацелася трохі змякчыць свае словы, калі з невысокага дома непадалёку выйшаў стары святар, бедны і проста апрануты, каб дапамагчы людзям, прынесці ім суцяшэнне. Як толькі ён убачыў труну Інулта, то расправіў плечы, вочы яго заззялі, і ён схіліў галаву. Кардынал нецярпліва выскачыў з карэты, падышоў да яго і дакрануўся да пляча.

— Чаму яны ўкленчылі і што гэтая ваша павага значыць? — запытаў ён важна.

Святар паглядзеў на яго, апранутага ва ўсё шаўковае.

— Ці ж вы, пан, не бачыце? — здзівіўся ён і адвёў вочы ад крыжа на залатым ланцугу, які зіхацеў ізумрудамі, а пазней зноў стаў глядзець на святую труну.

— Я не бачу нічога, акрамя пахавання нейкага жабрака. Кім ён быў? — пытаўся кардынал.

— Не ведаю, — адказаў святар, — але гэта быў чалавек, вызначаны Богам! Вы што, не бачыце, што за яго труною ідуць цар Давід з арфаю ў руцэ, а за ім сам Збаўца, з каронаю з цёрну на галаве?

І ён нізка да зямлі нахіліўся.

Што маглі бачыць гэтыя ганарыстыя, ап’янелыя ад фанабэрыі, асляплёныя пустой славаю гэтага свету? Не, не для іх, а для няшчасных і пагарджаных, для смутных і прыгнечаных, для бедных і простых прыйшоў Хрыстос і заснаваў сваё царства, якое не мае нічога агульнага з тымі, у чыіх руках сіла і ўлада гэтага свету. Пра тых, хто з’яўляецца першымі сярод людзей, Бог не ведае, але заўсёды, калі яны плацяць за апошніх, то з’яўляецца Збаўца для таго, каб даць доўгачаканае вызваленне для змардаваных, паказаўшы ім свой славуты ясны твар.

---

[1] Інултус — падобны да Бога (*з лац.*).

[2] Інулт — ніхто (*з лац.*). Флафія наўмысна так называе Інултуса.

***Пераклад з чэшскай Н. Рашэтнікавай.***

**Пётр НІКІЦЕНКА,**
*дырэктар Інстытута эканомікі НАН Беларусі, акадэмік*

# ФАРМІРАВАННЕ ДЗЯРЖАЎНАГА АНТЫКРЫЗІСНАГА МЕХАНІЗМА ГАСПАДАРАННЯ: абгрунтаванне і прапановы

У сучасных умовах фінансава-эканамічныя, а па сутнасці — палітыка-эканамічныя крызісы з'яўляюцца заканамернымі (гл. табл. 1—8). Іх палітычны кампанент і — больш за тое — генератар тлумачыцца тым, што эканоміка і ўся жыццядзейнасць практычна кожнай дзяржавы пачала базіравацца на міжнароднай кааперацыі, раздзяленні працы і вытворчасці, такім чынам ператварылася ў адзіную ўзаемазвязаную і ўзаемаабумоўленую сістэму. Кіраванне ёю павінна ўлічваць узаемаадносіны паміж дзяржавамі, рэгіёнамі і іх народнагаспадарчымі комплексамі, і, як пераканаўча паказвае цяперашні крызіс, гэта сістэма патрабуе адказнага і кампетэнтнага навукова абгрунтаванага палітычнага рэгулявання.

Трэба адзначыць, што дадзены імператыў супярэчыць працягламу вопыту ўстойлівага ўзнаўлення цыклаў крызіснай аднаўленчай структуры і дынамікі сусветнай эканомікі, у якой пануюць антыгуманныя і антыпрыродаахоўныя погляды і пастулаты. Глыбінныя асновы цыклічных крызісаў заснаваны на дзеянні эканамічнага закона капіталістычнага накаплення, з якога пачынаў капіталізм, шляхам арганізацыі «вытворчасці дзеля звышпрыбытку» і «расшчаплення» капіталу на вытворчы і фінансавы, больш за тое — фіктыўнага і спекулятыўнага ўзбагачэння другога незалежна ад вытворчасці. Таму пакуль што заканамерная і далейшая канцэнтрацыя фінансавага (пераважна фіктыўнага) капіталу ў нямногіх (да 10% насельніцтва планеты) і адсутнасць яго ў многіх (больш за 90% насельніцтва планеты), нарастанне ўнутраных і знешніх даўгоў перад цяперашнімі і будучымі пакаленнямі.

Аднак адзначаная заканамернасць не фатальная. Важна разумець, што законы грамадскага развіцця натыкаюцца на супраціўленне нятоесных і нават супрацьлеглых законаў і таму толькі ў абстракцыі могуць разглядацца ў «чыстым» выглядзе. Класікі грамадскага ўзнаўлення неаднаразова ўказвалі на «супрацьдзейныя ўплывы, якія аслабляюць і паралізуюць дзеянне агульнага закона капіталістычнага накаплення і надаюць яму характар толькі тэндэнцыі»[1]. Класікі таксама звярталі ўвагу на тое, што грамадскія законы «не маюць іншай рэальнасці, акрамя як у набліжэнні, у тэндэнцыі, у сярэднім... Гэта адбываецца часткова таму, што іх дзеянне перакрыжоўваецца з адначасовым дзеяннем іншых законаў»[2]. Сусветны фінансава-эканамічны (палітыка-эканамічны) крызіс — таксама адна з тэндэнцый сучаснасці, якой супрацьдзейнічаюць пазітыўныя сілы. Узрастаючую ролю сярод іх іграюць маладыя дзяржавы, якія шукаюць канструктыўную гуманную і прыродаахоўную альтэрнатыву. Сярод іх неардынарнае месца займае Рэспубліка Беларусь са сваёй спецыфічнай сацыяльна-эканамічнай мадэллю развіцця[3].

Айчынная эканамічная навука і адукацыя сёння валодаюць уласнай распрацоўкай сацыяльна-эканамічнай тэорыі духоўна-маральнага і ненасільнага

развіцця грамадскага ўзнаўлення, у якой навукова абгрунтаваны антыкрызісны механізм якаснага развіцця эканомікі краіны.

На думку міжнародных экспертаў, наасферны падыход да аналізу, абгрунтавання і ацэнкі шляхоў развіцця сучаснай эканомікі з'яўляецца сістэмным адказам на выклікі, якія ўзніклі ў выніку неаліберальнай капіталістычнай дактрыны. Яго ідэі могуць служыць дакладным компасам для выпрацоўкі механізмаў ненасільнага выхаду з цяперашняга крызісу і недапушчэння падобных крызісаў у будучым[4].

Трэба адзначыць, што дадзеная філасофія гаспадарання пачынае часткова ажыццяўляцца на практыцы і яе далейшая рэалізацыя абгрунтоўваецца ў распрацоўках Інстытута эканомікі НАН Беларусі, НДЭІ Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь, БДЭУ, БДУ, Горацкай сельгасакадэміі, Гродзенскага, Полацкага, Палескага і іншых універсітэтаў Беларусі пры выкананні Дзяржаўных праграм «Эканоміка і грамадства», «Нацыянальная бяспека», КПНТП да 2020, 2025, 2030 гадоў, у стратэгіі ўстойлівага развіцця, развіцця сферы паслуг, турызму, інавацыйнай і лагістычнай сістэм, у канкрэтных бізнес-праектах па мадэрнізацыі Беларускага металургічнага завода, іншых праграмах і інвестыцыйных праектах.

Сёння ўсё больш відавочнай становіцца своеасаблівая аксіёма: мудрасць і майстэрства кіравання жыццядзейнасцю людзей найбольш залежыць ад стану накаплення сферы розуму народа, і, у першую чаргу, кадраў улады, навукі і адукацыі па рацыянальным выкарыстанні і аптымізацыі сукупнага патэнцыялу паўшар'яў галаўнога мозгу — правага (структураўтвараючага, стабілізацыйнага) і левага (эўрыстычнага, дынамічнага) — і вобразна кажучы, «дзвюх рук» — правай, якая палітыка-эканамічнай навукай называецца «нябачнай рукой рынку», і левай «бачнай рукой» дзяржаўнага рэгулявання палітыка-эканамічнага механізма. Да «нябачнай рукі» адносяцца не толькі рынак, але і мараль, навука, адукацыя, культура, ахова здароўя, мастацтва, рэлігія і іншыя сферы нематэрыяльнай, духоўнай вытворчасці. Сёння неабходнасць разумнага выкарыстання абодвух паўшар'яў мозгу і «рук» у чарговы раз пераканаўча дэманструе цяперашні крызіс, калі не толькі дзяржаўныя дзеячы і сусветныя банкіры, але і царква ў адзін голас загаварылі аб маральнасці і разумным спалучэнні рынкавых і дзяржаўных механізмаў кіравання.

Разам з тым, калі зрабіць гістарычны экскурс, то неабходна заўважыць, што яшчэ «антыкрызісны» прэзідэнт ЗША Франклін Рузвельт 7 красавіка 1932 года казаў: «Ніводная нацыя не можа існаваць напалову збанкрутаваўшы. Мейнстрыт, Брадвей, фабрыкі, руднікі перастануць працаваць, калі палова пакупнікоў не зможа купляць. Неабходна, — заявіў ён, — павялічваць пакупную здольнасць паловы насельніцтва, асабліва таго, якое жыве ў сельскагаспадарчых раёнах». Ф. Рузвельт так сфармуляваў дзяржаўную антыкрызісную сацыяльна-эканамічную праблему. Яе сутнасць у тым, што амерыканцы павінны назаўсёды пазбавіцца ад устаноўкі на набыццё багацця, якое ў выніку празмернага прыбытку прыводзіць да неадпаведнай улады капіталу над грамадствам. Правільная па сутнасці для ЗША і ўсёй сусветнай супольнасці дадзеная антыкрызісная філасофія гаспадарання была хуткабежнай, і зноў атрымала перавагу ўстаноўка на сілу (развіццё ваеннай эканомікі) і адпаведную фінансавую палітыку (развіццё фіктыўнага капіталізму і доларызацыю свету).

Галоўная праблема на такім шляху ў тым, што сусветная эканамічная навука пераважна заснавана на капіталацэнтрычнай светапогляднай сістэме гаспадарання, у адпаведнасці з якой асноўным прынцыпам практычнай дзейнасці з'яўляецца дасягненне максімальных вынікаў пры найменшых затратах капіталу і атрымання на гэтай аснове максімальна магчымага прыбытку. Пераход на альтэрнатыўную антыкрызісную мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця прадугледжвае адмаўленне ад капіталацэнтрызму, што дазваляе ўзняцца но новы, больш высокі ўзровень тэарэтычнага асэнсавання эканамічных катэгорый, законаў і заканамернасцей, прыўносячы ў іх трактоўкі новыя працоўныя, біясацыяльныя,

духоўна-маральныя, экалагічныя (ачалавечана-прыродныя) аспекты, тым самым ажыццявіць «трансфармаванне» катэгорыі «капітал» у катэгорыю «фонды»[5].

Для большай антыкрызіснай устойлівасці і дынамікі айчыннай эканомікі і ўсёй жыццядзейнасці беларускага народа важна сёння прыступіць да змен у светапоглядзе і эканамічным мышленні ў кадраў, перш за ўсё чатырох самых важных грамадскіх інстытутаў: улады, навукі, адукацыі і царквы.

Першапачаткова падлягае перагляду прадмет эканамічнай навукі і адукацыі, які больш не можа абмяжоўвацца даследаваннем праблем аднаўлення толькі тавараў, работ і паслуг, тым болей капіталу. Эканамічная навука, гэтаксама як і эканамічная адукацыя, закліканы вывучаць жыццядзейснасць чалавека не толькі ў перыяд працоўнай дзейнасці, але і ў перыяд рэабілітацыі. У свой прадмет яны павінны ўключаць веданне ўсіх іншых навук і сфер дзейнасці, гэта значыць, выступаць сінергетычнай навукай, якая фарміруе ў людзей інавацыйны, наасферны погляд і мышленне. У выніку наасфернага абгрунтавання імператыву цывілізаванага развіцця на практычным узроўні выкрышталізоўваецца новая ідэалогія фарміравання антыкрызіснага фонду — эканомнага гаспадарчага механізма (малюнак № 1).

**Тэарэтыка-метадалагічныя асновы і рухаючыя сілы антыкрызіснага фондаэканомнага механізма гаспадарання**




*Малюнак № 1.*

Як вынікае з малюнка, яго сістэмная дамінанта заключаецца ў тым, што мэтавая функцыя, уласцівая капіталістычнаму механізму гаспадарання па забеспячэнні росту капіталу і звышпрыбытку, пры пераходзе да эканомікі ведаў, розуму, наасфернай эканомікі нейтралізуецца іншымі мэтавымі каштоўнасцямі — культывавання прыроды, народа і паляпшэння якасці жыцця людзей не за кошт сацыяльнага паразітызму і эксплуатацыі іншых людзей і прыроды, а шляхам падтрымкі імкнення чалавека да гарманічнай жыццядзейнасці.

На змену пануючаму сёння сітуацыйнаму кіраванню «па адхіленні» павінна прыйсці перспектыўнае, стратэгічна апярэджваючае кіраванне. Калі ў мінулым цывілізацыйным развіцці чалавек адносіўся толькі да «фактару вытворчасці», нароўні з зямлёй і капіталам, то ў наасферным грамадстве чалавечая асоба становіцца цэнтральнай фігурай быцця, а задача яе гарманічнага развіцця з прыродай і грамадствам дэтэрмінуецца ў зместавым кантэксце ўсіх сацыяльна-эканамічных, палітычных і духоўных працэсаў.

У парадыгме наасфернага мышлення і дзеянняў важна вызначыць новы крытэрый эфектыўнасці эканамічнай дзейнасці, які дазволіць мысліць глабальна, але дзейнічаць лакальна — на карысць павышэння якасці жыцця беларускага народа і яго імкнення да захавання і культывавання прыроды на аснове ўзнаўлення прыродных экалагічных цыклаў.

З мэтай стварэння антыкрызіснага фондаэканомнага механізма і павышэння на яго аснове канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі трэба зменшыць у 2—3 разы інфляцыйную складальную валавога ўнутранага прадукту (ВУП), якая вырасла. На рост інфляцыйнай долі ВУП асноўны ўплыў аказваюць такія фактары, як рост даўгоў і сацыяльнага паразітызму, уключаючы такую яго невідавочную форму, як бюракратызм у велізарнай колькасці статыстычных паказчыкаў уліку і кантролю гаспадарчай дзейнасці. Напрыклад, кожны паказчык у бухгалтарскім і статыстычным уліку патрабуе інфляцыйных затрат ад 3 да 10 млн. рублёў у год. Такія інфляцыйныя затраты на дакументаабарачэнне і «паператворчасць» за апошнія 2—3 гады значна ўзраслі.

***Даведачна:***
*Так, толькі па Інстытуце эканомікі НАН Беларусі аб'ём унутранай і знешняй перапіскі ў 2008 годзе, у адносінах да 2007 года, узрос на 27%, а ў першым квартале 2009 года ў адносінах да папярэдняга перыяду павялічыўся ўжо ў 2,3 раза. Аналагічнае становішча і па ўсёй НАН Беларусі. Прычым трэба мець на ўвазе, што гэта не кіраўніцкі, а навуковы цэнтр.*

Зыходзячы з неабходнасці напаўнення антыкрызіснага зместу беларускай мадэлі, неабходна істотна змяніць сістэму бухгалтарскага і статыстычнага ўліку, правясці максімальнае спрашчэнне, зніжэнне і ўстанаўленне адзіных дзяржаўных нарматываў размеркавання даходу (ВУП) для ўсяго працаздольнага насельніцтва і суб'ектаў гаспадарання. Патрэбна будзе змяніць амартызацыйную палітыку, палітыку аплаты працы, цэнаўтварэння, уліку выдаткаў вытворчасці, банкаўскай, грашова-крэдытнай і інвестыцыйнай палітыкі. Іх варта ўвязаць не толькі з рынкавай ацэнкай даходу ў структуры ВУП. Фондаэканомны механізм гаспадарання закліканы стаць чалавека- і прыродамернай сістэмай грамадскага ўзнаўлення.

Гэта азначае неабходнасць стварэння цэласнага сацыяльна-эколага-эканамічнага механізма фондаэканомнай гаспадарчай дзейнасці.

Разам з тым, фондаэканомны гаспадарчы механізм павінен забяспечваць узмацненне канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі на сусветным рынку, што патрабуе адмаўлення ад выкарыстання наступных прынцыпаў: апоры толькі на ўласныя сілы, асабліва навуковыя; паўсюднага імпартазамяшчэння; дасягнен-

ня дадатнага сальда як самамэты любой цаной, асабліва шляхам прымянення пратэкцыяніцкай тарыфнай палітыкі.

Не менш значнае і тое, што ў распрацоўцы і рэалізацыі фонда-эканомнага механізма гаспадарання неабходна павысіць маральную адказнасць усіх яго суб'ектаў, якая здольная нейтралізаваць бюракратызм, сацыяльны паразітызм, утрыманства, эканамічнае і інтэлектуальнае рэйдэрства. Дадзены механізм павінен забяспечваць не культ пасады чыноўніка, а культ людзей прадукцыйнай працы, іх інтэлекту і маралі, належны ўзровень аплаты іх працы, у цэлым — адэкватнага працоўнага і пенсійнага забеспячэння.

***Даведачна:***
*З гэтага пункта гледжання бягучая сітуацыя выклікае вялікую заклапочанасць. За тры першыя месяцы 2009 года тэмпы росту прамысловай вытворчасці пайшлі «ў мінус». Склады многіх прадпрыемстваў затаварaны нерэалізаванай прадукцыяй. Нягледзячы на дэвальвацыю беларускага рубля, якая працягваецца, абвастраецца дэфіцыт валюты. Зніжаецца экспарт і імпарт тавараў, расце сумарная запазычанасць, у тым ліку па крэдытах і пазыках.*

**Трансфармацыю дзеючага гаспадарчага механізма ў антыкрызісны перыяд трэба пачынаць са спрашчэння і павышэння эфектыўнасці бухгалтарскай, статыстычнай і падатковай сістэм краіны.**

Асноўным і, магчыма, адзіным павінен стаць падатак на камерцыйны даход, які абавязаны будуць плаціць усе суб'екты гаспадарання незалежна ад арганізацыйных форм іх дзейнасці і форм уласнасці ва ўзаемасувязі з эфектыўнасцю выкарыстання фондаў. Трэцюю частку іх даходу прапануецца адлічаць у бюджэт. Такім чынам у бюджэце сканцэнтруецца 33,3% зноў створанай вартасці (камерцыйнага даходу, ВУП), але ніяк не 50% і болей, як гэта адбываецца цяпер.

Паказчык камерцыйнага даходу павінен замяніць існуючы крытэрыяльны паказчык прыбытку і разліčаных на яго базе рэнтабельнасці, акупнасці і іншых паказчыкаў эканамічнай эфектыўнасці, якія дзейнічаюць сёння.

Атрыманы даход мяркуецца разумна размеркаваць па адзіных дзяржаўных прынцыпах і нарматывах для ўсіх удзельнікаў грамадскай вытворчасці. У перспектыве мэтазгодна дзве трэці даходу размяркоўваць пароўну на фонд аплаты працы (33,3% ад даходу) і фонд развіцця (33,3% ад даходу, адпаведна — амартызацыя 15—17% ад даходу і прыбытак 15—17 ад даходу). Фонд зарплаты работнікаў павінен размяркоўвацца пераважна не на аснове тарыфных ставак, а на аснове каэфіцыентаў працоўнага ўдзелу ў атрыманым камерцыйным даходзе, якія не перавышаюць суадносіны 5:1 паміж 10% высокааплачваемых і 10% нізкааплачваемых работнікаў.

Мадэль сацыяльна і экалагічна арыентаванай, накіраванай на чалавека і прыродазберажэнне эканомікі, якую фарміруе Беларусь, патрабуе рухаючага сістэмнага фондаэканамічнага механізма, аналагаў якому ў сусветнай практыцы няма. Гэты механізм фарміруецца не на прыстасаванні да свету, а на аснове кіруючага прынцыпу — жыць сваім розумам.

Пры гэтым уласна значэнне прыбытку як прыбавачнай часткі даходу не адмаўляецца. Адмаўляецца яго абсалютызацыя, арыентацыя на яго як на самамэту. Што ж тычыцца даходу, дык ён, як вядома, уключае ў сябе ўсе асноўныя яго размеркавальныя часткі: і прыбытак, і падаткі, і заработную плату, і сродкі на амартызацыю фондаў. Калі на рынкавай аснове расце і ўвесь камерцыйны даход, гэта значыць зноў створаная вартасць, то павялічваюцца ў аб'ёмах і яго размеркавальныя вышэйназваныя складнікі. Пры гэтым мэтазгодна падатковы нарматыў карэкціраваць на паказчык фондааддачы (фондаёмістасці) прадукцыі, работ і паслуг.

***Даведачна:***

*Пры гаспадарчым механізме, які дзейнічае сёння, у бухгалтарскім уліку паказчыкі прадпрыемстваў фарміруюцца кабінетнымі дзеяннямі — пераацэнкай фондаў, «накруткай» амартызацыі па галіновых нарматывах. Усё гэта выражаецца ў паказчыку «сабекошт». Зарплата таксама запісваецца ў сабекошт і тут жа абкладваецца падаткам, гэта значыць, выступае ў дзвюх супрацьлеглых эканамічных іпастасях — як затраты і як даход. Пры такой сістэме чым вышэйшая, да прыкладу, зарплата, тым ніжэйшая рэнтабельнасць. Пераацэнка фондаў, а, такім чынам, і іх амартызацыя, прасцей кажучы, яе інфляцыйнае «надзіманне» — таксама затратны артыкул. З-за яго шмат якія прадпрыемствы трапляюць у лік стратных. Увогуле інфляцыя і фіскальныя метады гаспадарання фактычна з'яўляюцца схаваным механізмам, які забяспечвае зацікаўленасць у працы і эканомным выкарыстанні фондаў. Як ні працуе чалавек, яго даход усё роўна рэзка змяншаецца з дапамогай інфляцыйных і фіскальных метадаў.*

Пры распрацоўцы антыкрызіснага рынкавага механізма фондаэканомнага гаспадарання мэтазгодна паказчыкі амартызацыі і прыбытку трансфармаваць у паказчык фондаў развіцця. Прадпрыемства само павінна вырашаць — ці сродкі з гэтага фонду накіраваць на амартызацыю, гэта значыць, на інвестыцыі ў асноўныя фонды, ці на папаўненне «абароткі», гэта значыць, на матэрыяльныя затраты, ці павялічыць фонд зарплаты.

Дзяржава, атрымаўшы трэцюю частку даходу ў якасці падатку, павінна даць суб'ектам гаспадарання свабоду ў распараджэнні дзвюма трэцімі даходу, якія засталіся ў іх. Цяперашняя ж жорсткая адміністратыўная рэгламентацыя гаспадарчага жыцця з'яўляецца адной з галоўных прычын закрэдытаванасці і неканкурэнтаздольнасці многіх з іх. Акрамя таго, залічэнне амартызацыі і прыбытку да фонду развіцця і выдзяленне зарплаты ў асобны фонд змяняюць структуру выдаткаў аб'ектаў гаспадарання.

У склад сабекошту прадукцыі (работ, паслуг) у такім выпадку трэба адносіць толькі матэрыяльныя, паліўна-энергетычныя і прыроўненыя да іх выдаткі (напрыклад, на рэкламу прадукцыі).

***Даведачна:***

*У сусветнай практыцы існуюць розныя варыянты вырашэння праблемы. Мадэль развіцця эканомікі можа быць арыентавана або на максімізацыю дабаўленай вартасці (японскі варыянт), або на максімізацыю прыбытку (практыка фірм ЗША). Апошнія арыентуюць сваю дзейнасць у асноўным на бягучы прыбытак, «хуткія грошы». Тым самым увага засяроджваецца на такіх фінансавых аспектах, як даход на акцыю ў канкрэтны перыяд, а не на доўгатэрміновай стратэгіі павышэння эфектыўнасці ад выкарыстання рэсурсаў ці развіцця вытворчасці. Такі прагматычны падыход у значнай меры ігнаруе інтарэсы базавага рэсурсу кампаніі — яе работнікаў, тых, хто гэты прыбытак, уласна, фарміруе. У выніку кіраўніцкі апарат, каб зменшыць затраты, скарачае заработную плату работнікам. Падобная перавага кароткатэрміноваму прыбытку ў значнай ступені з'яўляецца прычынай тых варожых адносін, якія існуюць паміж амерыканскімі кіруючымі і радавымі супрацоўнікамі.*

*Наадварот, японскія фірмы ў сваёй вытворчай дзейнасці максімізуюць дабаўленую вартасць. Яна вылічаецца як розніца паміж продажам кампаніі за пэўны перыяд і выдаткамі на тавары і паслугі, набытыя ў знешніх пастаўшчыкоў. Тым самым дабаўленая*

*вартасць уключае ў сябе і працу, і кіраванне, і капітал, і выдаткі, і прыбытак.*

*Зыходная філасофія мадэлі дабаўленай вартасці (па сутнасці — камерцыйнага даходу) выяўляецца ў тым, што асноўная мэта прыватнай карпарацыі — ва ўзнагароджанні сваіх работнікаў (як кіруючых, так і радавых супрацоўнікаў). Гэта доўгатэрміновая канцэпцыя, накіраваная на максімізацыю выгады ўсіх удзельнікаў — кіраўнікоў, рабочых, пастаўшчыкоў і акцыянераў. У выніку суб'екты працы і кіравання становяцца не праціўнікамі, а партнёрамі, якія імкнуцца да агульнай мэты — максімізацыі дабаўленай вартасці (камерцыйнага даходу). У гэтым выпадку іх інтарэсы непарыўна звязаны са здольнасцю фірмы канкурыраваць на сусветных рынках. Гэта заахвочвае сумесна імкнуцца да скарачэння выдаткаў і павелічэння продажу, шукаць шляхі павышэння прадукцыйнасці працы, эфектыўнасці інвестыцыі, праектаваць і выраблягь інавацыйную прадукцыю для сусветных рынкаў.*

*Такім чынам, большасць амерыканскіх фірмаў ставяць у аснову сітуацыйныя фінансавыя рашэнні на шкоду стратэгічным інвестыцыям. Іх увага канцэнтруецца на фінансавым кантролі над кароткатэрміновымі прыбыткамі. Японскія ж фірмы, наадварот, аддаюць прыярытэт стратэгічным рашэнням, тым самым маюць магчымасць хутка прыстасоўвацца да інвестыцыйных рынкавых перамен. У выніку, калі фірма, якая максімізіруе прыбытак, уступае ў канкурэнцыю з фірмай, якая максімізуе дабаўленую вартасць, яе магчымасці ў гэтай барацьбе невялікія.*

**Другой абавязковай умовай антыкрызіснага фондаэканомнага механізма павінна стаць павышэнне прагназіравання сусветных структурных змен і на яго аснове якасці і эфектыўнасці прадукцыйнай працы.** Пры гэтым да прадукцыйнай працы неабходна адносіць працу, якая функцыянуе не толькі ў прадметна-рэчавай сферы, але і забяспечвае і вырашэнне прыродаахоўных праблем, захаванасць і развіццё жыллёва-бытавых умоў, падтрыманне і ўмацаванне здароўя, ажыццяўленне фізічнага, разумовага, духоўна-маральнага развіцця чалавека і грамадства.

Тут таксама важна разумець, што дзейнасць, якая затрачваецца на падтрыманне абароназдольнасці, правапарадку, функцыянаванне дзяржаўнага, банкаўскага і іншага апарату, з эканамічнага пункта гледжання не належыць да катэгорыі прадукцыйнай працы як фактару вытворчасці. Яна належыць да разраду неабходнай, але непрадукцыйнай дзейнасці, а з улікам тэндэнцыі да бюракратызацыі і фінансавага манапалізму з'яўляецца адной з галоўных крыніц інфляцыйных і крызісных працэсаў. Адсюль вынікае **вывад аб важнасці скарачэння колькасці людзей, занятых у гэтых сферах дзейнасці да неабходнага і магчымага мінімуму. Асаблівую значнасць гэта пільнае патрабаванне набывае ва ўмовах крызісу.**

***Даведачна:***

*Бягучы крызіс выявіў непрывабныя рэаліі. Напрыклад, прэміі топ-менеджэраў многіх амерыканскіх карпарацый у 300 разоў (!) пераўзыходзяць іх немалыя зарплаты. Мала таго, калі новая адміністрацыя Белага дома дамаглася праз парламент амаль мільярднай падтрымкі вядучых галін эканомікі, выявілася, што значная частка бонусаў была зноў «прыватызавана» іх кіраўніцтвам.*

*Аднак у сусветнай практыцы ёсць і дадатныя прыклады. Так прэзідэнт карпарацыі «Крайслер» Лі Якока, калі яго кампанія знаходзілася на мяжы краху, вызначыў сваю заработную плату ў памеры*

*1 долара ў год. Аднача́сова ён уклаў 700 млн. долараў у даследаванне і распрацоўку новай мадэлі аўтамабіля, патлумачыўшы так: «Які сэнс весці барацьбу за выжыванне карпарацыі, калі ёй не будзе чаго прадаваць, як яна зноў стане на ногі?» Праз тры гады карпарацыя набыла лідэрскія пазіцыі на рынку.*

Што ж у нас?

Як вынікае з малюнкаў № 2 і № 3, на працягу апошніх гадоў доля затрат на арганізацыю, кіраванне, улік і кантроль у ВУП пастаянна расце. Будучы і так гіпертрафіравана высокай, яна павялічылася з 2000 па 2007 гг. на 2,2 працэнтных пункты. Але гэта адносна ВУП. У абсалютных жа значэннях агульная колькасць служачых, занятых у органах кіравання, уліку і кантролю ў Рэспубліцы Беларусь, за гэты ж перыяд узрасла на 10,2%.




**Доля ў ВУП затрат на арганізацыю, кіраванне, улік і кантроль**

*Малюнак № 2*




**Агульная колькасць служачых, занятых у органах кіравання, уліку і кантролю ў Рэспубліцы Беларусь**

*Малюнак № 3*

Пры гэтым унутраныя затраты на даследаванні і распрацоўкі пастаянна скарачаюцца, складаючы недапушчальна малую велічыню (0,7% ад ВУП у сярэднім за разглядаемы перыяд) для краіны, якая прадэкларавала 5 год назад сваю прыхільнасць да інавацыйнага шляху развіцця (малюнак № 4).




**ВУП і ўнутраныя затраты на навуковыя даследаванні і распрацоўкі**

*Малюнак № 4*

Якім эвалюцыйным шляхам патрэбна ісці для скарачэння непрадукцыйных расходаў? Прывядзём прыклад.

| Краіны | Месца ў рэйтынгу | Колькасць плацяжоў | Затраты часу, гадзіны | Падаткі на прыбытак (даход) | | Падаткі на зарплату | | Іншыя падаткі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | колькасць | час | колькасць | час | колькасць | час |
| **Беларусь** | **181** | **112** | **1188** | **24** | **960** | **24** | **180** | **64** | **48** |
| Украіна | 180 | 99 | 848 | 6 | 186 | 60 | 416 | 33 | 246 |
| **Расія** | **134** | **22** | **448** | **1** | **160** | **14** | **96** | **7** | **192** |
| Казахстан | 49 | 9 | 271 | 1 | 105 | 1 | 74 | 7 | 92 |
| Данія | 13 | 9 | 135 | 3 | 25 | 1 | 70 | 5 | 40 |
| Фінляндыя | 97 | 20 | 269 | 13 | 21 | 3 | 200 | 4 | 48 |
| Нарвегія | 18 | 4 | 87 | 1 | 24 | 1 | 115 | 2 | 48 |
| Швецыя | 42 | 2 | 122 | 1 | 50 | 0 | 36 | 1 | 36 |

**Рэйтынг краін па складанасці выплаты падаткаў**

*Малюнак № 5*

Як вынікае з малюнка № 5, Беларусь займае адно з першых месцаў у свеце па складанасці выплаты падаткаў. Па колькасці плацяжоў яна ў 60 разоў пераўзыходзіць такую краіну, як Швецыя, а Нарвегію па затратах на іх налічэнне — у 14 разоў.

Ацэначныя разлікі паказваюць, што толькі зніжэнне колькасці падаткаў на прыбытак да расійскага ўзроўню дазволіць зэканоміць на зарплаце бухгалтарскага персаналу каля 100 млрд. беларускіх рублёў у год.

І гэта толькі пачатак. Такіх рэзерваў у эканоміцы краіны дастаткова для таго, каб не зніжаць ва ўмовах крызісу рэальныя даходы насельніцтва. Неабходна толькі пазбавіцца ад баласту людзей непрадукцыйнай працы, даўшы ім магчымасць перанавучання і перакваліфікацыі для працы ў іншых сферах эканомікі.

Адначасова неабходна прыкласці максімум намаганняў для таго, каб не толькі не скарачаць інвестыцыі ў сферу навукі, але на яе карысць пераразмеркаваць датацыйныя фінансавыя патокі ад планава стратных прадпрыемстваў. Гэта абумоўлена тым, што сённяшняя Беларусь адрозніваецца надта невысокім узроўнем фінансавання даследаванняў і распрацовак як у іх абсалютным, так і ў адносным памеры.

Параўнальны міжнародны аналіз сведчыць, што чыста тэхнічна ажыццяўленне на беларускай глебе мадэлі малой, але даволі канкурэнтаздольнай краіны, напрыклад, такой, як Фінляндыя ці Швецыя, запатрабуе дзесяціразовага ўдзельнага расходу на даследаванні і распрацоўкі пры трохразовым павелічэнні колькасці іх выканаўцаў. Пры гэтым дзяржава, нягледзячы на ўзрастаючую ролю прамысловага сектара ў фінансаванні беларускай навукі, павінна, з улікам нацыянальнай спецыфікі, разглядаць свой удзел у гэтым працэсе як дамінуючы.

***Даведачна:***

*Для параўнання можна прывесці наступныя дадзеныя (малюнак № 6). Усярэдненыя за перыяд 1997—2007 гг. валавыя ўнутраныя затраты на даследаванні і распрацоўкі ў Фінляндыі і Швецыі перавышалі беларускія ў 14 і 27 разоў адпаведна. Іх удзельная велічыня, суаднесеная да колькасці насельніцтва краіны, найбольш поўна адлюстроўвае адносіны дзяржавы да задач інавацыйнага развіцця эканомікі.*




**Затраты на навукова-доследныя распрацоўкі на душу насельніцтва, дол. Парытэт пакупніцкай здольнасці (ППЗ) (у сярэднім за 1997—2007 гг.)**

*Малюнак № 6*

*Як вынікае з прыведзенага малюнка, патэнцыял трансфармацыйных мадэлей Расіі і Украіны таксама вышэйшы за беларускі.*

*Нарэшце, «бар'ер уваходу» на рынак роўных канкурэнтных магчымасцей залежыць і ад наяўнасці крытычнай масы даследчыкаў у сферы навукі.*




**Персанал, заняты даследаваннямі і распрацоўкамі (у сярэднім за 1997—2007 гг.), тысяч чалавек**

*Малюнак № 7*

З дадзенага кантэксту вынікае відавочны вывад: ідэя апоры выключна на ўласны інтэлектуальны патэнцыял не мае пад сабой рацыянальнай асновы, бо спробы навукова забяспечыць усе накірункі інавацыйнага развіцця па ўсім яго тэматычным спектры мяжуе з авантурызмам. На самай справе яны азначаюць пралангіраванае існаванне на мяжы простага выжывання традыцыйнай структуры навуковых арганізацый без уліку напрацовак, якія рэальна маюцца і запатрабаваны на рынку. Так, мы маем шэраг даследчыкаў сусветнага ўзроўню. Але гэта не значыць, што абгрунтавана экстрапаляцыя гэтага факта на ўсю навуку. Толькі прыярытэтныя накірункі ў інавацыйнай сферы, выбраныя на аснове шырокага экспертнага абмеркавання, сёння могуць быць забяспечаны крытычнай масай даследчыкаў, а таксама рэсурсамі, дастатковымі для выхаду на сусветны ўзровень канкурэнтаздольнасці.

**Трэцяй антыкрызіснай мерай абнаўлення гаспадарчага механізма павінна стаць сфера макраэканамічнага манетарнага рэгулявання,** у якой неабходна гарманічна суаднесці рынкавыя і адміністратыўныя падыходы па забеспячэнні стабільнасці і прадказальнасці працэсаў эканамічнага развіцця. Праблемы беларускай эканомікі, якія накапіліся і абвастрыліся ў выніку крызісу: нізкая эфектыўнасць гаспадарання, залішняя занятасць работнікаў на прадпрыемствах, іх нездавальняючая дзейнасць па зніжэнні матэрыялаёмістасці і рэсурсаёмістасці вырабляемай прадукцыі і скарачэнні складскіх запасаў, — могуць быць у значнай ступені кампенсаваны грашова-крэдытнай антыінфляцыйнай і дэвальвацыйна-эмісійнай палітыкай, накіраванай на падтрымку рэальнага сектара эканомікі.

Для гэтага важна, каб грашовыя сродкі прадпрыемстваў, якія ім неабходны для бесперапыннага ажыццяўлення гаспадарчай дзейнасці, знаходзіліся ў

жорсткай залежнасці ад яе вынікаў — камерцыйных даходаў. З гэтай мэтай Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь павінен у крызісны перыяд праводзіць дадатковую грашовую эмісію і разумна ажыццяўляць дэвальвацыю, якая будзе садзейнічаць тэхнічнаму пераўзбраенню вытворчасці, інавацыйнаму развіццю прадпрыемстваў, асваенню імпартазаменнай прадукцыі і ў неабходных выпадках — папаўненню абаротных сродкаў прадпрыемстваў і выплаце заработнай платы. Правядзенне такой палітыкі непазбежна прывядзе да паскарэння тэмпаў інфляцыі, аднак ва ўмовах яе агульнасусветнага развіцця гэта будзе кампенсавана павышэннем тэмпаў інфляцыйнага эканамічнага росту. Аднак нельга дапусціць уваходжання эканомікі краіны ў гіперінфляцыйную спіраль, а фінансавым і банкаўскім структурам неабходна авалодаць майстэрствам сістэмнага выкарыстання інфляцыйна-дэвальвацыйна-эмісійнага механізма.

***Даведачна:***
*Як правіла, у большасці краін спыняецца эканамічны рост пры інфляцыі, якая ўзрастае больш чым на 49% за год. Але можна прывесці і іншыя прыклады. Так, Турцыя мела 5,0% прыросту ВУП пры інфляцыі 70,1% у 1992 годзе, 5,8% прыросту ВУП пры інфляцыі 66,1% у 1993 годзе, скарачэнне ВУП на 3,0% пры інфляцыі 106,3% у 1994 годзе і зноў прырост ВУП 7,4% пры інфляцыі 93,6% у 1995 годзе. Бразілія ў 1993—1994 гадах пры інфляцыі 2148,4—2668,5% мела прырост ВУП 4,4—5,7%. Такім чынам, пры граматнай палітыцы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, накіраванай на падтрымку суб'ектаў рэальнай эканомікі, за кошт дадатковай грашовай эмісіі магчыма далейшае забеспячэнне эканамічнага росту.*

Адной з самых важных мер падтрымкі рэальнага сектара эканомікі павінна стаць захаванне беларускага рубля як менш цвёрдай валюты ў адносінах да валют, якія абслугоўваюць знешнегандлёвыя аперацыі ўсіх рэзідэнтаў Беларусі, у тым ліку прыгранічных краін. Гэта дазволіць зрабіць больш таннымі беларускія тавары на знешніх і ўнутраных рынках, будзе садзейнічаць росту зарплаты і пенсіі, зніжэнню эміграцыі кваліфікаваных кадраў, пашырэнню айчыннага экспарту. Неабходна таксама скараціць кароткія запазычанні ў нерэзідэнтаў па знешнегандлёвых дамовах і давесці іх да ўзроўню 15—20% ад агульнай сумы знешняга доўгу краіны.

Дзейсным інструментам стымулявання дзелавой актыўнасці ў перыяд эканамічных спадаў з'яўляецца зніжэнне падаткаў. Узровень падатковай нагрузкі ў Беларусі застаецца самым высокім у свеце, што не спрыяе канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў і абмяжоўвае эканамічны рост.

***Даведачна:***
*Падатковая нагрузка, з улікам адлічэнняў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва і адлікаў у мэтавыя бюджэтныя фонды, склала ў 2008 годзе 47,6% да ВУП. У адпаведнасці з ацэнкамі Сусветнага банка Беларусь апошнія гады займае (малюнак № 5) першае месца ў свеце (181 — у 2008 годзе) па складанасці падатковай сістэмы.*

*Параўнанне падатковай нагрузкі і даступнасці выплаты падаткаў адбываецца па стандартнай сістэме. Спачатку ацэньваецца агульная колькасць падатковых плацяжоў (колькасць, частата і метады выплаты). Потым колькасць гадзін, неабходных для падрыхтоўкі і запаўнення падатковых форм (уключаючы электронныя плацяжы ці непасрэднае наведванне падатковай інспекцыі) для трох асноўных відаў падаткаў і падатковых плацяжоў: падатку на прыбытак, падатку на дабаўленую вартасць (ці падатку з продажу),*

*падаткаў з заработнай платы. Пасля гэтага вылічваецца Агульны падатковы рэйтынг, які вымяраецца як працэнт усіх выплачаных падаткаў да валавога прыбытку. Сёння складанасць падатковых сістэм свету значна вар'іруецца. Так, у Ганконгу ёсць толькі чатыры падаткі з вельмі нізкімі стаўкамі (напрыклад, падатак на прыбытак — 17,5%). У іншых краінах, у лік якіх уваходзіць і Беларусь, колькасць падаткаў на бізнес перавышае 10, прычым большая частка з іх выплачваецца штомесяц.*

У 2009 гозе былі прыняты меры па зніжэнні некаторых падаткаў, прадугледжаны падатковыя льготы для малых і сярэдніх прадпрыемстваў, якія ствараюцца ў невялікіх гарадах і сельскіх населеных пунктах. Аднак гэта ўяўляецца толькі частковым рашэннем, паколькі ў падатковай рэформе зацікаўлены ўсе. Ва ўмовах крызісу неабходна прыняць дадатковыя меры па зніжэнні падаткаў, якія арыентаваныя на падтрыманне фінансавай устойлівасці прадпрыемстваў, павышэнне канкурэнтаздольнасці айчынных тавараў і стымуляванне ўнутранага попыту. У якасці першачарговай меры неабходна адмяніць адлічэнні ў мэтавыя бюджэтныя фонды, у прыватнасці ў інавацыйныя фонды, якія сёння для розных галін складаюць ад 0,25% да 25% ад сабекошту прадукцыі. Для стымулявання ўнутранага попыту, стрымлівання інфляцыі неабходна таксама адмяніць падатак з продажу.

Ва ўмовах сусветнага фінансавага крызісу адбываецца не толькі зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Адпаведна скарачаецца патрэбнасць у рабочай сіле, што прыводзіць да зніжэння занятасці і заработнай платы. Акрамя таго, скарачэнне бюджэтных даходаў, абумоўленае зніжэннем падатковых паступленняў, з'яўляецца падставай для скарачэння сацыяльных выплат і трансфертаў. Беларусь у гэтым плане не з'яўляецца выключэннем.

***Даведачна:***
*Пачынаючы з чацвёртага квартала 2008 года адзначаецца зніжэнне рэальных даходаў насельніцтва, якое працягвалася і ў пачатку 2009 года. Рэальная налічаная заработная плата (заработная плата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у лютым 2009 года ў параўнанні са студзенем 2009 года зменшылася на 2,7%. У бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэдняя заработная плата ў лютым 2009 года складала 729,9 тысяч рублёў. У параўнанні з лютым 2008 года яна павялічыласяч на 13,6%, а рэальная налічаная заработная плата зменшылася на 1,8%. Рэальны памер прызначанай пенсіі (пенсіі, скарэкціраванай на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у сакавіку 2009 года ў параўнанні з сакавіком 2008 года зменшылася на 2,8% і ў параўнанні з лютым 2009 года — на 0,6%.*

Скарачэнне даходаў прыводзіць да зніжэння плацежаздольнага попыту, што, у сваю чаргу, змяншае аб'ёмы выпуску прадукцыі. Такім чынам фарміруецца крызісная спіраль. Для выхаду з яе неабходна стымуляваць як сукупны, так і пакупніцкі попыт насельніцтва. Гэта палажэнне ўключана ў антыкрызісныя планы практычна ўсіх краін.

Для стымулявання пакупніцкага попыту насельніцтва на ўнутраным рынку ў першую чаргу неабходны меры па падтрымцы грамадзян. У сувязі з гэтым з бюджэту павінна аказвацца абароненая сацыяльная падтрымка, забяспечвацца выплата пенсій, стыпендыцый, дапамог малазабяспечаным і карэкціроўка гэтых сацыяльных трансфертаў у адпаведнасці з тэмпамі інфляцыі.

Відавочна, што ўтрыманне залішняй колькасці працуючых у бюджэтнай сферы і на прадпрыемствах робіцца ўсё больш цяжкім для эканомікі, чым выплата дапамог на ўзроўні пражытачнага мінімуму. Павялічваюцца даўгі, завы-

шаюцца выдаткі, зніжаецца канкурэнтаздольнасць прадукцыі, што яшчэ больш ускладняе яе збыт. Таму актуальнай праблемай ва ўмовах крызісу з'яўляецца павышэнне памеру дапамог па беспрацоўі. Ён павінен быць даведзены да ўзроўню пражытачнага мінімуму.

***Даведачна:***
*Сёння памер дапамог па беспрацоўі ўстаноўлены ў базавых велічынях (ад 75% да 2 базавых велічынь), якія ніяк з ім не звязаны.*

**Такім чынам, павышэнне дапамог па беспрацоўі будзе садзейнічаць захаванню сацыяльнай стабільнасці грамадства і павышэнню эфектыўнасці вытворчасці** на аснове неабходнай рэструктурызацыі вытворчасці і перамяшчэнню працаздольнага насельніцтва з адных сфер дзейнасці ў іншыя.

Для стымулявання ўнутранага попыту таксама рэкамендуецца пры пакупцы насельніцтвам айчыннай прадукцыі за кошт крэдытных рэсурсаў банкаў вызначыць працэнт за карыстанне крэдытам не вышэй за стаўку рэфінансавання плюс 1% маржы.

**У галіне цэнаўтварэння Інстытут эканомікі — прыхільнік рынкавай дэклараванай сістэмы.** Пры ёй вытворца сам вызначае цану на свае тавары ці паслугі, аднак павінен дэклараваць яе ў падатковым органе. З гэтай базы ажыццяўляюцца і ўсе далейшыя разлікі бюджэту. Матэрыяльныя і прыроўненыя да іх затраты, якія ўлічваюцца ў выдатках вытворчасці, мяркуецца пацвярджаць дакументальна.

**Ва ўмовах крызісу абвастраецца і праблема дэфіцыту гандлёвага балансу** краіны, які ў Беларусі пастаянна павялічваецца. Галоўная яго прычына — у нізкай эфектыўнасці беларускіх прадпрыемстваў, у першую чаргу машынабудаўнічых. Яны не могуць за кошт экспарту тавараў, якія маюць нізкую дабаўленую вартасць, кампенсаваць рост вартасці прамежкавага спажывання, ільвіную долю якога складаюць энергарэсурсы.

Аднак вырашэнне гэтай праблемы мае сістэмны і доўгатэрміновы характар і яе нельга вырашыць мерамі аператыўнага ўздзеяння. Можна выдзеліць некалькі накірункаў зніжэння імпарту. Для гэтага, у прыватнасці, неабходна:

1. Павышэнне энергаэфектыўнасці нацыянальнай эканомікі шляхам энергазберажэння на стадыях вытворчасці энергіі (электрычнай і цеплавой) і яе спажывання. Агульны гадавы энергетычны патэнцыял энергазберажэння складае прыкладна 10 млн. тон умоўнага паліва, з іх 3 млн. т. у. п. на стадыі вытворчасці энергіі (галоўным чынам у энергасістэме).

2. Уцягненне ў энергабаланс краіны мясцовых відаў паліва: торф, драўніна, а ў будучым, магчыма, і буры вугаль. Першыя два віды паліва ўжо выкарыстоўваюцца, аднак ва ўмовах пастаяннага павышэння цэн на імпартаваныя энергарэсурсы маштабы іх выкарыстання падаюцца недастатковымі.

3. Уцягненне ў энергабаланс узнаўляемых і нетрадыцыйных крыніц энергіі. Размова ідзе пра гідраэлектрастанцыі, ветраэнергаўстаноўкі, сонечную энергетыку, геатэрмальныя крыніцы энергіі і інш.

***Даведачна:***
*Эканамічны патэнцыял гідраэнергарэсурсаў Рэспублікі Беларусь, ацэнены больш за 10 гадоў таму, складае 250 МВт, а тэхнічны патэнцыял — 500 МВт. Гэта ацэнка была дадзена тады, калі цана прыроднага газу для Беларусі была роўная 24 долары за 1000 кубічных метраў. Ва ўмовах амаль дзесяціразовага павелічэння цаны на прыродны газ павінна быць выканана паўторная ацэнка эканамічнага патэнцыялу гідраэнергарэсурсаў, у выніку чаго ён можа ўзрасці ў два разы, да ўзроню тэхнічнага. Выпрацоўка электраэнергіі на базе магутнасці ў*

*500 МВт можа скласці не менш за 2 млрд. кВтг у год — прыкладна 7% ад агульнага спажывання электраэнергіі, якая выпрацоўваецца сёння на базе прыроднага газу. Гэта эканомія адпавядае 640 тыс. т. у. п. штогод, а пры цане 200 доларау за 1000 кубічных метраў складзе прыкладна 130 млн. доларау.*

*Зусім не выкарыстоўваецца ветраэнергетычны патэнцыял краіны, калі не лічыць два ветрагенератары агульнай магутнасцю 850 кВт, устаноўленых немцамі ў раёне Занарачы. Між тым у іншых краінах магутнасці ветраўстановак дасягаюць мільёны і дзесяткі мільёнаў кВт. Год таму гэта праблема разглядалася ў Саўміне РБ, і С. Сідорскі даў заданне павялічыць магутнасць ВЭУ у Беларусі да 15 МВт. Аднак гэта лічба на два парадкі ніжэйшая за тую, якая павінна быць у Беларусі з эканамічных меркаванняў у мэтах замяшчэння імпарту прыроднага газу.*

Развіваючы далей праблему імпартазамяшчэння, варта заўважыць, што разлік на татальны характар яе ўздзеяння на эканоміку, як на панацэю ад знешнегандлёвага і, такім чынам, валютнага дэфіцыту, не можа быць апраўданы. Тут важна адзначыць, што такі падыход магчымы толькі ва ўмовах самаізаляцыі краіны, ажно да пераходу на прынцыпы вядзення «натуральнай гаспадаркі». У адпаведнасці з даказанай на практыцы тэорыяй міжнароднай канкурэнтаздольнасці, любыя спробы адміністрацыйнага абмежавання імпарту ў рэшце рэшт прыводзяць да зніжэння тэхналагічнага ўзроўню вытворчасці, якасці прадукцыі і страце канкурэнтаздольнасці прадпрыемстваў і краіны.

Тым не менш, імпартазамяшчэнне на «конкурснай» аснове можна толькі вітаць. Яно будзе азначаць, што беларускія вытворцы, якія традыцыйна спецыялізуюцца ў пэўных галінах, могуць і павінны спыніць паток агрэсіўна навязваемых нам тавараў, галоўная вартасць якіх — таннасць. Прыкладам могуць быць айчынныя прадпрыемствы харчовай галіны, якія насыцілі рынак высакаякаснай мясной і малочнай прадукцыяй, хоць яшчэ некалькі гадоў таму пытанне «засілля» харчовага імпарту стаяла вельмі востра.

Шмат якія таварныя групы маглі б з поспехам вырабляцца ў Беларусі, бо для гэтага ёсць два складнікі поспеху: існуючая тэхналагічная база і рынак, што пастаянна расце. **Менавіта на гэта трэба рабіць акцэнт ва ўмовах крызісу.**

***Даведачна:***

*У Беларусі не вырабляюцца многія тавары павышанага попыту ў растучых сегментах: ламінат для падлогі; сайдзінг; падвясныя і нацяжныя столі; шклошпалеры; бітумная дахоўка; блінніцы; фрыцюрніцы; ёгуртніцы; параваркі; халадзільнікі «Side-Byside» з антыбактэрыяльным пакрыццём, сістэмамі цыркуляцыі паветра, распылення вітамінізаванага паветра са спецыяльнай касетай, дадатковымі функцыямі, класам электраўжывання «А+» і «А++».*

*Не вырабляюцца сучасныя сінтэтычныя мыйныя сродкі для мыцця шарсцяных і шаўковых тканін, сродкі «два ў адным» (парашок + адбельвацель), «тры ў адным» (парашок + адбельвацель + сродак ад накіпу).*

*Рынак дзіцячых цацак больш чым на 70% забяспечваецца за кошт імпартных паставак, шмат якія іх віды зусім не вырабляюцца (музычныя, радыёкіруемыя, электронныя і г. д.).*

*Гэта тычыцца і адзення павышанага попыту — з джынсавай тканіны, змешаных тканін з утрыманнем віскозы, бавоўны, лайкры, а таксама льняных тканін з нізкай змінаемасцю.*

*Няма вытворчасці спартыўных куртак, штаноў, камплектаў, абутку для заняткаў рознымі відамі спорту (гарналыжны, фрыстайл, біятлон і інш.), кросавага абутку для дзяцей.*

Асабліва варта падкрэсліць неабходнасць ажыццяўлення **структурных зрухаў у эканоміцы**. У першую чаргу гэта тычыцца прыярытэтнага развіцця сферы паслуг. Яно павінна ажыццяўляцца на аснове выбару і рэалізацыі найбольш перспектыўных інавацыйных праектаў. У дадзеным выпадку гаворка ідзе аб стварэнні новых відаў паслуг, новых тэхналогій і абсталявання, якія павышаюць іх якасць і эфектыўнасць, новых прадпрыемстваў і аб'яднанняў, якія, з аднаго боку, забяспечваюць незадаволеную патрэбнасць пэўнага віду паслуг насельніцтву, з другога боку — стварэнне новых рабочых месцаў.

Развіццё сферы паслуг, асабліва лагістычных, можа ажыццяўляцца за кошт далейшага ўцягнення ў рынкавы сектар тых паслуг, якія раней складалі так званы грамадскі сектар: транспартныя (транзітныя), адукацыйныя, медыцынскія, жыллёва-камунальныя, турыстычныя паслугі і інш. Аднак іх пераарыентацыя на рынкавыя механізмы не павінна быць татальнай, а выкарыстоўвацца ў тых сегментах рынку паслуг, дзе саспелі ўмовы для ўкаранення падобных тэхналогій, і для спажыўцоў з высокімі і сярэднімі даходамі.

Грунтуючыся на праведзеным сістэмным аналізе, можна сфармуляваць **прапановы, накіраваныя на выкарыстанне наступных антыкрызісных мер эвалюцыйнага ўздзеяння, адэкватных кан'юктуры ўнутранага і знешняга рынкаў.**

У сферы грашова-крэдытных і валютных адносін:

1. З улікам дамінуючай ролі дзяржавы ў кантролі над экспартным патэнцыялам эканомікі неабходна павялічыць норму абавязковага продажу экспартнай выручкі як мінімум да 50%. Пры наяўнасці жорсткага кантролю за продажам валюты па імпартных кантрактах праблема аптымізацыі кароткатэрміновых знешніх запазычанасцей будзе вырашана на працягу аднаго — максімум двух гадоў. Павышэнне нарматыву абавязковага продажу да названага памеру дазволіць органам грашова-крэдытнага рэгулявання павялічыць аб'ёмы валютных сродкаў, якія паступаюць у іх веданне, да 6—7 млрд. долараў. Гэта патрабуе таксама кантролю за продажам замежнай валюты па некрытычным імпарце і за экспартнымі паступленнямі ад сістэмаўтвараючых і экспартаарыентаваных прадпрыемстваў беларускай эканомікі.

2. Аб'ём золатавалютных рэзерваў грашова-крэдытнага рэгулявання павінен быць даведзены да памеру, які мінімальна эквівалентны трохмесячнаму імпарту краіны.

3. Неабходна змяніць мэтавы арыенцір знешніх пазык з кароткатэрміновых на доўгатэрміновыя. Для прыцягнення «замежных» грашовых рэсурсаў павінны быць вызначаны айчынныя экспартна-арыентаваныя прадпрыемствы-акцэптары і імпартазамяшчальныя вытворчасці. У выніку такіх пазык прыцягненыя сродкі будуць паступаць на працяглы тэрмін у форме прамых інвестыцый у статутныя фонды прадпрыемстваў на абнаўленне актыўнай часткі асноўных фондаў.

4. Пашырыць інвестыцыйна-інавацыйныя льготы, якія стымулююць капітальныя ўкладанні, і прадугледзець дазвол на інвестыцыйны падатковы крэдыт арганізацыям па наступных падставах: правядзенне падаткаплацельшчыкам навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ, тэхнічнага пераўзбраення, расшырэння, рэканструкцыі, мадэрнізацыі ўласнай вытворчасці, стварэнне новых вытворчых магутнасцей і тэхналогій, ажыццяўленне падаткаплацельшчыкам інавацыйнай дзейнасці. Падатковы інвестыцыйны крэдыт можа быць дадзены падаткаплацельшчыку па адным ці некалькіх відах падаткаў. Пры гэтым сума інвестыцыйнага падатковага крэдыту не можа перавышаць 80% ад агульнай велічыні інавацыйных укладанняў па праекце. Інвестыцыйны падатковы крэдыт

можа быць дадзены на тэрмін ад аднаго да пяці гадоў. Плата за карыстанне інвестыцыйным падатковым крэдытам не павінна спаганяцца.

**У бюджэтна-падатковай сферы** перш за ўсё патрэбна знізіць падатковую нагрузку да 1/3 ад даходу (ВУП), скараціць колькасць падаткаў, спрасціць падатковае заканадаўства, аптымізаваць расходы на ўтрыманне дзяржаўных органаў, якія ажыццяўляюць падатковы кантроль. З гэтай мэтай неабходна:

1. Адмяніць падатак з продажу, які дубліруе падатак на дабаўленую вартасць, што прыводзіць да двайнога падаткаабкладання, неапраўданага росту цэн на спажывецкія тавары і незадаволенасці насельніцтва;

2. Адмяніць падатак на нерухомасць з-за неадпаведнасці стратэгіі развіцця эканомікі, накіраванай на прыцягненне інвестыцый, абнаўленне асноўных фондаў, шырокае ўкараненне новых тэхналогій;

3. Зняць усе, што маюцца, абмежаванні па падатковых выліках, што скажаюць сутнасць залiковага метаду вылічэння падатку на дабаўленую вартасць;

4. Расшырыць сацыяльны падатковы вылік па падаходным падатку. Ён павінен уключаць не толькі затраты на атрыманне першай вышэйшай ці сярэдняй адукацыі, але і затраты бацькоў на атрыманне дзецьмі базавай і сярэдняй адукацыі. У прыватнасці, аплату факультатываў і іншых затрат бацькоў на навучанне дзяцей у школе, якія пацверджаны адпаведнымі дакументамі;

5. Устанавіць падатковы вылік у суме 10—20 базавых велічынь ці ў пэўнай суме ў беларускіх рублях па затратах грамадзян на медыцынскае абслугоўванне і лячэнне. Расшырэнне сацыяльнага падатковага выліку за кошт устанаўлення пэўнай сумы затрат на лячэнне, якая вылічваецца з падаткаабкладаемага даходу, дазволіць павысіць узровень і якасць жыцця насельніцтва;

6. Працягваць лібералізацыю сістэмы падатковага адміністравання, абапіраючысяч на прынцыпы: непадачы падатковых дэкларацый пры адсутнасці аб’екта падаткаабкладання, а таксама ўкаранення сістэмы электроннай падачы падатковых дэкларацый, якая дазваляе аптымізаваць расходы на падатковае адміністраванне.

**У галіне бухгалтарскага і статыстычнага ўліку:**

1. Выключыць са складу выдаткаў расходы па выплаце заработнай платы, адлічэнні на сацыяльнае страхаванне і амартызацыю асноўных фондаў, уключыўшы іх у даход. Гэта будзе садзейнічаць спрашчэнню бухгалтарскага і статыстычнага ўліку, падатковай сістэмы і адначасова стане фактарам зніжэння выдаткаў на вытворчасць і рэалізацыю прадукцыі, работ і паслуг.

Прапануемыя пераўтварэнні павінны быць легалізаваны ў заканадаўстве. Пры гэтым неабходна строга размяжоўваць усе расходы, якія ўключаны ў вытворча-рэалізацыйныя затраты і з’яўляюцца сацыяльна і эканамічна апраўданымі, на выдаткі вытворчасці прадукцыі (работ, паслуг), і расходы па рэалізацыі тавараў (транеакцыйныя выдаткі);

2. Да ліку асноўных вытворчых выдаткаў, характэрных для ўсіх галін і сфер народнай гаспадаркі, мэтазгодна аднесці расходы, непасрэдна звязаныя з вытворчасцю прадукцыі (выкананне работ, аказанне паслуг), а менавіта:

— *матэрыяльныя затраты, абумоўленыя тэхналогіяй вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, работ і паслуг;*

— *паліўна-энергетычныя затраты, неабходныя для забеспячэння вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, работ і паслуг;*

— *матэрыяльныя, паліўна-энергетычныя і прыроўненыя да іх затраты на падрыхтоўку і асваенне вытворчасці.*

Адзначаныя матэрыяльныя складнікі выдаткаў вытворчасці і рэалізацыі павінны быць пацверджаны дакументальна;

3. Ажыццявіць змены ў сістэме статыстычнага ўліку, аналізу і бухгалтарскага ўліку па вылічэнні паказчыка навукаёмістасці, які характарызуе працэс фарміравання эканомікі ведаў, шляхам супастаўлення прыросту даходу і названага

паказчыка на ўсіх структурных узроўнях. Гэта выключыць неадэкватную, заніжаную эканамічную ацэнку ўкладу навуковай працы ў сацыяльна-эколага-эканамічнае развіццё краіны;

4. Выключыць са статыстычнай справаздачнасці паняцце «супастаўных цэн»;

5. Распрацаваць адзіны і сціслы інструктыўны дакумент па кожным раздзеле бухгалтарскага, статыстычнага і падатковага ўліку;

6. Заканадаўча ўстанавіць, што дата адлюстравання гаспадарчых аперацый павінна быць абавязковая і адзіная да прымянення як у бухгалтарскім, так і статыстычным і падатковым уліку;

7. Даць права бухгалтару вырашаць пытанні па аднясенні тых ці іншых расходаў на адпаведныя артыкулы затрат;

8. Дазволіць прадпрыемствам і арганізацыям самастойна вызначаць тэрмін выкарыстання фондаў у залежнасці ад умоў дзейнасці, выпуску прадукцыі. Пераацэнку фондаў праводзіць простым дагаворным метадам, зыходзячы з сітуацый на рынку;

9. Распрацаваць электронныя бланкі паказу і апрацоўкі справаздачнасці, уніфікаваныя па фінансавых паказчыках з бухгалтарскай (фінансавай) і статыстычнай справаздачнасцю.

Яшчэ раз падкрэслім, што пададзены вышэй аналіз і прапанаваны комплекс мер заснаваны на сістэмным падыходзе да структуры і дынамікі беларускай мадэлі развіцця і яе адпаведнасці практыцы. Такі падыход, як вядома, мае на ўвазе ўсебаковасць разгляду праблемы. Гэта значыць, што навуковая абгрунтаванасць палітыка-эканамічнага кіравання ў Рэспубліцы Беларусь шмат у чым абумоўлена ясным разуменнем міжнароднага, а сёння па некаторых параметрах можна сцвярджаць — і глабальнага вымярэння і ацэнкі нашага стабільнага развіцця. Гэта абавязвае да ўліку каласальнай інфармацыі аб сусветнай эканамічнай дынаміцы, і яе можна наглядна паказаць праз наступныя таблічныя формы 1—8*.

Табліца 1 — **Доля вядучых краін у сусветнай эканоміцы ў 2007 годзе, (у %)**

| | Насельніцтва | ВУП па ППЗ[6] | ВУП па абменным курсе | Прамысловая вытворчасць |
|---|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| ЗША | 4,7 | 21,4 | 27,4 | 12,0 |
| Кітай | 20,5 | 10,9 | 5,5 | 12,4 |
| Японія | 2,0 | 6,6 | 9,0 | 8,0 |
| Індыя | 17,4 | 4,6 | 1,9 | 1,1 |
| Германія | 1,3 | 4,4 | 6,0 | 13,2 |
| Вялікабрытанія | 0,9 | 3,3 | 4,9 | 5,0 |
| Францыя | 1,0 | 3,2 | 4,6 | 5,7 |
| Расія | 2,3 | 3,2 | 2,0 | 1,0 |
| Італія | 0,9 | 2,8 | 4,0 | 5,1 |
| Бразілія | 2,9 | 2,8 | 2,6 | 2,4 |
| Канада | 0,5 | 2,0 | 2,5 | 3,6 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 45,6 | 34,8 | 29,6 | 33,6 |

Табліца 2 — **Доля вядучых краін у сусветным гандлі ў 2007 годзе, (у %)**

| | Экспарт тавараў | Імпарт тавараў | Экспарт паслуг | Імпарт паслуг |
|---|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| Кітай | 11,3 | 9,4 | 6,4 | 5,5 |
| Германія | 9,5 | 7,5 | 6,1 | 8,0 |
| ЗША | 8,4 | 14,2 | 13,9 | 11,0 |
| Японія | 5,1 | 4,4 | 4,2 | 5,1 |
| Францыя | 4,0 | 4,3 | 4,0 | 3,9 |
| Італія | 3,5 | 3,6 | 3,3 | 3,8 |
| Вялікабрытанія | — | 4,3 | 8,1 | 6,3 |
| Канада | 3,0 | 2,7 | 1,9 | 2,6 |
| Расія | 2,6 | 1,6 | 1,2 | 1,9 |
| Бразілія | 1,2 | 0,9 | 0,7 | 1,1 |
| Індыя | 1,0 | 1,5 | 2,7 | 2,6 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 47,3 | 45,6 | 47,5 | 48,2 |

Табліца 3 — **Доля вядучых краін у глабальнай энергетыцы, (у %)**

| | Вытворчасць энергіі | Спажыванне энергіі | Здабыча газу | Здабыча нафты |
|---|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| Кітай | 14,3 | 16,8 | 2,4 | 4,8 |
| ЗША | 14,2 | 21,3 | 18,8 | 8,0 |
| Расія | 10,3 | 6,2 | 20,6 | 12,6 |
| Індыя | 3,7 | 3,7 | 1,0 | 1,0 |
| Канада | 3,5 | 2,9 | 6,2 | 4,1 |
| Вялікабрытанія | 1,8 | 2,0 | 2,5 | 2,0 |
| Бразілія | 1,6 | 2,0 | 0,4 | 2,3 |
| Германія | 1,2 | 2,8 | 0,5 | 0 |
| Францыя | 1,2 | 2,3 | 0 | 0 |
| Японія | 0,9 | 4,7 | 0 | 0 |
| Італія | 0,2 | 1,6 | 0,3 | 0 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 47,1 | 33,7 | 47,3 | 65,2 |

Табліца 4 — **Доля вядучых краін у сусветнай навуковаёмістай эканоміцы ў 2006 годзе, (у %)**

| | Расходы на НДВКР[7] | Карыстальнікі Інтэрнет | Экспарт высокіх тэхналогій |
|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| ЗША | 31,4 | 17,3 | 14,6 |
| Кітай | 15,6 | 10,8 | 19,4 |
| Японія | 12,8 | 7,5 | 7,6 |
| Германія | 5,8 | 4,1 | 8,6 |
| Францыя | 3,9 | 2,6 | 4,4 |
| Індыя | 3,7 | 5,6 | 0,2 |
| Вялікабрытанія | 3,6 | 3,3 | 5,1 |
| Канада | 2,0 | 1,9 | 1,9 |
| Італія | 1,7 | 2,6 | 1,5 |
| Расія | 1,6 | 2,3 | 0,2 |
| Бразілія | 0,7 | 2,4 | 0,5 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 17,2 | 39,6 | 36,0 |

Табліца 5 — **Доля вядучых краін у сусветных ваенных расходах у 2006 годзе, (у %)**

| | Ваенныя расходы | Ваенныя расходы па ППЗ | Ядзерная зброя | Узброеныя сілы | Ваенная вытворчасць | Ваенны экспарт |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| ЗША | 57,0 | 49,3 | 45,6 | 4,5 | 63,5 | 28,5 |
| Кітай | 4,9 | 14,0 | 1,1 | 11,5 | 1,2 | 0,7 |
| Індыя | 2,4 | 7,1 | 0,5 | 8,0 | 1,0 | 0,1 |
| Расія | 2,5 | 5,6 | 47,0 | 4,4 | 7,2 | 22,4 |
| Францыя | 5,5 | 3,9 | 2,5 | 1,1 | 8,0 | 11,1 |
| Вялікабрытанія | 5,8 | 3,6 | 1,5 | 0,6 | 11,0 | 5,1 |
| Японія | 4,9 | 3,0 | 0 | 0,8 | 2,2 | 0 |
| Германія | 4,0 | 2,8 | 0 | 0,9 | 1,9 | 5,7 |
| Італія | 3,2 | 2,6 | 0 | 1,4 | 2,4 | 1,4 |
| Бразілія | 1,0 | 2,1 | 0 | 2,1 | 0,1 | 0,5 |
| Канада | 1,3 | 1,1 | 0 | 0,2 | 0,2 | 2,8 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 7,5 | 4,9 | 1,8 | 64,5 | 1,3 | 21,7 |

Табліца 6 — **Доля вядучых краін у сусветных фінансах у 2007 годзе, (у %)**

| | Капіталізацыя рынку | Інвестыцыі | Прыток ПЗІ[8] | Накопленыя ПЗІ | Міжнародныя каштоўныя паперы |
|---|---|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| ЗША | 36,1 | 23,6 | 13,4 | 14,9 | 23,6 |
| Японія | 10,1 | 11,3 | 0 | 0,9 | 0,5 |
| Вялікабрытанія | 6,5 | 3,9 | 10,7 | 9,4 | 4,9 |
| Кітай | 5,7 | 10,6 | 8,5 | 8,9 | 17,5 |
| Францыя | 3,6 | 4,5 | 6,2 | 6,5 | 1,5 |
| Канада | 3,3 | 2,1 | 5,3 | 3,2 | 2,8 |
| Расія | 2,8 | 1,5 | 2,1 | 1,6 | 4,9 |
| Германія | 2,6 | 5,2 | 3,2 | 4,2 | 2,7 |
| Італія | 1,7 | 3,9 | 1,4 | 2,4 | 1,2 |
| Індыя | 1,7 | 2,4 | 1,2 | 0,4 | 2,5 |
| Бразілія | 1,5 | 1,6 | 1,4 | 1,8 | 8,6 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 24,4 | 29,4 | 46,6 | 45,8 | 29,3 |

Табліца 7 — **Удзельная вага вядучых краін у міжнародных арганізацыях у 2006 годзе**

| | Золатавалютныя рэзервы | Уклад у бюджэт ААН | Доля галасоў у МВФ |
|---|---|---|---|
| Увесь свет | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| ЗША | 1,0 | 22,0 | 17,4 |
| Кітай | 22,8 | 2,1 | 2,9 |
| Японія | 14,5 | 19,5 | 6,2 |
| Індыя | 4,3 | 0,4 | 1,9 |
| Германія | 2,2 | 8,7 | 6,0 |
| Вялікабрытанія | 1,4 | 6,1 | 5,0 |
| Францыя | 1,7 | 6,0 | 5,0 |
| Расія | 7,0 | 1,1 | 2,7 |
| Італія | 1,4 | 4,9 | 3,3 |
| Бразілія | 2,2 | 1,5 | 1,4 |
| Канада | 2,0 | 2,8 | 2,9 |
| Астатнія краіны свету, у тым ліку Рэспубліка Беларусь | 39,5 | 24,9 | 45,3 |

Табліца 8 — **Размеркаванне міжнародных валютных рэзерваў, (у %)**

| | 1999 год | 2008 год |
|---|---|---|
| Долары ЗША | 71,0 | 64,7 |
| Еўра | 17,9 | 25,8 |
| Іены | 6,4 | 3,2 |
| Фунты стэрлінгаў | 2,9 | 4,4 |

Аналіз прыведзеных дадзеных дае падставы меркаваць, што наступны, але больш глыбокі сусветны крызіс можа адбыцца праз 7—8 год. І ён зноў-такі, як і цяперашні, будзе ісці са Злучаных Штатаў Амерыкі, калі не змяніць у гэтай і іншых краінах гаспадарчую сістэму. Што тычыцца непасрэдна Беларусі, то нам сёння карысны не толькі сусветны вопыт, але і ўсё пазітыўнае, што было дасягнута, але, на жаль, не атрымала неабходнага развіцця ў СССР.

З мэтай рэалізацыі прапанаваных антыкрызісных мер і фарміравання механізма бяскрызіснага фондаэканомнага гаспадарання было б мэтазгодна звярнуць увагу кіруючых кадраў краіны на выкарыстанне ў сваёй дзейнасці вопыту рэфарміравання А. М. Касыгіным гаспадарчай сістэмы СССР (1965 год) і навуковых прац айчынных вучоных-эканамістаў.

***Пераклад з рускай***
***У. Васількова.***

---

[1] К. Маркс і Ф Энгельс. Творы. Т. 25. Ч. 1. — С. 254; гл. таксама: Т. 23. — С. 6.

[2] Тамсама. Т. 39. — С. 355.

[3] П. Г. Нікіценка. Эфектыўнасць накаплення: сістэмны імператыў і метад прадпрымальніцтва. Мн.: «Універсітэцкае». — 1992. — 180 с.; П. Г. Нікіценка. Мадэль устойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі: праблемы фарміравання і эвалюцыі. — Мн. — 2000; П. Г. Нікіценка. Імператывы інвацыйнага развіцця Беларусі: тэорыя, метадалогія, практыка. — Мн. — 2003; П. Г. Нікіценка. Наасферная эканоміка і сацыяльная палітыка: стратэгія наасфернага развіцця. — Мн.: Беларуская навука. — 2006. — 479 с.

[4] Б. Маліцкі. Гуманізацыя ў эканамічным кантэксце. — Мн.: Беларуская думка. — 2008. № 12. — С. 32—33.

[5] П. Г. Нікіценка. Эфектыўнасць накаплення: сістэмны імператыў і метад прадпрымальніцтва. Мн.: «Універсітэцкае». — 1992. — 180 с.

[6] ППЗ (парытэт пакупніцкай здольнасці).

[7] НДВКР (навукова-даследчыя і вопытна-канструктарскія распрацоўкі).

[8] ПЗІ (прамых замежных інвестыцый).

[*] Аўтарскія разлікі (П. Г. Нікіценка) выкананы на базе матэрыялаў артыкула С. Рогава «ЗША і эвалюцыя міжнароднай фінансавай сістэмы». — М.: «Эканаміст». — № 3. — 2009. — С. 12—26.

Мікола МІКУЛІЧ

# «МУДРАГА ШЧАСЦЕ — ВЕРЫ ШУКАННЕ...»

## *Паэзія Казіміра Сваяка*

Творчасць Казіміра Сваяка вызначалі асаблівасці містычнага, інтуітыўна-экстатычнага ўспрыняцця свету, ён быў адным з пачынальнікаў духоўна-ірацыянальнай плыні ў заходнебеларускай паэзіі. Яго грамадска-эстэтычны ідэал вырастаў і фарміраваўся на аснове рэлігійных поглядаў, глыбокага ўсведамлення хрысціянскіх маральна-філасофскіх каштоўнасцей. З'яўляючыся каталіцкім святаром, К. Сваяк сцвярджаў духоўную сутнасць быцця як аснову дабра, ісціны і красы ў сусвеце, гэтак званае «станоўчае ўсёадзінства», якое ўтвараецца арганічнай паяднанасцю і ўзаемапранікненнем прыватнага і агульнага, матэрыяльнага і ідэальнага, прасторавага і часавага. Яго мастацкае мысленне абумоўлівалася імкненнем да пераадолення зямнога і прыроднага пачаткаў, таго, што прынята разумець пад вызначэннем «фізічнага эгаізму», жывілася дабратворнай энергіяй любові, верай у сілу і несмяротнасць духу, маральнае ўдасканаленне чалавека і гармонію сусвету. «Ён не азіраў наваколле, — падкрэсліваў А. Пяткевіч, — а ўглядаўся і ўслухоўваўся ў сябе самога» [1, с. 90]. Шырокай грамадскай няpraўдзе, сацыяльнай несправядлівасці і нацыянальнаму ўціску, бедам і няшчасцям народнага асяроддзя паэт супрацьпастаўляў станоўчы рэлігійна-хрысціянскі ідэал, перастварэнне жыцця ў любові і веры ў Царства Божае, высокую Божую праўду і свабодную згоду і адзінства. Яго духоўна-мастацкія сентэнцыі звярталі на сябе ўвагу цэласнасцю асобы, глыбінёй і вынашанасцю абагульненняў і ацэнак і ў той жа час характэрнай унутранай плыннасцю, маральна-псіхалагічнай пластыкай, як у гэтым выпадку:

*Птушцы да шчасьця — вольнасьці трэба*
*Да шчасьця краскі — яснага неба,*
*Дзіця шчасьліва — на руках маткі,*
*Бяздольны рвецца — да цёплай хаткі.*

*Мудрага шчасьце — веры шуканьне,*
*Шчасьце паэта — шчыра каханьне,*
*Струджаным думкам — трэба спачынку,*
*Сэрцу збалеламу — вясны ўспамінку.*

*Для ўсіх-жа людцоў, гдзе ёсьць іх колькі,*
*Аднаго трэба на сьвеце толькі —*
*Без чаго сьвет наш — блудна дарога:*
*Усім да шчасьця патрэба Бога.* [2, с. 9]

*(«Шчасце»)*

Бог з'яўляецца ўвасабленнем сусветнага сэнсу, абсалютнай ісціны, асновай быцця і жыццядзейнасці чалавека. «Да Бога — як да самой канцавой мэты — кіравацца павінна ўсёчыста на сьвеце, — адзначаў К. Сваяк у артыкуле «З народам для

Бога». — Ён Крыніца Дабра, Стройнасьці і Шчасьця. Ён пачатак даець жыцьцю, утрымлівае жыцьцё; дае крэс яму, іншай формай надзяляючы. Сам сьвет створан дзеля хвалы Ягонай, каб адбівалася ў ім Сіла, Моц, Хараство». І далей: «Найважнейшай справай жыцьця нашага — гэта пазнаць Божую Волю і споўніць яе ўсюды і заўсёды: адбіць на сабе абраз; падобнасьць Праўды і Справядлівасьці Ягонай: знайсьці шчасьлівасьць для неспакойнага духа нашага» [3].

У 1924 годзе пабачыў свет адзіны зборнік вершаў К. Сваяка «Мая ліра», у якім, паводле слоў А. Станкевіча, «цалком ясна выявіў ён сябе, як беларускага паэта ідэолёга, як глыбокага хрысьціяніна і філёзофа» [4, с. 17]. Яго герой дарэшты прасякнуты імкненнем да Бога, пазнаннем Яго высокай зместаваўтваральнай сутнасці («Ледзь толькі блысьне на небе зарніца, Дух мой, о Божа, на Цябе чакае»), прагне Яго, «як дожджу травіца». Ён сумуе па Богу, шукае Яго ў «дарозе блуднай», «Ў сухой зямельцы бязводнай і труднай, Залітай жагай палудняга сонца», багасловіць Яго «дзівы Ў формах праявы і ў зьменах часу». «Шляхам цярністым жыцьцё агартаю, Руку цалую Твайго змілаваньня, — чытаем у вершы «Песьня на псальм 62», — Твой Огляд вечны гімнам апеваю І веру сёньня ў духа змертвыхстаньне» [2, с. 6]. Душу аўтара «ажыўляе Поўнасьць праствораў гвезднага космосу», яго голас шукае «Цуднай мэлёдыі», «Каб запяяці гімн Творчаму Лёсу».

*І не забыці Цябе аніколі:*
*Ці ў ложы мягкім, ці цьвёрдай пасьцелі,*
*Адкрыці мысьлей шляхі Тваей волі*
*І Тваю помач спазнаці у дзеле.*

*Радасьць мне сэрца агнём запаляе,*
*Што не пазбыўся Тваей я апекі:*
*Твой Дух прадвечны мяне атуляе,*
*Цябе я прагну, Божа мой, на векі.* [2, с. 7]

Лірычнаму герою верша «Песьня на псальм 130» «нядолю сэрца… варожа…», ён хворы, поўны маральных сумненняў, стаіць «Перад ўсемоцнай злыбяды навалай», не мае «да жыцьця ахвоты», адчувае сябе слабым і бездапаможным. На біблейскі ўзор, свой дух, адкінуты «ад божага ўлоньня», паэт суадносіць з дзіцем, пазбаўленым матчыных грудзей:

*Як адарваны ад грудзей дзяціна,*
*Адкінен дух мой ад божага ўлоньня,*
*Як ліст пажоўклы, сухая галіна,*
*Як пазабыта беднага загоньне…*

*Ці безнадзейны, замучаны, зьбіты*
*Дух мой устане? Ці зваліцца слабы!*
*Ніколі, Божа, Табой я нясыты:*
*Навет і ў пекле цябе прызываў-бы…* [2, с. 5]

На думку К. Сваяка, усе зямныя і нябесныя з’явы і прадметы знаходзяцца ў працэсе свабоднага руху, узаемадзеяння і ўзаемапранікнення, падпарадкаваны пэўнаму і выразнаму касмічнаму ўсёадзінству, універсальнаму сусветнаму сэнсу, увасабляюць існаванне непадзельнай сусветнай ідэі. Якраз пазнанне вялікай і вечнай таямніцы, сусветнай ідэі, як духоўнага адзінства і ўзаемазвязанасці ўсяго з усім, гэтак званай цэласнасці прыватнага, калі адно адлюстроўваецца, рэалізуе свой патэнцыял у другім, атрымлівае ў ім свой працяг і развіццё, з’яўляецца галоўным прадметам чалавечага жыцця. Лірычны герой паэта імкнуўся да асэнсавання аб’ектыўна-матэрыяльных і суб’ектыўна-ідэальных частак і элементаў сусветнага цэлага, да ўзаемапранікнення і свабоднага існавання з імі. Натуральна, ён адчуваў на сабе ўздзеянне гэтага сусветнага цэлага («Пульс жывога ўсесьвету, творчы шопат чую…») і ў той жа час, рэалізуючы яго, сам уплываў на шматлікія

навакольныя з'явы і працэсы. Досыць цікавую і адметную духоўна-мастацкую карціну назіраем, напрыклад, у вершы «Душа мая»:

*Душа мая ў краі фантазыі гуляе,*
*У гвезднай імгле па аблоках плывае,*
*Сто сонц аглядае у сьветлай празрочы,*
*Раскошнаю ласкай чаруе мне вочы.*

*Матыль пышнакрылы купаецца ў зорах*
*З праменьняў сатканых, купаецца ў морах*
*З вадою цудоўнай. У неба ўзлетае*
*Арлом сьветавідам — і ў пекла спадае.* [2, с. 71]

Тут не толькі адно не выключае другога, а, наадварот, прадугледжвае яго, салідарызуецца з ім, прадуцыруе яго развіццё і функцыянаванне. Адзінкавае і прыватнае існуюць на шырокай усеагульнай аснове, падпарадкоўваюцца высокай творчай сіле, прыроднай волі, касмічнаму розуму — Промыслу Божаму. Верш прасякнуты адчуваннем усеабдымнай і ўсеагульнай адухоўленасці сусвету, напоўненасці яго цеплынёй і пяшчотаю, дабрынёй і любоўю. Ён сцвярджае светланосны пачатак, ідэю вечнага духу, які знаходзіць сваю рэалізацыю ў з'явах і прадметах матэрыяльнага свету, увасабляе прынцып «stationоўчага ўсёадзінства», актыўнасць і дзейснасць гарманічнага цэлага. Мабыць, асабліва зместавай насычанасці і пераканання аўтарская думка дасягае ў апошняй страфе твора:

*Сьвет чароўны-цудоўны мяне ўзяў ў абоймы,*
*Напаіўшы адвечнай журбай ідэалу,*
*Твораў дзіўных усюды віджу цэлы плоймы*
*І чую над сабою ўсебыту навалу.* [2, с. 71]

Імкненне і далучанасць чалавека да Бога абумоўліваюць якаснае перараджэнне і абнаўленне яго жыцця і сутнасці. Уздзеянне неўміручага і вечнага дару Божага вядзе чалавека да несмяротнасці. Духоўная любоў малое ператварае ў вялікае, частковае — у поўнае, часовае — у вечнае, надзяляе яго ўсеагульным, бясконцым значэннем. Вядомы рускі філосаф У. Салаўёў падкрэсліваў: «І калі поўная сапраўднасць бясконцай чалавечай душы была ажыццёўлена ў Хрысце, то магчымасць, іскра гэтай бясконцасці і паўнаты існуе ў кожнай душы чалавечай...» [5, с. 246]. Складваецца ўражанне, што душа лірычнага героя К. Сваяка мела неабмежаваныя магчымасці, усюдыісную прыроду, трансцэндэнтнае панаванне, валодала здольнасцю пераадольваць свае сумненні і ваганні, уздымацца над матэрыяльнай будзённасцю, шматлікімі грамадска-сацыяльнымі праблемамі і супярэчнасцямі, падпарадкоўваць сабе ўсе з'явы і прадметы. Яна поўнілася высокаю боскаю сілаю і таму ёй адкрываліся абсягі ўсяго сусвету, было падуладна зямное і нябеснае. Яна пачувала сябе вечнаю і бязмежнаю ў прасторы і часе, бо ў ёй увасобіліся дабро, ісціна і краса. У вершы «Няўжо умру...», надрукаваным у газеце «Беларуская крыніца», паэт разважаў: «Няўжо умру! Няўжо мяне дагнала Яна — любоўніца магіл?» Аднак не, смерць — «толькі мрыя», «Цябе няма, ты выдумка сьляпых», — казаў ён. «Як жыў — жыць буду. — Залатыя Сны-зьявы сьніць буду аб сьвятых, Сьвятых цудоўных вод крыніцах, Якіх душа мая усьмягшы каштавала...» Чалавек не памірае, «а толькі у граніцах Жыцьця» становіцца «тайніцай меней» [6].

К. Сваяк сцвярджаў веру ў Бога і Бога-Чалавека, Ісуса Хрыста — дасканалага Бога і дасканалага Чалавека. «Бог адзін Вялікі, Бязьмерны... — чытаем у яго дзённікавых нататках «Дзея маей мысьлі, сэрца і волі». — Хочачы падвышыць... нізкі быт чалавечы, даець яму Сябе Самога, найперш у часе, а посьле ў вечнасьці. А чалавек сумняваецца, хіляецца, таргуе: ня хоча верыць у зманнасьць благога...

У Бога, у аднаго Бога, ёсьць усялякае дабро маё, вялікасьць мая, хвала мая, шчасьце маё, супакой сэрца майго…» І крыху ніжэй: «Чалавек створаны на падобнасьць Божую, кароль зямлі, так багата абдараваны Богам… праз заслугу Езуса Хрыстуса мае частку боскасьці ў сабе… ён гэта відзіць і разумее… Чаму-ж ён павінен мысьліць аб сабе нізка, як аб апошнім між людзей?» І яшчэ: «Думаў, што чалавек лучыцца з Богам учуцьцем, выабражэньнем. Наіўнасьць!.. Калі прызнаюся, што я нішто прад Богам, калі затону ў віры сваей нізкасьці, калі зразумею, што добрыя мае чыны — гэта чыны Божыя, бо з Яго ласкі, — калі воля мая будзе адналітная з воляй Божай, тады будзе гэна лучнасьць, тады буду падобны да Бога-Чалавека Хрыстуса» [7, с. 7, 8, 9].

Паэт развіваў думку аб самабытнасці чалавека і яго ўнутранага ладу, духоўнага вобліку, звернутасці яго да ідэальнага ў свеце і засвеце, выхаванні на ўзор і падабенства Сына Божага. Ісус Хрыстос — гэта цудадзейная асоба, вялікі настаўнік і высокі, строгі і справядлівы суддзя, носьбіт дасканалай маралі, жыццядайнага, дабрачыннага і эстэтычнага пачаткаў, сэнсатворнага зместу быцця і космасу. Чалавек, па меркаванні К. Сваяка, павінен імкнуцца да развіцця і паглыблення духоўна-маральных асноў свайго існавання, напаўнення іх дабрынёй, чуласцю і любамудрасцю. Ён мусіць садзейнічаць і адпавядаць высокім памкненням і намаганням Сына Божага па пераўтварэнні, паляпшэнні і ўдасканаленні сябе і свету, дапамагаць Яму ў гэтай нялёгкай і адказнай справе. У вершы паэта «З кнігі мудрасці» ёсць такія радкі:

*Паслухай! Жыцьцё тваё, мілы мой браце,*
*Як лёт той пташыны, што ў ветры гуляе:*
*Паветра зышлося і — як угадаці,*
*Гдзе лёт быў, пашто і куды ён зьнікае.*

. . . . . . . . . . . . . . .

*Ня дайся на чары змянлівай жанчыны,*
*Будзь верны у змове, у намерах чысты,*
*Ня здрадзь аніколі сваей ты дзяўчыны,*
*Будзь бойкі ў забаве, ў трудзе мазалісты.* [2, с. 19—20]

Чытаючы вершы К. Сваяка «Сэрца», «Вецер шалее», «Чаму мне маркотна», «Хмары-хмаранькі…» і іншыя, мы бачым, што яго лірычны герой — натура духоўна багатая, мудрая і празорлівая, чыстая і светлая — жыве ў матэрыяльнай і духоўнай няволі і прыгнёце, пакутным роздуме і сумненнях. Нялітасцівая доля нясе яму ўсё новыя і новыя выпрабаванні, ставіць яго перад вырашэннем нялёгкіх праблем і супярэчнасцей, забірае апошнія сілы. Цяжка хворы, адзінокі і самотны, ён адчувае сваю слабасць і бездапаможнасць, яго адольваюць гнятлівыя думкі і пачуцці, балючыя расчараванні. «Чорная мэлянхолія як змора села пры мне, — адзначаў К. Сваяк у дзённікавых запісах. — Нічога рабіць не магу. Мысьлю аб жыцьці сваім. Шчасьлівы, хто з усіх трудоў сваіх выйдзе з трыумфам! Жыцьцё разарванае, рухлівае страшыць мяне, жыцьцё адзінокае забівае мяне…» І далей: «Выпала пяро мне з рук, не магу ўжо прымусіць яго да паслухмянасьці. А тут такое адзіноцтва, такая душная атмосфэра. Я шукаю, перад кім мог-бы выліць крыху тэй пякоты з сэрца — і не знаходжу…

Баліць мне сэрца за народ, каторага няшчасьце не змагу апісаць.

Пячэ нутро маё сум з бясьсільнасьці сваей да направы перш сябе, потым бліжніх маіх…

Плача сэрца маё над нядоляй, над упадкам духа тых, што звалі сябе дужымі…

Скалыхнуліся ўсе думкі мае, спуджаныя сумам ліхім і вялікай трывогай» [7, с. 14, 31]. Паэт быў «схільны да рэфлексіі, да паэтычна вытанчанага выказу сваіх нацыянальна-філасофскіх развагаў і мройна містычных адчуваньняў…» [1, с. 87]. Якраз драматызм мастацкага мыслення з'яўляецца асноўнай зместава-

ўтваральнай асаблівасцю яго верша «Вецер шалее», у якім знаходзім наступныя характэрныя радкі:

*Нудна й жалосна і надта-ж маркотна*
*Галосіць душа, што я лёс запрадаў:*
*Заплакаў бы горка, стагнаў-бы гаротна,*
*Каб Бог мне з сьлязою вясёласьць аддаў.*

*І высахшым зорам гляджу я у хмары —*
*Шалее віхор і ледзь зоркі мігцяць —*
*І думкі нясуцца і тоўпяцца мары,*
*І сэрца гарыць і ўсе нэрвы дрыжаць.* [2, с. 65]

Аднак гэты душэўна-псіхалагічны стан лірычнага героя К.Сваяка варта разглядаць як паказчык яго вялікай унутранай сілы, духоўнага багацця. У адпаведнасці з нормамі хрысціянскай маралі, той, хто ўсведамляе сваю слабасць і адкрыта гаворыць пра яе, своеасабліва ўздымаецца над ёю, пераадольвае слабасць. Ён становіцца носьбітам высокага духоўнага пачатку, першакрыніцаю веры ў дабрадзейнасць, красу і ісціну, увасабляе сілу Божую. «Асобнасьць углыбляе індывідуальныя здольнасьці — падымае сілы духа, — чытаем у дзённікавых нататках паэта. — У цішы чутней даходзіць голас з засьвету… З пазнаньня самога сябе чалавек мусіць дайсьці да пакоры, гэта знача, да зразуменьня сваей слабасьці духовай, гультаяватасьці і залежнасьці суцэльнай ад ласкі Божай. Чалавека, каторы відзіць пакорна слабасьць і ўсьцяж стараецца папраўляцца, бязупынна да гармонійнага выканчэньня сябе ісьці, я назаву чалавекам найлепшага характэру» [7, с. 14, 25]. Дадзеную акалічнасць сведчыць далейшае разгортванне лірычнага дзеяння ў вершы «Вецер шалее», якое нясе энергетыку ўнутранай сабранасці і адмабілізаванасці аўтара, пазначана яго характэрнай эмацыянальна-пачуццёвай зараджанасцю:

*Ах, што так расходаліcь сілы нямравыя,*
*Думайце гэні людзкога уняць!*
*Проч вы, начніцы духі каравыя,*
*У цёмнай матэрыі вам прападаць.*
*Духам я вольны, хоць сэрца так ные,*
*Хоць цела так цісьне, як гад да зямлі…*[2, с. 65]

К. Сваяк імкнуўся да развіцця і ўдасканалення сваёй духоўнай сутнасці праз канцэнтрацыю і ўзмацненне свядомасці і волі, цярпення і пакоры, якая «бароніць ад найгоршай хваробы характару, ад бязьверра», «асьцерагае прад самаглюбствам», «бароніць ад неахвоты і роспачы» [7, с. 25], хацеў «характар зрабіць сільным, цьвёрдым, да афяры скорым» [7, с. 11]. «Я сын таго народу, што найбольш цярпеў, цярпіць і цярпець будзе, — падкрэсліваў ён у «Дзеі маей мысьлі, сэрца і волі». — Цярпеньня хачу, але такога, каторае з мяне зрабіла-б чалавека стальнога характару. Народ наш вялікі, а лічыцца найменшым. Няхай і я — сын яго — такім буду. Народ наш нешчасьлівы, бяз сучаснасьці пэўнай, бяз будучыны яснай — але глыбокі ў жыцці сваім ціхім, скрытым, сьпеўным. Няхай і з маім так будзе жыцьцём: глыбокасьць духа, шырокасьць сэрца, агонь мовы і песьня, песьня тайнічная, бязьмерна сумная, хоць вечнай спадзеяй жывая» [7, с. 19].

Сэнсатворны змест і значэнне любой з'явы К. Сваяк успрымаў і разумеў як яе ўнутраную звернутасць да сусветнай ідэі, абсалютнай ісціны. Ён адмаўляў прыватную адасобленасць і злосць, эгаізм і выгаду ў жыцці чалавека і грамадства, а тым больш адкрытую барацьбу і супрацьстаянне, да якіх заклікалі, напрыклад, прадстаўнікі камуністычнай светапогляднай платформы. Паэт сумняваўся ў маральнай эфектыўнасці і дзейснасці радыкальна-рэвалюцыйных сродкаў і метадаў пераўтварэння рэчаіснасці, адхіляў сілу і прымус як спосаб выратаван-

ня свету. «Ці варта змагацца з нядолей крывавай? Ці варта вялічыць лік жэртваў зямлі? — разважаў ён у вершы «Чаму мне маркотна». — Ці ж сьвет пераробім рукою нямравай? Ці тым там ня лепей, што ў гробе згнілі?» [2, с. 76].

Вышэйшым сэнсам існавання К.Сваяк лічыў духоўнае жыццё з увасобленымі ў ім красой і гармоніяй, маральнасцю і верай, што патэнцыяльна супрацьстаяць уладзе граху і несправядлівасці, выступаюць у якасці неабходнай умовы і ідэальнага выніку развіцця грамадскіх адносін. Менавіта духоўнае жыццё з'яўляецца той субстанцыяй, якая надзелена абсалютным зместам. Усе праблемы і супярэчнасці рэчаіснасці ён прапаноўваў вырашаць і пераадольваць сілаю любові, усёдаравання і ўсёпрымірэння, імкненнем да духоўна-маральнага прасвятлення матэрыяльнага быцця і свету, насычэннем іх дабром, красой і ісцінай. К. Сваяк прапаведаваў аб'яднанне ўсіх і ўсяго на аснове імя і духа Хрыстова, сцвярджаў ідэю ўсеагульнага ўваскрэсення. Услед за многімі сваімі папярэднікамі і сучаснікамі паэт напаўняў гэтую ідэю ёмістым духоўна-сацыяльным зместам, звязваў яе з неабходнасцю абуджэння і актывізацыі грамадска-патрыятычнага руху, стваральнай дзейнасці шырокага працоўнага асяроддзя, адраджэннем Беларусі. Лірычны герой яго верша «Ad te levavi…» звяртаўся да Бога з тым, каб Ён спаслаў змілаванне над беларускім людам, «што поўны нядолі, Бо ўжо-ж ён просіць даўно змертвыхстаньня, Каб выйсьці з крыўды, з грэху і няволі» [2, с. 8]. «Чужынец люд Твой аддаў на пакусу, Каб з яго сэрца выгнаць Цябе, Божа…» — чытаем у творы. Ён прасіў Бога «зорам сваей моцы» скрышыць «нячыстых працу рук паганых», збудзіць паднявольны, згараваны люд «На труд свабодны, на ласку спакою», абагаславіць яго на дабро і шчасце [2, с. 8].

У вершы «На гадавіны незалежнай Беларусі» лёс сваёй спакутаванай Радзімы К. Сваяк суадносіў з лёсам распятага на крыжы і памерлага ў цяжкіх муках Хрыста. Твор вытрыманы ў сімваліка-алегарычным плане («Прабілі сэрца, рукі, ногі… Абрабавалі, абяднілі… Ня верылі, што душу мае, Над целам зьдзекі учынілі…»):

*Ўсе наругаліся даволі,*
*Судом Пілата пакаралі,*
*Адзеж дзялілі, воцт давалі:*
*У гэты год, у гэты дзень.*

*Прад вокам сьвету крыжавалі*
*Вучоныя і фарызэі*
*І кніжнікі і садуцэі:*
*У гэты год, у гэты дзень.* [2, с. 22—23]

«Змілуйся-ж, Божа, ты над ею, — прасіў лірычны герой паэта, — Ня дай у гробе век ляжаці, Пазволь да жыцьця ей устаці: У гэты час, на трэці дзень» [2, с. 23].

У рэцэнзіі на зборнік «Мая ліра» Спектатар адзначаў, што верш «Загляне сонца…» — «гэта 1001-ы варыянт досыць банальнай у беларускай літаратуры тэмы, а паэты павінны мець амбіцыі апрацоўкі тэм новых…» [8, с. 8]. Верш К. Сваяка «Ой на Русь ды Белу…», дарэчы, у нечым блізкі да вершаў « Ad te levavi…» і «На гадавіны незалежнай Беларусі», быў звернуты да старой, традыцыйнай тэмы, але заключаў у сабе новы ракурс яе «апрацоўкі». Паводле слоў Светазара, ён вытрыманы ў «архаічным стылі стара-рускай «быліны» [9], лірычны сюжэт у ім разгортваўся ў выніку ўзаемадзеяння вобразаў груганоў, буры і беларускіх касцей. Старажытная беларуская зямля стала ахвяраю нашэсця крывавых гасцей з усходу і захаду, што скрышальнай бураю-навальніцаю прайшліся па яе абшарах, пушчах і нівах, прычыніўшы «людзцам страшэннае гора». «Аддыхнула бура, сонца паказала, — сцвярджаў аўтар, — А трупа кляваці груганоў паслала…»

*Паселі на зломах няпрошаны госьці;*
*Дзяўбалі трывожна беларускі косьці.*

*Зашумелі пушчы, застагналі нівы*
*Ад тэй груганoвай — пякельнай спажывы...*
*А во страпянуўся род той груганoвы!*
*Быў здалёку чутны гоман нейкіновы.*
*Дзівам здзіваваліся няпрошаны госьці,*
*Бо з зямлі паўсталі беларускі косьці...*[2, с. 30]

Заключная частка верша ўяўляе сабою своеасаблівы наказ паэта сваім сучаснікам і нашчадкам. Ён лічыў, што ўваскрэсенне-адраджэнне Беларусі можа быць забяспечана ахвярнай працай, вялікім цярпеннем і нязгаснай верай:

*Сьлязой палівайце вы родную ніву,*
*Трудом цярабіце вы бор гутарлівы,*
*Аж пачуйце голас з касьцей айцоў вашых —*
*Груганоў ён спудзіць маскоўскіх і ляшых...*
*Дасьць Бог калісь будзе люд народу братам,*
*А Русьняк Маскоўцу да Лехіткі сватам!..* [2, с. 31]

У сваёй кнізе «Казімер Сваяк. Нарысы аб ягонай ідэолёгіі» А. Станкевіч, несумненна, правільна заўважаў: «узвышыўшыся на недасягальныя для звычайнага чалавека вышыні хрысьціянскай навукі, узброіўшыся ў сьвятло Хрыстова», К. Сваяк «аглядае ўсю пакутную Беларусь і на агульных хрысьціянскіх падставах, з сілай выдатнага дасьледчыка і мысьліцеля, снуе думкі аб вызваленчай ідэолёгічнай падарожы беларускага народу, сынтэзуючы ў вадно суцэльнае і стройнае ўсё тое, што беларусу прыродна, што вядзе яго сапраўды да вызваленьня» [4, с. 26]. Паэт абвяшчаў, што ідзе «пара змертвыхстаньня», калі народ рушыць «Сабраную сілу на тую дарогу, Гдзе можна свабоду спазнаць» («Шляхам цярністым...»). «Ідзе вось ясная пара, Праўду сьвеціць нам зара, — сцвярджаў ён, — Айчызна — Маці — Беларусь, Гарой, Жыва!» («Гымн роднай зямлі»).

Як бачым, паэтызацыя хрысціянска-каталіцкіх духоўна-маральных каштоўнасцей спалучалася ў творчасці К.Сваяка з выяўленнем актуальных грамадска-сацыяльных праблем і супярэчнасцей, сцвярджэннем нацыянальна-патрыятычнай ідэі, адраджэння Беларусі. Ён славіў Бога і адначасова ўсхваляў «родную старонку», яе чары, цудадзейныя сілы і магчымасці. «Ты цярпеньне душы гоіш І зьнямогу цела, — чытаем, напрыклад, у вершы «Чары Айчыны». — Жыцьцё творыш, песьні роіш, Вучыш жыць умела» [2, с. 45]. Паэт хацеў «Імшу сьвятую За край наш родны адпраўляць» («Пашлі мне, Божа...»), сумныя думкі неслі яго туды, «Гдзе народ глядзіць пужліва, І гдзе плача мая маці...», «Гдзе мой брат з бяды марнее, Хоць цьвярозы, нелянівы...» («Божа, зжалься...»). Яго лірычны герой пакутаваў ад усведамлення жорсткіх рэалій беларускага жыцця («Неміласэрны кон руйнуе, Што будаваў ў бязсоннай ночы...» [2, с. 60]), ад таго, што не можа, не мае сіл дапамагчы «Айчыне мілай», якая «Ратунку кліча — «Ратуйце з разбою!» [2, с. 24]. «Пакляўся, што стаяць на стражы Я буду чыстаты сумленьня... — казаў ён. — Быць стражам там, дзе поўна сажы? Ці вернецца сяўбы насеньне?» («Сэрца»).

К. Сваяк задумваўся над тым, як суадносіцца ўнутраны свет пакоры і цярпення, пакланення Богу і знешні свет несправядлівасці і прыгнёту, «нядолі ды гора». У вершы «На крыльлях...» ён разважаў:

*Ты, Божа, разсудзі: чаму народ мой бедны*
*Праз век гніе у цьме, ў няволі безпатольнай,*
*Скажы — няўжо прыказ Твой запаведны*
*Пакорным быць падан душы бязвольнай!?*

*Бо есьлі так, народ згніе ў пакоры,*
*Чужынцу дасьць і матку і дачку;*
*А сам бядак, нанет прыбіты — хворы*
*Жыцьцё закончыць на чужым шнурку...*

. . . . . . . . . . . . . . . . .

*Украсьці я хацеў вось-гэту тайну з неба:*
*Чаму нядобраму шырока сьвет — дарога,*
*Чаму цярпліваму нямаш у хаце хлеба,*
*Чаму на сьвеце больш і больш благога.* [2, с. 39, 40]

Паэт стаяў перад цяжкім выбарам: «Дабром за зло плаціць (што ў сэрцы я хаваю), Ці ворага душыць ў крыві — ў вагні — ў вугольлі...» [2, с. 40]. Часамі яго думкі і пачуцці істотна радыкалізаваліся, станавіліся па-грамадзянску адмабілізаванымі, катэгарычнымі і завостранымі, насычаліся матывамі сацыяльнай бунтоўнасці і пратэсту. Лірычнае дзеянне ў такіх выпадках набывала падкрэслена драматычны змест:

*Зор мой дарэмна шукае выбаўцы,*
*Ня віджу сільных між браці паганай, —*
*І не чакаю з рук божага Даўцы*
*Ужо збаўленьня з долі апляванай.*

*І толькі ў самым бяздоньні няверы*
*Іскра надзеі у попеле тлее:*
*Іскра надзеі, што рана бяз меры*
*Долі народнай душы разагрэе.*

*Іскра бязвольна пажарышчам стане,*
*Аж твар схаваюць нябесныя зоры,*
*І дух народны адважна паўстане:*
*Раўняці будзе даліны і горы.* [2, с. 24—25]

Як вядома, дадзеныя асаблівасці творчасці К. Сваяка сталі прадметам дастаткова вострай літаратурнай дыскусіі, якая разгарнулася ў заходнебеларускіх перыёдыках. Аналізуючы зборнік «Мая ліра», вядомы крытык і публіцыст Суліма (У. Самойла) яшчэ пры жыцці паэта адзначаў, што ў «прасякнутым наскрозь маральна-рэлігійным патосам сьветапачуцьці Сваяка насьпявае ўнутраная душэўная рэвалюцыя. І ён пачынае разумець, што спадзявацца «ратунку ад разбою» ці «збаўленьня з долі апляванай» ад нейкага вонкавага «выбаўцы», а нават «з рук Божага Даўцы» — няма дастатачных падставаў». На думку рэцэнзента, «сутычка ў душы паэта» двух светапачуццяў, «двух яго галоўных патосаў: маральна-рэлігійнага і нацыянальнага, — Богапачуцьця з народапачуцьцем — дала зусім выразную перамогу гэтаму другому» [10].

Разважанні Сулімы ў многім паглыбіў і завастрыў А. Навіна (А. Луцкевіч), аўтар артыкула «Казімір Сваяк». У зборніку «Мая ліра» ён убачыў «страшэнную духовую драму паэта-ксяндза, утраціўшага веру ў Найвышэйшую Справядлівасьць. Сваяк нязвычайна балюча адчувае гора і няволю беларускага працоўнага народу, усей душой любіць сваю Бацькаўшчыну-Беларусь, сумуе, што слабыя сілы яго не даюць яму магчымасьці стануць у рады актыўных барацьбітаў за вызваленьне яе...»

Цытуючы верш К. Сваяка «Айчыны мілай...», паводле слоў А. Клімовіча пра публічны рэферат крытыка «Бунт проці Бога», «не йнакш як сьведама абмінаючы рэчы для свае тэзы «нявыгодныя» [11, арк. 267], А. Навіна пытаўся: «Як маглі зьмясьціцца такія думкі і імкненьні пад чорнай ксяндзоўскай сутанай?!» «Вось, у гэтым і трагедыя Сваяка, якая пэўне-ж ня ў меншай меры, чым сухоты, нішчыла яго кволы арганізм, — чытаем далей у артыкуле. — Душна і цесна было яму ў тых путах, якімі скаваў яго духоўны стан. А разарваць гэтыя путы ня было ўжо сілы: ані фізычнай, бо цела ўсьцяж слабела, ані духовай, бо патрэба верыць, вытвараная ў ім усенькім узгадаваньнем, не пазваляла яму фармальна адкінуць тое, што фактычна ў ім замерла...» [12].

Да асэнсавання гэтай праблемы А. Навіна звяртаўся і ў іншых сваіх працах. Напрыклад, у кнізе «Галоўныя кірункі ў беларускай поэзіі» ён адзначаў, што К. Сваяк «даў нязвычайна яркае выяўленьне цяжкога ўнутранага разброду ў чалавека, губляючага веру ў Бога з прычыны непрымірымае супярэчнасьці паміж атрыбутамі Божства, як увасабленьня найвышэйшае справядлівасьці, і панаваньнем на гэтым сьвеце несправядлівасьці ды гвалту, што так балюча адчувае Беларускі народ» [13, с. 13].

Трэба сказаць, у многім якраз дадзены падыход будуць развіваць сучасныя беларускія літаратуразнаўцы, у тым ліку і У. Калеснік. Па яго меркаванні, паэзія К. Сваяка «была пазбаўлена» «патэнцыі прагрэсіўнага развіцця», яе «эмацыянальна пранізвае ўнутраная раздвоенасць» лірычнага героя. «Паэт бунтуе і жахаецца свайго бунту» [14, с. 177], — заўважаў даследчык.

На наш погляд, гэтыя і іншыя падобныя да іх назіранні і вывады не зусім адпавядалі сапраўднасці, ім не ставала належнай абгрунтаванасці і выверанасці. К. Сваяк знаходзіўся на трывалых ідэйна-светапоглядных пазіцыях, развіваўся, эвалюцыянаваў, сведчыў цэльнасць асобы, характару і мэтаімкненняў, адзінства духоўна-эстэтычнага свету, што спрабавалі давесці такія ўдзельнікі згаданай дыскусіі, як Светазар (М. Касцевіч), С. Грынкевіч, А. Станкевіч.

Светазар быў цвёрда перакананы ў тым, што верш К. Сваяка «Айчыны мілай...» з'яўляецца «творам мімалётнага настрою, чаго доказам — выдатна рэлігійны зьмест усяго зборніка» «Мая ліра», а «словы «у самым бяздоньні няверы» трэ' разумець не як няверу ў Бога, а толькі як няверу ў помач Божую (падкрэслена аўтарам. — **М. М.**), у справе вызваленьня Беларусі...» Палемізуючы з А. Навіной, у артыкуле «К. Сваяк, як паэт рэлігійны» крытык адзначаў наступнае: «Што словы аб духоўных «путах» зьяўляюцца пустым гукам, дык аб гэтым ня трэба на'т шмат казаць: ніхто іх на яго не накладаў, сам ён мог заўсёды зрачыся духоўнага стану, або пакінуць семінар'ю будучы клерыкам, але гэнага не рабіў, бо чуў прызыў да службы божай і была яна яму лёгкай і радаснай (падкрэслена аўтарам. — **М. М.**), а калі і гнятло яго што, дык гэта была — няволя Бацькаўшчыны, нядоля працоўных братоў, урэшце цяжкая, незлячымая хвароба, пагражаўшая передчаснай сьмерцяй...» [15].

Дадзеныя разважанні падтрымліваў С. Грынкевіч. К. Сваяк «быў стульна звязаны з вёскаю, — пісаў ён, — ідэя «Айчыны мілай» зіхацела прад ім агнём заўсёдным, думка аб Богу ніколі зусім яго не пакідала ня гледзячы на тыя ці іншыя сумнівы». Паэт «таму мяноўна зьвяртаецца да Бога па веру, што на гэным, а ня іншым шляху бачыць гарманічны сынтэз сваіх двух найвялікшых імпульсаў жыцьцёвых — Бога і Айчыны. І цяпер тыя дзьве зоркі ягоныя счыльна заўсёды з сабою злучаны. Калі думае аб бацькаўшчыне, думка адначасна лунае каля Бога і наадварот» [16].

Як уяўляецца, аб'ектыўнасцю, вынашанасцю і абгрунтаванасцю меркаванняў і ацэнак вызначаліся працы А. Станкевіча, які блізка ведаў К. Сваяка. «Душа сільнай і яснай інтэлігенцыі, філёзофічна-сынтэтычнай будовы, — сцвярджаў ён у артыкуле, напісаным адразу па смерці паэта, — поўная дабраты, цярплівасьці і роўнасьці, глыбока рэлігійная і этычная, з вялікім пачуцьцём грамадзкай справядлівасьці і з нязвычайнай міласьцяй да Беларускага народу — вось больш-менш характэрыстыка Каз. Сваяка». І далей: «Рэлігійна-філёзофічны настрой яснай ніткай прабіваецца ў-ва ўсіх бадай творах К. Сваяка. Рэлігійна-філёзофічны настрой яго — гэта тыя акуляры, праз якія ён на ўсё глядзіць у сьвеце і праз якія ўсё відзіць ясна, далёка і глыбока» [17]. Сваю пазіцыю А. Станкевіч развіў і паглыбіў у кнігах «Казімер Сваяк. Нарысы аб ягонай ідэолёгіі» (1931) і «З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка (У дзесятыя ўгодкі яго сьмерці)» (1936). Апраўдваючы і абгрунтоўваючы ў творчасці паэта «цьвярдзейшыя словы, якімі ён кліча народ да барацьбы», даследчык падкрэсліваў: «Хрысьціянская палітычна-грамадзкая навука, як ведаем, дазваляе аружна бараніць сваё жыцьцё ад

бандыцкага нападу і нават у абароне жыцьця свайго ўласнага дазваляе пазбавіць жыцьця нападаючага, навука гэна дазваляе з аружжам у руках ваяваць з ворагам, які несправядліва напаў на чыю бацькаўшчыну… гэная-ж навука дазваляе ўрэшце так-жа аружна паўстаць якому народу ці грамадзянству проціў яўнай тыраніі, якая гвалтуе прыродныя правы яго і калі іншыя больш годныя спосабы барацьбы за волю ўжо выкарыстаны і не давялі да мэты» [4, с. 41—42].

К. Сваяк займаўся актыўнай культурна-асветнай дзейнасцю, шукаючы шляхоў кансалідацыі народа, сцвярджаў ідэю рэлігійнай уніі, аб'яднання каталіцтва і праваслаўя, звязваў яе з нацыянальным адраджэннем, духоўна-сацыяльным развіццём Беларусі. Хрысціянскія каштоўнасці, матывы і вобразы спалучаліся ў яго творчасці з элементамі паганскага светаадчування («Маей музе», «На восень» і інш.).

Значнае месца ў творчасці К. Сваяка займала паэтызацыя красы, якой, на яго думку, належала магістральная роля ў прыродзе і сусвеце. Услед за многімі сваімі папярэднікамі ён разглядаў красу як магутную універсальную сілу, высокую першакрыніцу ўсіх з'яў і працэсаў і ў той жа час як рэальна-аб'ектыўны прадукт касмаганічных змен і зрухаў. Па меркаванні К. Сваяка, краса — гэта аб'ектыўная рэальнасць, тая субстанцыя, якая існуе незалежна ад пэўных адносін, думак і пачуццяў чалавека. Наадварот, будучы скіраваны да раскрыцця яе высокага зместавага напаўнення, з'яўляючыся яго носьбітамі, ёй бессвядома падпарадкаваны і чалавек, яго душа, і багатая і разнастайная прыродная сфера, і засвет, бязмежная касмічная прастора. Краса — гэта ўвасабленне жыццядайнай энергетыкі, прадыктаванай абсалютнай воляй, пераўтвораная сілай уяўлення і свядомасці духоўная цялеснасць, азораная ідэалам матэрыя. Іншымі словамі, гэта тая якасць, якая ўтрымлівае ў сабе ідэальнае і матэрыяльнае — два пачаткі, што знаходзяцца ў стане ўзаемадзеяння і ўзаемаабумоўленасці. Яна ўвасабляе вечную ісціну быцця, вышэйшую гармонію, сэнс існавання сусвету, функцыянавання з'яў і прадметаў у космасе. «Жыцьцё, — даводзіў паэт, — гэта толькі адзін з многіх спосабаў праявы самасьведамасьці духа, каторы актам творчым адвечнай Божае любові выяўляе сябе ў форме часу і прасторнасьці. Той сьвет і гэты сьвет неразьдзельны, а сьвет духа больш пэўны, чым сьвет экспэрымэнту нашых змыслаў» [7, с. 38].

Паняцце красы вырастала ў К. Сваяка з глыбокага роздуму над жыццём, яго анталагічнай зместаваўтваральнай сутнасцю, з асэнсавання зменлівага, імгненнага і пастаяннага, вечнага ў ім. Заключаючы ў сабе пачуцці свабоды, любові і веры, яно было непасрэдна звязана з імкненнем паэта спасцігнуць сэнс рэчаіснасці, існавання на зямлі, а таксама «засьвету тайніцы» («Грэшная»). Як правіла, верш К. Сваяка вызначаўся філасофска-аналітычным характарам, духоўна-эстэтычнай насычанасцю, раскаванасцю мастацкага мыслення.

*На небе сьвецяць зоры божыя. Белыя*
*хмаркі ледзь плывуць па тоні бяздон-*
*най кругасьвету. Ледзь шапочуць пад*
*акном маім кволыя лісткі бярозы.*

*Адзену я чорную вопратку маю. Схаваюся*
*ўглыб майго саду. Буду сачыць зорку долі*
*маей: лічыць момэнт яе ўпаду з кругазору.*
*Лавіць буду пошапты тайніц ночы.* [2, с. 72]

«Чакаці буду з'явы, што аткрые злуду майго бытаваньня, — чытаем у вершы «Месяц бледы». — Слухаць буду трывожнага біцьця свайго сэрца: — сэрца адзінокага чалавека» [2, с. 72].

Маючы рэчыўнае, матэрыяльна-прадметнае выяўленне і рэалізацыю, краса, на думку К. Сваяка, літаральна разліта ў сусвеце, адлюстравана ў канкрэтных працэсах, прадметах і дэталях — бачных і нябачных чалавечаму воку. У той жа час, як было адзначана вышэй, яна ўтрымлівае ў сабе высокі духаносны пачатак,

падпарадкавана гуманістычнай ідэі, універсальнаму жыццядайнаму сэнсу, што робіць яе велічынёй пастаяннай, асноватворнай, вечнай. Увасабляючы праўду і дабро, ісціну і гармонію, любоў і свабоду, яна з'яўляецца непераўзыдзенай духоўна-філасофскай каштоўнасцю — аўтаномнай па сваёй зместавай сутнасці. Краса «заўсёды заяўляе сябе як чыстая бескарыснасць», пісаў У. Салаўёў, у ёй «мы сустракаемся з чымсьці безумоўна-каштоўным (падкрэслена аўтарам. — **М. М.**), што існуе не дзеля іншага, а дзеля самога сябе, што самім існаваннем сваім радуе і задавальняе нашу душу, якая на красе супакойваецца і вызваляецца ад жыццёвых імкненняў і турбот» [5, с. 35]. Да яе, як вышэйшай мэты і сэнсу, абсалютнай ідэі, скіравана ўсё ў быцці і сусвеце. У значнай ступені гэта ўнутраны стан чалавечай душы, якая праз пакуты і выпрабаванні, ачышчэнне і самапрасвятленне, імкнецца да Ідэалу:

*Пазволь, о Божа, меці мне надзею,*
*Пазволь быць верным свайму Ідэалу,*
*Ты памажы мне ўстаці да ўчыну,*
*Бо сам іду я бязмерна памалу —*
*І у бязвольлі шуканьня мадзею*
*І без ратунку ад суму я гіну...* [2, с. 70]

Паняцце красы абумоўлівалася ў паэта драматычна-балючым успрыняццем свету, яго праблем і супярэчнасцей, вялікімі душэўнымі мукамі і расчараваннямі. Натуральна, ён зыходзіў з таго, што «мэта нашага жыцьця земскага гэта жыцьцё вечнае ў небе. А дарога туды цярністая, высланая болем і горам» [7, с. 22]. Носьбітам духоўна-эстэтычнага зместу выступала ў яго нават смерць:

*Тайніцу духа вазьму я да гробу...*
*Тхненьне магілы я чую заўсёды:*
*У зорах неба, раскошах натуры*
*Думкі аб сьмерці плывуць моўбы воды —*
*Кінуць мне трэба красу і аздобу*
*Гэтага сьвету... Ах, сьняцца хаўтуры.* [2, с. 69]

Лірычны герой К. Сваяка любіў «места памёршых», яму мілейшаю была «лучнасьць з тымі, што ўжо на тым сьвеце, як з тымі, што тут жывуць яшчэ ў змаганьні, у далечыне ад Бога...» [7, с. 26]. Ён дзякаваў сваёй веры за магчымасць знаёміцца з духамі, гутарыць, раіцца з імі, эстэтызаваў месца апошняга прытулку чалавека на зямлі: «На ўзгорку магільным сумна шумяць дрэўцы, кідаючы фантастычныя цені на капцы з крыжамі. Цішыню нарушае толькі гульба ветру, які, зрываючыся часам сільней, варушыць былінку, траву і падымае сухія лісточкі. Ціш таёмная, неадгадная, наводзіць на кожнага дрыготу. Селянішча жыўшых... Тысячы, міліёны... Жылі, любілі, шукалі праўды, хараства, шчасьця... Няўжо кончылася ўсё толькі жменяй попелу? Няўжо-ж бытаваньне валадара зямлі так марнае і бязмэтнае?..» [2, с. 13].

«Як сьмерць прыгожа лучыць усіх, — адзначаў паэт у дзённікавых запісах. — Якая стройная унія! Адно тут грамадзянства, адна вера, адна міласьць! Адзін Бог — адна людзкасьць» [7, с. 27].

К. Сваяк бачыў красу ў імкненні да Ідэалу, пакланенні Богу, услаўленні Яго высокай жыццядайнай місіі. «Умеў журыцца і рвацца да шчасьця надземнага, — чытаем у яго лірычнай імпрэсіі «Не памёр: нарадзіўся», — безканцовага, чыстага як Сам Дух ёсьць чысты: шчасьця амаль неухватнага... А за ім ішла малітва: тут на зямельцы і ў прасторах горных сьвету надпрыроднага. Сэрца яго рвалася ішчэ да Ідэалу. Хацеў быць карысным для Суспольнасьці — Грамадзянства» [2, с. 10, 11].

Паэзія Казіміра Сваяка была адной з самых вядомых і папулярных у заходнебеларускай літаратуры 20-х гадоў. Балюча рэагуючы на вострыя сацыяльныя

і нацыянальныя праблемы і супярэчнасці рэчаіснасці, яна выявіла рост грамадзянска-патрыятычнай самасвядомасці народа, глыбока і пераканаўча раскрыла асаблівасці яго рэлігійна-каталіцкіх духоўных каштоўнасцей.

**Спіс літаратуры**

1. Пяткевіч А. Беларускі святар і паэт // Сьвіцязь. — 1994. — № 1.
2. Сваяк К. Мая ліра. — Мн., 1993.
3. К. С. З народам для Бога // Беларускі каляндар на 1920 год. — Вільня, 1919.
4. Станкевіч А. Казімер Сваяк: Нарысы аб ягонай ідэолёгіі. (У 5-ыя ўгодкі сьмерці). — Вільня, 1931.
5. Соловьев В. Философия искусства и литературная критика. — М., 1991.
6. Беларуская крыніца. — 1925. — 20 верасня.
7. Сваяк К. Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. 4-е выд. — Мн., 1992.
8. Przegląd Wileński. — 1924. — № 9.
9. Сьветазар. «Мая ліра» К.Сваяка // Беларуская крыніца. — 1926. — 5 студзеня.
10 Суліма. «Gor ardens» // Сын Беларуса. — 1924. — 17 жніўня.
11. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі. Ф. 5. Воп. 1. Адз. зах. 1.
12. Навіна А. Казімір Сваяк // Беларуская справа. — 1926. — 19 траўня.
13. Навіна А. Галоўныя кірункі ў беларускай поэзіі. — Вільня, 1933.
14. Калеснік У. Зорны спеў: Літаратурныя партрэты, нарысы, эцюды. — Мн., 1975.
15. Сьветазар. К.Сваяк, як паэт рэлігійны // Беларуская крыніца. — 1926. — 20 чэрвеня.
16. Грынкевіч С. Сын вёскі // Беларуская крыніца. — 1926. — 12 верасня.
17. Станкевіч А. Казімір Сваяк (Кс. К.Стэповіч) // Беларуская крыніца. — 1926. — 16 траўня.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 23 ліпеня 2009 года.

Мікола Мікуліч

«Мудрага шчасце — веры шуканне…»
Паэзія Казіміра Сваяка

**Рэзюме**

У артыкуле даследуецца творчая спадчына Казіміра Сваяка, аднаго з пачынальнікаў духоўна-ірацыянальнай плыні ў заходнебеларускай паэзіі. Яго верш прасякнуты адчуваннем усеабдымнай і ўсеагульнай адухоўленасці сусвету, напоўненасці яго цеплынёй і пяшчотаю, дабрынёй і любоўю. Ён сцвярджае святланосны пачатак, ідэю вечнага духу, які знаходзіць сваю рэалізацыю ў з'явах і прадметах матэрыяльнага свету.

Mikola Mikulich

«To search the wise happiness means to search faith...»
Kazimir Svajak's Poetry

**The Summary**

The subject of this article is the creative heritage of Kazimir Svajak who is one of the initiators of spiritualy-irrational trend in the West-Byelorussian poetry. His poems are imbued with feeling of comprehensive and general pirituality of the world, which is full of warmth and cordiality, kidness and love. The poet asserts luminiferous beginning of an eternal spirit which finds its implementation in the developments and the subjects of the material world.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ПАД НЕБАМ ВЕЧНАСЦІ

Хутчэй за ўсё многае для мяне магло б скласціся інакш. Магло б... Ды, бадай, што ні адбываецца з кожным з нас, загадзя прадвызначана Усявышнім. Калі нешта мы і можам, дык толькі ўносіць пэўныя карэктывы ў сваё жыццё. Асноўная ж плынь яго ад нашых памкненняў не залежыць, а развіваецца так, як і павінна быць. Праўда, катэгарычна наконт гэтага сцвярджаць не бяруся. У кожнага, як вядома, свая думка і, пры жаданні, сёй-той зможа прывесці прыклады, што сведчаць на карысць правільнасці менавіта яе. Тым не менш, я прытрымліваюся свайго пункта гледжання. Аднак аб усім па парадку...

У 1969 годзе (нават не верыцца, як хутка мінулася сорак гадоў) мяне прызвалі ў войска. Апынуўся за некалькі тысяч кіламетраў ад Беларусі, бо трапіў ажно ў Забайкальскую ваенную акругу. Наша часць знаходзілася непадалёку ад сталіцы Бураціі горада Улан-Удэ. Паколькі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, які я скончыў і паспеў да прызыву папрацаваць год загадчыкам аддзела пісем і масавай работы ў рэдакцыі драгічынскай раённай газеты «Запаветы Леніна», была ваенная кафедра, усім, хто навучаўся на ёй, прысвоілі воінскае званне «малодшы лейтэнант». Тым жа, хто трапіў у войска, яго павысілі да лейтэнанцкага.

Зразумела, афіцэры знаходзіліся ў больш выйгрышным становішчы, чым радавыя. Гэта тычылася і вольнага часу, якога было ў нас шмат. Дый жылі мы ў інтэрнаце — па-армейску ён называўся гасцініцай, па два-тры чалавекі ў пакоі. Я, каб асабліва не нудзіцца па родных мясцінах, з новага, 1970 года выпісаў сабе часопісы «Полымя», «Маладосць», «Беларусь» і газету «Літаратура і мастацтва».

Калі прыходзілі чарговыя нумары (хоць, канечне, і са спазненнем), тую радасць, што апаноўвала мяне ў гэты час, цяжка перадаць словамі. Пачыналася сапраўднае свята, якое доўжылася некалькі дзён. Асабліва, калі паштальён прыносіў часопісы. Кожны нумар прачытваў ад пачатку да канца. Найбольшую спажыву для роздуму давалі «Полымя» і «Маладосць», у якіх, як і заўсёды, быў багаты празаічны раздзел: друкаваліся новыя раманы, аповесці, не кажучы пра апавяданні, якіх у кожным нумары было па некалькі.

Прыгадаўшы сваё даармейскае супрацоўніцтва з асобнымі рэспубліканскімі газетамі, я вырашыў сёе-тое з навінак прарэцэнзаваць. Каб не працаваць дарэмна, загадзя паслаў лісты-запытанні ў тыя выданні, у якіх друкаваўся часцей, чым у іншых. Адказ атрымаў толькі з «Мінскай праўды».

Адгукнуўся загадчык аддзела культуры, цяпер, на жаль, ужо нябожчык Уладзімір Кобрын. Пры тым, як прызнаўся ён мне тады, калі, адслужыўшы ў войску і папрацаваўшы ў Капылі і Слуцку, я быў запрошаны Хведарам Жычкам у «ЛіМ», зрабіў гэта з радасцю. Праўда, нашы планы з Уладзімірам Антонавічам спачатку крыху разышліся. Я хацеў прарэцэнзаваць раман Івана Пташнікава «Мсціжы», толькі што апублікаваны ў часопісе «Полымя», а У. Кобрын параіў мне іншы твор. Ім аказаўся раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», надрукаваны прыкладна ў гэты час, толькі ў «Маладосці». Раман «Мсціжы» прыйшоў да чытача ў адзінаццатым—дванаццатым нумарах «Полымя», «Плач перапёлкі» — у дзесятым—дванаццатым «Маладосці» за 1970 год.

Папраўдзе кажучы, мне аднолькава спадабаліся абодва раманы. Перавагу ж «Мсціжам» я аддаў па той прычыне, што «Мінская праўда» на той час ахвотна

рэцэнзавала ўсё, што выходзіла з-пад пяра пісьменнікаў-землякоў. Была ўведзена пастаянная рубрыка, якая так і называлася — «Кнігі нашых землякоў». Калі ж гэта была часопісная публікацыя, дык — «Творы нашых землякоў». Таму «Мсцiжы» я і ўспрыняў для сябе лепшым варыянтам. Пра «Плач перапёлкі» збіраўся напісаць у якое-небудзь іншае выданне.

«Ды хто ведае, ці з'явіцца яшчэ такая магчымасць», — цвяроза разважыў я, атрымаўшы ліст ад У. Кобрына, таму, не задумваючыся, ахвотна адгукнуўся на прапанову. Я і не здагадваўся, наколькі своечасовай стала мая рэцэнзія для І. Чыгрынава. Адкуль мне было ведаць, што з'яўленне ягонага рамана было сустрэта так неадназначна.

Канечне, прыхільнікі творчасці Івана Гаўрылавіча шчыра радаваліся яго мастакоўскаму поспеху, прытым у новым для яго жанры. Але знайшлося ў яго і шмат нядобразычліўцаў, сярод якіх аказаліся і звычайныя зайздроснікі. Несумненна, заўсёды і пры любых абставінах ёсць такая парода людзей, якая можа шмат папсаваць нерваў, нашкодзіць. Ды куды страшнейшыя зайздроснікі ж у літаратуры, мастацтве. Яны і апалчыліся супраць І. Чыгрынава. Хоць у нечым іх зразумець можна было. Самі нічога больш-менш значнага няздатныя напісаць, а тут раман. Ды яшчэ **такі** раман. Дый узрост у аўтара быў, як быццам... не раманны. Публікацыяй «Плачу перапёлкі» рэдакцыя «Маладосці» па сутнасці зрабіла І. Чыгрынаву падарунак да ягонага 36-годдзя (нарадзіўся Іван Гаўрылавіч, 21 снежня 1934 года).

Варта заўважыць, што І. Чыгрынаў, як і многія пісьменнікі, пачынаў пісаць з вершаў, якія змяшчаў у касцюковіцкай раённай газеце «Ленінскі прызыў». Характэрны такі факт: калі вясной 1952 года ў Саматэвіцкую сярэднюю школу на выпускны вечар завітаў Аркадзь Куляшоў (адзінкавы выпадак, каб адна школа выгадавала двух народных пісьменнікаў), на ўрачыстасцях з хваляваннем выступіў са сваімі вершамі і нядаўні дзесяцікласнік І. Чыгрынаў. Ужо будучы студэнтам, ён друкаваўся ў газеце «Чырвоная змена» і нават у часопісе «Полымя».

У той жа «Чырвонай змене» ў канцы 1957 года ён апублікаваў і дакументальную аповесць «Тайна адной экспедыцыі», расказаўшы пра вядомага палярнага даследчыка Аўгуста-Саламона Андрэ. Не лішне засведчыць, што жанр гэтага твора, хоць у ім малады аўтар па-свойму асэнсоўваў матэрыял, пазначаны ўсяго толькі як «гісторыка-геаграфічная кампіляцыя». Як засведчыць і тое, што пачаткам сваёй сталай літаратурнай дзейнасці І. Чыгрынаў лічыў 1961 год, калі газета «Літаратура і мастацтва» змясціла ягонае апавяданне «Праз гады».

Ставіўся ён да напісанага па-свойму, па-чыгрынаўску: нішто «чужое» мне не трэба. Згаданая аповесць, хоць яна даволі цікавая, для яго ўсё ж заставалася «чужой». Сваё — гэта апавяданне «Праз гады». Не баючыся таўталогіі, зазначу, што праз гады і стала вядома, што гэты твор сваім з'яўленнем у друку азнаменаваў новы этап у гісторыі беларускай літаратуры, прысвечанай падзеям Вялікай Айчыннай вайны: усенародную барацьбу з фашызмам пачалі асэнсоўваць дзеці вайны.

Сімптаматычна і іншае. Апавяданнем «Праз гады» І. Чыгрынаў крануўся пачатковага перыяду, магчыма, і не здагадваючыся аб тым, што да яго пазней звернецца ў рамане «Плач перапёлкі». Ляснік Даўгалёў, з якім сустрэўся герой-апавядальнік, нечакана спытаўся ў яго: «А ты ведаеш, што такое партызан сорак першага года?» і тут жа дадаў: «Гэта не тое, што партызаны сорак трэцяга. Не, зусім, не тое».

Якія яны, партызаны сорак першага года, І. Чыгрынаў і паказаў у апавяданні «Праз гады». Гэта ж пацвердзіў ён і ў рамане «Плач перапёлкі». Спачатку, праўда, паказаў іншае: як зараджаўся партызанскі рух, як станавіўся ён магутнай сілай у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Найперш, на прыкладзе

Дзяніса Зазыбы і Радзівона Чубара засведчыў. Пасля таго, як выдаў кнігі апавяданняў «Птушкі ляцяць на волю» і «Самы шчаслівы чалавек».

Перад гэтым паспеў ужо трапіць у няміласць, бо ў першым нумары «Полымя» за 1963 год апублікаваў апавяданне «Маці», у якім са спагадай паставіўся да той, сын якой стаў паліцаем. Таму набраная ўжо кніга «Птушкі ляцяць на волю» некалькі месяцаў праляжала «без руху» ў выдавецтве. Давялося Івану Гаўрылавічу звяртацца з лістом на імя першага сакратара ЦК КПБ Кірылы Мазурава. З выхадам кнігі ён то дапамог, але апавяданне «Маці» ў яе не трапіла. Толькі ў 1970 годзе пад назвой «В тихом тумане» яно было надрукавана ў перакладзе на рускую мову ў часопісе «Дружба народов» і ў тым жа годзе ўвайшло ў кнігу І. Чыгрынава «За сто километров на обед».

Ці трэба казаць, наколькі своечасовай прыдалася для Івана Гаўрылавіча мая рэцэнзія. Хоць публікацыя яе затрымалася, яна была змешчана толькі ў нумары за 12 чэрвеня 1971 года. Я, аднак, не збіраюся сцвярджаць, што стаў першым крытыкам, які высока ацаніў гэты раман І. Чыгрынава. Першым быў Уладзімір Юрэвіч, які выступіў у «ЛіМе» (22 студзеня 1971 года) з грунтоўным артыкулам «Першапачатак народнага подзвігу». З'явіліся рэцэнзіі і ў «Вячэрнім Мінску», і «Звяздзе».

Аднак кожны чарговы водгук Чыгрынавым успрымаўся з радасцю. А што мая рэцэнзія была прачытана ім адразу пасля выхаду, я даведаўся пасля таго, як з верасня 1972 года пачаў працаваць у «ЛіМе». Іван жа Гаўрылавіч на той час загадваў па суседстве аддзелам публіцыстыкі і нарыса ў «Полымі» і любіў завітваць у «лімаўскі» калідор. Ці не пры першай сустрэчы ён згадаў і пра маю рэцэнзію. Нават горача падзякаваў за яе, заўважыўшы, што яна для яго стала вельмі дарэчы, бо знаходзіліся жадаючыя «паскубці» і сам раман, і творчасць ягоную ўвогуле. І. Чыгрынаў жа, будзем шчырымі, вельмі любіў, калі пра яго пісалі станоўча. Але, са свайго боку, чаго нельга адмовіць, абавязкова стараўся сказаць добрае слова тым, хто неабыякава паставіўся да напісанага ім.

Таму, калі за нейкі месяц да Новага, 1973 года раман «Плач перапёлкі» ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў асобнай кнігай, ён паспяшаўся падзяліцца са мной радасцю.

— Бяры на памяць, — працягнуў асобнік і дадаў: — Табе аднаму з першых падпісаў.

Я адгарнуў першую старонку. На ёй значылася:

«Алесю Марціновічу з удзячнасцю за добрыя словы, выказаныя некалі ў «Мінскай праўдзе».

7. XII. 72 г. Ів. Чыгрынаў».

Не прайшло і года, як я атрымаў ад Івана Гаўрылавіча чарговы дарунак — аднатомнік ягоных выбраных апавяданняў «Ішоў на вайну чалавек», што пабачыў свет у прэстыжнай на той час серыі «Бібліятэка беларускай прозы». Гэтым разам аўтограф быў больш лаканічным і сціплым:

«Шаноўнаму Алесю Марціновічу

Іван Чыгрынаў

4. 9. 73 г.»

Я, магчыма, так падрабязна і не згадваў бы гэты эпізод з рэцэнзіяй у «Мінскай праўдзе», калі б ён не аказаў спрыяльны ўплыў на мае далейшыя адносіны з І. Чыгрынавым. Менавіта дзякуючы гэтаму ў мяне і склаліся з ім прыязныя стасункі. А хутчэй за ўсё многае магло б скласціся інакш, калі б не тая прапанова У. Кобрына напісаць рэцэнзію на «Плач перапёлкі». Ды, мабыць, сапраўды ўсё ж павінна было адбыцца так, а не інакш.

Цягам часу мае адносіны з ім сталі... Як бы лепш сказаць... Калі не сяброўскія, дык таварыскія (бадай, паміж гэтымі словамі розніца ёсць, пры тым і немалая). Я па-ранейшаму паважна называў яго на «Вы», хоць з некаторымі пісьменнікамі з ягонага пакалення ледзь не адразу перайшоў на «ты». Але я мог даверыцца яму, расказаць і сказаць тое, чаго іншым ніколі не гаварыў і гаварыць не збіраўся. І, канечне ж, не прамінаў выпадку своечасова прарэцэнзаваць кожны яго новы раман.

Сёй-той гатовы пры гэтым маім прызнанні шматзначна ўсміхнуцца. Асабліва з «брацii», якая добра ведае біяграфію І. Чыгрынава. Маўляў, чаму б не пісаць рэгулярна пра яго, калі Іван Гаўрылавіч займаў уплывовыя пасады — быў намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў БССР. Пасля стаў сакратаром праўлення. У апошнія ж гады свайго жыцця старшынёй праўлення Беларускага фонду культуры, галоўным рэдактарам часопіса «Спадчына».

Чаго-чаго, а ягоныя пасады я ніколі не «выкарыстоўваў». Калі ўжо на тое пайшло, дык у гэтых адносінах куды больш мог бы зрабіць для мяне Іван Шамякін. Але яго таксама не «эксплуатаваў», таму і прапісаўся ў Мінску толькі ў 1979 годзе, а пакойчык атрымаў на агульнай кухні і таго пазней — у 1981-м, хоць і пра І. Шамякіна пісаў шмат. Але гэта між іншым.

Проста я перакананы, што І. Чыгрынаў — з тых пісьменнікаў, роля якіх у нашай літаратуры па сённяшні дзень яшчэ належным чынам не ацэнена. Ён акурат з зорак, святло якіх ярчэйшым становіцца праз гады, хоць і адразу яно вельмі яркае, вялікай прыцягальнай сілы. І тыя, хто прадузята ставіўся да Івана Гаўрылавіча, а то па розных прычынах і не любіў яго, канечне ж, не маглі пра гэта не здагадвацца. Інтуітыўна адчувалі, што ён вышэй за ўсіх іх. Разумелі — больш таленавіты, а таму нярэдка так скептычна ставіліся да многага, што з'яўлялася з-пад ягонага пяра. Спрацоўвала тая чорная зайздрасць, пра якую я ўжо гаварыў. Дый знаходзіліся крытыкі, якія, не задумваючыся, гатовы крытыкаваць кожнага, каб хоць гэтым звярнуць на сябе ўвагу.

Сказанае І. Чыгрынавым у адным з інтэрв'ю, якое я браў у яго ў 1993 годзе, па-ранейшаму актуальнае: «А наконт крытыкі? Ды ў нас крытыка дайшла да таго, што можа дыктаваць пісьменніку (нават вялікаму пісьменніку, прызнанаму майстру), як яму пісаць. Некаторыя крытыкі забываюць, што аўтар — гэта індывідуальнасць. І перш чым даваць яму нейкія парады, трэба моцна падумаць, а найперш нанава ўважліва прачытаць трылогію, тэтралогію і г. д. Пасля гэтага неабходна ўважліва асэнсаваць напісанае. Здатны на гэта — бярыся за пяро. А не, дык не падганяй пад сябе і не дыктуй аўтару. У нас жа пачалі вельмі моцна дыктаваць».

Хоць, калі ўжо быць шчырым да канца, калі-нікалі і былі падставы як бы непрымання І. Чыгрынава. Менавіта не напісанага ім, а спачатку яго самога, а ўжо ад гэтага ланцужок цягнуўся далей. Сёй-той з крытыкаў пачынаў так прыдзірліва прачытваць ягоны твор, што пры гэтым жывога месца не заставалася. Уся бяда ў тым, што Іван Гаўрылавіч часам ледзь не сам напрошваўся на «крытыку».

Прыгадайма, як ён у свой час на адным з пленумаў праўлення СП БССР рабіў даклад пра беларускі раман. Агляд напісанага ў гэтым жанры быў грунтоўны, выказвалася і шмат слушных заўваг. Але І. Чыгрынаў настолькі ўвайшоў у крытычную ролю, што шмат у чым страціў пачуццё меры. Назіралася па сутнасці тое, чаго ён сам, як празаік, не прымаў. Некаторых «падганяў» пад сябе. Ледзь не дыктаваў ім. Каму такое стаўленне да сваёй творчасці падабаецца? Тым больш, што ў тым выступленні перапала і некаторым самым знакамітым. Можна ўявіць сабе іхнюю рэакцыю!

Праўда, праз некаторы час, наколькі мне вядома, Іван Гаўрылавіч зразумеў, што ў сваім дакладзе ўсё ж завельмі крытычна паставіўся да творчасці некаторых сваіх калег па пяры. Таму паспяшаўся з тымі, каму ў дакладзе нарабіў шмат заўваг (калі сказаць шчыра, у асобных выпадках падставы для гэтага былі, іншая

справа, што рабіць усё трэба было больш тактоўна), аднавіць ранейшыя сяброўскія адносіны. Праўда, дасягнуць гэтага ўдалося не з усімі. Некаторыя затаілі крыўду назаўсёды.

Нярэдка адштурхоўваў ён ад сябе і манерай сваіх паводзін. Мог паглядзець гэтак звысоку. Часам скептычна. Недвухсэнсоўна даючы зразумець, што наўрад ці хто можа з ім параўнацца. І няўцям было тым, хто крыўдзіўся на яго за падобнае стаўленне да сябе, што такі ўжо характар меў, пры тым яшчэ з гадоў студэнцтва. Таму і быў высокай думкі аб сабе, бо ведаў, што здатны куды на большае, чым некаторыя яго таварышы па пяры, у тым ліку і ягоныя аднагодкі, з якімі разам уваходзіў у літаратуру.

Праўда, жаданне звярнуць на сябе ўвагу ў яго спалучалася з дабрынёй, шчырасцю, адкрытасцю. Проста любіў знаходзіцца ў цэнтры ўвагі. Зрабіць жа гэта для яго ніколі не выклікала асаблівай цяжкасці, бо з'яўляўся выдатным псіхолагам. А яшчэ, што таксама немалаважна, ніколі не быў скупым. А «калі ёсць грошы, дык і ты харошы». Здаецца, так спяваецца ў знакамітай песні Віктара Шніпа і Зміцера Еўтуховіча. Дарэчы, пра гэтыя самыя грошы.

Было гэта яшчэ ў савецкія часы. У тыя самыя, якія некаторыя з упартай паслядоўнасцю ганяць, другія з гэткай жа паслядоўнасцю захапляюцца імі. Ісціна, бадай, усё ж недзе пасярэдзіне. Калі ж наконт таго, што таталітарная сістэма душыла ўсё беларускае, дык ведаеце (гэта я звяртаюся да маладых чытачоў), якім накладам выйшаў вышэйзгаданы мною аднатомнік І. Чыгрынава ў «Бібліятэцы беларускай прозы»? Ды восем тысяч асобнікаў, а аўтару на той час было ўсяго 39 гадоў. Але я крыху адхіліўся ад тэмы гаворкі.

Значыць, у савецкія часы, калі квітнеў гэты самы «застой», ладзілася ў Маскве чарговая кніжная выстаўка-кірмаш. Паклікаў мяне да сябе ў кабінет галоўны рэдактар «ЛіМа» Алесь Жук:

— Не хочаш у Маскву з'ездзіць? — і не чакаючы майго адказу ўдакладніў: — На дзесяць дзён.

Зразумела, на гэтую самую выстаўку-кірмаш. Як тут не ўспомніць песню, у якой ёсць такія словы: «У Советской власти сила велика». Без аніякіх праблем яна была гатова аплаціць у сталіцу СССР такую шматдзённую камандзіроўку ўсяго толькі загадчыку аддзела інфармацыі.

— Чаго цягнеш? — прыспешвае А. Жук, — думаеш, жадаючых не знойдзецца?

— Разумею, што знойдуцца, таму адказваю згодай.

Гэта, як кажуць, прэлюдыя. Сама ж «песня» наперадзе.

Пасяліўся я не ў якой-небудзь гасцініцы, а ў самой «России». Нумар на двух, усё было загадзя прадугледжана. Не паспеў асвоіцца, як у калідоры напаткаў І. Чыгрынава. Аказваецца, асобна прыехала дэлегацыя Саюза пісьменнікаў БССР. Іван Гаўрылавіч адразу ж прапанаваў:

— Перасяляйся да мяне.

Мне б паслухацца яго, але на той час я толькі паспеў ажаніцца і, ад'язджаючы, даў жонцы слова, што... Калі піць, дык толькі чай. А апынуўшыся ў адным нумары з Іванам Гаўрылавічам... Адмовіўся, а цяпер шкадую, бо гэтыя абяцанні нічога добрага не даюць. Адзін некалі камунізм абяцаў пабудаваць. Другі гатоў быў на рэйкі легчы. Трэці... Толькі што мне да іх? Я ж з-за гэтых абяцанак-цацанак прапусціў такую магчымасць пачуць столькі цікавага ад Івана Гаўрылавіча...

Гэта, праўда, не значыць, што мы не сустракаліся з ім на выстаўцы. Паколькі ж не кнігамі адзінымі жыве чалавек, І. Чыгрынаў мяне неяк усё ж угаварыў пайсці ў рэстаран. Тут жа, у гасцініцы. А таму асабліва не «прыбіраліся». У вялікую залу зайшлі па-хатняму. Наведвальнікаў у рэстаране было не шмат і ніхто на нас не звярнуў асаблівай увагі. Але так працягвалася да таго моманту, пакуль Іван Гаўрылавіч, старанна вывучыўшы меню, не паклікаў да сябе афіцыянта.

Роздумна, ці не па слову ў хвіліну, пачаў заказваць... Ікру чорную... Ікру чырвоную... Афіцыянт, уважліва акінуўшы нас позіркам, а больш І. Чыгрынава, відаць, засумняваўся ў ягоных плацёжных магчымасцях. Таму настырна, па некалькі разоў паўтараў, колькі ўсё каштуе. Іван жа Гаўрылавіч, не звяртаючы на гэта ўвагі, яшчэ папрасіў прынесці балычок, а потым заказаў каньяк.

— Я не буду, — прамовіў я.

Чыгрынаў інтуітыўна здагадаўся ў прычыне маёй адмовы, таму ўсміхнуўся і разважліва сказаў:

— Калі быў малады, я таксама жонцы даваў слова не піць. Але настойваць не буду.

Афіцыянт, выканаўшы заказ, адразу ж паспяшаўся назваць суму аплаты. Іван Гаўрылавіч — нуль увагі. Той паўтарыў гучней. Вынік той жа. І тут я заўважыў, што крыху воддаль ад нас за сталом сядзеў адзін вядомы беларускі пісьменнік. З тых самых, каму перапала ў дакладзе І. Чыгрынава. З таго моманту адносіны ў іх склаліся, мякка кажучы, стрыманымі. Да ўсяго той пісьменнік, як казалі многія, быў скупаваты. Несумненна, што Іван Гаўрылавіч, маючы на ўвазе і яго, паводзіў сябе так, каб падкрэсліць сваю шчодрасць.

Аднак самым эфектным аказаўся фінал. Калі настаў час разлічвацца, І. Чыгрынаў, пачуўшы з вуснаў афіцыянта суму, якая вымяралася не адным дзесяткам рублёў, працягнуў грошы, што перавышалі яе ў разы паўтара-два.

— Рэшты не трэба, — ён з пачуццём уласнага гонару падняўся з крэсла.

Афіцыянт, які дагэтуль баяўся, каб не ўзнікла праблемы з аплатай, ад такой шчодрасці зніякавеў, потым ягоныя вочы шырока раскрыліся. Бадай, сутнасць таго, што адбылося, дайшла і да пісьменніка, які сядзеў непадалёку ад нас. Што, безумоўна, прынесла Івану Гаўрылавічу задавальненне.

З той маскоўскай выстаўкай звязаны і яшчэ адзін памятны эпізод. Праўда, у ім «пераможцам» быў зусім не І. Чыгрынаў. Больш за тое, Віктар Казько разыграў яго... Як бы лепей сказаць? Зласнавата, ці што... Пачалося з таго, што мы ўтрох (апроч нас з В. Казько быў яшчэ і Аляксей Гардзіцкі) хадзілі ад стэнда да стэнда, якія за некалькі дзён паспелі ўжо добра вывучыць, але ж неяк трэба было бавіць час.

— Глядзіце! — нечакана ўсклікнуў В. Казько, — сам Святлейшы! — І кінуўся да Івана Гаўрылавіча з такім выглядам, быццам не бачыў яго, прынамсі, які-небудзь год.

Мы таксама накіраваліся ў той бок.

— Іване, — пачаў В. Казько з ходу, — цябе японцы шукалі.

— Японцы? — здзівіўся І. Чыгрынаў. — Навошта я ім спатрэбіўся?

Сапраўды, навошта? Мы з А. Гардзіцкім падумалі, што яны няйначай збіраюцца перакладаць які-небудзь ягоны раман. Бадай, гэта падумаў і сам І. Чыгрынаў.

— Навошта я ім? — з нецярпеннем перапытаў ён.

— Дык усё паўтараюць: «Чыгірыня, Чыгірыня. Где Чыгірыня».

— Не цягні... — Івану Гаўрылавічу яшчэ больш не цярпелася хутчэй даведацца, чаго гэта ім гэтак зацікавіліся японцы.

— Ды казалі, што ты ў іх пазычыў пяць рублёў і не аддаеш, — засмяяўся В. Казько, а следам за ім і я з А. Гардзіцкім.

Усміхнуўся і Іван Гаўрылавіч. Аднак усмешка ў яго атрымалася нейкай вымучанай. Адчувалася, што ад такога жарту яму не па сабе. Праўда, хутка таксама пачаў расказваць штосьці вясёлае. Усё ж толькі знешне ён мог падацца засяроджаным у сабе, а часам і змрочным. На самой жа справе быў душа-чалавек, любіў сяброўскія кампаніі, а то і застоллі, у тым ліку і з удзелам маладых пісьменнікаў, якім, дарэчы, вельмі шмат і ахвотна дапамагаў.

Мог патэлефанаваць у выдавецтва і папрасіць, каб не затрымлівалі выхад кнігі.

Мог праз Беларускі літаратурны фонд паклапаціцца аб выдзяленні прэміі. А то і сваіх грошай даць.

Сам выхадзец з народа, ён на народ і «працаваў», каб паказаць сябе з лепшага боку, хоць рабілася гэта шчыра, па душэўнай патрэбе і шчодрасці.

Як мне здаецца, нават і прымерваўся да вялікіх. Прынамсі, калі ў адзін час пачаў насіць такую прычоску, як... Неяк пры сустрэчы я не ўстрымаўся:

— Іван Гаўрылавіч, пад Талстога «працуеце»?

Нічога не адказаў, толькі ўсміхнуўся. Відаць, спадабалася яму такое параўнанне. Але хутчэй і сам у думках параўноўваў сябе з Талстым... Аляксеем Мікалаевічам. Хоць так падавалася мне, калі браць на ўвазе тыя знешнія рысы, што прасочваліся ў іхнім вобліку. Асабліва ў манеры насіць валасы. Тыя ж, хто лепш ведаў І. Чыгрынава і часцей сустракаўся з ім, схіляюцца да думкі, што калі ён і ставіў сябе з кім-небудзь поруч, дык толькі з Львом Мікалаевічам Талстым. Такі вось беларускі «талстовец».

З гэтага можна ўсміхнуцца. Правільней, усміхнуцца лягчэй і прасцей. Аднак, тым не менш, нельга не пагадзіцца з тым, што такое творчае «суперніцтва» ўсё ж мела пад сабой пэўныя падставы. І. Чыгрынаў таксама «араў» глыбока і гэтаксама аздабляў дзялянку, якую апрацаваць па сіле далёка не кожнаму. І гэтаксама замахнуўся на эпапею.

Яна не стала новай «Вайной і мірам»? Дый «верамейкаўскі цыкл» гэтай «Вайной і мірам» ніколі стаць і не мог. Не пры якіх абставінах. І прычына зусім не ў рознай ступені таленавітасці І. Чыгрынава і Л. Талстога. Дый дзе той паказальнік яе, гэтай таленавітасці? Гэтаксама і не ў тым, што ў творах Л. Талстога і І. Чыгрынава закранаюцца розныя часавыя і тэматычныя пласты.

Ісці неабходна ад іншага: нішто і ніколі ў жыцці цалкам не паўтараецца. Як не будзе новай Рымскай імперыі, так і не будзе новай «Вайны і міру». Праўда, на зары адраджэнцкіх працэсаў сёй-той на поўны сур'ёз прапаноўваў нашу краіну называць ... Вялікае княства Літоўскае. І гэтаксама на поўным сур'ёзе іншыя «аптымісты» патрабавалі ад Івана Гаўрылавіча напісання «Вайны і міру». Калі памяць не падводзіць, дык нешта падобнае ў свой час даводзіў яму і аўтар гэтых радкоў.

Чыгрынаў не зрабіў таго, чаго не мог зрабіць. Тым не менш ён напісаў усё ж сваю эпапею, якой, праўда, не паспеў даць назву. Таму згадаю асобныя раманы ў той паслядоўнасці, у якой яны з'яўляліся ў друку: «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», «Вяртанне да віны», «Не ўсе мы згінем». А ім жа напісана яшчэ шмат драматургічных твораў. Цікавая і ягоная публіцыстыка.

Многія, на жаль, не прымалі не толькі творы Івана Гаўрылавіча, а і ягоныя палітычныя погляды. Асабліва калі падзьмулі гэтыя самыя вятры. Хто кажа — дэмакратычныя, хто... Не ў гэтым справа. Раптам усе сталі такімі адраджэнцамі, а І. Чыгрынаў з Барысам Сачанкам выбіраюцца членамі ЦК КПБ. Разам з Іванам Шамякіным. Але з Івана Пятровіча што возьмеш — ён у гэтым самым бюро даўно ўжо быў, а тут... Альбо ўдзел Івана Гаўрылавіча ў «сербскім» ці нейкім там яшчэ камітэце... А яшчэ (праўда, хутчэй за ўсё многія і забыліся пра гэта), сто пісьменнікаў падпісалі ліст, у якім гаварылі, што нельга парываць сувязяў з рускімі літаратарамі. І. Чыгрынаў адным з першых паставіў пад гэтай заявай свой подпіс. А яшчэ...

Гэтае «яшчэ» можна пералічваць шмат разоў. Яно таксама пацвярджэнне таму, што І. Чыгрынаў з'яўляўся найвялікшай індывідуальнасцю, што асобныя ўчынкі ён рабіў як бы насуперак...

Тым, хто яго не прымаў...

Тым, хто зайздросціў ягонай вядомасці...

Тым, хто толькі ўсміхаўся ягонаму жаданню быць жывым класікам...

Усім даказваў: Я ёсць Я... І маю права на ўласныя погляды нават больш, чым іншыя. Усё адно, пры любых абставінах быў, ёсць і буду ЧЫГРЫНАВЫМ.

Ён і быў ім. У творчасці, у жыцці. А хто для мяне асабіста І. Чыгрынаў як пісьменнік, я паспрабаваў сказаць у нарысе «Іван Чыгрынаў», напісаным для серыі «Народныя пісьменнікі Беларусі», якую на той час выпускала выдавецтва «Народная асвета».

А Чыгрынаў-чалавек? Душа чалавек. І ў гэтым упэўніўся, калі апошнім часам ён асабліва часта заходзіў у «ЛіМ», у тым ліку і да мяне... І рэгулярна званіў. А яшчэ, нібыта спяшаючыся выказацца, як прадчуваў, што зямны век ягоны нядоўгі, ахвотна згаджаўся на інтэрв'ю. Падчас аднаго, дарэчы, адбыўся выпадак, пра які без усмешкі прыгадваць не магу.

Час у нас быў абмежаваны. Івана Гаўрылавіча па нейкай пільнай патрэбе выклікалі ў Савет Міністраў... Ці сам ён туды ішоў... Гэта не істотна... Гаворка адбывалася на ягонай кватэры. На пытанні адказы я атрымаў хутка, бо карыстаўся дыктафонам. Сама час развітвацца. І тут вяртаецца дамоў жонка І. Чыгрынава Людміла Прохараўна.

Павіталіся.

— Дык, можа, паабедаеце? — прапанавала яна.

Іван Гаўрылавіч ці не са злосцю:

— Ты ж ведаеш, што я ў Саўмін іду?!

— Дык можна ж паспець!

— Ты што, думаеш, я туды выпіўшы пайду?!

Людміла Прохараўна здзівілася такому адказу, а потым усё зразумела:

— Ды я чарку і не прапаноўваю...

— А навошта нам абед без чаркі!

Так і не «паабедалі» мы тады з Іванам Гаўрылавічам, хоць даводзілася гэта рабіць у іншых абставінах.

Апошні раман І. Чыгрынава я чытаў па меры яго напісання. Тым, хто не ведае гэтага, нагадаю: Іван Гаўрылавіч меў звычку пісаць дробным, уборыстым почыркам у агульным сшытку. І ўжо гатовае аддаваў на передрук машыністцы. Гэтыя старонкі я і чытаў, бо прыспешваў час здачы нарыса для серыі «Народныя пісьменнікі Беларусі». Так і напісаў я пра раман «Не ўсе мы згінем» артыкул яшчэ да таго, як Іван Гаўрылавіч за некалькі тыдняў да сваёй смерці прапанаваў рукапіс у рэдакцыю часопіса «Полымя».

Хто чытаў гэты раман, памятае, што ў заключных эпізодах у Зазыбы забалеў нечакана страўнік, а тут партызанскі парад... І хоць я ніколі асаблівых заўваг І. Чыгрынаву не рабіў, гэтым разам не ўстрымаўся:

— Навошта Вам такі эпізод? Няўжо хочаце, каб хто-небудзь сказаў: «Пісаў, пісаў Чыгрынаў і дапісаўся да таго, што галоўны герой...»

Іван Гаўрылавіч памаўчаў. Адчувалася, што заўвага яму не спадабалася. Нарэшце ціха прамовіў:

— А мо і сапраўды...

Тым не менш згаданы эпізод у рамане так і застаўся.

Цяпер, калі з дня смерці І. Чыгрынава мінуў не адзін год, я разумею, чаму ён настаяў на сваім. Не мог уносіць праўку па той прычыне, што інтуітыўна адчуваў: і гэты раман, і іншыя творы з «верамейкаўскага цыкла», і шматлікія апавяданні, п'есы ўжо становяцца гісторыяй літаратуры. Гісторыяй, бо яму самому засталося жыць не так і шмат. Навошта, у такім разе, нейкія ўдакладненні. Хай застанецца так, як было ў першапачатковым выглядзе. Даследчыкам у далейшым разбірацца, што і да чаго. Сам жа ён зрабіў усё, што мог зрабіць...

Цяжкахворы, давёў «верамейкаўскі цыкл» да завяршэння. І многія новыя апавяданні напісаў, у якіх, як ніколі, быў шчырым, гаварыў нават тое, што звычайна павінна гучаць падтэкстава, іншасказальна. Ужо не было неабходнасці штосьці хаваць, калі галоўнае заключалася ў тым, каб паспець выказацца...

Аб тым, наколькі ён цяжка хворы, я даведаўся ад Алеся Пісьмянкова. Аднак палічыў, што Алесь, з-за яго эмацыянальнасці, значна перабольшвае складанасць становішча. Таму і не надаў гэтаму асаблівага значэння. Тым больш, што Іван Гаўрылавіч па-ранейшаму заходзіў у «ЛіМ», расказваў, як яму працуецца. І раптам, як гром з яснага неба — трагічная вестка.

Не памятаю, хто мне паведаміў пра ягоную смерць. Аднак якраз у Саюзе пісьменнікаў Беларусі праходзіла нейкае пасяджэнне. У канферэнц-зале да мяне падышоў галоўны рэдактар газеты «Чырвоная змена» Уладзімір Бельскі:

— Можа, слова развітальнае напішаце?

Хіба я мог адмовіць яму? На нейкім лістку паперы пачаў таропка пісаць тое, што з'явілася ў бліжэйшым нумары маладзёжнай газеты (гэты нумар у мяне захаваўся):

«Памёр Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, і памеркла зорка дабрыні, шчодрасці, праўды. Адышоў Чыгрынаў, і ты сам нібы стаў нейкім больш безабаронным перад светам і людзьмі.

Бывай, дарагі Іван Гаўрылавіч! Няхай табе будзе пухам родная зямля. Зямля, якую ты любіў і якая любіла (і будзе любіць!) цябе вечна. Твае ўдзячныя чытачы ведалі і ведаюць, што напісанае Іванам Чыгрынавым, — гэта класіка.

Горка, балюча...

Смерць кожнага чалавека — гэта вялікае гора, а што казаць ужо, калі адыходзіць блізкі табе чалавек?!

Так, Іван Гаўрылавіч быў мне (не пабаюся гэтага слова) блізкі. Блізкі як пісьменнік найвялікшага таленту, блізкі як цудоўны чалавек, да голасу якога хочацца прыслухацца. Блізкі многімі і многімі сваімі поглядамі — прынцыповымі, прамымі, бескампраміснымі. Я любіў яго і як чалавека, і як... Не, не буду напрошвацца ў сябры, не мне гэта вырашаць. І ўсё ж...»

Дарэчы, пра напісаны мною нарыс пра жыццёвы і творчы шлях І. Чыгрынава.

Не ведаю, як цяпер (хоць навошта ведаць, калі апошнім часам літаратуразнаўчыя працы і метадычныя дапаможнікі па літаратуры ў выдавецтве «Народная асвета» ўвогуле не выходзяць), а на той час, перш чым трапіць у выдавецкі план, рукапіс мусіў прайсці апрабацыю ў Навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Сумняваюся, што напісанне ўвогуле было б заказана мне (ці каму-небудзь іншаму), калі б не сам І. Чыгрынаў. Іван Гаўрылавіч знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах з тагачасным дырэктарам Цэнтра. Ён і папрасіў яго, каб той уключыў будучую кнігу для выдання ў серыі «Народныя пісьменнікі Беларусі» і ў якасці аўтара яе прапанаваў менавіта мяне. Паколькі адчуваў сябе блага, то сам і прыспешваў напісанне нарыса.

Калі ж я, пасля смерці І. Чыгрынава, прапанаваў, нарэшце, свой рукапіс у Цэнтр, дык яго, як гэта і практыкавалася на той час, прапанавалі двум рэцэнзентам. Адным з іх стаў кандыдат філалагічных навук Мікола Мішчанчук, другім — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага каледжа Вольга Раманцэвіч.

Не скажу, што ў М. Мішчанчука не было заўваг. Не магу і сцвярджаць, што ўсе з іх мне спадабаліся, аднак неабходныя, на ягоную думку, праўкі, я ўнёс. Калі ж прачытаў рэцэнзію В. Раманцэвіч, стала не па сабе. Не, у яе было заўваг куды менш, чым у М. Мішчанчука, але нават не нязгоду, а і абурэнне выклікала тое, што В. Раманцэвіч не тое што не прыняла ацэнку, як на маю думку, аднаго з лепшых апавяданняў І. Чыгрынава «Народны камісар», а і запатрабавала ўвогуле не згадваць пра гэты твор.

Памятаеце, які той быў час? Якраз найшла хваля «перапісвання» ці не ўсёй літаратуры, створанай за гады Савецкай улады. Ніхто не сумняваецца, ацэнкі шмат якіх твораў неабходна было ўдакладняць. Але ж, для прыкладу, не спісваць

цалкам з рахунку цудоўную паэму Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» толькі за тое, што героі яе ўратоўваюць чырвоны сцяг, а гэты колер у многіх на той час выклікаў гэткую ярасць, як у неразумнага быка.

Пра гэта я, дарэчы, некалі нават пісаў у «Настаўніцкай газеце», даказваючы, што важны ў дадзеным выпадку не сам колер, істотней іншае: што сцяг гэты — вайсковы сімвал. Сумленныя людзі гэтаксама абаранялі б і бел-чырвона-белы сцяг, калі б ён з'яўляўся сцягам вайсковага падраздзялення.

Шаноўная ж В. Раманцэвіч, якой не спадабалася апавяданне «Народны камісар», дадумалася да таго, што напісала прыкладна наступнае: «А што б сказаў пра гэта Васіль Быкаў?» У сэнсе таго, як бы ён паставіўся да станоўчай ацэнкі мною згаданага чыгрынаўскага апавядання, у якім герой называецца камісарам. Як кажуць, прыехалі. Па-першае, камісар гэты не з тых, якія дзейнічалі ў грамадзянскую вайну ці ў першыя гады Вялікай Айчыннай. Хоць, калі ўжо не пісаць пра камісара, дык не трэба пісаць і пра князёў, баронаў. Па-другое, у шаноўнага Васіля Уладзіміравіча магло быць уласнае стаўленне да любога твора, хоць я сумняваюся, што згаданае апавяданне ён чытаў.

Галоўнае ж у іншым: твор — цікавы. У гэтым апавяданні па-майстэрску выпісаны вобраз галоўнага героя, якога не зламалі сталінскія рэпрэсіі. Ён застаўся такім, якім і быў — шчырым, спагадлівым, гатовым дапамагчы кожнаму, хто мае ў тым неабходнасць. За ўсё гэта і празвалі яго вяскоўцы сваім камісарам.

Спачатку я настолькі абурыўся тым, што В. Раманцэвіч патрабавала апусціць развагі пра апавяданне «Народны камісар», пры тым выстаўляючы такі дзіўны аргумент, што вырашыў пакінуць усё, як ёсць. Але ў Цэнтры аказаліся людзі мудрэйшыя за мяне. Пераканалі, што, каб не ўскладняць становішча, заўвагу ўсё ж лепей улічыць, бо і так невядома яшчэ, калі рукапіс будзе прапанаваны ў выдавецтва.

Як у ваду глядзелі.

Хоць я паслухаўся, тым не менш мая кніга «Іван Чыгрынаў. Нарыс жыцця і творчасці» выйшла ў выдавецтве «Народная асвета» толькі ў 1999 годзе. І то добра, што ў рэшце рэшт усё ж пабачыла свет. Праўда, не ў серыйным афармленні. Дый у паўтара раза меншым аб'ёме, чым сам рукапіс. Аказваецца, у Міністэрстве адукацыі было прынята рашэнне, каб для кніг метадычнага характару, а мая пазначана, як дапаможнік для настаўніка, ён не перавышаў дзесяці ўліковавыдавецкіх аркушаў. У мяне ж былі ўсе пятнаццаць. Зразумела, не мне ацэньваць вартасці сваёй кнігі, але мне над ёю працавалася хораша і з задавальненнем. Дый сёння ўспрымаю яе як сваю даніну памяці Івану Гаўрылавічу.

Праўда, годам раней гэта зрабіў у сваім дзевятым нумары і часопіс «Крыніца», у якога была добрая завядзёнка ў раздзеле «Я» буйным планам прадстаўляць асобных пісьменнікаў. З падрабязнай іхняй біяграфіяй, распісанай ці не па кожнаму году, артыкуламі пра іхнюю творчасць, калі ж гэта памёрлыя літаратары, то і з успамінамі пра іх.

Слова пра І. Чыгрынава тады сказалі Анатоль Кудравец, Дзмітрый Бугаёў, Андрэй Федарэнка, Алесь Пісьмянкоў, Іван Чыгрын, Навум Гальпяровіч, Леанід Левановіч, Алесь Жук... У тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Кожны стараўся прыкмеціць у характары і паводзінах Івана Гаўрылавіча найбольш істотнае, вызначальнае. Кожны даваў менавіта сваю ацэнку ягонай творчасці. Безумоўна, як і заўсёды ў падобным выпадку, сведчанні суб'ектыўныя, але, паколькі з малога пачынаецца вялікае, так і з асобных ацэнак вымалёўваецца цэласная карціна ўспрымання таго, хто з'яўляўся яркай АСОБАЙ.

Шкода толькі, прамільгнула і тое, што звычайным жаданнем «падкарэкціраваць» жыццё і творчасць І. Чыгрынава вытлумачыць нельга. Прынамсі, адзін паэт, гаворачы пра апошні раман пісьменніка «Не ўсе мы згінем», сказаў літаральна наступнае: «Для мяне кніга цікавая і тым, што ў ёй прагучала асабістае

пакаянне аўтара. Пакаянне гэтае ў падтэксце. На прыкладзе свайго героя Чубара Іван Чыгрынаў вярнуўся да сваёй віны. Не тое, каб адрокся ад савецкасці, але з дапамогаю часу ён — нядаўні артадаксальны савецкі літаратар, камуніст, член бюро ЦК КПБ — менавіта ў гэтым рамане выказаўся як **нацыянальны** (выдзелена тым аўтарам. — **А. М.**) пісьменнік. Аплакаў ахвяры Беларусі партызанскай і Беларусі паліцэйскай, Беларусі савецкай і Беларусі нацыянальнай».

Пра якую віну Івана Гаўрылавіча можа ісці гаворка? Няўжо за тое, што напісаў апавяданне «Народны камісар»? У сувязі з гэтым нельга не прыгадаць такое сведчанне А. Федарэнкі, калі ён успамінае пра тое, як «ахвотнікі скарачаць чужы век білі яго (І. Чыгрынава — **А. М.**) з насалодаю і зацята, асабліва ў апошнія гады, калі ён быў хворы — як тыя куры, што накідваюцца і дзяўбуць таварку, заўважыўшы, што яна нямоглая і не здолее абараніцца».

«Ён трымаўся з усіх сіл, але ў душы, вядома ж, перажываў. Перажываў моцна. Гэта было дужа несправядліва, не па-людску — дабіваць хворага, дні якога літаральна падлічаны. (І за што, калі ўдумацца, дабіваць?!)

— Ды мне дастаткова было б пачапіць бел-чырвона-белую значку на лацкан, і тыя самыя, што мяне цяпер бэсцяць, заўтра на руках насілі б.

— Дык пачапіце, Іван Гаўрылавіч...

— З-за прынцыпу не пачаплю. Хоць бы з-за таго, што носяць гэтую значку тыя, каго на кіламетр не варта падпускаць да нацыянальнай ідэі. А тое, што пішуць пра мяне — хай пішуць... А мая перапёлачка лятае!»

Нешта падобнае мне і самому даводзілася чуць ад Івана Гаўрылавіча, калі браў у яго адно з апошніх інтэрв'ю. Ён сам напрасіўся на яго. Праўда, не на мяне выйшаў, як гэта рабіў звычайна, а на Міколу Гіля, які тады быў галоўным рэдактарам «ЛіМа». М. Гіль і паведаміў мне пра ягонае жаданне, патлумачыўшы, што І. Чыгрынаў патэлефанаваў яму з бальніцы.

Тым жа днём я паспяшаўся да Івана Гаўрылавіча. Размясцілі яго ў палаце на два месцы, але такой, што была падзелена на два пакоі, таму кожны з хворых па сутнасці знаходзіўся асобна. Адразу кінулася ў вочы, што выгляд у яго далёка не лепшы. Ды хіба станеш пра гэта гаварыць? Тым больш у бальніцы. Але не быў бы Чыгрынаў Чыгрынавым. Падышоў да халадзільніка, адчыніў яго:

— Хочаш каньячку?

— А вы?

— Мне, браце, нельга.

— Адзін піць не хачу, — адмовіўся я.

— Тады іншым разам.

Не памятаю дакладна, калі гэта было. Аднак незадоўга да ягонага 60-годдзя, бо акурат да гэтага юбілею Івану Гаўрылавічу надалі ганаровае званне народнага пісьменніка. А ў тым інтэрв'ю ён па сутнасці апраўдваўся (не каяўся, бо каяцца яму не было за што, а менавіта як бы апраўдваўся). На той час, відаць, афармляліся неабходныя дакументы на прысваенне яму гэтага звання, а ён ведаў, што ўжо знайшлося нямала ахвочых уставіць палкі ў калёсы, пачала пісаць «губерня». Таму і мусіў даводзіць сваю пазіцыю, пераконваючы, што ён нічога не мае ні супраць беларускасці, ні супраць адраджэнцкіх працэсаў у цэлым.

Падчас той сустрэчы Іван Гаўрылавіч казаў і шмат таго, што ў друк не трапіла. Абураўся ўсімі прыстасаванцамі, якія паводзяць сябе быццам флюгеры. Прызнаваўся, што сумленнаму чалавеку вельмі цяжка, калі ён з імі ў чымсьці не пагаджаецца, а тым больш не хоча скакаць пад іхнюю дудку. А ён гэтага ніколі не рабіў. Таму часам і трапляў у становішча, з якога неабходна было тэрмінова шукаць выйсце, іначай давялося б сутыкнуцца з непрыемнасцямі, якіх і меў нямала, калі быў вылучаны на атрыманне звання народнага пісьменніка.

Праўда ўсё ж была на баку мудрага Вальтэра, які сцвярджаў: «Не бывае вялікіх спраў без вялікіх перашкод». Быццам пра І. Чыгрынава сказана. Ці не тыя ж

перашкоды спрацавалі, што ён, хоць і стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР, але атрымаў яе зусім не за сваю прозу, а як сааўтар (разам з Іванам Новікавым) сцэнарыя тэлефільма «Руіны страляюць...», у якім была сказана праўда пра Мінскае падполле ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Таксама такая праўда, якая многім, у тым ліку і ў партыйных органах, не падабалася.

Нельга аднак не пагадзіцца з Вальтэрам і ў іншым: «Аб вялікім чалавеку мяркуюць толькі па яго галоўных справах, а не па яго памылках».

«Вялікае ж» І. Чыгрынава — выдатнейшыя творы, якімі па праве ганарыцца не толькі беларуская літаратура. Дарэчы, пры жыцці Івана Гаўрылавіча ўсе з іх, напісаныя на той час (паўтараю — **усе!**) былі перакладзены на рускую мову. Быў ён прадстаўлены і ў такім аўтарытэтным выданні, як «Роман-газета», надрукавацца ў якой лічылі за гонар самыя вядомыя пісьменнікі з усяго Савецкага Саюза. Не кажучы пра тое, што яго пераклалі на дзесяткі іншых моў. А з якой цікавасцю чытаецца сёння агромністы том (восемдзесят з нечым улікова-выдавецкіх аркушаў), у якім змешчаны ўвесь «верамейкаўскі цыкл» і які пабачыў свет у «Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі»! Асобныя раманы І. Чыгрынава набылі сцэнічнае жыццё, па іх зняты тэлефільмы. У Мінскім тэатры кінаакцёра ішоў спектакль «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», пастаўлены паводле ягоных апавяданняў.

Разам з тым слушна сказаў Алесь Жук: «Ідзе час, на доме, дзе жыў пісьменнік, устаноўлена мемарыяльная дошка. З яе глядзіць на прахожых зусім не падобны на сябе Іван Чыгрынаў. А тыя, хто яго ведаў, міжвольна задумваюцца — а які сапраўды ён быў? Неардынарная, каларытная постаць, асоба — гэта, бясспрэчна, таленавіты пісьменнік... Але гэта далёка не ўсё. Загадка Івана Чыгрынава застаецца». Не магу абысціся і яшчэ без аднаго сведчання — сябра І. Чыгрынава Анатоля Кудраўца: «Калі ішла гаворка пра «некага», ён дазваляў такое: Няхай разбіраецца гісторыя, у яе хапае часу і права».

Гісторыя, безумоўна, наблізіцца і да раскрыцця загадкі самога Івана Гаўрылавіча, бо ёй, гісторыі гэтай, не будзе аніякай справы да таго, у якой партыі быў пісьменнік, якіх поглядаў ён прытрымліваўся. Для гісторыі куды важней, што і як ён напісаў і наколькі багаты творчы багаж пакінуў пасля сябе.

Яшчэ наконт таго, што ў нашым жыцці, бадай, усё загадзя прадвызначана. У гэтым я лішні раз упэўніўся, калі дапісваў свой артыкул-успаміны. 19 чэрвеня 2009 года, у дзень 85-годдзя В. Быкава, разам з іншымі пісьменнікамі пайшоў на Усходнія могілкі, каб ускласці кветкі на ягоную магілу. І нечакана да мяне дайшло, што ў гэтым месцы атрымліваецца свайго роду трохкутнік.

Крыху наводдаль ад вечнага спачыну Васіля Уладзіміравіча — магіла І. Чыгрынава. Злева ад В. Быкава — вечным сном спіць былы сакратар ЦК КПБ Аляксандр Кузьмін, з якім Васіль Уладзіміравіч знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах. Чаго нельга сказаць пра ягоныя стасункі з І. Чыгрынавым. Аднак тут усе трое яны разам.

Выпадковасць? А можа, лепей да ўсяго паставіцца інакш. Вечнасць, вось што па-сапраўднаму збліжае людзей. Выдатных людзей — тым больш. Толькі пад небам вечнасці ім аднолькава добра. Не сумняваюся, што ўтульна поруч з В. Быкавым і А. Кузьміным і дарагому для мяне Івану Гаўрылавічу. Гэтаксама, як і ім, у чым таксама ўпэўнены, блізкае ягонае суседства. Бо, як сказаў класік:

Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Сапраўды, навошта?

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# ПРАВІЛЫ АДАСАБЛЕННЯ

Жыць — страшна. Аднак кожнаму па-свойму: адным — ***страшна*** цікава, другім — ***страшна*** самотна, трэцім — ***страшна*** весела; камусьці жыць ***страшна*** хочацца, а некаму — ***страшна*** абрыдла...

Васіль Быкаў у памфлеце «Абы ціха», які ўвайшоў у кнігу «Парадоксы жыцця» (2004), звяртае ўвагу на адзін з дагэтуль не ацэненых належным чынам талентаў таго народа, каторы атэстоўваецца аўтарам як самы мудры на свеце, — «прыроджаны талент да страху». З таго часу, як пачала паўставаць новая беларуская літаратура, цэлыя пакаленні родных пісьменнікаў не шкадавалі жыццяў і натхненняў дзеля таго, каб акрэслены вышэй талент не развіўся ў трывалую геніяльнасць.

І нашы сучаснікі — не выключэнне.

Ці не кожны сур'ёзны беларускі празаік, які здолеў з большымі ці меншымі стратамі перасягнуць дэмаркацыйную лінію паміж «сярэднім» (жыццясмертным, паводле прыватных адчуванняў) узростам і «поўневай» сталасцю, імкнецца падзяліцца з тутэйшым чытачом (а пашэнціць з перакладчыкамі — дык можна і з усім светам гутарку весці) выпакутаваным веданнем: жыць не страшна. Асаблівай грунтоўнасцю падыходаў, несучаснай адказнасцю перад суайчыннікамі вылучаецца стаўленне да праблемы празаіка Барыса Пятровіча, які за чатыры гады здолеў ператварыць «Шчасьце БЫЦЬ» (кніга выйшла ў 2004 годзе ў мінскім выдавецтве «Тэхнапрынт») у «Жыць не страшна» (Мінск, «Медисонт», 2008). Верагодна, нетутэйшая *бясстрашнасць* празаіка і сталася адным з аргументаў падчас вызначэння яго як лаўрэата прэміі «Гліняны Вялес» (2008). Маюцца, натуральна, і выключэнні, прычым, па маіх падліках, мінімум чатырох катэгорый.

Да першай належыць, бадай, адзін Юры Станкевіч, які па меры жыццёвага і творчага сталення ператвараецца ва ўсё больш незваротнага антыутапіста і не стамляецца адкрываць белым людзям вочы на тое, што чакае іх у чорным свеце.

Пісьменнікі, якіх можна аднесці да другой катэгорыі, з большай абачлівасцю ставяцца да тых суродзічаў, якія дазваляюць сабе бяскрыўдныя дзівацтвы — напрыклад, чытаць беларускае. Пры жаданні з «атмасферы» твораў Уладзіміра Сцяпана, Пятра Васючэнкі, Алеся Наварыча, Андрэя Федарэнкі, Алеся Бадака, Людмілы Рублеўскай, Алены Брава (і яшчэ таго-сяго) можна «выпарыць», крышталізаваць своеасаблівую філасафему, заклікануюдапамагчы нам — будаваць, а ім — быць: жыць страшна, але давядзецца.

Трэцяя група выключэнняў таксама нешматлікая: яе ўтварае «вялікі і жахлівы» Адам Гудвін, перапрашаю, Урфін Глобус, выбачаюся... дык вы зразумелі, пра каго размова. Гэты пісьменнік, вядомы, акрамя іншага, сваімі навацыямі ў галіне сучаснай акцэнталогіі (скажам, у слове *сучАснікі* ён прапануе ставіць зусім іншы лагічны націск), лекуе чытача трункам з іранічна-саркастычнага рэалізму і неасентыменталізму, пасля чаго той (каторы выжыве пасля лячэння) мусіць прыйсці да высновы: не жыў файна — не варта і пачынаць.

Нарэшце, у сучасным літпрацэсе маецца празаік, што мог бы заняць месца ў вакантнай чацвёртай катэгорыі, для якой прыдумалася б не менш «канцэптуальная» ідэалагема-слоган, чым для трох пералічаных, — будзьце пэўныя! Мог бы, калі б не адзін нюанс.

Справа ў тым, што характар станаўлення і разгортвання творчай індывідуальнасці гэтага пісьменніка ўказвае на выключную *правільнасць* — з пункта гледжання самой логікі развіцця нацыянальнай літаратурнай традыцыі — яго мастацка-светапогляднай эвалюцыі. Калі ж падчас панарамных агледзінаў літаратурнага працэсу апошніх дваццаці гадоў сфакусіравацца на плёне працы гэтага празаіка як на пэўным корпусе твораў, а не на выпадковай сукупнасці тэкстаў, кідаецца ў вочы *адасобленасць* створанага ім — «аўтарскага» — свету ад перамог і паражэнняў паўсядзённага літаратурнага побыту. Дзіўнасць быцця, якая для адных служыць нагодай для страху, а для другіх — нагодай з гэтага страху пасцябацца, ім уважаецца за дадзенасць і прымаецца як кіраўніцтва да дзеяння: трэба ***жыць.***

## *Цені ценяў*

Першы зборнік апавяданняў Анатоля Казлова «Міражы ценяў» пабачыў свет у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» у 1990 годзе. У традыцыйна (для тагачасных літаратурных дэбютаў) сціплую па аб'ёме кнігу ўвайшлі шаснаццаць апавяданняў. Цікава, што яны абышліся без разложыстай прадмовы, якая звычайна папярэднічала першым кнігам маладых празаікаў: яе функцыі, верагодна, былі ўскладзеныя на кароткае (памерам у адзін абзац) «слова» Генрыха Далідовіча, размешчанае там, дзе звычайна туляцца анатацыі.

«Сталыя прыкметы індывідуальнага стылю пісьменніка — схільнасці да філасофіі, медытатыўных разважанняў, эстэтызацыі фальклорных матываў, міфалагізацыі і містыфікацыі», якія праз паўтара дзесяцігоддзі сталіся відавочнымі для Лады Алейнік[1], прадчувацца маглі ўжо ў аповедах дэбютнага зборніка. Сёння ў эпіграфе да апавядання «Матрац», якім адкрывалася кніга: «Той, хто чакае, сустракаецца з нечаканасцю», зручна бачыць своеасаблівы код, формулу далейшых пошукаў колішняга дэбютанта. Зрэшты, справа не ў зручнасці, а ў рэальнай укаранёнасці сюжэтаў аповедаў з «Міражоў ценяў» у ідэі суіснавання, нават адмысловага «ўзаемаперацякання» свету рэчыўнага — звыклага, будзённага — і свету ***Іншага.*** Апошні для герояў першай (і наступнай) кніг А. Казлова не тоесны таму *іншасвету,* сутнасць якога традыцыйна асацыіруецца з паняццямі інфернальнасці ці містычнасці, хаця нежыць (у розных праявах і абліччах) настойліва ўрываецца ў жыццё персанажаў ці не ўсіх аповедаў «Міражоў...».

***Іншае*** акрэслівае ўласную прысутнасць у «аб'ектыўнай рэчаіснасці» не толькі пра выключныя падзеі. Яно нібыта разлітае ў звычайнасці штодзённага існавання, танальнасць, агульны настрой якога ў ранніх аповедах А. Казлова якраз і вызначаецца *чаканнем нечаканага:*

«Восень. Месяц кастрычнік. Паўсонная сталіца. Гарбаты мост, шырокія вуліцы з зябкім святлом ліхтароў. Цупкія цені чэзлых дрэў на сцюдзёным асфальце тратуара. Рэдкія таксоўкі. Насцярожаныя постаці. Жалезабетонныя падземныя пераходы. Гадзіна ночы. Чыгуначны вакзал» *(«Матрац»).*

«Я ішоў, прабіраючыся ў натоўпе, не зводзіў вачэй з яркай кропкі ліхтара, які разпораз выбіваўся праз вузлавата-голыя галіны старых таполяў. Змрок боязна кранаў шурпаты сыры асфальт, заплаканыя вокны шматпавярховікаў» *(«Доўгі вечар»).*

Мастацка-эстэтычнае ўрэчаўленне (вобразная «матэрыялізацыя») выяваў Іншага ў аповедах першай кнігі А. Казлова наўпрост залежыць ад таго, у якіх дэкарацыях адбываецца сустрэча з імі персанажаў. Калі хранатоп твора звязаны

з прыродным, вясковым, *натуральным* быццём, узмацняецца роля і вага тых стылёвых сродкаў, якія ў свядомасці сучаснага чытача звязваюцца нават не з неарамантызмам, але з нацыянальнай версіяй уласна рамантызму, найбольш цэльна «персаніфікаванай» яшчэ ў творчасці Яна Баршчэўскага:

«Прастуджана хрыпеў вецер. Звінеў, пераходзіў на працяты тонкі стогн, прабіваючыся ў трэшчыны пабітага шкла на ёмістым акне хаты Велікодскіх. Адзінае акно гэтай хаты, выходзячы на вуліцу, цьмяным маладзічком глядзела ў бяздонную цемру восеньскай ночы. Слотнае надвор'е студзіла прыбітую дажджамі зямлю» *(«Згубнае бярвенне»).*

«Зямля застагнала, вецер узвыў. Цемра ахутвала нас. Ударыў пярун, і маланкі паласнулі неба» *(«Дзень нараджэння»).*

Складваецца ўражанне, што занатоўванне аўтарам вобразу беларускай вёскі важнае для яго не толькі як узнаўленне дзівоснай тутэйшай Атлантыды, якая на вачах герояў А. Казлова сплывае ў нябыт. Напрыклад, Купалле ў апавяданні «Мацвеева лазня» паўстае не проста фонам, на якім разгортваюцца падзеі; грунтоўная лаканічнасць апавядальніка недвухсэнсоўна ўказвае на «этнаграфічна-асветніцкія» намеры празаіка.

У шэрагу іншых апавяданняў дзеянне разгортваецца ў Горадзе, які на ўзроўні вобразаў-настрояў (асацыятыўным, «інтуітыўным») супрацьпастаўляецца Вёсцы, хаця таксама вымалёўваецца перад чытачом гэтай дэбютнай кнігі пераважна ў сваім «сутонневым» аблічччы. У творах, звернутых да быцця *«цывілізаванага»*, паэтыка рамантызму таксама аказваецца задзейнічанай у розных сваіх пластах. Аднак мастацка-эстэтычныя магчымасці вусна-паэтычнай традыцыі, што гэтак вабілі і рамантыкаў, і неарамантыкаў, на схіле ХХ стагоддзя тады яшчэ *малады празаік* скарыстоўваў падкрэслена выбіральна. Так, вобраз-сімвал вяселля — «д'яблавага» балявання — у апавяданні «Доўгі вечар» рэалізуецца паводле задумы аўтара ў антуражы урбаністычным: захоўваючы сваю «пазнавальнасць», суадноснасць з архаічным фальклорам, вобраз гэты ўскладняецца гатычнымі матывамі. Яшчэ настойлівей адгукаецца літаратурная «неаготыка» ў апоВедах «Графіня з ружай» («І вось цяпер Вацэк паліць адну за адной свечкі, набытыя ў царкве, і шукае ў водбліску нервовага агеньчыку графініна аблічча...»), «Судны дзень» («...кожнаму ў жыцці мусіць сасніцца судны дзень, апошні дзень чалавецтва. <...> Твой сон пра судны дзень яшчэ наперадзе»); пры гэтым не выклікае сумненняў унутраная арыентаванасць творцы на рэалістычны метад мастацкага аднаўлення рэчаіснасці.

Ці не ўсе цэнтральныя персанажы ранніх апавяданняў А. Казлова знаходзяцца ў стане руху, які ад пачатку нібыта пазбаўлены мэтавасці; гэты рух-блуканне нярэдка нагадвае ўцёкі — ад панылай штодзённасці, ад гнятлівасці чакання нечаканага, урэшце, ад самога сябе, палонніка страху. Згаданы страх не заўсёды мае вонкавыя падставы, хаця ўварванні свету Іншага ў рэчаіснасць, дзе асуджаныя жыць героі твораў з «Міражоў ценяў», здзяйсняюцца з наканаванай рэгулярнасцю. Так, Вадзім з аповеда «Рыбкі для акварыума» «...апошнім часам пачаў баяцца новага дня. Нейкая нудота пасялілася ў грудзях. Ці не ад гэтага знаёмыя заўважалі глыбокі сум у яго вачах. Каб пазбавіцца ад здушлівага наслання і гнятлівага жаху, ён набыў сёння чатыры мініяцюрныя рыбкі». Аднак любыя дзейсныя захады, скіраваныя на пераадоленне страху, аказваюцца бессэнсоўнымі ў сітуацыі, калі сам свет ценяў становіцца самай што ні на ёсць рэчыўнай рэальнасцю, якая запаўняе прастору «ўнутры» чалавека. І тады тое, што яшчэ нядаўна бачылася паратункам, яшчэ больш паглыбляе вусціш чакання: напрыканцы апавядання Вадзім «...думаў. Не хацелася ісці на сваю кватэру. Баяўся галодных рыбін у зеленаватым слоіку».

Па сутнасці, у першым празаічным зборніку А. Казлова акрэсліваюцца менавіта *абрысы* ***Іншага,*** *цені* тых *міражоў*, «нечаканая» рэчыўнасць якіх

будзе ўзмацняцца з кожным новым творам пісьменніка з сапраўднай няўмольнасцю. Бадай, менавіта рана набытае веданне, што Іншае не побач з жыццём, але ў самім жыцці, і сталася грунтам для выспельвання тых правілаў адасаблення, якія мне, напрыклад, бачацца асновай стасункаў са светам (літаратурным і пазалітаратурным) празаіка А. Казлова.

## *Адкуль бяруцца д'яблы тузінамі*

Празаік А. Казлоў у абмежжы беларускай літаратурнай традыцыі па вызначэнні не можа быць самотны — хаця б таму, што ён мае дзве першыя кнігі. Зрэшты, яшчэ пару дзесяткаў год таму гэта не было з'явай выключнай: цэлы шэраг літаратараў спачатку выдаваў кніжачку ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць», а потым меў магчымасць святкаваць дэбют двойчы (o tempora, o mores!) дзякуючы серыі «Першая кніга празаіка», што выходзіла ў *тагачасным* дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У 1993 годзе вышэйзгаданая серыя папоўнілася кнігай А. Казлова «І тады я памёр...», куды ўвайшлі ўсе творы са зборніка «Міражы ценяў», а таксама аповесць «Адкуль з'яўляюцца яны?..», пяць новых апавяданняў і чатыры абразкі.

Зварот да жанру аповесці даў магчымасць празаіку больш абстаяльна, чым тое дазвалялі абмежжы апавядання («малога эпасу»), паказаць не проста кропкі, «моманты» судакранання нашага і не нашага светаў, але абгрунтаваць ідэю пра адсутнасць колькі-небудзь пэўнай мяжы ці бар'ера (не толькі прасторавага, але і часавага) паміж імі. Максім (ад імя якога і вядзецца аповед у «Адкуль з'яўляюцца яны?..») зрабіў выключна важнае адкрыццё: «велькі сучасны свет страціў для сябе генія матэматыкі» — Максіма, з тае простае прычыны, што ўсё сваё жыццё ён безупынку лічыў... прыступкі. Дзеля таго, каб «неяк вызваліцца ад матэматычнай геніяльнасці», ён на пачатку лета паехаў у вёску да бабулі Арыны: «там-та ўжо ніякіх прыступак». Аўтар няспешна (але і без збыткоўнай разложыстасці) уводзіць чытача ў рытм вясковага жыцця; праз дыялогі з Максімам, праз паўсядзённыя клопаты раскрываецца вобраз бабы Арыны. Індывідуалізаваны і тыповы адначасова, гэты вобраз-персанаж на пачатку аповесці ў пэўным сэнсе вызначае агульную танальнасць твора, бачыцца своеасаблівым абяцаннем спакойнага, разважліва-памяркоўнага развіцця падзей — паўстае «гарантам» *рэалістычнасці* твора. Нават кашмарны сон пра вялізную мармуровую лесвіцу, чые прыступкі герой пералічвае рэбрамі і хрыбтом, не здольны нашкодзіць агульнаму адчуванню спакою і раўнавагі, што забяспечваюцца самой прысутнасцю бабы Арыны («...не звычны ты спаць днём. А значыцца, і не трэбака змушаць сябе»).

Сустрэча з «фальклорнай» (ва ўяўленні сённяшняга гараджаніна — тутэйшага рэаліста) вусціўшу адбываецца, натуральна, уначы, у лесе, блізу былога шклянога завода князя Крапоткіна. «Праклятае месца» на падводах мінае вясковая моладзь, разам з якой па запрашэнні суседкі Валькі Максім выпраўляецца на пагулянку ў недалёкія Лучкі: «Мы яшчэ не паспелі ачомацца ад незразумелага ўнутранага жаху, як заўважылі, што з усіх бакоў насоўваюцца на нас вялізныя чорныя здані. Павольна, няспешкі яны ўзялі павозкі ў цеснае кола. Здавалася, што мы адгароджаныя ад усяго свету вялізнай бочкай, у якой нельга знайсці ніводнай шчыліны. Вольным засталося толькі неба са жменяй зорак і скупым водбліскам месяца».

Па кантрасце з экспазіцыяй аповесці, асноўнае дзеянне (у якім «сучасная» сюжэтная лінія, звязаная з Максімам і Валькай, выступае ў якасці абрамоўкі для няпэўна-«колішняй» гісторыі іх «двайнікоў» Марка і Варкі) пакідае ўражанне падкрэсленай відовішчнасці, «тэатральнасці», падпарадкаваных адмысловай

сімвалічнай зададзенасці аповеда. І сістэма вобразаў-персанажаў ва ўстаўной, умоўна адасобленай частцы твора (Чорны прывід, Уладар цемры, дзед Гардзей, Яўхім-гарбун, Марк і Варка, Ганна), і шэраг мастацкіх хадоў ды выяўленчых «атрыбутаў» (чарнакніжніцтва, паэтыка снабачанняў, тэксты замоваў) недвухсэнсоўна ўказваюць, па-першае, на паслядоўнасць аўтара ў выбудоўванні ўласнай мастацкай сістэмы, па-другое, на мэтаскіраванасць яго імкнення ўзняць старажытны пласт свядомасці і культуры беларусаў дзеля ўсведамлення яго «пазачасавай» актуальнасці.

Новыя творы, уключаныя побач з апавяданнямі з «Міражоў ценяў» у другую кнігу, дазваляюць меркаваць пра перамяшчэнне цэнтра цяжару пісьменніцкай увагі на мастацкае даследаванне нетраў аўтэнтычнага («спаконвечнага», «прыроднага») быцця, вобраз якога ў прозе А. Казлова пачатку 1990-х паўстае ў сінтэзе рамантычнай і рэалістычнай паэтыкі:

«Завіруха. Не бачна ні дрэў, ні хат. Снежныя сумёты замест дарогі і сцежак. Абламанае голле з вербаў застылымі пачварамі чапляецца за рэдкія частаколіцы плота. Стогнуць і галосяць сіратлівыя журавы калодзежаў. Яны перагукваюцца па вёсцы, адмольваюць у няшчаднага ветру выратаванне. А ён раздзімае грудзі, шчокі і гоніць абтрапаную і разбэрсаную завіруху па хлявах і дахах хат, прыбівае гаротную да сляпых акон» *(«Крывавы прысмак»)*.

Заўважым, што «рамантычнае» (з папраўкай на эвалюцыю як рамантызму, так і рэалізму цягам XX стагоддзя) светаадчуванне па меры набліжэння да кульмінацыі дзеяння ўзмацняецца (творы «І тады я памёр...», «Шчэпаць попелу» ды інш.), што на ўзроўні стылістыкі праяўляецца ва ўзмоцненай — аўтарскай! — «фалькларызацыі» тэксту. У сваю чаргу, спектр яе сродкаў і мастацкіх выяў настолькі шырокі, што часам ад архаічнай дэманалогіі да найноўшай міфатворчасці — адзін (1) экстаз: «Некалькі тузінаў д'яблаў шуснула ў гумно. <...> Гундзіла кінуў запалены квач, і ўстрапянулася полымя, разрываючы цемрадзь. Заенчылі нябожчыкі, адхінаючыся ад агню. Зарагатаў Гундзіла, у экстазе запішчалі, заскавыталі д'яблы» *(«Крывавы прысмак»)*.

Але менавіта ў творах кнігі «І тады я памёр...» пачынае акрэслівацца своеасаблівая змена мастацкіх зацікаўленняў (умоўна пазначым яе як змену мастацкай «тактыкі»), што абумовіла адметнасць пазнейшых аповесцей і раманаў А. Казлова. «Фантастыка» фальклорнага тыпу перамяшчаецца ў разрад дапаможнага інструментарыя, на перыферыю тэксту; на першы план выступае катэгорыя містычнага і цэлы арсенал сродкаў яе мастацкай рэалізацыі. Размова ідзе не пра змену дэкарацый, абнаўленне фону: на пэўным этапе творца пачынае інтэнсіўна асвойваць тую прастору, якая падаецца яму найбольш прыдатнай, каб «сфармуляваць» і рэпрэзентаваць з большай ці меншай сістэмнасцю (у словавобразах) уласныя светапоглядныя, маральна-этычныя, эстэтычныя прыярытэты.

## *Нешта=Іншае?*

Прыярытэты празаіка А. Казлова на мяжы стагоддзяў і тысячагоддзяў падаваліся ўжо не проста выразна акрэсленымі, але і згрупаванымі, сістэматызаванымі, што было засведчана ў кнізе «Незламаная свечка», выдадзенай «Мастацкай літаратурай» у 2000 годзе. У гэты зборнік увайшлі чатыры аповесці, створаныя, паводле анатацыі, «на сучасным і супярэчлівым жыццёвым матэрыяле, дзе рэальнае спалучаецца з фальклорна-міфалагічным». Аднак жанравае вызначэнне твора, якім кніга адкрываецца — «Дзеці ночы *(містычная аповесць)»*, указвае на тое, што ні «фальклорным», ні «міфалагічным» (што самі па сабе ёсць «рэчы» розныя) сутнасць мастацкіх пошукаў аўтара ўжо не вытлумачыш.

У «Дзецях ночы» *пісьменніцкія погляды на светаўладкаванне, сутнасць* чалавека, суадносіны наканаванасці і свабоды выбару ў індывідуальным лёсе найбольш выразна кандэнсуюцца ў вобразе Вілена Падкіднога: «Дабро і зло — два бакі аднаго медаля. Мой лёс распарадзіўся так, што жыццё, кінуўшы жэрабя, перакуліла медаль на цёмны бок, падціснула пад сябе мірыядна-зданістае святло».

Своеасаблівая палярызацыя быцця не азначае для герояў (самога Вілена, выкінутага маці-«лахудрай» яшчэ немаўлём у «малацілку жыцця»; Максіма Гурона, сына пасляховых бацькоў, «залатога хлопчыка»; Ніны Смаляк, юнай «бамжыхі») адсутнасці выбару паміж Святлом і Цемрай. У параўнанні з творамі папярэдніх гадоў, у «Дзецях ночы» і логіка разгортвання сюжэта, і характар эвалюцыі персанажаў дэтэрмінуюцца сацыяльна-псіхалагічнымі фактарамі (паказальнай у гэтым сэнсе таксама з'яўляецца аповесць «Распяцце, альбо Ці ж баліць галава ў вароны...»). Якраз містычны «складнік» аповеда дазваляе з большай выразнасцю высвечваць сутнасць праблем рэальных (суадносіны грамадства і асобы, праблема «лішняга чалавека» ў дачыненні да сучаснай сацыякультурнай сітуацыі і інш.). Так, зварот да «гатычнага» інструментарыя, як правіла, падпарадкаваны мэтам мастацкай псіхалагізацыі, эфектнасць жа малюнка, у адрозненне ад ранніх аповедаў, выцясняецца на перыферыю ўспрымання. Так у «Дзецях ночы»: Гаспадар як увасабленне ўсюдыіснасці Зла, рытуалізм, што суправаджае існаванне «дзяцей ночы» — гуронаўцаў, якіх Максім Гурон збірае дзеля служэння Гаспадару; падкрэслены сімвалізм вобразаў-пейзажаў: «Поўня чароўным і вялізным бяльмом вісела ўдалечыні, над самай сярэдзінай гэтай глухой лясной дарогі. Вілен узіраўся ў халодна-прыцягальнае святло поўні і яскрава, з кожнай хвілінай, з кожным імгненнем адчуваў, як закіпае ў целе кроў, апаноўвае шчыкатлівая ўзбуджанасць, часцей і больш напорліва ў грудзіне гойсае сэрца, ягоны грукат даносіцца да скроняў і патыліцы». У «Распяцці...»: Гаспадар, што на гэты раз «матэрыялізуецца» ў вобразе бацькі адной з гераінь; усё той жа рытуалізм, паэтыка снабачанняў і інш.

Калі дзве вышэйзгаданыя аповесці можна ўмоўна назваць «гарадскімі», дык «Незламаную свечку» і «Перакуліся, перакуленае» дазволім сабе паводле шэрагу прыкмет аб'яднаць назовам «вясковыя». Калі апошнія параўноўваць з ранейшымі творамі, дзе мастакоўская ўвага засяроджвалася на быцці «прыроднага» чалавека, якасныя змены становяцца відавочнымі на самых розных узроўнях тэксту.

Фабула «Незламанай свечкі» заснаваная на адным з эпізодаў даўняй (яшчэ з прапрадзедаў) гісторыі варагавання Смалякоў і Барташэвічаў, двух родаў з вёскі Шышкаўка. Мужчыны абедзвюх сем'яў, незалежна ад узросту, нясуць на сабе цяжар праклацця, своеасаблівым «захавальнікам» якога паўстае не які-небудзь міфалагічны нячысцік ці фальклорны персанаж, але Безасабовае ***Яно/ Нешта.*** У ланцуг помсты ўлучаецца зусім яшчэ малы Антон, які ўзвальвае на сябе вырак праклацця, ажыццяўляючы яго не столькі ў *дзеі* (з пункта гледжання рацыяналіста, які адмаўляе магіі ў статусе «матэрыяльнай сілы»), але ў думцы-слове. Фінальныя «формулы», адасобленыя ад папярэдняга тэксту («Нешта ў слове. Слова ў нечым. Мы па-за ўсім...»), бачацца яшчэ адным сведчаннем на карысць таго, што ў прозе А. Казлова «этнаграфічны» этап (перыяд збірання, назапашвання матэрыялу, жыццёвага і мастацкага) змяняецца этапам «аксіялагічным» (калі назапашаныя «факты» пачынаюць складвацца ў абагуленую каштоўнасную сістэму).

Дарэчы, дзеянне аповесці «Перакуліся, перакуленае» таксама адбываецца ў Шышкаўцы; у тэксце маецца і ўстаўны навелістычны абразок пра сям'ю Смалякоў... Шышкаўка ў «рэтраперспектыве» творчасці А. Казлова набывае абрысы тутэйшага Маконда, цэнтра свету, дзе Гісторыя, аднойчы пачаўшыся, не мае шанцаў завяршыцца.

Сацыяльна-бытавы канфлікт, які ляжыць у аснове аповесці, таксама аздабляецца традыцыйнымі для А. Казлова перлінкамі *«з фальклору»* (згадаем эпіграф да твора ці своеасаблівую «лекцыю» Андрона пра дамавікоў). Падкрэслю: аповед менавіта аздабляецца імі, але яны не вызначаюць яго агульную танальнасць, асаблівасці вырашэння канфлікту і г. д. «Удзельнікі» любоўнага трохкутніка (Лёнік Лозік, Дуняша, Вераніка), адчуваюць на сабе ціск знешніх абставін і сіл (натуральна, «варожых», увасабленнем якіх становіцца маці Дуняшы Вольга Гарбацэвіч, а таксама вясковая пляткарка Надзюха Перазімчыха). Але гэта сілы — нават у параўнанні з *Нечым*, што вызначае рух гісторыі ў «Незламанай свечцы», — належаць да мітрэнжлівага свету людзей, дзе ***Іншае***, здаецца, бытуе адно ў форме... казкі. Зрэшты, у дачыненні да прозы А. Казлова «капітуляцыя» памянёнага Іншага перад навалай побытавага, паўсядзённага можа быць толькі ўяўнай. У наступных творах пісьменніка Яно не вяртаецца (бо і не сыходзіла), Яно пачынае раскашаваць на ўрадлівай глебе тых індывідуальных, «прыватных» праблем, з якіх складаецца *рэальная* агульначалавечая гісторыя.

## *Дыктатура «слабасцей»*

Гісторыя агульначалавечая становіцца тым фонам, які ў большай ці меншай ступені вызначае хранатопы твораў, што ўвайшлі ў кнігу А. Казлова «Юргон». Аб'яднаныя пад адной вокладкай раманы «Юргон», «Мінск і воран, Парыж і здань», аповесці «Я і Прарок-Уродка», «Раздарожны саракоўнік», апавяданні «Верасава вечнасць», «Ейны боль», «Крывавы прысмак» (апошняе «мігравала» сюды са зборніка «І тады я памёр...») былі выдадзеныя «Мастацкай літаратурай» у 2006 годзе ў серыі «Беларуская проза XXI стагоддзя».

Прыналежнасць гэтай кнігі не да часавага *памежжа,* але да новай (засведчанай пакуль у «прадчуваннях») эпохі звязаная як з удакладненнем-пашырэннем жанравай палітры прозы («Юргон» — «раман — штрыхамі», «Я і Прарок-Уродка» — «аповесць-фантасмагорыя»), так і з далейшым узмацненнем ролі абстрагавання, сімвалізацыі ў прозе А. Казлова.

Так, у трыццаці дзвюх частках «Юргона» аднаўляецца «штрыхавы» партрэт аднаго з герояў *нашага* часу, у чыім імені зашыфраваны і «прадмет» пісьменніцкага доследу, і атрыбуцыя сутнасці сучаснага быцця. У вышэйзгаданым артыкуле Л. Алейнік зазначала: «Насельнікі твораў А. Казлова надзвычай розныя. <...> І ўсё ж заўважаецца, што ў цэлым аўтар падвяргае іх пэўнай уніфікацыі. Фактычна ўсе яны робяцца заложнікамі сваіх слабасцей». Між тым, у «юрлівы гон» сучаснікі ўкручваюцца толькі на першы погляд па ўласнай волі. Іх «слабасці» ёсць *наканаваннем,* наступствам дзеяння сіл пракаветных (у «Юргоне» яны персаніфікуюцца ў вобразах Вісуна — «спарахнелага, але пакуль усё ж жывога Духа бяссілля», Чорнага Гардзея-чараўніка). Іначай кажучы, слабасці-заганы таго ж Юргона паўстаюць своеасаблівай *спадчынай*, няведанне пра якую ад яе не вызваляе. «Прамінулі гады, дзесяцігоддзі, перакулілася дагары стагоддзе. Цяпер там, дзе раскашаваў хутар Чорнага Гардзея, стаіць дзевятнаццаціпавярховы дом з сотнямі кватэр. Перамешаны з суглiністай зямлёю попел ведзьмака ўмураваны зараз пад плітою пад'езда, якую кожны дзень топчуць ногі жыхароў велькага гмаха. Пакідае на ёй след і абутак Юргона».

Менавіта «спадчынныя слабасці» нярэдка з'яўляюцца ў творах А. Казлова той урадлівай глебай, на якой раскашуе помста. У дачыненні да раманаў «Юргон», «Мінск і воран, Парыж і здань» яна можа асэнсоўвацца як лейтматыў, адзін з рухавікоў раманнага дзеяння. У абодвух названых творах носьбітамі яе выступаюць абражаныя жанчыны. Крыўда і прага помсты Фрэні («Юргон»)

абуджае да жыцця Вісуна; дасягненне сваёй мэты яна дэкларуе ў «штрыху дваццаць другім»: «...Помста здзейснена! Дастаткова зірнуць на твар Юргончыка, і без пытанняў усё зразумела: выпарыўся юр, застапарыўся гон». Помста Кацярыны («Мінск і воран, Парыж і здань») сягае нашмат далей... і глыбей... і шырэй, разгортваючыся напоўніцу ў часе-прасторы: ад Асінаўскага замка на Магілёўшчыне, аказваецца, рукой падаць да горада Парыжа, а ад мітрэнгаў дня сённяшняга да «рэвалюцыйнай сітуацыі» канца XVIII стагоддзя — умоўны рух нястрымнага жадання адпомсціць. Няшчаснай князёўне, што гіне ад атрутнага зелля ў ноч шлюбу, Поўня-Уладарка падаравала тры дні і тры ночы жыцця, якія Кацярына скарыстоўвае не проста на тое, каб адпомсціць каханаму князю Севаладу, але на тое, каб вынішчыць яго род. «...Перарвала я нітку вашага роду. Ужо другую. Антон жа таксама не зможа жаніцца, бо ў вечным пошуку. А Віктор адкінуты на стагоддзі, знаходзіцца па-за сваім часам, што значыць — абсалютны нуль. Гэты твой нашчадак, княжа Севалад, быццам і не нараджаўся» *(«Мінск і воран, Парыж і здань»).*

Такім чынам, прыватная слабасць паўстае нагодай для фармулявання больш ці менш агульназначных высноў: «Ага, не ўсё яшчэ страчана. Дарэмна хваляваўся. Жывуць пакуль сярод людзей тыя, хто памятае поклічнае слова, ёсць каму мяне карміць, а гэта значыць — бессмяротны я, Дух бяссілля. Адчуваю, што шмат будзе работы ў бліжэйшае стагоддзе, пакуль людзі загразаюць у распусце. Дзе заганы, там і я...» *(«Юргон»).* Якраз абагуленасць гэтых высноў, імкненне суаднесці прыватныя прыярытэты з універсальнымі каштоўнасцямі, з аднаго боку, абумоўлівае ўзмацненне ролі сімвалізацыі ў прозе А. Казлова («Паўсюль сімвалы, адны сімвалы», — канстатуе герой аповесці «Раздарожны саракоўнік»). Гэтая тэндэнцыя выяўляецца ў розных формах і на розных узроўнях індывідуальна-аўтарскага стылю: і ў нязменнай увазе пісьменніка да паэтыкі снабачанняў (сны Фрэні з «Юргона» найдакладней абгрунтоўваюць матывацыю яе дзеянняў; «сны адольваюць» і Лару з «Раздарожнага саракоўніка», і Акуліну Перагудчыху з «Ейнага болю»), і ў спробах увасобіць агульнавядомую ідэю дуалізму чалавечай прыроды і самога быцця ў аказіянальнай «міфалогіі», і нават у наданні «рэмаркам», вылучаным сярод асноўнага тэксту курсівам, статусу невыпадковасці, функцый самастойнага сюжэтна-кампазіцыйнага прыёму («Юргон», «Раздарожны саракоўнік») і інш. «Брат-двайнік ці сястра-двайніца, карацей, гугідонец — гэта лепшыя чалавечыя духоўныя рысы, якія даюцца яму Сусветам, але яны не могуць змясціцца ў целе, якое дэфармуецца зямлёй, людзьмі ў яшчэ не народжаным стане (*«Я і Прарок-Уродка»).* З другога ж боку, згаданая *інтэнцыя* пісьменніка да сімвалічных абагульненняў адным з наступстваў мае ўзмацненне дыдактычных *інтанацый*, непазбежных — у тым сэнсе, што сама спроба «фармулізацыі» ідэй і меркаванняў у найноўшай літаратурнай сітуацыі многімі ўспрымаецца як сентэнцыёзнасць ці, горш за тое, як спроба ўсталявання... адмысловай дыктатуры ідэй (якая іншым бачыцца адзіна магчымай альтэрнатывай дыктатуры «слабасцей»). «У забыцці могуць знаходзіцца не толькі храмы, якія пабудаваны народам, але і сам народ, што будаваў тыя храмы» («Раздарожны саракоўнік»); згадаем таксама развагі персанажа гэтай жа аповесці Колі-Мікалая пра Горад і Вёску як два полюсы жыцця.

## *Сувязны Ягамосці Шматкроп'я*

Дыктатура «слабасцей» як прадмет пільнай мастацкай увагі, між тым, страчвае сваю актуальнасць для празаіка А. Казлова. Цалкам верагодна, што часова. Прынамсі, на карысць меркавання пра змену мастакоўска-даследчыцкіх інтарэсаў сведчыць загалоўная аповесць кнігі «Горад у нябёсах», выдадзенай

РВУ «Литература и Искусство» ў 2009 годзе (ўключыла чатыры аповесці і тры апавяданні).

Аповесць, што дала назву зборніку — «Горад у нябёсах (учора, сёння, заўтра), — упершыню была надрукаваная ў часопісе «Маладосць» (2008, № 1). Менавіта ў ёй абстрактна-сімвалічная ідэя пра суіснаванне тут і зараз светаў рэчыўна-існага і Іншага набыла максімальна канкрэтнае — у абмежжы творчасці А. Казлова — мастацкае ўвасабленне. Падвойнасць быцця Антака Перуновіча, цэнтральнага персанажа твора, засведчаная ўжо на ўзроўні «тэхнікі» аповеда, які паралельна вядзецца ад трэцяй і ад першай асобы. Тэрыторыя *я*-героя выразна адасобленая ад прасторы існавання *яго* (Антака) графічна: «рэмаркі», якія скарыстоўваліся празаікам у папярэдніх творах час ад часу, у гэтай аповесці разрастаюцца, становяцца больш важкімі і аб'ёмнымі, утвараючы самастойны, як бы «самакаштоўны» пласт (вылучаны ў тым ліку і графічна): *«(...А я, ірэальна-рэальны Антак, быццам сувязны паміж Танькай і яе ненароджаным дзіцем, злучаю танюсенькай жылкай-дротам горад жывых і горад зданяў...)»*.

У адрозненне ад ранейшых твораў А. Казлова, сюжэтнае дзеянне ў «Горадзе...» разгортваецца не ў плане вонкавай падзейнасці (колькі-небудзь імпэтнага «экшану»), але на ўзроўні «дзеяў-словаў» (што абумоўлівае дамінаванне маналагічнасці). Тое, што бачыць Антак, — «гэта не горад... а велькі свет продкаў». Прычым пераважная большасць персанажаў, якія атачаюць Перуновіча ў навакольнай рэчаіснасці, важныя якраз у той ступені, у якой дапамагаюць яму асэнсаваць сапраўдную мэту, сэнс з'яўлення ў яго асабістым лёсе Горада ў нябёсах. Так, размовы са Светкай Літоўкай нагадваюць зносіны чалавека, які пакутуе над вытлумачэннем «знакаў», з нейкім «аракулам» — спагадліва настроеным у дачыненні да пакутніка, а таму максімальна дакладным у сваіх тлумачэннях: «Краіна Продкаў — месца святых старэйшын. Асоб, якія дапамагаюць нам жыць і выжыць, каб не скаціцца ў апраметную. Яны карэкцір/ руюць існасць няўлоўна і ненадакучліва».

Сімвалізм гэтай аповесці наогул вызначаецца выключнай выразнасцю, празрыстасцю «іншаўказанняў». На карысць таго сведчыць і кампазіцыйная расстаноўка персанажаў (звернем увагу, напрыклад, на «функцыянальнасць» супрацьпастаўлення вобразаў Танькі-Танюшы і Анэлі-Ганэлькі, не наўпроставага, але відавочнага); і ідэйна-мастацкае прызначэнне згадак пра «маю (Антакаву. — **І. Ш.**) Асінаўку», а таксама вобразу бабулі Куліны (у пэўным сэнсе, лейтматыўнага для прозы А. Казлова), і, урэшце, імкненне пісьменніка (ці, прынамсі, яго героя) быць гранічна *аб'ектыўным* — нібыта насуперак сабе самому: «Горад у нябёсах — у нашай свядомасці». І бясконцае шматкроп'е....

Пераймаючы шматабяцальную празрыстасць сімвалізму празаіка А. Казлова (постраздарожнага перыяду), спынюся пакуль на здагадцы: тыя «правілы адасаблення», якімі пісьменнік кіруецца ў стасунках з усімі вядомымі яму сусветамі, угрунтаваныя ў законе шматкроп'я: усё можа быць, а можа і не быць.

Адпаведна, жыць — страшна... а можа, і не...

---

[1] Гл. артыкул «Супрацьстаянне. Штрыхі да творчага партрэта Анатоля Казлова», надрукаваны ў № 3 часопіса «Маладосць» за 2006 год.



Святлана ЦЫБАКОВА

# «...І ВЫ БУДЗЕЦЕ ЯК БАГІ...»

*А. Боровский.* **Искушение: роман-фантасмагория.** Минск, 2007.

Раман-фантасмагорыя Анатоля Бароўскага «Спакушэнне» адносіцца да ліку тых характэрных твораў сучаснай прозы, якія нарадзіліся на скрыжаванні і ўзаемадзеянні розных жанравых традыцый і ўплываў. У яго структуры арганічна сумешчаны рэалістычныя і містычныя пачаткі, лірыка і філасофія, гісторыя і сучаснасць, рэлігія і навука.

Пісьменнік звярнуўся да асэнсавання складанай маральна-філасофскай праблематыкі, вечных па сваёй значнасці пытанняў, звязаных з сацыяльнымі, этычнымі і рэлігійнымі бакамі чалавечага жыцця.

Змест рамана-фантасмагорыі ахоплівае шматлікія сферы сучаснага быцця людзей. Аднак у цэнтры ўвагі аўтара — праблема пераадольвання асобай духоўна-маральнага крызісу праз набыццё мудрасці і веры ў Бога як галоўных апірышчаў у супрацьстаянні разбуральнаму ўздзеянню зла.

Галоўны герой, мастак і пісьменнік Антон Клімовіч, выяўляе духоўную слабасць. Ён паддаецца спакусе цёмнай незямной сілы і ледзь не губіць сябе. Розныя этапы ўнутраных блуканняў героя, яго руху ў бок прасвятлення і набыцця маральнай мудрасці адлюстраваны ў сюжэтна-кампазіцыйнай пабудове аповеда. Загалоўкі кожнай з яго частак вызначаюць асноўныя матывы твора. Галоўны герой заключае дамову з д'яблам («Заказ»), падвяргаецца спакусе стаць адным з першых падданых у яго інфернальным свеце («Спакушэнне») і, нарэшце, усвядоміўшы ілюзорнасць выгод, прапанаваных валадаром таго свету, знаходзіць у сабе сілы вырвацца з д'ябальскіх мярэжаў.

Матыў спакушэння з'яўляецца сюжэтаўтваральным у рамане-фантасмагорыі Анатоля Бароўскага. Стварыўшы сваю версію маркотна знакамітай гісторыі аб пагібельных наступствах згоды з д'яблам, пісьменнік раскрыў чытачу глыбінную сутнасць зла, асаблівасці і асноўныя кірункі яго праяваў у сучасным грамадстве.

Свет д'ябла, у які трапляе герой, — гэта ўмоўна-абагульнены вобраз негатыўнай мадэлі цывілізацыі без Бога. У ім усё прыдуманае і прывіднае. Гэта свет сурагатных выгодаў і радасцей, свайго роду час-прастора пад знакам «мінус», як праява ўлады злой волі. Вобраз д'ябла створаны ў значнай меры ў духу хрысціянскай традыцыі.

Сутнасць Сатаны і галоўны метад яго ўздзеяння на чалавека — хлусня, спакушэнне. Д'ябал у творы шматаблічны. Ён — бізнесмен, капітан фантастычнага карабля «Алкеп» («Пекла»), навуковец-тэолаг, інтэрпрэтатар Бібліі, які адкрыў шматлікія яе таямніцы. Выступаючы пад імем, утвораным па прынцыпе зваротнага чытання (Анатас), Сатана хавае сваю сапраўдную прыроду. Біблейскія тэксты ён разглядае як «загадкавыя лабірынты прыпавесцей, загадак, малітваў», праз якія трэба прайсці, каб напісаць нешта накшталт Антыбібліі.

Адна з мэтаў вынаходніка сурагатнага раю — стварэнне «звышчалавека», цалкам рацыянальнай — дасканалай у яго разуменні — асобы. Сваёй уладзе д'ябал імкнецца падпарадкаваць Антона Клімовіча, чые інтарэсы таксама засяроджаныя на вывучэнні «галоўнай

кнігі чалавецтва», на спасціжэнні яе унікальнай патаемнай мудрасці.

Тэкст рамана-фантасмагорыі «Спакушэнне» насычаны біблейскімі цытатамі. Кніга кніг — галоўны прадмет навуковых і рэлігійна-містычных даследаванняў, якімі апантаны розныя персанажы твора. Маральная філасофія Святога Пісання — гэта ідэалагічная аснова аўтарскай канцэпцыі асобы, мадэлі яе паводзінаў і духоўнага ўдасканальвання.

Біблія тлумачыцца як «філасофска-этычнае і рэлігійнае вучэнне і веды», у якім «вельмі падрабязна гаворыцца пра тое, як чалавеку належыць жыць, як пазбегнуць зла і тварыць дабро, як кахаць адно аднаго, засцерагаць сваю душу ад уздзеяння чорных сілаў, удасканальваць сябе...» Таму любыя ідэі, якія супярэчаць гэтаму вучэнню, могуць быць вытлумачаныя як ілжывыя і скіраваныя на служэнне злу. У мастацка-філасофскай свядомасці аўтара «Спакушэння» ідэя стварэння «звышчалавека» — праява дэманізму. Прыхільнікам яе невыпадкова выступае Анатас Алкепаў (Сатана Пекла).

У рамане-фантасмагорыі Анатоля Бароўскага не раз гучыць думка пра тое, што Біблія — гэта «зашыфраваны тэкст». Захаваная ў яго глыбінях вышэйшая мудрасць выяўлена «ў выглядзе прыпавесцей, казак і іншасказанняў». Па сцвярджэнні аднаго з персанажаў, настаўніка Хурса, Біблія — «не што іншае, як дэманстрацыя магчымасцей Вышэйшага Розуму, Вышэйшага Мыслення».

Зыходзячы з маральна-філасофскай канцэпцыі твора, Святое Пісанне — Тэкст Мудрасці, найгалаўнейшым прынцыпам фідэістычнай паэтыкі якога з'яўляецца прыпавесць, іншасказанне. Таму, як дакладна заўважана аўтарам рамана-фантасмагорыі, маючы на мэце толькі рацыянальны падыход да вывучэння «галоўнай Кнігі чалавецтва» нельга здабыць разуменне праўдзівага сэнсу, закладзенага ў ёй. Патаемную біблейскую мудрасць варта спасцігаць «не толькі розумам, але і душой», і «тады можа здарыцца так, што для верніка чалавека ў Пісанні зусім і не закладзена ніякіх таямніцаў». Антону Клімовічу раскрываецца найважнейшая ісціна — *«якім бы ты разумным ні лічыў сябе, не забудзься, што ўсім кіруе Усявышні Творца»*.

Аднак *«усю Біблію нікому не дадзена разгадаць»*. Яна — Святая Кніга, і «ключ да разумення тэкстаў толькі ў Бога за сямю пячаткамі... А што такое сем пячатак — не ведае і не даведаецца ніхто...».

Інтэлектуал і паліглот Анатас Алкепаў нямоглы ў зразуменні канчатковых таямніцаў Творцы, паколькі не прызнае Яго Мудрасці і Яго запаветаў. У рацыяналістычнай інтэрпрэтацыі д'ябла запаветы Божыя — усяго толькі «інструкцыя», напісаная для такой недасканалай і слабой істоты, якой з'яўляецца чалавек. Для Анатаса Алкепава гэта не вянок тварэння, а памылка Бога, якую належыць выправіць, стварыўшы новага і ідэальнага «звышчалавека». Сатанінская характарыстыка, дадзеная створанаму па вобразе і падабенстве Божым, рэзка прыніжальная: *«Чалавек — гэта такая істота, якую лёгка абдурыць, спакусіць, ператварыць у жывёліну... Істота гэтая тупая, агрэсіўная, скнарная па натуры, зайздросная душою, і якая не паддаецца ніякаму кантролю...»*

Але, як вядома, менавіта вучэнне аб «звышчалавеку» ў XX стагоддзі стала адной з філасофска-містычных асноў той ідэалогіі, якая спарадзіла «чалавека са стрэльбай», бязлітаснага гвалтаўніка і сейбіта шматлікіх забойстваў.

У аўтарскай канцэпцыі сапраўдная мудрасць непарыўна звязана са «страхам Божым». Антон Клімовіч памятае аб словах сваёй бабулі Анастасіі Фёдараўны: *«Ніколі, унучак, не думай кепска пра Бога, ... не наклікай на сваю душу грэх, за гэта Бог карае. А калі будзеш прыслухоўвацца да свайго сэрца, жыць у суладдзі з Госпадам, Ён заўсёды дапаможа табе...»* Мудрым у творы названы настаўнік Хурс. І ён, і бабуля Анастасія адносяцца да людзей, чыя свядомасць арыентавана на аксіялагічныя прыярытэты біблейскай

маральнай філасофіі, перш за ўсё — на праўдзівасць і сумленнасць.

Хлусня як сутнасць д'ябла добра паказана ў адным з фрагментаў тэксту рамана на тэматыку з Кнігі кніг «Якаў — брат Хрыста», пра што піша галоўны герой. Старонкі з яго з'яўляюцца прыналежнасцю складанага кампазіцыйнага ўзроўню рамана-фантасмагорыі Анатоля Бароўскага. Уяўленні, адлюстраваныя на гэтых старонках, утрымліваюць усё тыя ж матывы спакусы і выратавання, расплаты за грахі і Божай падзякі. Яны ўтрымліваюць глыбокі маральны сэнс, які праецыруецца на ўсё, што адбываецца з Антонам Клімовічам.

Развагі на тэмы Святога Пісання выступаюць, на наш погляд, у функцыі прыпавесці, тлумачачы галоўныя ідэі і матывы кнігі А. Бароўскага. Адным з іх з'яўляецца малюнак спакушэння першых людзей у раі. Звяртаючыся да біблейскай тэалагемы аб грэхападзенні, аўтар імкнецца пракрасціся ў патаемныя глыбіні зла ў такой яго праяве, як хлусня.

У прыпавесці з рамана Антона Клімовіча Змей-спакуснік увасабляе злую волю і «Мудрасць». Ён характарызуецца як «самы хітры і каварны» з усіх звяроў польных, створаных па задуме Божай, які «злое задумаў», а калі здзейсніў той грэх, то толькі ўзрадаваўся, адчуўшы сябе пераможцам: *«І ў Змея не было страху — ён быў гатовы да ўсяго, нават да самага горшага. Яго не хвалявала смерць, адно цешыла, што ён аказаўся хітрэй чалавека, створанага Творцам...»*

У інтэрпрэтацыі Змея, спакушальніка Евы, мудрасць — «гэта калі пражываеш жыццё без памылак, калі жадаецца рабіць дабро, кахаць горача, атрымліваць ад гэтага задавальненне... Калі ўсё ведаеш і няма над табой нікога, хто можа адабраць усе слодычы жыцця». Аўтар паказвае разыходжанне паміж словам Змея, звернутым да Евы, і яго намерамі ў адносінах да яе. Схіляючы жанчыну парушыць забарону Творцы, спакушальнік абяцае ёй найвышэйшыя выгоды: «Спадабалася ты мне — вось і захацелася памагчы табе стаць багіняй. І ўсё. Ты павінна быць удасканаленай і мудрай, каб у цябе ўсяго было ў дастатку. І ты будзеш моцнай і ні ў чым не будзеш мець патрэбы і недахопу, ты станеш звышчалавекам...»

Імкненне Змея зрабіць зло, «зганьбіць чалавечую прыроду» найболей дакладна падкрэсліваецца пры дапамозе ўжывання намінальнага слова *«гад»* у функцыі імя ўласнага: «Я больш чым стагоддзе ем гэтыя плады... І вы, паспытаўшы іх, не памрэце, — сцвярджальна шаптаў Гад, абвіваючы нагу жанчыны. — Не, не памрэце... Бо Бог меў на ўвазе зусім іншае: «у дзень, калі вы паспытаеце іх, адкрыюцца вочы вашы, *і вы будзеце як багі, якія ведаюць, што такое дабро і зло*».

«Мудрасць» Змея, адкрытая ім першай жанчыне, — хлусня. У кантэксце прыпавесці злосная «рэптылія» ўвасабляе мудрасць, але мудрасць «ілжывую», якая выступае як хітрамудрасць: «Адам і Ева жылі ў чароўным і рэальным свеце. І былі створаныя Творцам несмяротнымі. Дасканаласць і ідэал чалавечай прыроды. Але тут раптам яны ўбачылі і пачулі, як па зямлі паўзе Мудрасць. Здзівіліся, пачуўшы яе першыя словы: «*... і вы будзеце як багі, якія спазналі дабро і зло...*» І Мудрасць пацвердзіла свае словы: «вы і самі выдатна ведаеце, што такое дабрыня і зло». Яны пачулі тое, што было прыемна іх вуху, але сталі зусім глухія да слоў і Голасу Таго, Хто іх стварыў».

У кампазіцыі фантасмагорый, якія ўключаюць розныя ўяўленні, у тым ліку і апісанне інфернальнага вымярэння, выявіўся адмысловы рэлігійна-містычны тып мастацкай свядомасці, засяроджанай на спасціжэнні патаемных пачаткаў і супярэчнасцей духоўна-маральнай сферы быцця.

Прыпавесць выступіла ў творы адной з формаў праяўлення мудрасці і аўтарскага досведу духапазнання, прыходу яго самога да Бога.

Раман-фантасмагорыя Анатоля Бароўскага «Спакушэнне» канцэнтруе ў сабе дамінанту духоўнага і мастацка-

эстэтычнага пошуку пісьменніка, ключавыя прынцыпы яго творчай сістэмы. Скразныя ідэі і матывы, якія праходзяць праз папярэднія творы, тут ужо ўскладняюцца дадатковымі і новымі маральна-філасофскімі сэнсамі, звязанымі з глыбока акрэсленай арыентацыяй аўтарскай свядомасці на біблейскае духоўнае вучэнне.

Рэлігійна-філасофскія і містычныя пачаткі, якія выходзяць у рамане-фантасмагорыі на пярэдні план, вызначаюць першарадную значнасць у яго сінтэтычнай мастацкай структуры элементаў і ўласцівасцей паэтыкі ўмоўнай вобразнасці.

Адметнай асаблівасцю складанай кампазіцыі твора з'яўляюцца састаўныя часткі фантасмагорыі, якія ўтрымліваюць апісанне з'явы пад рэлігійна-містычным вуглом, адпаведна разуменню аўтарам розных граняў і ўзроўняў духоўнага быцця асобы. Фантасмагарычная вобразнасць, арганічна ўключаная ў раманную структуру, выступае ў значнай ступені сімвалічным выразам глыбінных працэсаў унутранага жыцця цэнтральнага персанажа, патаемных схронаў яго душы.

Функцыю сімвалізацыі найбольей дакладна выконвае, напрыклад, рамантычная жаноцкая выява «анёлаахоўніка» Яніны, вытканай са сноў і мараў героя. Як яно ёсць і ў аповесцях «Ахутавана» і «Пякельны рай», і гэтая апаэтызаваная выява ўвасабляе святланосныя пачаткі і памкненні душы, яе руху ў бок здабыцця кахання, ісціны і мудрасці.

Аўтарская задума паслядоўна рэалізуецца сродкамі своеасаблівай структуры твора, якая дазваляе захаваць яго мастацкую цэласнасць, змацоўваючы на першы погляд разрозненыя фрагменты тэксту. У дадзеным выпадку маюцца на ўвазе так званыя пазасюжэтныя элементы, якія выступаюць у выглядзе ўстаўных навел на біблейскія тэмы.

Яны складаюць адзін з характэрных кампазіцыйных аспектаў рамана-фантасмагорыі Анатоля Бароўскага, выконваючы ў яго агульным кантэксце функцыі прыпавесцей, якія тлумачаць і раскрываюць асноўныя матывы твора. Сярод іх адмысловага разгляду заслугоўвае трансфармаваны ў адпаведнасці з сучаснасцю архетыпічны матыў дамовы з д'яблам.

Паказаная пісьменнікам інфернальная сутнасць Сатаны паўстае ў сімваліка-містычным плане рамана-фантасмагарычнага хранатопу ў якасці праявы ў зямным свеце сусветнага пазабытавога зла, таемная дэструктыўная дзейнасць якога скіравана на выкараненне свету, які стварыў Бог, а замест яго прапануецца віртуальная рэальнасць уяўных выгод *з сатанінскім ухілам.*

Адлюстраванню ідэйна-тэматычнай спецыфікі твора падпарадкаваны яго загаловак.

Па сутнасці ён мае алюзіўны характар, паказвае на змястоўнае напаўненне рамана-фантасмагорыі, інфармуе аб наяўнасці ў яго мастацкім свеце кампанентаў хрысціянскай аксіялогіі як састаўной часткі біблейскай сістэмы духоўных каштоўнасцей. Заўважым, што царкоўнаславянскае слова «спакуса» (спакушэнне) азначае «выпрабаванне», «небяспека», «замах». Спакуснік — гэта той, хто выпрабоўвае каго-небудзь, заваблівае і падманвае. У Евангеллі пад гэтым імем паўстае д'ябал.

Таму нараўне з матывам заключэння дамовы з пасланцом пекла, які развіваецца ў рэчышчы хрысціянскага вучэння пра спакусу як пра небяспечную духоўную прывабнасць, адным са шляхоў паказу аўтарам сваёй маральна-філасофскай канцэпцыі з'яўляецца ўключэнне ім у тэкст рамана-фантасмагорыі шматлікіх, часам даволі аб'ёмных вынятак з Бібліі. Быццам бы «перагруз», залішняе нагрувашчванне, што нібыта перашкаджае сачыць за асноўным сюжэтам твора. З аднаго боку, у чытача можа скласціся ўражанне перанасычанасці «чужымі» словамі. Але ж з другога боку, усе біблейскія цытацыі, якія ўваходзяць у раман-фантасмагорыю, з'яўляюцца незаменнай прыналежнасцю яго сэнсавага поля, удзельнічаюць у выяўленні аўтарскай кан-

цэпцыі, паводле якой Біблія з'яўляецца самым значным у сусветнай культуры тварэннем духу, кнігай выключнай і невычэрпнай, у якой «усё сказанае як пра Бога, так і пра чалавека».

Біблейская паэтыка — гэта, па вялікім рахунку, паэтыка іншасказанняў і прыпавесцей, уздзеянне якіх на свядомасць Анатоля Бароўскага выявілася ў мастацкім свеце яго рамана-фантасмагорыі. Так, розны сэнс слоў «мудрасць», «мудры», якія неаднаразова сустракаюцца ў тэксце твора, часцей за ўсё акцэнтаваны аўтарам у сувязі з духоўным веданнем і вучэннем, выкладзенымі ў «Галоўнай Кнізе чалавецтва». Мудрасць у свядомасці пісьменніка знітавана не толькі з дабром і маральнасцю, але і са злом.

Аўтар раскрывае палярныя сэнсы «мудрасці», тым самым падкрэсліваючы семантычную невычэрпнасць і глыбіню Бібліі як Тэксту Мудрасці. Злую, антыбоскую, а таму і ўяўную мудрасць, увасабляе ў аўтарскай мастацка-філасофскай інтэрпрэтацыі старажытны біблейскі Змей-спакуснік.

Устаўная навела аб спакусе і грахоўным падзенні першых людзей у Раі растлумачвае адзін з ключавых матываў рамана-фантасмагорыі. Гэта прыпавесць пра сутнасць спакусы і мастацтва хлусні, пра безабароннасць чалавека перад злом, калі ён, чалавек, ігнаруе Запаветы Бога. Таму ўладальнікам сапраўднай мудрасці ў маральна-філасофскай канцэпцыі твора паўстае шукальнік ісціны настаўнік Хурс, у апісанні ўнутранага аблічча якога падкрэсліваюцца такія рысы, як адыход ад зямной мітусні, дабрыня, моцна развітыя маральныя пачуцці і духоўныя памкненні.

З вобразам Хурса звязаны матыў духоўнага настаўніцтва і вучнёўства, пошуку ісціны і перадачы таемнага Ведання, якое асноўным лейтматывам праходзіць праз іншыя, раней выдадзеныя (кніга «Пякельны рай») творы Анатоля Бароўскага і якое з'яўляецца скразным у прыпавесцях розных духоўных традыцый чалавецтва. Магчыма, актуалізацыя гэтага матыву ў аповесці з містычным назовам *«Ахутавана»* і паслужыла для самога аўтара падставай вылучыць і вызначыць яе з жанравага пункта гледжання як *«прытчу аб мроях»*.

Мудрымі ў рамане-фантасмагорыі названыя тыя, *«хто чуе і разумее прыроду»* — старажытныя *«чараўнікі-дрэвалекі»*, «прыроджаны ляснік і Божы чалавек» дзядзька Іосіф-Язэп, які разумеў, што *«спрачацца з прыродай і з Богам — значыць рухацца па кірунку да пекла»*. Мудрасць — адна з асноўных духоўных якасцей чалавека «сялянскай Атлантыды» бабулі Настазі-Анастасіі, з вобразам якой звязаны дарагія для героя ўспаміны.



**Валянціна Лемцюгова**
**ТАПОНІМЫ РАСПАВЯДАЮЦЬ**
Мінск. «Літаратура і Мастацтва». 2009

Тапаніміка (ад грэчаскага топас — «месца» і оніма — «імя») — навука, якая вывучае ўласныя назвы геаграфічных аб'ектаў. Як вядома, беларускія тапонімы надзвычай разнастайныя. Адны з іх маюць славянскае паходжанне, іншыя — балцкае. Ёсць і такія назвы, этымалогія якіх дакладна не вядомая.

Нараджэнне назвы — першы крок у існаванні любога паселішча. Калі людзі надалі месцу Імя, значыць, вырашылі пасяліцца тут назаўсёды.

Тапанімічны слоўнік Валянціны Лемцюговай, выдадзены РВУ «Літаратура і Мастацтва» ў гэтым годзе, змяшчае ўласныя геаграфічныя назвы з усіх куткоў Беларусі. Зразумела, тапонімы цесна звязаныя з вуснай народнай традыцыяй. Жыхары кожнай мясцовасці ведаюць шматлікія легенды і паданні, якія тлумачаць паходжанне той ці іншай назвы населенага пункта, пушчы, узгорка, возера ці ракі.

Кніга Валянціны Лемцюговай — выданне навуковае. Аўтар абапіраецца ў сваёй працы на выключна навуковыя метады, прыцягвае да даследавання розныя дысцыпліны — гісторыю і гістарычную граматыку, этнаграфію і геаграфію. Значнае месца ў кнізе займаюць і народныя паданні аб паходжанні тых ці іншых геаграфічных назваў, прыводзіцца некалькі версій тлумачэння таго ці іншага тапоніма. Нават паходжанне назвы нашай сталіцы — Мінск — да гэтага часу мае супярэчлівую этымалогію. І побач з навуковым тлумачэннем паходжання гэтага тапоніма чытач, зразумела, знойдзе і ўзгадкі пра легендарнага млынара-чараўніка Менеска.

**Анатоль Бутэвіч**
**ПЕРУНОВАГА ПЛЕМЕНІ ДЗЕЦІ**
Мінск. Мінская фабрыка каляровага друку. 2008

Новая кніга Анатоля Бутэвіча «Перуновага племені дзеці» — адно з тых выданняў, якое з вялікай цікавасцю прачытаюць не толькі дзеці, якім кніга адрасавана, але і дарослыя.

Цікавасць да мастацкага пераасэнсавання беларускай міфалогіі ўсё больш узрастае. Многія папулярныя пісьменнікі звяртаюцца да міфалагічных і фальклорных сюжэтаў. Традыцыя гэтая існуе яшчэ з часоў Яна Баршчэўскага і Максіма Багдановіча. Сёння яе плённа працягваюць Рыгор Барадулін, Міхась Башлакоў, Адам Глобус, Зінаіда Дудзюк, Анатоль Казлоў і многія іншыя. Аднак яны пішуць пераважна для дарослых. Перад намі ж кніга, разлічаная ў першую чаргу на дзіцячую аўдыторыю. Аўтар несумненна абапіраўся на навуковыя крыніцы, і навукі ў ёй не менш, чым мастацкага вымыслу.

Анатоль Бутэвіч здолеў стварыць сапраўднае «зачараванае царства», населенае старажытнымі боствамі і таямнічымі перанажамі. У ім спяваюць чароўныя птушкі, цвітуць чарадзейныя кветкі. Прычым творы, змешчаныя ў кнізе, не сюжэтныя. Іх можна ахарактарызаваць як пазнаваўчую, навукова-папулярную эсэістыку.

Нельга абмінуць увагай і ілюстрацыі Паўла Татарнікава. У дадзенай рабоце яму ўдалося візуалізаваць міфалагічных персанажаў для малодшай чытацкай аўдыторыі. У ілюстрацыях Паўла Татарнікава прысутнічаюць тыя дэталі, на якіх засяродзіў увагу і Анатоль Бутэвіч. Тут і Пярун з маланкавым молатам і лукам-вясёлкай. І Вялес з шалямі і дудой. І валадар зімы Зюзя. І чароўны падземны каваль Жыжаль з прыладамі сваёй працы.

**ЗАМОВЫ**
Укладальнікі: **У. А. Васілевіч, Л. М. Салавей**
Мінск. Беларусь. 2009

Унікальнасць кнігі «Замовы», укладзенай вядомымі даследчыкамі фальклору У. Васілевічам і Л. Салавей, у тым, што прадстаўленыя тэксты запісваліся адносна нядаўна і на працягу дастатко-

ва кароткага тэрміну — на стыку другога і трэцяга тысячагоддзяў.

У зборніку прадстаўлены тэксты самага рознага прызначэння: лячэбныя, любоўныя, замовы ці не на ўсе жыццёвыя патрэбы. Зацікаўлены чытач знойдзе ў замовах, запісаных у цэнтральнай частцы Беларусі, выразную прысутнасць усёй сістэмы міфалогіі нашых продкаў, шматлікія ўзоры народнай сімволікі. Паэтычная натура не зможа не захапіцца багаццем і маляўнічасцю народнай мовы.

Сабраны студэнтамі БДПУ пад кіраўніцтвам вопытнага выкладчыка У. Васілевіча матэрыял паказвае, як піша ў прадмове Л. Салавей, «нейкі агульны ўзровень абазнанасці насельніцтва ў традыцыйнай магічнай практыцы, у валоданні вербальнымі тэкстамі...» Прыемна здзіўляючай асаблівасцю кнігі з'яўляецца выяўленая ў ёй глыбіня фальклорнай памяці сярэдняга і старэйшага пакаленняў беларусаў, якія здолелі захаваць і перадаць нашчадкам досыць архаічныя тэксты, якія тысячагоддзямі існавалі толькі ў вуснай форме.

**Лідзія Арабей**
**БЕЛАЕ ПОЛЕ**
Мінск. Кнігазбор. 2008

Тонкі майстра прозы — Лідзія Арабей — у сваю новую кнігу «Белае поле» ўключыла акрамя сюжэтных апавяданняў дарожныя нарысы і ўспаміны. Адно з экзатычных падарожжаў — у Егіпет. Аўтарка піша: «... у сённяшняга народа Егіпта няма пачуцця святасці да помнікаў старажытнай цывілізацыі. Народ жыве сам па сабе, піраміды і сфінксы існуюць самі па сабе. Каб не французскія ды англійскія вучоныя, то, як самі арабы прызнаюцца, каменне з тых пірамід яны б даўно парасцягалі б на дувалы». Праўда, гэта пісалася ў 1989 годзе — з таго часу не толькі егіпцяне, а і мы, беларусы, зразумелі важнасць для краіны развіцця турызму.

Пранікліві позірк — на дзяржавы, народы, пэўных асоб — характарызуе творчасць Л. Арабей. Яе ўспаміны пра Кандрата Крапіву, Янку Брыля, Івана Навуменку пакідаюць уражанне жывога і шчырага сведчання.

Раздзел кнігі «Абразкі» складаецца з зусім кароткіх — часам у два радкі — мініяцюр, якія прасякнуты зусім маладым здзіўленнем перад з'явамі жыцця і творчасці. Пісьменніца выказвае свае асабістыя — вельмі неардынарныя — меркаванні і пра сучасны літаратурны працэс. Лідзія Арабей кранае часам вострыя пытанні, выказваючы сваю думку проста і шчыра.

**Кастусь Цвірка**
**ВОЎЧАЯ ВЫСПА**
Мінск. Кнігазбор. 2009

Сёлета выйшаў раман Кастуся Цвіркі «Воўчая выспа», у свой час надрукаваны ў «Полымі». Твор гэты яшчэ ў часопіснай публікацыі адразу звярнуў на сябе ўвагу, спадабаўся і запомніўся чытачу. Перад намі гісторыя чалавека, які праз вялікія пакуты вяртаецца дамоў з чужыны. Ён страціў многіх блізкіх і, нават вярнуўшыся ў родныя мясціны, вымушаны жыць сярод балот, бо яму пагражае арышт. Але тут, далёка ад людзей, на Воўчай выспе герой знаходзіць свайго сына, якога даўно лічыў памерлым. Высвятляецца, што хлопчыка гадавала воўчая зграя.

У творы пераплятаюцца матывы «Адысеі» Гамера і казкі Кіплінга «Маўглі». Але і гэта не ўсё. Неардынарны сюжэт, яркія характары, шырокі ахоп падзей. І разам з тым глыбокае, амаль прытчавае гучанне.



Уладзімір ПАЎЛАЎ

# ПОДЗВІГ ЧАЛАВЕЧАГА АБАВЯЗКУ І ДАБРЫНІ

«Нямала я прачытала вашых выдатных кніг, за якія і я, і ўсе мы — Вашы чытачы — глыбока Вам удзячны. Ваш талент паказваць людзей у іх мінулым і сучасным выклікаў у мяне непераадольнае жаданне напісаць вам аб тым, з чым я сустрэлася яшчэ ў гады вайны, і гэта гісторыя мае адносіны да сучаснага.

У 1943—1944 гадах я амаль год была ў Чувашыі ў горадзе Шумерля. Туды я завезла да мамы сваю дачушку, а потым прыехала сама. Мая мама была настаўніцай, да яе часта прыходзілі яе сябры і знаёмыя, пераважна педагогі. Я ў той час працавала як эвакуіраваная ў калгасе за 16 кіламетраў ад Шумерлі і да мамы прыязджала па меры таго як у мяне назапашваліся прадукты для дачушкі.

У адзін са сваіх прыездаў я сустрэла ў мамы загадчыцу дзіцячага садка, які быў эвакуіраваны з Беларусі. Не ведаю, як дакладней яго назваць — ці то дзіцячы садок, ці то яслі, ці то дом немаўляці: дзеці былі зусім маленькія. Расказ загадчыцы назаўсёды застаўся ў маёй памяці. І я не магу не расказаць яго Вам, можа быць, калі-небудзь аб гэтым напішаце...

У першыя дні вайны было вырашана эвакуіраваць гэты дзіцячы садок у тыл краіны. Усё падрыхтавалі да ад’езду, а транспарту не было. І калі немцы апынуліся ўжо зусім блізка, персанал вырашыў ісці пешшу. Склалі ў хатулі ўсё самае неабходнае для немаўлят, узвалілі паклажу на плечы, узялі на рукі па дзіцяці і накіраваліся ў далёкую дарогу. Дзяцей неслі не толькі дарослыя, іх неслі і дзеці персаналу, якія яшчэ і самі былі школьнікамі. Ішлі палямі, палявымі дарогамі, лясамі. Смаліла сонца, адольвалі камары, мошкі. Даводзілася начаваць і пад адкрытым небам. Немаўлят і бялізну мылі на прывалах. Людзі дапамагалі чым маглі — то малака дадуць, то пялюшкі, то яшчэ чаго. А наўздагон грымеў, насядаў фронт.

Не памятаю, на які ўжо дзень выйшлі яны на дарогу і сустрэлі нашу воінскую часць. Камандзір выдзеліў машыну, і дзяцей адправілі ў Маскву, а адтуль — у Чувашыю. Якія гэта былі цудоўныя людзі, работнікі дзіцячага садка! Выратавалі ўсіх дзяцей! Зразумела, мой расказ недакладны — прайшло столькі гадоў і столькі пражыта. Я ведала, што ў 1946 годзе эвакуіраваны дзіцячы садок знаходзіўся яшчэ ў Шумерлі. Дзе цяпер — не ведаю.

Як добра было б, калі б напісалі пра гэты подзвіг абавязку і дабрыні...

Андрэева В. Б.

Ленінград».

*(Бондарев Ю. Человек несёт в себе мир. — М., 1980. С. 121, 122)*

Такое пісьмо атрымаў вядомы пісьменнік ад сваёй чытачкі — В. Б. Андрэевай. Прозвішчы жанчын, што здолелі вывезці дзяцей у сорак першым годзе ў далёкую Чувашыю, былі невядомы, вось пісьменнік і выказаў прапанову адшукаць, хоць па часе, сляды, як ён выказаўся, «подзвігу і чалавечага абавязку, і дабрыні». Наш аповед — пра гэты подзвіг.

Крыху гісторыі...

Полацкі дзіцячы дом імя К. М. Самойлавай быў створаны ў 1920 годзе і з'яўляўся адной з першых такіх устаноў на Беларусі. Ва ўмовах разбуранага горада лепшае памяшканне было адведзена для дома немаўляці, куды паступалі сіроты.

Напачатку супрацоўнікам давялося пераадолець нямала цяжкасцей.

Не хапала вопыту ў абслуговага персаналу. Санітарка Праскоўя Гаўрылаўна Васіленка, якая працавала ў доме з самага пачатку яго стварэння, успамінала пра гэтыя гады як пра самыя цяжкія за ўвесь час работы. Але людзі браліся за працу з вялікім уздымам і энтузіязмам.

У дом дзіцяці прымаліся дзеці з дня нараджэння. За час свайго існавання і на канец 1945 года гэты дом выхаваў каля 2000 дзяцей. Уладзімір Іваноў, Аляксандр Мікалаеў і іншыя былі ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Перад вайной у свой родны дом прыязджалі на канікулы былыя выхаванцы Грыша Іваноў і Косця Аляксандраў — студэнты Ленінградскага медыцынскага інстытута. Іх сустракалі як дарагіх гасцей. Выхаванцы дзіцячага дома жылі і працавалі ва ўсіх кутках Савецкага Саюза.

І напярэдадні вайны дом немаўляці жыў паўнакроўным жыццём...

— Паліна Сяргееўна, што ж будзем рабіць?

Яна глядзела на вуліцу. Там нікога не было. Адны палачане пакінулі горад, другія хаваліся па дамах — не верылі, што гітлераўцы ўварвуцца ў яго. Дракіна разумела: неабходна вывозіць дзяцей... Яе дочкі былі ў піянерскім лагеры, далекавата ад горада. А можа, дабяруцца? Але што чакае вось гэтых сто дзяцей, якія не маюць бацькоў? Калі яны застануцца тут ды прыйдзе вораг, — загінуць.

— Паедзем, Лідачка, — сказала Паліна Сяргееўна, — ледзь стрымліваючы слёзы.

— Глядзіце, глядзіце! — раптам амаль закрычала Чарнуха. — Вашы Тамарка і Мая бягуць!

І сапраўды, у пакой забеглі яе дочкі: старэйшая Тамара і малодшая Мая.

Але тады яна крыху супакоілася.

Вратаванне дзяцей-сірот, сярод якіх было больш за дваццаць немаўлят, перш за ўсе выпала на долю Паліны Сяргееўны Дракінай. Яна разам з урачом Лідзіяй Антонаўнай Чарнухай, кухарам Ганнай Якаўлеўнай Слабкевіч, медсёстрамі Верай Міхайлаўнай Шалімавай, Бертай Сямёнаўнай Свярдловай, нянямі Аніссяй Дзянісаўнай Саўчанка, Ефрасінняй Макараўнай Наркевіч, Г.А. Бураковай і іншымі работнікамі Полацкага дома дзіцяці імя К. М. Самойлавай размясціла сто двух дзяцей на грузавых аўтамашынах. Паехалі на ўсход. Двойчы ў дарозе на машыны налятталі варожыя самалёты, але вадзіцелі паспявалі завярнуць у лес.

Калі пад'ехалі да вёскі Булаўкі, што кіламетраў за дзесяць ад Полацка, машыны, якія выдаткавалі ваенныя, як і было дамоўлена, вярнуліся назад — вельмі былі патрэбны абаронцам горада.

У вёсцы перапалоханых дзяцей накармілі сяляне, размясцілі ў школе. Але ўжо раніцай наступнага дня стала зразумела, што затрымлівацца тут нельга: побач знаходзіўся нейкі ваенны аб'ект, і фашысцкія лётчыкі раз-пораз налятталі на яго, а таксама абстрэльвалі вёску. Тады жанчыны хапалі дзяцей на рукі і беглі з імі ў лес. Пакладуць адных малых пад кусты — і адразу назад, па тых, хто застаўся ў школе.

— Трэба выбірацца адсюль, — вырашыла загадчыца.

Усе згадзіліся. Калгаснікі выдзелілі ім некалькі падвод. Пасадзілі ў іх большанькіх, грудных паклалі і ноччу рушылі ў дарогу...

Тым часам дабраўся дадому з Крыма муж Паліны Сяргееўны Дракінай Сямён Паўлавіч. А дома — нікога няма. Пабег у дзіцячы сад — і амярцвеў: на месцы прыгожага некалі будынка была велізарная варонка...

За ноч прайшлі сорак кіламетраў, спыніліся ў Домніках. Пасціралі ногі, стаміліся. І да ўсяго — зніклі тры маладыя дзяўчыны, якіх прынялі на працу перад самай вайной.

— Адсталі, можа, заблудзілі? — трывожылася загадчыца.

— Ды не, мабыць, уцяклі. Яны яшчэ ў Полацку бурчэлі, што сябе, а не чужых дзяцей ратаваць трэба, — роспачна сказаў нехта.

— Але, толькі ж мы дзетак не пакінем? — ужо трывожна спытала Паліна Сяргееўна.

— Ды ўжо ж...

Аднадушна вырашылі: сустрэць перамогу ўсім разам — 40 дарослым і 102 дзецям.

Тады ж паслалі шукаць машыны (а раптам пашанцуе!) адзінага мужчыну — загадчыка гаспадарчай часткі Свярдлова. Дамовіўся з ваеннымі і старшынёй сельскага савета Антонам Мартынавічам Філіпавым: выдзелілі чатыры аўтамашыны, далі на дарогу прадуктаў, грошай.

Маршрут, як кажуць, пракладвала ўрач Лідзія Чарнуха. Перад вайной яна прайшла ў Віцебску кароткатэрміновыя курсы па ваенна-палявой хірургіі і навучылася працаваць з картай. 22 чэрвеня курсы былі распушчаны. Жонка кадравага афіцэра, Лідзія Чарнуха, вядома, магла вяртацца калі не ў Полацк, дзе яна працавала раней, то ў Оршу, дзе ў яе бацькоў заставалася дачка Іна, якой не споўнілася яшчэ і годзіка. Але жанчына палічыла, што павінна застацца з чужымі дзецьмі.

Чарнуха сама «выкрасліла» з маршруту дарогу на Оршу, калі на шляху ўсё часцей сталі трапляцца разбомбленыя чыгуначныя саставы. Вырашылі выбірацца з прыфрантавога пекла не цягнікам, а аўтамашынамі, ляснымі дарогамі. Вядомы імены вадзіцеляў: Мікалаеў, Карпенка, Камароў, Шчукін. Лідзія Чарнуха казала тады Паліне Сяргееўне: «Калі я выратую гэтых малеч, нехта дапаможа маёй Іначцы...»

Дарога на ўсход аказалася і цяжкай, і доўгай.

— Аднойчы, — успамінае Паліна Сяргееўна Дракіна, — сустрэлі чацвярых дзяцей. Яны спалі на ўзбочыне дарогі. Мы спынілі машыны. Дзецям было па чатыры-сем год. Пабудзілі іх. Дзеці былі моцна напалоханыя. Аказалася, што яны з дзіцячага дома, з Фарынава. Яго бамбілі. А калі туды прыйшлі немцы, яны ўцяклі ў лес. І вось ужо некалькі дзён ішлі па дарозе, не ведаючы куды.

Накармілі іх: Лілю, Дашу, Толю і Марата. Узялі з сабой. Хворая была самая маленькая — Даша, але яе выхадзілі.

Сярод тых, каго ратавалі гэтыя людзі, было 20 груднога ўзросту хлопчыкаў і дзяўчынак. Столькі ж так званых хадунковых. Затым 35 дзетак ад двух да трох гадкоў. Крышку старэйшых — 18, і амаль столькі ж дзяцей работнікаў дзетдома. Увогуле ж узрост такі: ад двух месяцаў да чатырнаццаці гадоў. І ўсіх трэба дагледзець, накарміць, напаіць, памыць... Прадукты ёсць: выручаюць сяляне і вайскоўцы. Хапае і малака — вунь колькі жывёлы гоняць на ўсход, людзі дазваляюць даіць кароў. Але вось бяда: сонца так паліць, што малако ўмомант скісае. Кухар Ганна Якаўлеўна Слабкевіч, няні Анісся Дзянісаўна Саўчанка і Фруза Макараўна Наркевіч рабілі ўсе, каб накарміць дзяцей. Пастаянна сачылі за іх здароўем медсёстры Вера Міхайлаўна Шалімава, Берта Сямёнаўна Свярдлова і іншыя.

…Нарэшце праехалі Вялікія Лукі, Таржок.

У Цвяры дарогу ім перагарадзіла калона салдат. Нечакана сярод іх Паліна Сяргееўна ўбачыла свайго мужа Сямёна.

Кароткай была сустрэча, як след нават не пагаварылі.

На развітанне сказаў: «Трымайце курс на Волгу, а мы іх спынім...»

А праз гадзіну сустрэла аднаго знаёмага дырэктара дзетдома, які ішоў з жонкай і дваімі сваімі дзецьмі.

Спытала: «А дзетдомаўскія дзе?» Адказаў: «Не ведаю, распусціў іх. Ідзіце, кажу, вайна. Ды нічога з імі не здарыцца, вялікія ўжо дзеткі...»

«Вялікія»... Паліна Сяргееўна не можа спакойна глядзець на былога калегу, якому ў саракавым годзе перадала чарговую групу сваіх старэйшых выхаванцаў. Гэтым «вялікім» сёння ад шасці да дзесяці гадоў! Дзе ж яны?

Рушылі далей. І зноў паўсюль жыхары, воіны, мясцовыя ўлады давалі хлеб, крупы, цукар. Усе ведалі, што Паліна Сяргееўна і яе таварышы ратуюць ад гібелі дзетдомаўскіх дзетак.

— З намі былі тры жанчыны — карміліцы, — расказвала пазней Паліна Сяргееўна, — і ўсё ж не хапала малака. І тут выручалі мясцовыя жанчыны. Але як ні было цяжка ўвогуле, даехалі ажно да Ніжняга Ноўгарада. Адтуль па Волзе на параходзе «Вера Засуліч» даплылі да Чэбаксар, а далей на фурманках і брычках дабраліся ў райцэнтр Казлоўка, у вёску Салдыбаева, дзе размясціліся ў школе. Канчаткова ўжо восенню асталяваліся ў райцэнтры Шумерля.

Абжыліся трошкі, але неўзабаве стала відавочным, што, нягледзячы на дапамогу гараджан і падтрымку мясцовых улад, зімой будзе цяжка. Няма цёплай вопраткі. Няма нават змены бялізны. Але куды ты пойдзеш са сваімі бедамі — у Маскву, ці што? І вырашыла Дракіна: туды! Не марудзячы накіравалася ў дарогу.

Дракіна вярнулася праз тыдзень. Прывезла рэчы, прадукты, медыкаменты, сярод якіх было і паўкілаграма сульфідзіна — ён у той час быў на вагу золата... Моцна ўзняла дух людзей гэтая дапамога сталіцы: калі там клапоцяцца пра дзетдомаўскіх дзетак, значыць, краіна жыве!

А з дзецьмі клопату было — хоць адбаўляй. Галя Філіпёнак, напрыклад, так аслабла, што доўга ляжала ахутаная ватай: выхадзілі. Дужа хварэла Лора Шыманская, і ёй давалі сваю кроў супрацоўнікі. Як і Дашы Даражынскай. Гэта маленькія. А старэйшым ужо трэба было вучыцца. Каб не пасылаць іх, слабых, у мясцовую школу, адтуль пачала прыходзіць М. Ф. Фёдарава, настаўніца-чувашка. Вучыла дзетдомаўскіх, правёўшы ўрокі ў Шумерлінскай школе. А неўзабаве мясцовыя жыхары З. С. Кукушкіна, З. В. Брацікава, Ю. А. Маліноўская, В. Іванова і В. Каракіна прыйшлі ў дзетдом на працу. І працавалі яны сумленна, заўсёды прыносілі з дому ежу і вопратку чужым дзецям. А Паша Кавальчук, Ніна Закрэўская, Надзея Кучына, жанчыны, у якіх былі свае грудныя дзеці, сталі карміць сваім малаком больш слабых дзетак. Паша — Віцю Сапегіна і Валіка Пракоф'ева, Ніна — Мішу Сакалінскага і Шурыка Іванова, Надзея — Барыса Іванова і Сашу Апельсінчыка. І адносіліся яны да гэтых чужых ім дзяцей як да родных. Некалькі дзён плакала Надзея Кучына, калі адзін афіцэр-адстаўнік усынавіў яе Апельсінчыка. Капітан той хацеў узяць дзяўчынку, але як толькі Саша ўбачыў яго — адразу падпоўз, абхапіў за ногі: «Тата, татачка!» І былы воін заплакаў: «Сынок...» А тым часам на выхаванне ёй аддаў сваіх дваіх дзяцей работнік Шумерлінскага райкама партыі Ільмент, якога прызвалі ў войска: Розу і Гену. Не, не было ў іх сям'і чужых: усе свае, усе родныя.

А як жа склаліся асабістыя лёсы работнікаў дзетдома? Па-рознаму. Соладка нікому не было. Напрыклад, у Мікалаева дома ў Полацку засталіся жонка і дачка. Сумаваў. Спачувалі ўсе. Ці вось Галіна Арцёмаўна Бурлакова атрымала паведамленне, што прапаў без вестак яе муж. Суцешыла яе, сагрэла, адрадзіла надзею на лепшае шчырая спагада сяброў. Ніяк не магла адшукаць слядоў сваіх блізкіх Чарнуха — хтосьці з супрацоўнікаў даведваецца, быццам віцебская фабрыка КІМ, на якой працавала яе сястра, эвакуіравана ва Ульянаўск. Напісалі туды па такім адрасе: «Фабрыка КІМ і парткам», маўляў, дапамажыце! І цуд — неўзабаве прыйшоў адказ! «Добры дзень, сястрычка! А мы ўсе думалі, што ты загінула. Тата, мама, Іначка засталіся пад фашыстамі, усё цябе чакалі і не паспелі выехаць...»

— Як жа вы там, мае родненькія? — каторы раз перачытвае Чарнуха пісьмо ад сястры і глядзіць на газету «Праўда», у якой паведамляецца пра масавае забойства фашыстамі старых і дзяцей у Шклове...

І сама Паліна Сяргееўна адчула, якія блізкія і родныя ёй усе гэтыя людзі... На ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 25-годдзю Чувашскай АССР, Дракіна

была восьмай у спісе выступаючых. І раптам выклікаюць яе на трыбуну адразу пасля даклада. У чым справа? Зоя Ананьеўна Андрэева, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, была нешматслоўная:

— Вас чакае самалёт, хутчэй у Шумерлю!

Разам з Дракінай вылецеў таксама вядомы ўрач прафесар Осіпаў. Да апошняга моманту лічыла Паліна Сяргееўна, што захварэла пяцігадовая Зіна Зубінская. Высветлілася, што неадкладная аперацыя была патрэбна яе дачцэ. Многія тады лічылі, што Маю выратаваў цуд. Але маці ведала: выратавала яе дачушку людская дабрыня. Зрэшты, і яна сама дабрынёй ратавала чужых дзетак. Ратавалі, выходжвалі, гадавалі, выхоўвалі, аддавалі цеплыню сваіх сэрцаў усім дзеткам: і тым, якіх прывезлі з Полацка, і тым, якіх прынялі ў сваю ў сям'ю ўжо тут, у эвакуацыі. Пра адпачынак думаць не хапала часу. Ужо тры гады Лоры Шыманскай, а яна яшчэ не ходзіць. Зноў ёй і Дзіму Істрову ўчора пералівалі кроў. Значыць, нельга супакойвацца, нельга спыняцца. І так усе чатыры суровыя гады ліхалецця...

Былі, праўда, і свае маленькія радасці, святы. Потым прыйшло і вялікае, усенароднае. Як успамінае А. І. Павярынава:

— Ясная, сонечная раніца. Бягу на працу. І раптам... Не пераказаць, якія ў людзей радасць, хваляванне, настрой! Мяне ўсе абдымаюць — не разумею, што такое. Перамога, Тонечка, крычаць, Перамога! І тады ўжо я цалую ўсіх без разбору — Перамога! Наша!

У гэты дзень, 9 мая 1945 года, на пятым годзе жыцця, самастойна, без чужой дапамогі пайшла Лора Шыманская...

За сумленную і бескарыслівую працу П. С. Дракіна і Л. А. Чарнуха былі ўзнагароджаны знакам «Выдатнік аховы здароўя», а Паліна Сяргееўна — і Граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Чувашскай АССР.

...Пасля Перамогі, у верасні 1945 года, Полацкі дом дзіцяці вярнуўся ў Беларусь. Вярнуліся, як кажуць, у поўным саставе, што датычыць выхаванцаў. Спачатку размяшчаліся ў Глыбокім, а затым у Расонах.

Якое ж ты вялікае і моцнае, чалавечнае сэрца! Так б'ешся, што, здаецца, уся вуліца глядзіць услед. Толькі вуліца амярцвела — адны руіны замест дамоў і няма прахожых... Нядобрае прадчуванне падганяе Чарнуху і адначасова спыняе. Палохае сустрэча з невядомым. І толькі жывое сэрца гучна, на ўсю вуліцу, стукае і супакойвае: Вер! Вер! Вер!

Слёз столькі, што імі можна затапіць гэту праклятую яміну на месцы былога яе дома, а вакол так ціха-ціха, што здаецца, быццам слабое, маленькае чалавечае сэрца захлынулася горам і спынілася. І раптам яно ажыло — ліст гнілой фанеры на паўразбураным плоце падараваў яму жыццё: «Дзеці, мы жывём у Табарэўскіх». Мілыя, самыя прыгожыя, самыя каліграфічныя на свеце каракулі таткі! Добры дзень, Іначка! Як жа я люблю цябе, дачушка, сонейка, шчасце маё!..

Успаміны хвалююць Лідзію Антонаўну. Яна змаўкае. Цёплы голас раптам пахаладнеў:

— Вайна адабрала ў маёй дачкі дзяцінства, а ў мяне — дзяцінства дачкі... Ведаеце, я ўсё жыццё крыху раўную яе да сваёй маці — здаецца, што Іна любіць бабулю больш, чым мяне... Гады прайшлі, перш чым вымавіла яна гэтае слова — мама...

Зноў наплываюць успаміны і разбягаюцца паступова маршчыны на твары, якія засвяціўся схаванай унутры добрай, чалавечай усмешкай:

— І ўсе ж, гледзячы назад, у вайну, я адчуваю, нанава перажываю шчасце мацярынства ва ўсёй яго паўнаце. Чую яго жывое дыханне. Таму што бачу тых шматлікіх нашых дзяцей, якія лічылі і называлі нас мамамі...

...Ва ўтульнай кватэры Паліны Сяргееўны кідаецца ў вочы карціна: высокае і чыстае неба, зялёны адбітак вясёлых бярозак у люстэрку ляснога возера, наезджаная дарога ў мяккім цені... Спакоем і прыгажосцю павявае ад гэтых фарбаў. А яшчэ — мірам, які нясе ў сабе чалавек.

— Падарунак Валодзі Кандрашэвіча, аднаго з тых дзяцей, — кажа гаспадыня. — Цяпер ён на БАМе пейзажы піша. Добрым чалавекам стаў Валодзя. Якім і павінен быў стаць.

І працягвае:

— Усе яны мне родныя, як і мае дочкі. Пісьмы пішуць і прыязджаюць. Галя Філіпёнак закончыла Полацкае прафтэхвучылішча і працуе ў Гомелі майстрам пашыву, Лора Шыманская — майстрам на Наваполацкім НПЗ, Галя Багатырова стала трактарысткай на Шаркаўшчыне, Бэла Свярдлова выкладае музыку ў Наваполацку, Зінаіда Рубчынская — работніца станцыі аўтаабслугоўвання, яна маці дваіх дзяцей. З Грузіі пішуць Леанід і Зінаіда Сахно. Два месяцы было Лары Мірман, калі ў яе памерла маці. Усю вайну яна выхоўвалася ў нашым Доме дзіцяці. Працуе інжынерам па вылічальнай тэхніцы. Эма Капусціна — інжынер-металург... З Алтайскага краю, з Бійска прыязджала з сынам Алегам. У гады вайны яна, чатырохгадовая дзяўчынка, прайшла ўвесь шлях з Домам дзіцяці з Полацка да Шумерлі.

Нямала хто з нашых выхаванцаў знайшоў пасля вайны сваіх родных і блізкіх. Так, Лора Шыманская — маці, Эма Капусціна — сястру, Зінаіда Рыцікава — бацькоў, Даша Даражынская — маці і сястру. Цікава, Даша, на самой справе, — гэта Ліля, адна з тых самых чатырох фарынаўскіх дзяцей, якіх мы знайшлі на ўзбочыне, калі ішлі з Полацка. Вядома, усім ім адшукаць бацькоў дапамагалі мы.

Паліна Сяргееўна паказвае пісьмы сваіх выхаванцаў. Вось, напрыклад, ёй піша Зінаіда Рыцікава: «...атрымала новую кватэру, прыйшоў са службы сын, рыхтуецца паступаць у інстытут. Ён перадае Вам віншаванні са святам Перамогі. Далучаюся да іх, хачу пажадаць бадзёрасці і многіх гадоў жыцця. А мы, выратаваныя Вамі дзеці, помнім пра Вас, вельмі любім і будзем несці далей усё тое добрае, чаму некалі Вы нас навучылі...»

У заключэнне скажу, што і Паліна Сяргееўна Дракіна і Лідзія Антонаўна Чарнуха працавалі з дзецьмі да таго часу, пакуль не пайшлі на пенсію. Першая загадвала ў Полацку дзіцячымі яслямі № 1, другая ўзначальвала калектыў Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы. Абедзве маюць узнагароды: ордэн Леніна Л. А. Чарнуха, П. С. Дракіна — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Але, думаю, галоўная іх узнагарода — цеплыня і дабрата сэрцаў выхаванцаў, якіх жанчыны выратавалі ў час вайны.

Памяць — гэта мінулае, а значыць, праўда пра саміх сябе. Таму і ўглядаюцца ў яе па-рознаму: адны — з асцярогай, баючыся, з сумным непакоем. Іншыя — прама, з сумленнем і чыстым позіркам. Як Паліна Сяргееўна. Як Лідзія Антонаўна. Як усе іх таварышы. Памяць выратаваных імі дзяцей адзначана шчаслівым пачаткам — Дабрынёй людской. І калі праўда, што ўсе якасці чалавечнасці трывала закладваюцца менавіта ў дзяцінстве, а пазней толькі шліфуюцца, значыць выратаваныя імі хлопчыкі і дзяўчынкі выраслі людзьмі, заўсёды гатовымі да тварэння Дабра.



Марыя ШАМЯКІНА

# СКАРБОНКА ДОБРУШСКАЙ ЗЯМЛІ

## Музей на радзіме пісьменніка

Для фарміравання кожнай асобы, тым больш — асобы пісьменніка, надзвычай важнае значэнне мае прыроднае і культурнае асяроддзе, у якім нарадзіўся і рос чалавек. Нарадзіўся Іван Шамякін паблізу ад Добруша, у вялікай і некалі багатай вёсцы Карма. Ды нават і ў савецкую эпоху кармянскі калгас быў адным з перадавых у Гомельскай вобласці. Чарнобыльская трагедыя загубіла, як і многае іншае, дабрабыт Кармы. Забруджанне мясцовасці аказалася даволі моцным, таму многія жыхары пакінулі абжытае месца. Тым не менш і ў наш час вёска шырокавядомая дзякуючы таму, што тут захоўваюцца мошчы святога Іаана Кармянскага. Паблізу велічнага сабора, у якім знаходзяцца мошчы, перад сельскім саветам устаноўлены ў 2005 годзе бюст Шамякіна. Помнік пастаўлены ўдала, і цяпер «трымае» сабою, арганізоўвае цэнтральную плошчу даволі каларытнага мястэчка. Праўда, наведвальнікаў у Карме ўсё ж няшмат. Больш прыцягальны недалёка размешчаны горад Добруш.

Добрушскі раён знаходзіцца на мяжы трох славянскіх дзяржаў. Калі пасажыр едзе чыгункай з Расіі або з украінскай Чарнігаўшчыны, першы прыпынак на тэрыторыі нашай краіны — Добруш. Добрушскі раён мяжуе з Веткаўскім і Гомельскім раёнамі Гомельскай вобласці, Навазыбкаўскім, Клімаўскім і Злынкаўскім раёнамі Бранскай вобласці Расіі і Гараднянскім раёнам Чарнігаўскай вобласці Украіны.

Аблічча горада ў сэрцы Гомельскага Палесся фарміравалася ў некаторай ступені і пад уплывам культур суседніх народаў. А хутчэй за ўсё, тут захавалася старажытная агульнаславянская спадчына. Этнаграфія краю надзвычай багатая. Прыгадаем хаця б фенаменальныя скарбы Веткаўскага музея, які знаходзіцца даволі блізка ад Добруша.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах Добруш згадваецца ў 1560 годзе ў апісанні маёмасці Гомельскага замка. Усе навакольныя паселішчы ўваходзілі ў той час у склад Вялікага княства Літоўскага.

Герб Добруша — тры бухты каната на зялёным шчыце. Такі дзіўнаваты герб тлумачыцца тым, што ў сярэднявеччы тут выраблялі канаты і ветразі. Наогул, уся гісторыя горада, яго архітэктура, нават асаблівасці ландшафту, звязаныя з прамысловасцю. Ад самага пачатку свайго існавання Добруш з'яўляецца адным з цэнтраў рамёстваў. У XVII стагоддзі ў Добрушы дзейнічала ткацкая фабрыка, мукамольны, цукровы, медзеплавільны і чыгуналіцейны заводы.

Для сталічнага жыхара Добруш падаецца горадам незвычайным, нават экзатычным. Не дзіва, самі жыхары называюць яго беларускай Венецыяй з-за вялікай колькасці каналаў і мастоў. Сістэма каналаў, многія з якіх — штучныя, прызначалася для абслугоўвання прадпрыемстваў горада. У першую чаргу Добрушскай папяровай фабрыкі.

Выкананы ў нэагатычным стылі ансамбль Добрушскай папяровай фабрыкі пабудаваны ў 1870 годзе князем Фёдарам Паскевічам. Фабрыка была адной з буйнейшых на той час у Еўропе і выраблялa розныя гатункі паперы самай высокай якасці, у тым ліку паперу з вадзянымі знакамі.

Гістарычныя будынкі выключна добра захаваліся да нашага часу, таму і цяпер працягваюць выконваць сваю непасрэдную функцыю — сёння гэта таксама фабрычныя памяшканні. Захавалася і пэўная колькасць тагачасных машын. Яны даглядаюцца і захоўваюцца ў закансерваваным стане. Папера выпрабляецца на сучасным абсталяванні, але старыя фабрычныя машыны пры жаданні можна запусціць.

Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што Іван Пятровіч Шамякін, які напісаў шмат буйных твораў, нарадзіўся паблізу цэнтра папяровай прамысловасці.

Другое буйное прадпрыемства Добруша — фарфоравы завод. Ён пачаў працаваць адносна нядаўна, у 1978 годзе, але вырабы яго добра вядомыя ў рэспубліцы. Завод выпускае разнастайны посуд, сталовыя, чайныя і кафейныя сервізы.

Іван Шамякін доўгі час сябраваў з кіраўнікамі абодвух прадпрыемстваў, якія, калі бывалі ў Мінску, абавязкова заходзілі да свайго земляка, бралі ўдзел у святкаванні яго юбілеяў. На кватэры Шамякіна, дзе сёння жыве яго малодшая дачка Алеся Іванаўна з сям'ёй, захоўваецца некалькі спецыяльна зробленых адмысловых вырабаў Добрушскага фарфоравага завода. Сам Іван Пятровіч, заязджаючы на радзіму, наведваў добрушскія прадпрыемствы.

Аб гісторыі горада і сваіх вядомых земляках жыхары могуць даведацца ў Добрушскім раённым краязнаўчым музеі. Экспазіцыя яго разнастайная і працягвае ўзбагачацца. Музейныя фонды пачалі камплектавацца з 2003 года, і працэс гэты ідзе і па сёння.

Музей знаходзіцца ў гістарычным будынку пачатку XX стагоддзя. Першапачаткова ў ім размяшчалася школа, дзе вучыліся дзеці рабочых папяровай фабрыкі. Пабудавала яе княгіня Ірына Іванаўна Паскевіч на свае ўласныя сродкі. Гэтая незвычайная жанчына пакінула вялікі след у гісторыі Гомеля, Гомельскай вобласці і Беларусі наогул. У першую чаргу яна вядомая сваёй дабрачыннай дзейнасцю. Пабудавала каля 10 школ і гімназій, асабліва падтрымлівала жаночыя адукацыйныя ўстановы, выдзяляла сродкі на ўтрыманне бальніц. У час Першай сусветнай вайны Ірына Іванаўна Паскевіч арганізавала некалькі шпіталяў і лазарэтаў, за што атрымала асабістую падзяку імператара. Існуюць нават звесткі аб тым, што І. І. Паскевіч стала першай перакладчыцай на французскую мову рамана Л. Талстога «Вайна і мір».

У музеі ёсць этнаграфічная зала, дзе экспануецца адзенне і побытавыя рэчы жыхароў не толькі Добруша, але і суседніх раёнаў. Большая частка калекцыі была здабыта падчас этнаграфічных экспедыцый па навакольных вёсках і гарадках. Экспазіцыя ілюструе асаблівасці культуры, мастацтва і народнага побыту жыхароў беларускага Палесся. Большасць экспанатаў адносіцца да XIX — першай паловы XX стагоддзя. У першую чаргу прыцягваюць увагу разнастайныя ўзоры вышыўкі і ткацтва. Тут жа прадстаўлены і элементы мужчынскіх і жаночых касцюмаў. Геаграфічнае размяшчэнне Добруша абумовіла падабенства народнай культуры да культур суседніх народаў. Сустракаюцца характэрныя для Расіі кветкавыя арнаменты, адчуваецца ўплыў «кралевецкіх» традыцый Украіны. Акрамя таго ў экспазіцыі прадстаўлены шматлікія хатнія рэчы — пячны інвентар, бандарныя вырабы, кераміка, сельскагаспадарчыя прылады.

Асаблівае месца ў музеі займае гісторыя горадаўтвараючых прадпрыемстваў — Добрушскай папяровай фабрыкі «Герой працы» і Добрушскага фарфоравага завода.

Гісторыю Добрушскай папяровай фабрыкі ілюструюць шматлікія фотаздымкі, дакументы, узоры прадукцыі. У музеі можна пабачыць таксама часткі фабрычнага абсталявання канца XIX стагоддзя.

Цэлая зала адведзена пад выставу посуду, зробленага на фарфоравым заводзе ў розныя дзесяцігоддзі. У асноўным гэта аўтарскія работы мастакоў, якія працавалі і працуюць на заводзе.

Акрамя краязнаўчых матэрыялаў, музей прапаноўвае і выставы твораў мастацтва. Калекцыя жывапісу налічвае больш за 60 работ беларускіх мастакоў: А. Шаўчэнкі, А. Панцюка, А. Казлоўскага, І. Грыгаровіча і вядомых айчынных графікаў А. Кашкурэвіча, А. Лось, Г. Паплаўскага.

Супрацоўнікі музея немалую ўвагу надаюць і ўшанаванню памяці знакамітых землякоў, тых, хто нарадзіўся ў Добрушы і Добрушскім раёне. Адзінаццаць ураджэнцаў яго сталі Героямі Сацыялістычнай Працы, 8 — героямі Савецкага Саюза. Родам з добрушскай зямлі выдатны беларускі паэт Паўлюк Пранузa, старшыня Савета Міністраў БССР з 1959 па 1978 гады Ціхан Якаўлевіч Кісялёў, першы міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў, старшыня Саюза прадпрымальнікаў Расіі Аркадзь Іванавіч Вольскі, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў.

Сярод іх — і Іван Шамякін. Асабістыя рэчы яго перадалі музею родныя: дочкі, якія жывуць у Мінску і пляменнікі з Гомеля.

Мастацкае вырашэнне экспазіцыі — рабочы стол пісьменніка. На пісьмовым стале — пішучая машынка, тая самая, на якой перадрукоўвала рукапісы мужа Марыя Філатаўна. Побач — арыгінальны, даволі даўняга часу, пісьмовы прыбор і сувеніры, якія на самой справе ўпрыгожвалі працоўнае месца празаіка. Шамякін доўга пісаў звычайнай асадкай, потым перайшоў на чарнільныя аўтаручкі і ўпарта не жадаў ад іх адмаўляцца. Толькі ў 90-я гады ён пачаў карыстацца шарыкавымі ручкамі.

У фондах музея захоўваецца і вялікая калекцыя гальштукаў, якую сабраў Іван Шамякін. У 50—70-я гады ён шмат падарожнічаў, наведаў многія краіны Еўропы і Азіі, у 1963 годзе працаваў у Нью-Йорку ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І адусюль прывозіў абавязковы сувенір — гальштук. Элегантныя і модныя гальштукі ён вельмі любіў і ніколі не выкідаў. Частка гэтай калекцыі захоўваецца цяпер у Добрушскім музеі. Разглядаючы яе, можна прасачыць змены ў мужчынскай модзе на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

Захоўваюцца ў музеі лісты рукапісаў, чарнавікі, нататкі.

У музеі ёсць і вельмі рэдкія выданні, якія цяпер мала дзе можна пабачыць. Напрыклад, часопіс «Полымя» № 11—12 за 1945 год, дзе змешчана фактычна першая буйная публікацыя Шамякіна — аповесць «Помста». Ён быў знойдзены супрацоўнікамі музея ў архіве. Нават у сям'і не захавалася гэтага часопіса, і асабіста мне давялося бачыць яго ўпершыню.

Добрушскім музейшчыкам удалося паказаць асобу Івана Шамякіна на фоне гісторыі горада і раёна, прадставіць біяграфію пісьменніка як неад'емную частку жыцця яго радзімы.



Ігар ЦІТКОЎСКІ

# Слуцкая «Файнбергада» і яе героі

*Памяці слуцкага краязнаўцы Рыгора Родчанкі*

У Слуцку ў 2005 годзе знік невялікі аднапавярховы цагляны будынак, стаяў ён побач з кансервавым заводам па вуліцы Леніна, у ім доўгі час размяшчаўся магазін «Электратавары». Домік быў непрыкметны і знікненне яго мала хто заўважыў. Падобныя будынкі адносяцца да так званай «цаглянай архітэктуры», якія ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя фарміравалі выгляд многіх беларускіх правінцыйных гарадоў. Але калі прыняць да ўвагі, што з ваенных часоў да нашых дзён у Слуцку засталося ўсяго з дзесятак дарэвалюцыйных будынкаў, то знікненне кожнага з іх магло выклікаць толькі шкадаванне. А гэты, зніклы, можна лічыць гістарычным.

Знаўцы слуцкай мінуўшчыны ведалі яго як «дом Файнбергада». Тут, амаль на ўскраіне, недапалёку ад павароту з цэнтральнай вуліцы Шасэйнай (цяпер імя Леніна) да Троіцкага манастыра, у свой час жыў той самы Файнберг. Быў ён уладальнікам млына. У Слуцку да рэвалюцыі дзейнічалі чатыры паравыя млыны, Файнбергаў сярод іх нічым асаблівым не вылучаўся. Але верагодна сам гаспадар уяўляў сабою асобу ў нечым арыгінальную, нездарма напісаная мясцовым літаратарам «паэма», дзе ў гратэскава-гумарыстычным стылі паказана, як бавілі вольны час вярхі тагачаснага слуцкага грамадства, атрымала назву «Файнбергада». Дзякуючы гэтаму і імя гаспадара млына захавалася ў гісторыі.

Паэма з'явілася прыкладна ў 1908 годзе. Яе аўтар — слуцкі земскі начальнік, выпускнік філалагічнага і юрыдычнага факультэтаў Маскоўскага універсітэта Рыгор Скура. З мастацкага пункта гледжання твор нічым не вылучаецца, а паэмай названы несумненна дзеля гумару. У пэўным коле жыхароў горада паэма мела папулярнасць, хадзіла па руках, многія ведалі яе на памяць. Цяпер яна цікавая хіба што тым, што даносіць да нас подых далёкага часу, героямі якога з'яўляюцца рэальныя жыхары Слуцка.

Дзеянне «Файнбергады» пачынаецца на парозе дома Файнберга, які вечарам спяшаецца ў дваранскі клуб і дзе яго чакаюць сябры па гульні ў карты, а заканчваецца позна ноччу на прыступках таго ж клуба. Дом нашага героя стаяў на месцы даволі бойкім, на выездзе з горада па «Варшаўцы» ў заходнім напрамку. Менавіта адтуль, з захаду, праз сем гадоў па гэтай дарозе пацягнуліся калоны ўцекацоў-бежанцаў, якіх гнала з родных мясцін імперыялістычная вайна. Адзін з такіх момантаў зафіксаваў слуцкі фатограф, і цяпер яго здымкам нярэдка ілюструюцца матэрыялы пра падзеі Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. На здымку бачым абоз бежанцаў. Ён рухаецца на фоне забудовы, дзе ў чародцы будынкаў у далечыні справа віднеецца дом Файнберга. А з супрацьлеглага боку, злева, наступным будынкам, які не трапіў у кадр, павінен быць корпус камерцыйнага вучылішча. У часы напісання паэмы вучылішча яшчэ не было, заснавалі яго ў 1910 годзе, а ва ўзведзеным новым вучэбным корпусе заняткі пачаліся толькі ў 1912 годзе. Цяпер гэты ацалелы будынак адзіны сведка тых часоў: дамы, што стаялі побач, разбураны падчас Вялікай Айчыннай вайны, а пасля знікнення дома Файнберга ён увогуле застаўся адзінай дарэвалюцыйнай пабудовай па правым баку вуліцы Леніна. Лёс будынка вучылішча таксама не вельмі зайздросны. Заняткі будучых камерсантаў у ім спыніліся ў сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі і грамадзянскай вайной, а ў 1920 годзе пры адступленні яго спалілі польскія легіянеры. Пасля ўсталявання Савецкай улады да 1924 года быў

адноўлены і нават атрымаў новае завяршэнне — з'явіліся драўляны трэці паверх, левую бакавую і цэнтральную часткі перакрылі складаныя па форме купалы са шпілямі. На той час было гэта самае высокае збудаванне ў горадзе. Тут размясціліся камітэты прафсаюзаў, Дом культуры і школа-сямігодка, на змену якой крыху пазней прыйшоў педтэхнікум. Моцна пацярпеў корпус падчас Вялікай Айчыннай вайны, пасля яе быў прыстасаваны пад кансервавы завод.

Зазірнём і на другі бок нашай вуліцы, дзе яшчэ захавалася некалькі старасвецкіх будынкаў. У адным з іх, двухпавярховым, цяпер знаходзіцца архіў, у невялікім дамку побач — філіял краязнаўчага музея этнаграфіі, далей — комплекс паштовай станцыі, што з'явіліся ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Кожны, хто рухаўся па дарозе, што пралягала паміж Масквой і Варшавай, мог замяніць тут коней, адпачыць, пераначаваць. Комплекс складаецца з чатырох будынкаў. Галоўны корпус і злучаныя з ім сценамі з брамамі бакавыя флігелі стаяць франтонам да вуліцы, у глыбіні двор замыкае літарай «П» — падобная ў плане стайня. Не захаваўся бетонны слуп, што стаяў бліжэй да дарогі. На ім яшчэ ў 1970-я гады мелася старадаўняя шыльда з указаннем адлегласці адсюль да Масквы, а ў супрацьлеглы бок — да Варшавы. Тады ж падчас расчысткі ад пазнейшых тынковак на сцяне фасада галоўнага корпуса адкрыліся дарэвалюцыйныя надпісы з паведамленнем адлегласці да бліжэйшых станцый, адна з якіх знаходзілася ў Сенніцы, другая — у Амухавічах (цяперашняя назва Амговічы).

Пасля станцыі, мінаваўшы яшчэ тры двухпавярховыя будынкі 1950-х гадоў, нарэшце спынімся на прыступках канчатковага пункта нашага гістарычнага шпацыру — Дома дваранскага сходу. Тут цяпер размяшчаецца гарадскі краязнаўчы музей. А ўзводзіўся будынак напрыканцы XVIII стагоддзя як панскі асабняк. Тады горад яшчэ не выходзіў за межы старадаўняга абарончага землянога вала, недзе тут і заканчваўся. Зямлю пад забудову будучы гаспадар набыў у Ільінскага манастыра, неўзабаве там з'явіліся жылы дом і гаспадарчыя пабудовы, а перад імі, каб асушыць тэрыторыю, выкапана сажалка. Праз паўстагоддзя побач прайшла новая дарога, якая сталася цэнтральнай вуліцай. Пасля смерці гаспадара апусцелую сядзібу нашчадкі прадалі гораду, дзе быў арганізаваны Дом дваранскага сходу.

Аднак звернемся да радкоў паэмы, выбіраючы з тэксту іх адвольна, каб спыніцца на асобных персанажах:

Но вот уже Файнберг у клуба дверей,
Разделся и к столику сунет скорей.
Приветствуют все его радостным гласом,
Особо Гахович пропившимся басом…

Гахович не раз уже был мукомолом,
А Файнберг гордился Тамары уловом
И овощи всем предлагал покупать,
Гахович же мельницу шёл продавать...

Прозвішчы згаданых герояў без каментарыяў нам нічога не гавораць, а некалі ж у Слуцку яны былі добра вядомыя. Па-новаму паэму ў 1959 годзе прачытаў краязнавец Рыгор Родчанка. Як згадваў Рыгор Віктаравіч, займаючыся гаспадарчымі справамі на ўласным двары, звярнуў увагу на выкінутыя суседзямі ў хлявушок старыя рэчы, у тым ліку паперы. Некалі яны належалі былой памешчыцы Лабановіч-Шпакоўскай, а цяпер новым гаспадарам не спатрэбіліся. Пагартаўшы паперы, Родчанка знайшоў лісты з вершаваным тэкстам, якім зацікавіўся. Дык вось як усё прачыталася.

Адным з герояў быў той самы ліхвяр Мігдал. Сталася так, што закладалі яму сваю маёмасць многія, нездарма менавіта Мігдал разумеў кошт усіх гэтых клубных выйграшаў і пройграшаў:

…Туда, куда едут с уезда паны,
Но больше играют уже на штаны…
Имения все уж давно у Мигдала,
А с ними и панская слава пропала.

Як вызначыў даследчык, ліхвярскія хітрыкі Мігдала давялі да таго, што ўрэшце ў 1910 годзе слуцкія паны змовіліся забіць яго, але па нейкіх каналах той даведаўся пра змову і, не губляючы часу, з'ехаў з горада ў Карэлічы.

Дарэчы, яго сын, які праз год нарадзіўся там, пазней стаў акадэмікам Акадэміі навук СССР.

Яшчэ адзін герой — Гаховіч, уладальнік Хутара Тамары, дзе займаўся гаспадаркай, гандляваў садавінай і агароднінай. Пра Гаховіча цікавы аповед на старонках рэгіянальнай газеты «Інфа-Кур'ер» зрабіла карэнная жыхарка і краязнаўца Ларыса Лук'янцава. Аднекуль гэты малады землеўладальнік прывёз нявесту — прыгожую японку. У 1907 годзе ў іх нарадзілася дачка Тамара. У гонар дзяўчынкі бацькі назвалі свой маёнтак, што знаходзіўся на беразе ракі Случ у раёне вёскі Навадворцы, — Хутар Тамары. Пасля рэвалюцыі Гаховіча раскулачылі і разам з жонкай выслалі ў Сібір, іх маёмасць была разрабавана. А, застаўшыся адна і без сродкаў на існаванне, непаўналетняя Тамара ўтапілася ў Случы непадалёку ад былога свайго хутара.

Мы ж вернемся ў клуб, дзе, нягледзячы на рэальную эканамічную сітуацыю, там:

…Крупскай блистает стариннейшим родом
И всею фигурой нам кажет породу.

Гэты слуцкі памешчык быў дзедам рэвалюцыянеркі Надзеі Канстанцінаўны Крупскай, жонкі Леніна.

Сярод іншых, хто бавіць час, член управы Вострасаблін, прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, у тым ліку тут сталага веку настаўнік малявання мужчынскай гімназіі Навaранка, побач з ім інспектар той жа гімназіі «…лысиной светит как лампой Берёзко», які пасля рэвалюцыі будзе прызначаны дырэктарам гарадской школы № 1. А яго сын Георгій Сяргеевіч Бярозка стане савецкім пісьменнікам.

Адным з герояў «Файнбергады» сёння мы можам назваць і самога Рыгора Родчанку. Бо дзякуючы яму збярогся, магчыма, апошні запісаны экземпляр гэтага твора. У час росшукаў, краязнаўца звяртаўся да жыхароў горада, у тым ліку да былога сакратара павятовага суда Лукаша Трухана, ураджэнца Слуцка пісьменніка Язэпа Дылы, набылі рэальныя абрысы многія згаданыя там персанажы. Разам са сваімі каментарыямі Родчанка падрыхтаваў публікацыю ў раённай газеце «Шлях Ільіча» (цяпер «Слуцкі край», № 37 за 26 сакавіка 1988 год).

Рыгор Віктаравіч Родчанка (1929—1994) быў чалавекам апантаным, зачараваным рамантыкай краязнаўчай дзейнасці. Нарадзіўся Рыгор Віктаравіч на Украіне. Па бацьку быў далёкім сваяком славутага ў 1920-я гады мастака, дызайнера і майстра фатаграфіі Аляксандра Родчанкі. Яшчэ ў дзяцінстве сям'я пераехала на радзіму маці ў Капыльскі раён. Падчас вайны юны Рыгор стаў партызанам. Пасля перамогі служыў на флоце, адсюль і літаратурны псеўданім — «Рыгор Лінкор». З 1959 года жыў у Слуцку. Працаваў выкладчыкам у школе. Пісаў вершы і паэтычныя мініяцюры, шмат гадоў быў актыўным удзельнікам літаратурнага аб'яднання «Случ». Свае літаратурныя творы, а таксама навукова-папулярныя і краязнаўчыя артыкулы змяшчаў на старонках райннай і рэспубліканскай прэсы. Працяглы час збіраў фальклорны і этнаграфічны матэрыял Случчыны, на аснове якога на свае сродкі выдаў зборнік «З вечнага» (Мн. 1990). У 1991 годзе ў выдавецтве «Полымя» выйшла яго кніжка «Слуцкая старасвеччына». Яна складаецца з семнаццаці невялікіх раздзелаў, прысвечаных як асобным старонкам гісторыі і культуры горада з ранейшых часоў да XVIII стагоддзя, так і выдатным постацям, чыё жыццё і творчасць звязана са Случчынай. Да творчай спадчыны Рыгора Віктаравіча належыць таксама нарыс жыцця і творчасці беларускага пісьменніка XIX стагоддзя Альгерда Абуховіча-Бандынэлі.

І хаця часам некаторыя з выказаных аўтарам меркаванняў ці высноў сёння не знайшлі свайго падцвярджэння, вынікі краязнаўчай дзейнаці Родчанкі заслугоўваюць высокай адзнакі.

## Кастрычнік

2

— **190** гадоў таму ў вёсцы Смалічы на Міншчыне (па іншых звестках у вёсцы Зубкава на Навагрудчыне) нарадзіўся **Незабытоўскі** Аляксандр, беларускі і польскі пісьменнік, гісторык, філосаф.

З 1835 па 1838 год вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) універсітэце. Падарожнічаў па Францыі, Аўстрыі, Італіі, Іспаніі, Партугаліі, Англіі. У Вільні і Парыжы выдаў на польскай мове ананімныя кнігі, у якіх выступаў з радыкальнымі сацыяльнымі і атэістычнымі ідэямі. Крытыкаваў курс лекцый А. Міцкевіча «Славянскія літаратуры» за клерыкальна-месіянерскія ідэі і кансерватыўна-рамантычную скіраванасць. У 1845 годзе апублікаваў у Парыжы мемуары «Мае нататкі». Арыштоўваўся за спробу ўвезці ў Расію нелегальныя выданні. Паўторна арыштаваны ў 1847 годзе, быў зняволены ў пінскай, мінскай і віленскай турмах. Прыгавораны да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і дваццаці гадоў катаргі. Перад абвяшчэннем прысуду ў 1849 годзе памёр у турме.

4

— **260** гадоў таму ў Віцебску нарадзіўся **Князьнін** Францішак Дыянізы, беларускі паэт, драматург, перакладчык.

Адукацыю атрымаў у Беларусі. Спачатку вучыўся ў Віцебскай езуіцкай калегіі, дзе скончыў клас рыторыкі, затым у Полацку, Нясвіжы і Слуцку.

Пісаў на польскай мове. Ягоныя вершы, оды, элегіі і байкі, напісаныя па-лацінску і па-польску, сталі класікай літаратуры ракако ў Рэчы Паспалітай, а оперы ставіліся па ўсёй Беларусі, у тым ліку ў Слонімскім тэатры Агінскага. Быў адным з першых збіральнікаў беларускага фальклору, а многія героі яго твораў гавораць па-беларуску. Ягоны беларускі верш «Кросенкі» выконваўся сялянамі як народная песня.

Памёр у 1807 годзе.

5

— **125** гадоў таму ў вёсцы Новы Двор на Гродзеншчыне нарадзіўся **Грынкевіч** Францішак, беларускі культурны і рэлігійны дзеяч.

Паходзіў з сялянскай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навадворскай народнай школе. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, у Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу, дзе сустрэў сярод выкладчыкаў і студэнтаў свядомых беларусаў (лектар Б. Эпімах-Шыпіла, студэнты А. Лісоўскі і Г. Бэта). З 1907 па 1909 год вучыўся за мяжой у Інсбруку і Мюнхене. Пасвячоны ў святары ў 1907 годзе. Выкладаў Закон Божы ў Гродзенскай гімназіі, служыў пробашчам пры кляштары брыгітак. Арганізаваў у Гродне гурток беларускай моладзі, які аб'яднаў у сваіх шэрагах будучых дзеячаў беларускага хрысціянскага і нацыянальна-адраджэнскага руху. Супрацоўнічаў з беларускай каталіцкай газетай «Biełarus» у Вільні. Напрыканцы Першай сусветнай вайны адышоў ад беларускай грамадскай і асветнай дзейнасці.

Памёр у 1933 годзе.

**11**

— **100** гадоў таму ў горадзе Гродна нарадзілася **Бандарына** Зінаіда Аляксандраўна, беларуская пісьменніца, культурная дзячка.

У 1927 годзе скончыла Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. Вучылася на літаратурна-сцэнарным факультэце Інстытута кінематаграфіі ў Маскве, у аспірантуры пры Дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе. У 1927—1928 гадах настаўнічала ў беларускай школе для перасяленцаў у сібірскім пасёлку Медзякова, пазней загадвала аддзелам літаратуры ў гомельскай газеце «Палеская праўда» і сцэнарным аддзяленнем у Віцебскім кінатэхнікуме, працавала ў тэатрах і на кінастудыях Масквы, Архангельска, Горкага. Падчас Вялікай Айчыннай вайны служыла санінструктарам у дывізіі Панфілава. У пасляваенныя гады працавала ў часопісе «Бярозка» і на Беларускім радыё, была дырэктарам Дома народнай творчасці ў Гродне, загадвала філіялам музея Янкі Купалы ў Вязынцы, працавала ў газетах «Зорька», «Літаратура і мастацтва».

Літаратурную дзейнасць пачала ў 1926 годзе. Выйшлі зборнікі паэзіі «Вершы» (разам з Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм), «Веснацвет». Пісала таксама прозу. На рускай мове выходзілі аповесці «Дипломная работа» і «Галина Ильина», на беларускай — аповесць «Шуміць тайга», аповесць пра дзіцячыя і юнацкія гады Янкі Купалы «Ой, рана на Івана...», зборнік апавяданняў для дзяцей «Лясныя госці». Перакладала з рускай мовы.

Памерла ў 1959 годзе.

**13**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Залесавічы на Магілёўшчыне нарадзіўся **Жыркевіч** Міхаіл Іванавіч, беларускі мовазнавец.

Пасля атрымання сярэдняй адукацыі служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях з белапольскімі акупантамі. Дэмбілізаваўся ў 1921 годзе, працаваў у пачатковых школах на Крычаўшчыне. Скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў 2-й сярэдняй Магілёўскай школе, з 1929 года — у Магілёўскім дзяржаўным педагагічным інстытуце. У 1943 годзе быў прызначаны старшым выкладчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У 1944 годзе пасля абароны дысертацыі на тэму «Да методыкі падручніка па беларускай мове» атрымаў вучоную ступень кандыдата педагагічных навук.

Вядомы перш за ўсё як аўтар і сааўтар падручнікаў па беларускай мове для сярэдніх школ. Часта выступаў у друку з артыкуламі пра ўдасканаленне беларускага правапісу, выкладанне беларускай мовы ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, развіццё беларускага мовазнаўства.

Заслужаны дзеяч навукі БССР.

Памёр у 1984 годзе.

**13**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Дзмітрычукі на Пензеншчыне нарадзіўся **Курдзін** Дзмітрый Іванавіч, беларускі драматург, паэт.

У 1925 годзе скончыў Саратаўскі ветэрынарны інстытут. Быў накіраваны на працу ў Беларусь. Служыў ваенным ветэрынарным урачом у Мінску, потым у Віцебску. Выкладаў у Віцебскім ветэрынарным інстытуце.

Літаратурную дзейнасць пачаў як паэт, выступіўшы з вершамі ў перыядычным друку ў 1925 годзе. Пісаў на рускай і беларускай мовах. Літаратурную вядомасць яму прынесла п'еса «Міжбур'е», якая ўпершыню была пастаўлена Е. Міровічам у 1929 годзе ў БДТ-1. П'есу з поспехам ставілі таксама тэатры Масквы, Ленінграда, Баку, Смаленска, Ульянаўска, Саратава і інш. У 1932 годзе была пастаўлена яго п'еса «Контратака», у 1934 — «Чалавек вырашае». Аўтар п'ес «Азеляненне цэха», «Алюр. Тры крыжы».

Арыштаваны, затым расстраляны органамі НКУС у 1937 годзе.

**14**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Слабада-Кучынка на Капыльшчыне нарадзіўся **Бабарэка** Адам Антонавіч, беларускі празаік, паэт, крытык.

У 1918 годзе скончыў Мінскую духоўную семінарыю. Працаваў настаўнікам у школах Случчыны. У час белапольскай акупацыі ўдзельнічаў у падпольнай барацьбе, быў зняволены ў астрог. Пасля вызвалення Случчыны працаваў настаўнікам, быў сябрам рэўкома Пукаўскай воласці і загадваў валасным аддзелам народнай асветы. Служыў у Чырвонай Арміі. У 1927 годзе скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне педфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Адначасова з вучобай працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», настаўнічаў. Быў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Пасля ўтварэння «Узвышша» — сакратар аб'яднання. З 1926 па 1929 год працаваў у Камуністычным універсітэце Беларусі выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, а з 1928 года — асістэнтам кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. У 1930 годзе быў рэпрэсіраваны, год знаходзіўся ў мінскай турме. З 1931 года жыў у ссылцы ў гарадскім пасёлку Слабадское (Вятчына), у Вятцы, працаваў бухгалтарам. У ліпені 1937 года зноў быў арыштаваны і засуджаны тройкай НКУС на 10 гадоў выпраўленча-працоўнага лагера.

Друкавацца пачаў у 1920 годзе. Выйшла кніга «Апавяданні». Распрацоўваў пытанні літаратуразнаўства і эстэтыкі, даследаваў літаратурны працэс, друкаваўся ў часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Чырвоны сейбіт», «Радавая рунь».

Памёр у 1938 годзе ў лагернай бальніцы.

**15**

— **100** гадоў таму у вёсцы Ліцвінава на Віцебшчыне нарадзіўся **Ракіта** Сяргей (Законнікаў Сяргей Васільевіч), беларускі паэт.

У 1925 годзе скончыў Наватухінськую школу другой ступені. Калі яшчэ быў вучнем, пісаў допісы ў аршанскую акруговую газету «Камуністычны шлях». Працаваў у рэдакцыі гомельскай абласной газеты «Палеская праўда», з'яўляўся кіраўніком Гомельскай філіі БелАПП. З 1932 па 1933 год служыў у Чырвонай Арміі. Працаваў пасля у Мінску ў рэдакцыях газет, на Беларускім радыё, у Дзяржаўным выдавецтве БССР, адначасова вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава.

У 1936 годзе быў рэпрэсіраваны. Прыгавораны да 10 гадоў зняволення ў лагерах. Працаваў на лесапавале ў Горкаўскай вобласці. Памёр у лагеры ў 1942 годзе.

Друкаваўся з 1928 года. У 1930 годзе ў калектыўным зборніку «Разгон» змясціў нізку вершаў. У 1934 годзе выдаў зборнік паэзіі «Я агітую за пяцігодку».

**15**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Кірава на Случчыне нарадзілася **Мурашка** Анцінея Рыгораўна, беларускі мовазнавец.

У 1948 годзе скончыла БДУ. З 1950 года працавала у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, з 1963 па 1993 год — у БДУ.

З'яўляецца аўтарам навуковых прац па беларускай дыялекталогіі, а таксама па пытаннях узаемадзеяння беларускай мовы з суседнімі славянскімі і неславянскімі мовамі. Сааўтар «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі», «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (часткі 1-2), «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі», шматлікіх падручнікаў і іншых твораў.

Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР за ўдзел у комплексе прац па беларускай лінгагеграфіі.

**15**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся **Якімовіч** Аляксей Мікалаевіч, беларускі празаік, драматург.

Пасля заканчэння беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў педагогам, дырэктарам школы на Слонімшчыне.

Друкуецца з 1967 года. Аўтар кніжак апавяданняў для дзяцей «Гордзіеў вузел, альбо Нявыдуманыя гісторыі з жыцця Алеся Пятрашкі», «Эльдарада просіць дапамогі» і інш.

**19**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Іванкава Масальскага раёна Калужскай вобласці (Расія) нарадзіўся **Блісцінаў** Міхаіл Міхайлавіч, беларускі празаік, паэт, перакладчык, рэдактар, кінадраматург.

У 1910 годзе з бацькамі пераехаў у Беларусь. Вучыўся ў Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме, у Мінскім педагагічным інстытуце, працаваў вясковым настаўнікам. З'яўляўся адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». У 1938 годзе скончыў сцэнарны факультэт Кінаакадэміі ў Маскве. Працаваў рэдактарам на кінастудыі «Савецкая Беларусь». У час Вялікай Айчыннай вайны быў на штабной і палітрабоце. У пасляваенныя гады працаваў ва ўстановах кінематаграфіі ў Мінску.

Літаратурнай дзейнасцю пачаў займацца з 1926 года. Напісаў п'есы «Агні Палесся», «Трактар», «Мох», інсцэніроўкі «Ленінцы» і «Кастрычнік», «Грунт», аповесць «Хітрасць». Аўтар сцэнарыя мастацкага фільма «Строгая жанчына», а таксама васемнаццаці сцэнарыяў дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. Выступаў у перыядычным друку з рэцэнзіямі і артыкуламі па пытаннях кіно. Адзін з аўтараў кнігі «Мінскі аўтамабільны».

Памёр у 1982 годзе.

**23**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Іскозы на Віцебшчыне нарадзіўся **Лепешаў** Іван Якаўлевіч, беларускі мовазнавец.

У 1940 годзе паступіў у Аршанскі настаўніцкі інстытут, першы курс якога скончыў у 1941 годзе. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, быў двойчы паранены. Пасля вайны закончыў навучальную ўстанову, працаваў выкладчыкам беларускай мовы на Гродзеншчыне. Быў рэпрэсаваны, але з-за адсутнасці

складу злачынства рэабілітаваны. З 1949 па 1955 год працаваў рознарабочым у лагерах Прыморскага краю. Затым настаўнічаў у Шчучынскім раёне. Завочна закончыў філфак Гродзенскага педінстытута і аспірантуру ў Мінскім педінстытуце. Выкладаў у Гродзенскім педінстытуце. Прафесар кафедры беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Займаецца даследаваннем фразеалогіі, парэміялогіі, мовы мастацкай літаратуры, культуры мовы і стылістыкі. Аўтар больш як 490 навуковых публікацый, у тым ліку 37 кніг (манаграфіі, вучэбныя дапаможнікі, слоўнікі), такіх як «Літаратурна-краязнаўчы гурток», «Фразеалогія ў творах К. Крапівы: Стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў», «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора», «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы», «Моўныя самацветы», «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы ў 2-х тамах», «Фразеалогія сучаснай беларускай мовы», «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў», «Культура маўлення» і іншых.

**25**

— **145** гадоў таму ў горадзе Калуга (па іншых звестках — у Маскве) нарадзіўся **Грачанінаў** Аляксандр Ціханавіч, рускі кампазітар.

Паходзіў з купецкай сям'і. Атрымоўваў адукацыю ў Маскоўскай і Пецярбургскай кансерваторыях. Вучань М. А. Рымскага-Корсакава. З 1955 года быў у эміграцыі ў Парыжы, затым пераехаў у ЗША, дзе пасяліўся ў Нью-Йорку.

Аўтар царкоўных спеваў, якія складаюць найбольш каштоўную частку творчай спадчыны кампазітара, а таксама опер, сімфоній і іншых твораў. Шырока выкарыстоўваў у сваёй творчасці фальклор, у прыватнасці, займаўся апрацоўкай беларускіх народных песень.

Памёр у 1956 годзе.

**25**

— **80** гадоў таму у вёсцы Старая Алешня Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся **Гроднеў** Мікола (Мікалай Пятровіч), беларускі празаік, журналіст.

Вучыўся ў Гомельскім тэхнікуме фізкультуры, скончыў гістарычны факультэт Гомельскага педагагічнага інстытута. Быў школьным інспектарам у Вілейскім райана, дырэктарам Куранецкай сярэдняй школы рабочай моладзі. Працаваў у радашковіцкай раённай газеце, быў уласным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва», працаваў у аддзеле фельетонаў рэдакцыі часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела нарысаў часопіса «Беларусь», адказным сакратаром бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1954 годзе. Аўтар кніг апавяданняў і аповесцей «За бацькоўскім парогам», «Цяжкае шчасце», «Вясна была...», «Заручыны», «Высокі поўдзень», «Зоркаўкі», «Што скажуць людзі», «Салодкі боль», зборніка гумарыстычных апавяданняў «Клін клінам» і іншых.

**25**

— **80** гадоў таму ў пасёлку Калінаўка Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся **Хромчанка** Кузьма Рыгоравіч, беларускі літаратуразнавец, крытык.

У 1951 годзе скончыў літаратурны факультэт Магілёўскага педінстытута. Выкладаў беларускую мову і літаратуру на Гродзеншчыне. Вучыўся ў аспі-

рантуры, быў навуковым супрацоўнікам, вучоным сакратаром Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. З 1966 года — на выкладчыцкай працы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дацэнт кафедры беларускай літаратуры. Кандыдат філалагічных навук.

З рэцэнзіямі і літаратурна-крытычнымі артыкуламі ў друку выступае з 1957 года. Аўтар манаграфій «Пілiп Пестрак. Жыццё і творчасць», «Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.)», навукова-папулярнай кнігі «За шчасце зямное» і іншых.

**25**

— **75** гадоў таму ў горадзе Мантэвідэо (Уругвай) у сям'і выхадца з Заходняй Беларусі нарадзіўся **Шэрман** Карлас Рыгоравіч, беларускі перакладчык, паэт, крытык.

Вучыўся ў Нацыянальным інстытуце імя М. Марэна ў Буэнас-Айрэсе, па спецыяльнасці філалогія. Працаваў у аргенцінскіх друкаваных выданнях. У 1956 годзе пераехаў у Беларусь. Загадваў рэдакцыйна-выдавецкім сектарам Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі. З 1989 па 2001 год з'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Беларускага ПЭН-цэнтра.

Пісаў на іспанскай, рускай і беларускай мовах. Аўтар паэмы «Дождж у Каралішчавічах» (пераклад з іспанскай мовы Р. Барадуліна), зборніка вершаў «Сны» (пераклад з іспанскай мовы Р. Барадуліна і В. Сёмухі), кнігі крытыкі і эсэ «Таямніцы почырку», паэмы «Накірункі свету» (на іспанскай мове і ў перакладах В. Рыч на англійскую, Р. Барадуліна на беларускую і І. Бурсава на рускую мовы). Складальнік шэрагу выдадзеных на беларускай мове зборнікаў іспанамоўных паэтаў (Ф. Гарсія Лоркі, П. Нэруды, Н. Гільена, Г. Містраль), анталогіі сучаснай кубінскай паэзіі. У яго перакладзе на іспанскую мову выйшлі выбраныя творы Я. Купалы і Я. Коласа «Папараць-кветка», кнігі А. Куляшова «Мая Бесядзь», Р. Барадуліна «Чорны вол маёй трывогі», раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», аповесці В. Быкава «Дажыць да світання», «Абеліск», «У тумане» і іншыя.

Памёр у 2005 годзе.

**26**

— **90** гадоў таму ў вёсцы Фашчаўка на Магілёўшчыне нарадзіўся **Міхалюта** Іван Францавіч, беларускі тэатразнавец.

Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Інстытут кінематаграфіі ў Маскве, але з першага ж курса быў прызваны ў Чырвоную Армію. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, быў у падполлі, у партызанах. Пасля вызвалення накіраваны на курсы рэзерву ЦК КП(б)Б, затым на работу ў Маладзечанскую вобласць. Працаваў прапагандыстам Радашковіцкага РК КП(б), загадчыкам аддзела культасветработы раёна, дырэктарам лектарскага бюро аблвыканкама, намеснікам начальніка аблупраўлення культуры. У 1958 годзе закончыў тэатральны інстытут у Маскве, працаваў дырэктарам Гродзенскага абласнога драмтэатра, дырэктарам Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дырэктарам Дома літаратараў Саюза пісьменнікаў БССР.

Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь.

Памёр у 2002 годзе.

**26**

— **70** гадоў таму ў пасёлку Майск Амурскай вобласці (Расія) нарадзіўся **Мішчанчук** Мікалай Іванавіч, беларускі літаратуразнавец, паэт.

У 1962 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Працаваў у Беларускім педагагічным універсітэце, з 1996 года — у Брэсцкім універсітэце.

Аўтар паэтычных зборнікаў «Пэўнасць», «Трывожуся за белае святло», манаграфій «Ёсць у паэта свой аблог цалінны», «Руская і беларуская літаратура XIX—XX стст.: жанрава-стылёвы аспект, пытанні ўзаемадзеяння», літаратуразнаўчых і метадычных даследаванняў «Беларуская літаратура на сучасным этапе», «Беларуская савецкая паэзія 20-х гг. і інш.».

Доктар філалагічных навук.

**26**

— **50** гадоў таму ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся **Сыс** Анатоль Ціханавіч, беларускі паэт.

Пасля заканчэння аддзялення рускай і беларускай мовы і літаратуры гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта служыў у Савецкай Арміі, працаваў карэспандэнтам раённых і шматтыражных газет, старшым тэхнікам на Рэспубліканскім радыётэлецэнтры. Быў заснавальнікам і фактычным лідэрам таварыства «Тутэйшыя».

Дэбютаваў з вершамі ў рэчыцкай раённай газеце ў 1974 годзе. Аўтар зборнікаў вершаў «Агмень», «Пан Лес», «Сыс». У 2006 годзе выйшла пасмяротная кніга выбранай паэзіі «Лён».

Памёр у 2005 годзе.

**28**

— **125** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Ждановіч** Фларыян Паўлавіч (1884—1937), беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч.

У 1902 годзе скончыў Варшаўскую драматычную школу. Працаваў акцёрам у польскіх тэатрах Беларусі. Далучыўся да беларускага культурнага руху. У 1913 годзе ў Радашковічах паставіў «Паўлінку» Янкі Купалы, падрыхтаваў мастацкую праграму «Беларускі кірмаш». Арганізаваў драматычны гурток, які пасля паказу ў вёсцы Старое Сяло пад Мінскам спектакля «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага быў забаронены ўладамі. Каб пазбегнуць арышту, выехаў у Крым, дзе выступаў на рускай сцэне. Да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года працаваў у Мінскай гарадской думе. Быў мастацкім кіраўніком Першага таварыства драмы і камедыі ў Мінску. Кіраваў адкрыццём у Мінску Беларускага дзяржаўнага тэатра (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы), курыраваў у Наркамаце асветы БССР беларускія тэатры. У 1930 годзе арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асуджаны на 5 гадоў лагераў. Паўторна арыштаваны і расстраляны ў 1937 годзе.

*Аўтар рубрыкі Янка Лайкоў.*



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Пачынаецца падпіска на І паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 5820 руб.
на 3 месяцы — 17 460 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 8400 руб.
на 3 месяцы — 25 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 11 740 руб.
на 3 месяцы — 35 220 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 9580 руб.
на 3 месяцы — 28 740 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 07.10.09 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 17,61. Тыраж 3078 экз. Заказ 2425.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

# На старонках наступнага нумара:

*Андрэй ФЕДАРЭНКА*

## МЯЖА

Першая частка рамана-эсэ А. Федарэнкі «Мяжа» друкавалася ў «Полымі» № 4 за гэты год. Пісьменнік звярнуўся да жанру эсэістыкі, які паводле азначэння дапускае вольнае трактаванне літаратурных, эстэтычных, маральных праблем і дазваляе аўтару крануцца многіх пытанняў чалавечага быцця, зазірнуць у самыя патаемныя куточкі душы, падзяліцца з чытачом уласным вопытам асэнсавання жыцця і літаратурнай творчасці.

У другой частцы твора пісьменнік працягвае звяртацца да розных этапаў сваёй творчасці, шырока ўжывае такія літаратурныя прыёмы, як мантаж і плынь свядомасці. Фрагменты дзяцінства, служба ў войску, заваяванне пасталелым юнаком сталіцы пераплецены з урыўкамі з ужо вядомых твораў пісьменніка, развагамі пра тое, хто мы такія, на што чалавеку дадзена жыццё, для чаго яму, бывае, укладзена не толькі дыханне ў вусны, але і здольнасць да мастацкага слова як форма пакутніцкага, самаахвярнага служэння соцыуму, нацыі, людзям.

*Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ*

## ПІСЬМЕННІК ДЗВЮХ ЭПОХ

Літаратуразнаўства і бягучая крытыка ніколі не абыходзілі ўвагай творчасць Івана Шамякіна. Кожны новы раман яго атрымліваў нямала водгукаў і рабіўся падставаю не толькі для дыскусій крытыкаў, але і для глыбокага літаратуразнаўчага аналізу. І цяпер, калі самога пісьменніка ўжо няма сярод нас, яго творы працягваюць хваляваць і простых чытачоў, і прафесійных вучоных. Распачата работа па падрыхтоўцы Поўнага збору твораў І. Шамякіна.

Акадэмік НАН Беларусі, знаны літаратуразнаўца і пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў прысвяціў творчасці Івана Шамякіна маштабнае даследаванне. Ён звяртае ўвагу на характэрныя для творчасці Шамякіна вобразы, на цікавыя падыходы ў пабудове сюжэтаў, на ўсе тыя адметныя рысы, якія абумовілі поспех празаіка. Асновай яго твораў сталі лёсы простых людзей, сучаснікаў пісьменніка, але раманы і аповесці І. Шамякіна з цікавасцю чытаюцца і сёння. У сваім даследаванні Уладзімір Гніламёдаў аналізуе творчасць І. Шамякіна з пункта гледжання сучаснага літаратуразнаўства.

*Казімір КАМЕЙША*

## АД КРОМАНІ ДА СВІЦЯЗІ

Краязнаўчы нарыс Казіміра Камейшы запрашае чытача прайсціся запаветнымі сцяжынамі, над якімі густа спляла свае пракаветныя шаты Налібоцкая пушча. Непаўторная па сваім харастве прырода нібыта адным галінішчам пераплялася тут з самой гісторыяй. Гэта край, дзе чэрпалі натхненне многія знакамітыя творцы, і ў першую чаргу — два славутыя Міцкевічы: Адам ды Кастусь, што свету вядомы як Якуб Колас.

З гэтага цікавага аўтарскага падарожжа чытачы даведаюцца і пра чыгунаплавільшчыкаў з Рудні ды жалезаапрацоўшчыкаў Кляцішча, а таксама пра славутую налібоцкую мануфактуру, якая па сваёй якасці не ўступае дрэздэнскай. Ну і, вядома ж, не абыдзецца без сустрэчы са слыннымі івянецкімі ганчарамі.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і
Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471

# Чытайце ў наступным нумары:

**Андрэй Федарэнка**
**Мяжа**
Раман-эсэ

**Мікола Маляўка**
**Уладзімір Марук**
**Ганад Чарказян**
Вершы

**Алесь Масарэнка**
**З кнігі «Удзячны калодзеж»**
Навелы

**Уладзімір Гніламёдаў**
**Пісьменнік дзвюх эпох**
Артыкул пра творчасць
Івана Шамякіна

ПОЛЫМЯ



ISSN 0130-8068
9 770130 806001 09010